ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 6—7
Чэрвень—ліпень 1938 г.

ЗМЕСТ

---

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару
20.000, даб. 50.



# Памятаць аб капіталістычным акружэнні

Ніколі яшчэ з часу 1914 года пагроза новай сусветнай вайны, якая выцякае з абвастрэння ўсіх імперыялістычных супярэчнасцей, не была такая вялікая як цяпер.

Барацьба паміж старым капіталістычным светам, светам гнёту, войн, эксплаатацыі і галечы і перадавым прагрэсіўным чалавецтвам, якое паўстае супроць старога свету, уступіла ў стадыю ўзрастання найглыбейшых канфліктаў, якія штодзень пагражаюць выбухнуць.

Міжнародная абстаноўка з кожным днём становіцца усё больш напружанай. Новы эканамічны крызіс, які набліжаецца, усё больш абвастрае ўнутраныя і знешнія супярэчнасці капіталістычнага свету. У пошуках выхаду з цяжкага ўнутранага становішча германскія, італьянскія і японскія фашысты фарсіруюць развязку новай імперыялістычнай вайны. Захват італьянскім фашызмам Абісініі, наглая інтэрвенцыя італа-германскага фашызма ў Іспаніі, разбойніцкае ўтаржэнне японскага імперыялізма ў Кітай, гвалтоўны захват Аўстрыі фашысцкай Германіяй, пагроза ваеннага нападу на Чэхаславакію—усё гэта злавесныя прадвеснікі новай сусветнай вайны і ў першую чаргу падрыхтоўкі вайны супроць бацькаўшчыны працоўных усяго свету—СССР.

Фашысцкія падпальшчыкі вайны хочуць уцягнуць чалавецтва ў жахі новай сусветнай бойні. Яны ўжо вядуць злачынную крывавую вайну, уцягнуўшы ў яе адну трэць насельніцтва зямнога шара.

Два гады прайшло з таго часу, як германскі і італьянскі фашызм мучыць і рве цела гераічнага іспанскага народа, які мужна і стойка абараняе сваю свабоду і незалежнасць. З дапамогай авіяцыі і цяжкай артылерыі італа-германскія інтэрвенты руйнуюць гарады і вёскі рэспубліканскай Іспаніі. Гэтыя фашысцкія варвары забіваюць мірных жыхароў, жанчын і дзяцей, зніштажаюць выдатныя помнікі і скарбы сусветнай культуры. Імкнучыся як мага хутчэй раздавіць супраціўленне гераічнага іспанскага народа, германа-італьянскія галаварэзы, якіх заахвочвае імперыялістычная буржуазія Англіі, за апошні час праяўляюць асаблівы напор, мабілізуючы ўсе свае сілы і пасылаючы супроць рэспубліканскай Іспаніі ўсё новыя і новыя сродкі забойстваў і разбурэння.

Японская ваеншчына, якая па-разбойніцку ўторгнулася ў Кітай, разбурае мірныя кітайскія гарады і вёскі, забівае сыноў і дачок кітайскага народа.

З адабрэння англійскага ўрада германскі фашызм беспакарана расправіўся з незалежнасцю сямімільённага аўстрыйскага народа, ператварыўшы Аўстрыю ў калонію фашысцкай Германіі. Распаясаўшыяся германскія фашысты ствараюць у Аўстрыі новы плацдарм

для далейшай агрэсіі, накіраванай перш за ўсё супроць Чэхаславакіі. Па прыкладу свайго германскага «настаўніка» польскі фашызм, бразгаючы зброяй, прымусіў Літву прыняць прад'яўлены ёй ультыматум. Польскі фашызм рыхтуецца да прамога захвату Літвы.

Імперыялістычная буржуазія так званых дэмакратычных краін у жаху перад растучым рэвалюцыянізаваннем шырокіх мас і ўзросшай магутнасцю СССР, лічыць за лепшае ісці на пагадненне з германскім і італьянскім фашызмам.

Для правячай буржуазіі інтарэсы свайго класа вышэй інтарэсаў сваёй краіны і яна ідзе на пагадненне з фашысцкімі агрэсарамі ва ўшчэрб нацыянальным інтарэсам сваіх дзяржаў.

У зговары з фашысцкімі бандытамі англійскі капіталізм разлічвае выратаваць сябе ад наспяваючых соцыяльных патрасенняў у капіталістычных краінах і ад нацыянальна-вызваленчага руху ў калоніях і поўкалоніях.

Асноўнай устаноўкай англійскіх рэакцыйных колаў з'яўляецца абарона любымі сродкамі інтарэсаў брытанскага монапалістычнага капітала на ўсім прасторы брытанскай імперыі. Гэтым колам унушае жывёльны страх нарастаючая ва ўмовах агульнага крызісу капіталістычнай сістэмы пагроза соцыяльных патрасенняў у самой Англіі і нацыянальна-вызваленчага руху ў яе калоніях. Галоўны вораг для іх—Совецкі Саюз. Бо яны добра ўсведамляюць, што самы факт існавання магутнай, з кожным днём мацнеючай соцыялістычнай дзяржавы, аплоту і надзеі ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва, дзейнічае рэвалюцыянізуючым чынам на працоўных усяго свету. Гэтыя колы цалкам на баку Гітлера і Мусаліні, на баку японскай ваеншчыны. Яны ненавідзяць звярынай нянавісцю народны фронт ва Францыі і Іспаніі.

Пад штодзённай пагрозай нападзення знаходзіцца наша совецкая краіна, якую больш за ўсё ненавідзяць імперыялісты ўсіх краін і фашысцкія мракабесы. Капіталістычныя краіны і ў першую чаргу фашысцкія засылаюць да нас сваіх шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, выкарыстоўваючы для гэтай мэты трацкісцка-бухарынскіх і іншых прэзрэнных агентаў фашызма.

Саюзнікамі фашыстаў у крывавай барацьбе супроць рабочых і сялян, супроць усяго прагрэсіўнага чалавецтва ўсюды выступаюць трацкісцка-бухарынскія бандыты. І ў Іспаніі, і ў Кітаі, і ў іншых краінах гэтыя агалцелыя ворагі рабочага класа і працоўных усяго свету арганізоўваюць змовы, перадаюць фашысцкім генералам шпіёнскія весткі, вядуць падрыўную дыверсійна-шкодніцкую работу, учыняюць агідныя нечуваныя злачынствы, каб толькі дагадзіць сваім фашысцкім гаспадарам.

Злачынная зграя «права-трацкісцкага блока» склалася з падпольных антысовецкіх груп трацкістаў, бухарынцаў, зіноўеўцаў, эсэраў, меншавікоў, з буржуазных нацыяналістаў Украіны, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Азербайджана, сярэдне-азіяцкіх рэспублік, са шпіёнаў замежных разведак, з правакатараў і агентаў царскай ахранкі.

Усіх гэтых ворагаў рабочага класа яднае звярыная нянавісць да пролетарскай рэволюцыі, нянавісць да соцыялізма, які, наперакор усім ім, у асноўным пабудаван ужо ў нашай краіне. Уся сутнасць барацьбы гэтых агідных ворагаў соцыялізма супроць бальшэвіцкай партыі Леніна—Сталіна, супроць рабочага класа і ўсіх працоўных заключаецца ў тым, што яны самымі подлымі сродкамі дабіваліся

рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне, імкнуліся пасадзіць на плечы працоўных панаванне памешчыкаў, капіталістаў і кулакоў.

Трацкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя агенты фашызма мелі закончаную праграму рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне. Яны хацелі аддаць рабочы клас і сялянства нашай краіны пад ярмо капіталістычнай эксплаатацыі, пад ярмо імперыялістычнага гнёту.

Для ажыццяўлення гэтай гнуснай праграмы яны ўсімі сіламі дабіваліся ўскарэння вайны фашысцкай Германіі і Японіі супроць СССР. Яны ні перад чым не спыняліся ў сваёй злачыннай, дыверсійна-шкодніцкай рабоце, у сваіх здрадніцкіх, гнусных дзеяннях па арганізацыі ўзрываў, падпалаў, крушэнняў у мэтах падрыву абароннай магутнасці нашай соцыялістычнай радзімы. Трацкісцка-бухарынская зграя арганізавала зладзейскую змову не толькі супроць нашай вялікай соцыялістычнай радзімы; яна вяла сваю мярзотную і подлую работу супроць усяго чэснага і цывілізаванага чалавецтва. Слаўныя органы НКВД, кіруемыя сталінскім наркомам тав. Н. І. Ежовым, разграмілі і зніштожылі змяіныя гнёзды трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных бандытаў і выкарчоўваюць рэшткі ўсёй гэтай фашысцкай погані. Працоўныя БССР ніколі не забудуць велізарнай дапамогі, аказанай ім большэвіцкай партыяй і совецкім урадам у ліквідацыі вынікаў шкодніцтва подлых трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх агентаў германа-польскага фашызма. Гістарычная пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня 1937 г. з'явілася яшчэ адной яркай ілюстрацыяй сталінскіх клопатаў аб калгасным сялянстве БССР, аб усім беларускім народзе. Азвярэлыя ненавіснікі рабочых і сялян, трацкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя псы фашызма прычынілі нам шмат шкоды. Прэзрэнныя ворагі народа з трацкісцка-бухарынскага буржуазна-нацыяналістычнага лагера, гэтыя фашысцкія агенты, дыверсанты шаранговічы, галадзеды і іншая погань хацелі пасадзіць на шыю беларускаму народу белапольскіх паноў, звярнуць капіталістаў і памешчыкаў. Але ворагі пралічыліся. Яны не ў сілах спыніць пераможнае шэствіе соцыялізма. Ім гэта не ўдалося і ніколі не ўдасца. Пад сонечнымі праменнямі Сталінскай Канстытуцыі, пад кіраўніцтвам нашай слаўнай большэвіцкай партыі Леніна—Сталіна народы нашай шчаслівай соцыялістычнай радзімы ідуць ад перамогі к перамозе. Але гэтыя перамогі ні ў якой меры не павінны ўсыпляць нашу рэволюцыйную пільнасць. Правадыр нашай партыі і працоўных усяго свету таварыш Сталін, яшчэ на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) у 1933 г. указваў:

«Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць Совецкай улады. Няма такой брыдоты і паклёпу, якія-б гэтыя быўшыя людзі не ўзвялі на Совецкую ўладу і вакол якіх не папрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контр-рэволюцыйных партый эс-эраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і ўскраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контр-рэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зра-

зумела, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі быстра і без асобых афяр.

Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Павышаючы рэволюцыйную пільнасць, свабодныя народы нашай соцыялістычнай радзімы пад кіраўніцтвам вялікага генія чалавецтва таварыша Сталіна ідуць згуртаванымі радамі пераможцаў да яшчэ больш радаснага і светлага будучага, ідуць да комунізма. І няма такой сілы ў свеце, якая можа спыніць пераможны рух нашай цудоўнай краіны да комунізма.

Але трэба цвёрда памятаць, што прэзрэнныя троцкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя агенты фашызма і надалей, да свайго канчатковага здыхання, будуць імкнуцца рэстаўрыраваць капіталізм у нашай краіне. Капіталістычнае акружэнне не адмаўлялася і не адмовіцца ад спроб насаджваць сваю агентуру ў краіне Советаў, не адмовіцца ад свайго імкнення напасці на СССР. Таму рэволюцыйная пільнасць павінна быць пярвейшым абавязкам кожнага працоўнага нашай соцыялістычнай радзімы. Задача заключаецца ў тым, каб да канца выкарчаваць усе варожыя корні троцкісцка-бухарынскай і буржуазна-нацыяналістычнай фашысцкай агентуры ў нашай краіне. Вораг разгромлен, але яшчэ не дабіты, а пагэтаму барацьба з ворагамі павінна весціся і далей неаслабна. Ні на адну хвіліну мы не павінны забываць указанняў правадыра нашай большэвіцкай партыі і ўсіх працоўных таварыша Сталіна, што «... пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў».

Таварыш Сталін перасцерагае нас ад бескляпотных адносін да капіталістычнага акружэння нашай краіны. Ён асабліва настойліва заклікае ўсіх нас не забываць таго, што соцыялізм перамог пакуль толькі на адной шостай частцы зямнога шара, што на астатніх пяці шостых пануюць капіталістычныя парадкі, уладарыць буржуазія, якая хоча знішчожыць соцыялізм і аднавіць капіталізм у СССР. Ні на адну мінуту нельга забываць таго, што капіталістычнае акружэнне з'яўляецца асноўным фактарам, вызначаючым сусветнае становішча нашай соцыялістычнай радзімы. Пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, мы не можам мець поўнай гарантыі ад інтэрвенцыі, а значыць і ад спроб рэстаўрацыі, не можам гаварыць аб канчатковай перамозе соцыялізма ў нашай краіне.

У сваім адказе комсамольскаму прапагандысту тав. Іванову таварыш Сталін яшчэ і яшчэ раз з усёй сілай падкрэслівае недапушчальнасць малейшага аслаблення рэволюцыйнай пільнасці да варожага нам капіталістычнага акружэння. «Было-б смешна і глупа,—піша ў сваім адказе таварыш Сталін,—закрываць вочы на факт капіталістычнага акружэння і думаць, што нашы знешнія ворагі, напрыклад фашысты, не паспрабуюць пры выпадку зрабіць на СССР ваеннае нападзенне. Так могуць думаць толькі сляпыя бахвалы, або скрытыя ворагі, якія жадаюць усыпіць народ».

Таварыш Сталін у сваім адказе комсамольскаму прапагандысту тав. Іванову, гаворачы аб умовах канчатковай перамогі соцыялізма ў

нашай краіне, яшчэ раз з усёй сілай падкрэсліў важнасць умацавання і развіцця інтэрнацыянальных пролетарскіх сувязей.

Працоўныя масы ўсяго свету з вялікай радасцю і надзеяй сочаць за перамогамі соцыялізма ў нашай краіне, за ростам магутнасці і сілы вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, які з'яўляецца аплотам міру і прагрэса супроць фашысцкіх падпальшчыкаў вайны. Свабодныя народы нашай краіны—верныя прыяцелі ўсяго перадавога чалавецтва. Выхаваныя ў духу ленінска-сталінскага інтэрнацыяналізма і совецкага патрыятызма, народы нашай шчаслівай краіны добра ведаюць, што ва ўсіх краінах свету мы маем надзейных саюзнікаў—пролетарыяў і ўсіх прыгнечаных, якія да канца верны свайму абавязку—аберагаць краіну Советаў ад нападу фашысцкіх мракабесаў.

У міжнародны антываенны дзень працоўныя масы ўсяго свету яшчэ шчыльней згуртуюць свае рады ў барацьбе за адзінства, супроць фашызма, для абароны кітайскага народа, гераічнай рэспубліканскай Іспаніі, для абароны свабоды і незалежнасці ўсіх народаў, для недапушчэння новай сусветнай бойні. Падзеі, якія адбываюцца на міжнароднай арэне, з усёй яскравасцю паказваюць, як узмацнілася небяспека вайны і нападу на СССР. Але цяпер, пасля першай крывапралітнай сусветнай вайны, якая пакінула глыбокія сляды ва ўсім свеце, пасеяла нянавісць да вайны ў сэрцах мас, пасля перамогі Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі на адной шостай частцы зямнога шара—існуе магчымасць перашкодзіць новай сусветнай вайне.

Суадносіны паміж сіламі вайны і сіламі міру ў 1938 годзе не тыя, што былі ў 1914 годзе.

«З таго часу ўтварыліся буйнейшыя сусветна-гістарычныя перамены. Імперыялістам удалося кінуць у пекла сусветнай бойні мільёны людзей у тых умовах, калі не існавала магутнай пролетарскай дзяржавы і яе Чырвонай Арміі, калі не было народнага фронта ва Францыі і Іспаніі, калі кітайскі народ не быў здольным абараняць сваю нацыянальную незалежнасць, калі народныя масы не мелі вопыту імперыялістычнай вайны і вялікай пролетарскай рэволюцыі, калі міжнародны рабочы клас яшчэ не меў такой сусветнай арганізацыі, як Комуністычны Інтэрнацыянал.

Міжнародны рабочы рух распалагае дастатковымі сіламі і сродкамі, каб дабіцца спынення інтэрвенцыі германскага і італьянскага фашызма ў Іспаніі, нашэствія японскай ваеншчыны ў Кітаі і забеспячэння міжнароднага міру. **Для гэтага, аднак, неабходна, каб агромныя сілы і сродкі міжнароднага рабочага руху былі аб'яднаны і накіраваны на дзейсную і непарушную барацьбу супроць фашызма і вайны»** (Дзімітраў).

Навакол Совецкага Саюза склаліся магутныя сілы міру. Сілы дэмакратыі і міру грандыёзны і непераможны. Іх арганізаванасць і актыўнасць забяспечаць немінучае паражэнне сіл фашызма, рэакцыі і вайны.

Вопыт апошніх гадоў яскрава паказвае, што барацьба народных мас супроць фашызма і вайны, за дэмакратыю і мір нарастае і ўзмацняецца. Паскараецца працэс размежавання сіл у краінах капіталістычнага свету, акружаючых нашу краіну. Побач з актывізацыяй рэакцыйных элементаў буржуазіі Англіі, Францыі і раду іншых краін, якія ўсімі сіламі імкнуцца задушыць антыфашысцкі рух мас, згаварыцца з фашысцкімі агрэсарамі за лік іншых дзяржаў і за лік

СССР,—нарастае і ўзмацняецца фронт міру і прагрэса, фронт дэмакратыі, пашыраецца ўсенародны антыфашысцкі рух. Моцны саюз антыфашысцкіх сіл ва ўсім свеце з рабочым класам і ўсімі працоўнымі нашай краіны—вось што стварае неперdesignможную перашкоду фашызму, рэакцыі і вайне.

Рабочы клас і працоўныя масы ўсяго свету змагаюцца супроць галоўнага ворага чалавецтва і прагрэса—азвярэлага фашызма—гэтага галоўнага падпальшчыка новай сусветнай вайны. Пад кіраўніцтвам Комуністычнага Інтэрнацыянала пролетарыят капіталістычных краін рыхтуецца да рашучага штурму супроць цёмных сіл прыгнятальнікаў і крывасмокаў. Рабочы клас капіталістычных краін мабілізуе на барацьбу за звяржэнне капіталістычнага ладу ўсё больш шырокія пласты сялянства як імперыялістычных, так і каланіяльных краін.

Чалавеканенавісніцтву і ізуверству фашысцкіх варвараў, іх рэжыму крывавага гвалту працоўныя масы ўсяго свету процістаўляюць арганізацыю сіл дэмакратыі і міру, сілу пролетарскага інтэрнацыяналізма. Шырацца і мацнеюць рады народнага фронта, яднаючы пад сваім сцягам новыя і новыя мільёны антыфашысцкіх барацьбітоў.

Усё перадавое чалавецтва добра ведае, што краіна соцыялізма ад усяго сэрца імкнецца к міру. «Мы стаім за мір і адстойваем справу міру, але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны» **(Сталін).**

Як непрыступны ўцёс, узвышаецца Совецкі Саюз сярод бушуючых хваль капіталістычнага акружэння. На рубяжы двух светаў—капіталістычнага і соцыялістычнага—стаіць Совецкая Беларусь—магутны гранітны фарпост усяго вялікага Совецкага Саюза. Чорныя фашысцкія сілы ўсяляк імкнуцца справакаваць, паскорыць нападзенне на СССР, а таму нават самая міралюбівая палітыка нашага совецкага ўрада і народа не можа гарантаваць нас ад ваеннага нападу фашысцкіх краін. Толькі маналітны совецкі народ, наша магутная соцыялістычная дзяржава, Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот, а таксама ўсё мацнеючы саюз антыфашысцкіх сіл ва ўсім свеце—вось тыя сілы, якія служаць адзінай перашкодай для фашызма і сусветнага капітала, які рыхтуецца абрушыцца вайной супроць нашай соцыялістычнай радзімы.

Улічваючы ўсю напружанасць цяперашняй міжнароднай абстаноўкі, неабходна яшчэ і яшчэ раз напомніць мудрыя словы вялікага Сталіна: «трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку...» Гэта ўказанне таварыша Сталіна з'яўляецца праграмай дзеяннаў для нашай соцыялістычнай дзяржавы, для ўсяго совецкага народа ў галіне знешняй палітыкі, у справе абароны сябе ад ваенных нападаў.

Заправілы фашысцкіх краін не задавольваюцца войнамі, якія яны вядуць. Яны падрыхтоўваюць пашырэнне фронта вайны да размераў сусветнага пажару. Яны выбіваюцца з сіл, імкнучыся абкружыць, ізаляваць Совецкі Саюз і ажыццявіць сваю даўнюю мару—напасці на соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян. У адказ на іх падрыхтоўку мы мацуем і будзем мацаваць абаронную магутнасць нашай

краіны, узмацняем і будзем узмацняць гатоўнасць усяго 170-мільённага совецкага народа ў любую мінуту ўстаць на абарону нашай краіны. Мільёны совецкіх патрыётаў не дазволяць нікому і ніколі таптаць свяшчэнную совецкую зямлю. Для яе абароны народ стварыў сваю Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію, армію непераможную, акружаную клопатамі і любоўю мас, упэўненую ў перамозе над любым ворагам.

Наша Чырвоная Армія—толькі перадавы ўзброены атрад доблеснага народа. Калі хто асмеліцца пасягнуць на совецкую зямлю, чырвоныя палкі ў адзін момант удзесяцярацца ў ліку, каб біць і знішчаць ворага на яго-ж тэрыторыі.

Няхай запомняць паны-фашысты, што Совецкі Саюз мацней зараз, чым калі-небудзь, што сілы яго растуць не па днях, а па гадзінах. Совецкая Чырвоная Армія магутна і непераможна сваім узбраеннем, бліскучай арганізацыяй, выдатным асабовым складам і сваёй неразрыўнай кроўнай сувяззю з народам, з нетраў якога яна вышла і справу якога яна абараняе.

Мужныя сыны і дочкі магутнага Совецкага Саюза пакрылі сябе неўвядаемай славай, зрабіўшы бліскучыя пералёты па нязведаных трасах, пралажыўшы новыя паветраныя шляхі праз дрымучыя лясы і тундры, пустыні і акіяны. З кожным днём расце магутнасць совецкай авіяцыі, нашы пілоты-героі заваёўваюць новыя рэкорды, смела і ўпэўнена пакараюць прасторы і час.

Нашы гераічныя жанчыны-лётчыцы Паліна Асіпенка, Вера Ламака і Марына Раскова перасеклі нашу краіну з поўдня на поўнач, праляцеўшы на гідрасамалёце без пасадкі за 10 гадзін 33 мінуты па маршруту Севастопаль—Архангельск. Днямі закончан бліскучы беспасадачны дальні пералёт па маршруту Масква—Владзівасток бясстрашнымі лётчыкамі Владзімірам Кокінакі і Аляксандрам Брандзінскім на самалёце «Москва». Звыш 7600 клм. раўняецца гэты шлях. І ён пройдзен за 24 гадзіны 36 мінут! Упершыню ў гісторыі авіяцыі на такой велізарнай адлегласці дасягнута падобная хуткасць. Чырвонакрылая «Москва» прышла к фінішу з сярэдняй хуткасцю 307 кіламетраў у гадзіну. Для таго, каб уявіць сабе велізарную працягласць шляху, па якому без пасадкі праляцелі нашы героі-лётчыкі, дастаткова сказаць, што за гэты час Кокінакі мог-бы без пасадкі два разы злятаць з Масквы ў Берлін і назад і ў трэці раз злятаць у Берлін. Ён мог-бы без пасадкі праляцець з Масквы ў Партугалію і звярнуцца зноў у Маскву. Ён мог-бы дасягнуць Японіі і пабыць яшчэ некаторы час у паветры. Магутная совецкая авіяцыя з яе першакласнымі машынамі, выдатнымі прыборамі і гераічнымі лётчыкамі яшчэ і яшчэ раз даказала, што далёкіх адлегласцей для яе няма. Поспехі Кокінакі і Брандзінскага—гэта паказчык росту выдатных сіл Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Наш паветраны флот, наша соцыялістычная краіна распалагае тысячамі выдатных людзей, гатовых па закліку партыі і ўрада стаць на абарону краіны Советаў і граміць ворага, адкуль-бы ён ні з'явіўся.

Мы ўпэўнены не толькі ў тым, што выйдзем з вайны, якую спрабуюць нам навязаць, пераможцамі над любым ворагам, якім-бы моцным ён ні быў, але і ў тым, што перамога будзе дасягнута намі з мінімальнай затратай, малой крывёю. Залог гэтаму—высокая якасць нашых байцоў і камандзіраў, авалодаўшых дасканальна ваеннай тэхнікай, злітнасць будучага фронта з тылам, арганізаванасць, маналітнасць, ма-

гутнасць нашага совецкага народа, кіруемага вялікай партыяй Леніна—Сталіна.

Совецкі народ поўнасцю давярае сталінскаму Цэнтральнаму Камітэту Партыі і Совецкаму Ўраду. Совецкі народ аднадушна падтрымлівае палітыку партыі Леніна—Сталіна, якая забяспечыла перамогу социялізма ў нашай краіне. І ніякім прошукам ворагаў народа, ніякім фашысцкім падпальшчыкам вайны не ўдасца пахіснуць нашу сілу, нашу магутнасць.

Аб згуртаванасці і магутнасці совецкага народа яскрава сведчыць новая, бліскучая перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных на выбарах ва ўсіх 11 саюзных і 17 аўтаномных рэспубліках. Аднадушным галасаваннем за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных народы Совецкага Саюза яшчэ і яшчэ раз прадэманстравалі перад усім светам сваё непарушнае маральна-палітычнае адзінства, сваю непахісную волю да барацьбы за далейшыя перамогі, сваю бязмежную любоў і давер'е партыі большэвікоў, яе Цэнтральнаму Камітэту, вялікаму правадыру народаў—таварышу Сталіну.

Бліскучыя вынікі выбараў яшчэ і яшчэ раз з усёй яскравасцю сведчаць аб поўнай падтрымцы народамі нашай краіны палітыкі ленінска-сталінскай партыі і кіруемага ёю совецкага ўрада, аб поўнай гатоўнасці совецкага народа і надалей бязлітасна знішчаць трацкісцка-бухарынскіх і іншых ворагаў народа, аб поўным крушэнні ўсіх і ўсякіх надзей капіталістычнага свету на аслабленне магутнасці нашай вялікай социялістычнай дзяржавы. Рэзультаты выбараў з'яўляюцца яркім довадам таго, што ў нашай краіне зліліся ў адно дзве непераможныя сілы—народ і комунізм.

Вось чаму шматлікія прыяцелі СССР ва ўсім свеце з велізарнай радасцю адзначалі грандыёзную перамогу сталінскага блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік. Міжнароднае значэнне нядаўна скончыўшыхся выбараў, як найярчэйшае праяўленне інтэрнацыяналізма і брацтва народаў, выключна велізарна. Выбары з'явіліся новым стымулам да ўзмацнення барацьбы прыгнечаных усяго свету за сваю свабоду, усіх антыфашыстаў—супроць фашысцкіх падпальшчыкаў вайны.

Адзначаючы 24 гадавіну першай сусветнай імперыялістычнай бойні, міжнародны дзень барацьбы супроць ваеннай небяспекі, працоўныя масы ўсяго свету, усё перадавое і прагрэсіўнае чалавецтва будзе дэманстраваць не толькі сваю нянавісць да фашызма і вайны, але і сваё імкненне да згуртавання і адзінства ў барацьбе супроць фашызма і вайны.

Міжнародны дзень барацьбы супроць ваеннай небяспекі павінен стаць для нас днём яшчэ большага ўмацавання большэвіцкай пільнасці, днём умацавання неразрыўнай сувязі працоўных СССР з рабочымі і працоўнымі капіталістычных краін, днём мабілізацыі сіл у барацьбе за мір супроць фашызма, супроць вайны.

———

## Бліскучая перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных

Народы шчаслівай совецкай краіны завяршылі выбарчую кампанію па выбарах вярхоўных советаў саюзных і аўтаномных рэспублік. 26 чэрвеня беларускі народ выбраў Вярхоўны Совет ордэнаноснай БССР.

Вынікі выбараў выдатныя. Непарушны сталінскі блок комуністаў і беспартыйных умацаваўся яшчэ больш, ён атрымаў новую бліскучую перамогу. Дзень выбараў у БССР, як і ў іншых брацкіх саюзных і аўтаномных рэспубліках, ператварыўся сапраўды ва ўсенароднае свята нашых рабочых, сялян і інтэлігенцыі.

Працоўныя масы БССР разам з усім совецкім народам зноў прадэманстравалі перад усім светам сваё непарушнае маральна-палітычнае адзінства, сваю бязмежную адданасць партыі Леніна—Сталіна, совецкаму ўраду, тварцу велізарных перамог соцыялізма—вялікаму Сталіну.

Па выбарах у Вярхоўны Совет БССР у галасаванні прымала ўдзел 3.030.148 выбаршчыкаў, што складае 99,65 проц. За кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных аддала свае галасы 3.005.609 выбаршчыкаў, што складае 99,19 проц. усіх, прымаўшых удзел у галасаванні. Па выбарчых акругах, дзе балатыраваліся першыя кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР: Іосіф Вісарыёнавіч Сталін і яго бліжэйшыя саратнікі—таварышы В. М. Молатаў, К. Е. Варашылаў, Л. М. Кагановіч. М. І. Калінін, А. А. Жданаў, А. А. Андрэеў, А. І. Мікаян, Н. І. Ежоў у галасаванні прыняло ўдзел 100 проц. выбаршчыкаў.

З велізарным уздымам і аднадушнасцю выбраны кандыдаты непераможнага сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. Аднадушна галасуючы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, беларускі народ галасаваў за нашу вялікую партыю Леніна—Сталіна, за сталінскі Цэнтральны Камітэт, за мудрага настаўніка, друга, бацьку беларускага народа і працоўных усяго свету—вялікага Сталіна. Аднадушна аддаючы свае галасы за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, беларускі народ, разам з усімі народамі нашай магутнай соцыялістычнай радзімы, на ўвесь свет заявіў аб сваёй гатоўнасці і няўхільнай рашымасці і надалей яшчэ з большымі намаганнямі ўмацоўваць магутнасць сваёй радзімы, змагацца за далейшыя перамогі соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, умацоўваць магутнасць Чырвонай Арміі, развіваць навуку, мастацтва і літаратуру, яшчэ больш набліжаць культуру да народа. Маральнае і палітычнае адзінства совецкага народа, яго адданасць соцыялістычнай радзіме, выключная згуртаванасць вакол партыі Леніна—Сталіна, з новай сілай прадэманстраваныя ў дні выбараў, радуе працоўных нашай радзімы і ўносіць новы прыліў бадзёрасці і веры ў свае сілы таксама і ў сэрцы пролетарыяў капіталістычных дзяржаў.

У сваім дакладзе да дваццаціgоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі тав. Молатаў гаварыў:

> «Маральна-палітычнае адзінства народа ў нашай краіне мае і сваё жывое ўвасабленне. У нас ёсць імя, якое стала сімвалам перамог соцыялізма. Гэта імя разам з тым сімвал маральнага і палітычнага адзінства совецкага народа. Вы ведаеце, што гэта імя—Сталін!»

Сталін—гэта сімвал новых грандыёзных перамог і народнага шчасця! Сталін—гэта сімвал магутнасці і дружбы многанацыянальнага совецкага народа. Сталін—гэта сцяг барацьбы сусветнага пролетарыята. У дзень выбараў Вярхоўнага Совета БССР выбаршчыкі падыходзілі да урнаў з любімым імем Сталіна на сваіх вуснах.

Шчаслівыя і гордыя неслі да ўрнаў свае бюлетэні выбаршчыкі Прамысловай акругі горада Менска, бюлетэні, на якіх было напісана імя: Сталін.

Да перамогі совецкага ладу беларускі народ жыў у галечы і бяспраўі, цярпеў падвойны гнёт: ад уласных капіталістаў і памешчыкаў і ад рускіх і польскіх паноў-крывасмокаў, якіх падтрымлівалі царскія чыноўнікі і каты. У беларускай вёсцы панавала суцэльная непісьменнасць, голад, хваробы. Беларусь пры царызме была краінай нацыянальнага прыгнечання і розні, краінай яўрэйскіх пагромаў і каланіяльнага рабства.

Беларускі народ толькі пры совецкай уладзе, у выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі, упершыню атрымаў сваю дзяржаўнасць і пры дапамозе ўсіх брацкіх рэспублік, у першую чаргу пры дапамозе вялікага рускага народа, адваяваў і цяпер умацоўвае сваё шчасце. На аснове няўхільнага правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечана брацкае супрацоўніцтва ўсіх народаў СССР, забяспечана ўзаемнае давер'е паміж імі. Дружбу народаў выкавала наша слаўная большэвіцкая партыя ў непрымірымай барацьбе супроць царызма, памешчыкаў і капіталістаў, супроць трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма. Дружба народаў, брацкае супрацоўніцтва паміж рэспублікамі, няўхільны рост заможнага і культурнага жыцця працоўных, росквіт соцыялістычнага дэмакратызма—усё гэта забяспечана нашай комуністычнай партыяй, партыяй Леніна—Сталіна.

У БССР пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры непасрэдных, штодзенных клопатах бацькі і любімага друга беларускага народа таварыша Сталіна, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, назаўсёды ліквідавана капіталістычная сістэма гаспадаркі і памешчыцка-кулацкая ўласнасць на зямлю і іншыя сродкі вытворчасці, ліквідаваны эксплаататарскія класы; знішчаны назаўсёды галеча, беспрацоўе, эксплаатацыя, панска-памешчыцкае ярмо, кулацкая кабала, жандармскі бізун і царскі кат. Беларускі народ зажыў шчаслівым, поўнакроўным, культурным жыццём і пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі шпаркімі крокамі разам з усімі народамі Совецкага Саюза рухаецца ўперад—к комунізму.

За гэтае светлае, радаснае жыццё, за гэтыя грандыёзныя поспехі, дасягнутыя пад кіраўніцтвам вялікай неперsafeможнай партыі Леніна—Сталіна, за любімага вялікага генія чалавецтва таварыша Сталіна працоўныя БССР аддалі свае галасы ў дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Ворагі народа—трацкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя агенты фашызма, тройчы прэзрэнныя здраднікі прабавалі адабраць у беларускага народа яго заваёвы, прабавалі адторгнуць БССР ад брацкіх рэспублік Совецкага Саюза і вярнуць беларускі народ у становішча каланіяльнага рабства, галечы, голаду, цемры і вымірання.

Але ворагі жорстка пралічыліся. Слаўныя наркамунудзельцы, кіруемыя сталінскім Наркомам унутраных спраў, любімцам совецкага народа Нікалаем Іванавічам Ежовым, пры беззаветным падтрыманні ўсяго совецкага народа разграмілі замаскіраваных ворагаў народа, шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойцаў і цяпер прадаўжаюць граміць ушчэнт змяіныя гнёзды прытоіўшыхся ворагаў.

Пры непасрэднай ініцыятыве таварыша Сталіна спецыяльным рашэннем СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня 1937 г. нашай рэспубліцы аказана каласальная дапамога ў справе ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

Актыўнасцю і маналітным адзінствам у дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР беларускі народ яшчэ раз падкрэсліў сваю гатоўнасць да канца змагацца з ворагамі працоўных, падкрэсліў сваю адданасць да канца справе Леніна—Сталіна, гатоўнасць ісці пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна да поўнай перамогі комунізма.

Выступаючы на прадвыбарчым сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі горада Масквы 11 снежня 1937 г. таварыш Сталін указаў, што ў нашай краіне выбары праходзяць у знамянальнай абстаноўцы супрацоўніцтва рабочых, сялян і інтэлігенцыі, іх узаемнай дружбы і давер'я, у абстаноўцы цеснага яднання комуністаў і беспартыйных і іх непарушнага блока.

«Такія свабодныя і сапраўды дэмакратычныя выбары маглі ўзнікнуць толькі на глебе таржаства соцыялістычных парадкаў, толькі на базе таго, што ў нас соцыялізм не проста будуецца, а ўжо ўвайшоў у быт, у штодзенны быт народа» (Сталін).

На нашых фабрыках і заводах, на калгасных і соўгасных палях, у совецкіх установах на кіруючую партыйную, дзяржаўную і гаспадарчую работу вылучаны народам новыя кадры партыйных і непартыйных большэвікоў, палкіх патрыётаў сваёй вялікай совецкай радзімы, беззаветна адданых вялікаму сцягу Леніна—Сталіна.

Новыя выдатныя людзі прадстаюць перад усім совецкім народам, у тым ліку і перад беларускім, у якасці выбраных дэпутатаў у Вярхоўны Совет саюзных і аўтаномных рэспублік. Сярод іх ёсць майстры соцыялістычнай індустрыі і калгасных палёў, знатныя стаханаўцы, слаўныя пагранічнікі, лепшыя прадстаўнікі совецкай інтэлігенцыі—дзеячы навукі, літаратуры, мастацтва, лепшыя патрыёты нашай радзімы. Яны з'яўляюцца вернымі сынамі і дочкамі шчаслівай, свабоднай, дружнай совецкай сям'і народаў краіны соцыялізма.

Вось твар нашага дэпутата:

Тав. Ханіна Г. С., якая мае вялікі стаж работы панчошніцы, вырасла у рабочай сям'і. На панчошнай фабрыцы імя Клары Цэткін т. Ханіна пачала працаваць радавой работніцай. У 1931 г. яе вылучылі на пост дырэктара фабрыкі. Малады дырэктар т. Ханіна горача ўзялася за навядзенне большэвіцкага парадку на фабрыцы. З уласцівай ёй напорыстасцю яна крок за крокам пачала ажыццяўляць шэсць гістарычных умоў таварыша Сталіна. Абязлічка і ўраўнілаўка ў цэхах былі ліквідаваны. У выніку гэтага фабрыка запрацавала па-новаму і з месяца ў месяц пачала выконваць план.

У 1935 годзе т. Ханіна была вылучана на новую работу: ёй было даверана кіраўніцтва 8-тысячным калектывам трыкатажнай фабрыкі «КІМ». І з гэтай работай т. Ханіна справілася з чэсцю. Сярод комуністаў яна карыстаецца вялікім аўтарытэтам. Тав. Ханіна з'яўляецца членам парткома і гаркома КП(б)Б.

Або узяць, напрыклад, дэпутата Вярхоўнага Совета БССР, выбранага ад Лагойскай выбарчай акругі—тав. Міклашэўскую Соф'ю Юльянаўну. Ёй усяго толькі 20 год. Яна дачка селяніна-бедняка. Бацька Міклашэўскай—Юльян да совецкай улады пазнаў многа гора. А ў сучасны момант дзеці былога жабрака, цяперашняга калгасніка Юльяна, атрымалі адукацыю і сталі перадавымі людзьмі ў нашай краіне: сын Казімір—член партыі, лейтэнант слаўнай Чырвонай Арміі, Павел—член партыі, дырэктар Янушкоўскай МТС, Адольф—комсамолец, курсант палкавой школы. Соф'я Юльянаўна Міклашэўская ад няньк і ў дзіцячых яслях дайшла да трактарысткі, а потым да брыгадзіра жаночай трактарнай брыгады. Усюды яна паказвае прыклады ўдарнай работы, адданасці і соцыялістычных адносін да працы і таму заслужана карыстаецца ў Лагойскім раёне вялікай павагай і аўтарытэтам. Яна сакратар комсамольскага камітэта МТС, член райкома комсамола і намеснік сакратара РК ЛКСМБ. У часе выбараў у Вярхоўны Совет СССР Міклашэўская была выбрана членам Барысаўскай гарадской выбарчай камісіі. 26 чэрвеня 1938 года яна выбрана дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР.

Ёсць у нас выдатныя пагранічнікі, як напрыклад т. Бутэнко, камандзіры і палітработнікі нашай доблеснай Чырвонай Арміі—таварышы Кавалёў, Казлоў, прадстаўнікі працоўнай інтэлігенцыі—кампазітар Багатыроў і многа іншых, імёны якіх сталі зараз вядомы ўсяму беларускаму народу. За імі ідуць усё новыя і новыя шарэнгі працоўных нашай краіны, такіх-жа адданых, чэсных, па-большэвіцку выконваючых заданні партыі і ўрада, гатовых і здольных стаць палітычнымі дзеячамі ленінска-сталінскага тыпу.

Яны—выбраннікі народа, разам з усім совецкім народам памятаюць выдатныя словы таварыша Сталіна аб дэпутатах—палітычных дзеячах ленінскага тыпу:

«Выбаршчыкі, народ павінны патрабаваць ад сваіх дэпутатаў, каб яны аставаліся на вышыні сваіх задач, каб яны ў сваёй рабоце не спускаліся да ўзроўню палітычных абываталяў, каб яны аставаліся на пасту палітычных дзеячоў ленінскага тыпу, каб яны былі такімі-ж яснымі і пэўнымі дзеячамі, як Ленін, каб яны былі такімі-ж бясстрашнымі ў баі і бязлітаснымі да ворагаў народа, якім быў Ленін, каб яны былі свабодны ад усякай панікі, ад усякага падабенства панікі, калі справа пачынае ўскладняцца і на гарызонце вырысоўваецца якая-небудзь небяспека, каб яны былі гэтак-жа свабодны ад усякага падабенства панікі, як быў свабодны Ленін, каб яны былі гэтак-жа мудры і непаспешлівы пры вырашэнні складаных пытанняў, дзе патрэбна ўсебаковая арыентацыя і ўсебаковы ўлік усіх плюсаў і мінусаў, якім быў Ленін, каб яны былі гэтак-жа праўдзівы і чэсны, якім быў Ленін, каб яны гэтак-жа любілі свой народ, як любіў яго Ленін».

Усенароднае таржаство беларускага народа стала яшчэ больш бадзёрым і радасным ад таго, што першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР быў назван той, хто з'яўляецца натхніцелем і арганізатарам перамог соцыялізма, хто над усім светам высока трымае вялікі, непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна. Гэта—вялікі прабадыр народаў і мудры наш настаўнік таварыш Сталін.

таму так святочна выглядалі ўсе гарады і сёлы ордэнаноснай Беларусі ў дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Вырасла вялікая армія агітатараў—гэтых партыйных і непартыйных большэвікоў. Іх па БССР у часе падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет БССР працавала больш 50 тысяч чалавек.

Узброеныя вопытам разгортвання розных форм агітацыйна-палітычнай работы з выбаршчыкамі ў часе выбараў у Вярхоўны Совет БССР, нашы агітатары яшчэ з большым энтузіязмам узнімалі актыўнасць нашых выбаршчыкаў у часе падрыхтоўкі і правядзення выбараў у Вярхоўны Совет Беларускай ССР. Праз велізарную сетку гурткоў (іх было больш 35 тысяч), сходаў, мітынгаў, пры разнастайных формах і метадах большэвіцкай агітацыі, праўдзівае, пераканальнае слова агітатара аб найвялікшых заваёвах соцыялізма дайшло да ўсіх слаёў насельніцтва.

Найвялікшага ўздыму і эфектыўнасці агітацыя дасягнула ў тыя шчаслівыя дні, калі наш любімы Сталін, тварэц самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі і яго слаўныя саратнікі—таварышы Молатаў, Кагановіч, Калінін, Варашылаў, Ежоў, Андрэеў, Мікаян і Жданаў далі сваю згоду балатыравацца ў Вярхоўны Совет БССР.

Гэтыя дні ператварыліся ва ўсенароднае свята. Сотні дэманстрацый і мітынгаў былі праведзены па БССР. У гэтыя памятныя дні беларускі народ пасылаў сотні пісем свайму бацьку і настаўніку таварышу Сталіну і яго саратнікам, у якіх працоўныя выражалі сваю адданасць і любоў да партыі Леніна—Сталіна, Цэнтральнага Камітэта і правадыра ўсіх працоўных—таварыша Сталіна. У гэтых сваіх пісьмах працоўныя давалі абяцанні яшчэ больш узняць прадукцыйнасць працы, яшчэ больш павялічыць багацце прадуктаў у нашай краіне, яшчэ мацней згуртавацца вакол партыі, вакол яе правадыра таварыша Сталіна і выкарчаваць да канца заклятых ворагаў народа.

Беларускія працоўныя сваё абяцанне выконваюць: і ў красавіку, і ў маі, і ў чэрвені рабочыя большасці прадпрыемстваў БССР перавыканалі вытворчыя планы, паказалі новыя ўзоры стаханаўскай работы ва ўзняцці прадукцыйнасці працы.

Вось некалькі характэрных паказчыкаў: швейная фабрыка імя Крупскай 18 чэрвеня 1938 г. выканала поўгадавое заданне на 100,2 проц., а к 26 чэрвеня калектыў рабочых гэтай фабрыкі ўзяў на сябе абавязацельства выпусціць прадукцыі на 200 тыс. рублёў; трэці цэх гэтай фабрыкі выканаў сваю праграму на 111 проц.

Завод «Большэвік» майскі план выканаў на 102,9 проц., а поўгадавую праграму калектыў рабочых абавязаўся выканаць к 22/VI-1938 г. Завод сваё абавязацельства выканаў.

Завод імя Кірава поўгадавую праграму выканаў к 13/VI-1938 г. Малады стаханавец т. Чыжэўскі ўзяў на сябе абавязацельства выканаць сваю месячную праграму к 26/VI—і ўжо к 20/VI-38 г. узятае ім абавязацельства было выканана. Большасць кавалёў выконваюць норму на 200 і больш процантаў: т. Кісель—на 300 проц., т. Гарадзецкі—на 350 проц.

Віцебскі машына-будаўнічы завод імя Комінтэрна, Бабруйская мэблевая фабрыка імя Халтурына і рад іншых фабрык і заводаў выканалі праграму поўгадавога плана.

У сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у Вярхоўны Совет БССР наглядаўся масавы прыліў аднаасобнікаў у калгасы: у Барысаўскім раёне ў калгасы ўступіла 450 аднаасобных гаспадарак, у Прапойскім

раёне—114 гаспадарак, у вёсцы Бродня, Вяліка-Стахаўскага се совета, арганізован новы калгас імя 26 чэрвеня—дня выбараў Вярхоўны Совет БССР.

Калгасы Віцебскай вобласці першымі ў рэспубліцы закончылі в навую сяўбу з высокай апрацоўкай пасеўных участкаў пад веснав яравыя культуры. Па Талачынскаму раёну створаны 763 стаханаўс звенні, якія ўзялі на сябе абавязацельства—змагацца за высокі ўр джай па ільну і зернавых культурах. Звяно т. Дэцкінай з калг імя Будзённага, Лёзненскага раёна, змагаецца за 10 цэнтнераў ілы валакна з гектара.

Калгасы Рычаўскага сельсовета, Тураўскага раёна, Палескай во ласці, рыхтуючыся дастойна сустрэць дзень выбараў у Вярхоўны С вет БССР, закончылі трэцюю праполку азімых і другую прапол яравых культур, а таксама заканчвалі праполку ільну і проса, по насцю разлічыліся з дзяржавай па грашовых плацяжах і мясазагато ках.

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР натхнілі і ўзнялі сыноў і дач беларускага народа на новыя подвігі, на высокія патрыятычн справы, на слаўную гераічную барацьбу ў імя працвітання наш вялікай радзімы, у імя перамогі комунізма ва ўсім свеце.

Выбары яшчэ шчыльней згуртавалі працоўныя масы вакол па тыі Леніна—Сталіна, вакол яе Цэнтральнага Камітэта, вакол вялік Сталіна. Партыйныя і совецкія арганізацыі Беларусі правялі агро ную палітычную і арганізацыйна-масавую работу сярод выбаршч каў. Выбары яшчэ больш актывізавалі працоўныя масы, далучылі да актыўнага палітычнага і вытворчага жыцця. У многа разоў узр уплыў нашай партыі на масы.

Задача партыйных і совецкіх арганізацый—усямерна замацава і пашырыць масава-палітычную работу сярод насельніцтва. Нео ходна замацаваць каштоўнейшы людскі капітал, беражліва вырош ваць гэтыя выдатныя кадры партыйных і непартыйных агітатараў. Трэ і надалей для работы сярод насельніцтва шырока ўжываць шмат кія формы і метады большэвіцкай агітацыі шляхам правядзен цікавых лекцый, гутарак, вечароў самадзейнасці, арганізацыі выст вак, экскурсій у музеі і наведвання кіно. Трэба ўсямерна ўмацоўва магутны сталінскі блок комуністаў і беспартыйных, умацоўваць с вязь партыі з беспартыйнымі масамі. Неабходна сістэматычна пра ваць з агітатарамі і прапагандыстамі, арганізуючы іх у агіткалє тывы, узнімаць якасць большэвіцкай прапаганды і агітацыі.

XVII з'езд КП(б) Беларусі ў сваіх рашэннях падкрэсліў веліза ныя поспехі партыйных арганізацый у праведзенай рабоце па выб рах у Вярхоўны Совет БССР. У гэтых рашэннях удзелена асаблів ўвага палепшанню зместу агітацыйнай работы. Агітатары павінны ра тлумачыць важнейшыя пытанні партыі і ўрада, знаёміць працоўн насельніцтва з пытаннямі міжнароднага становішча. Большэвіцк агітацыя павінна мабілізаваць працоўных на паспяховае выканан гаспадарча-палітычных задач, на ўмацаванне магутнасці Чырвон Арміі і Ваенна-Марскога Флота, на канчатковае знішчэнне трацкісцк бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, на ў мацненне магутнасці соцыялістычнай дзяржавы, на ўмацаванне міжн роднай салідарнасці ў барацьбе супроць фашызма. Большэвіцкая а тацыя павінна служыць справе няспыннага выхавання ўсяго праца нага насельніцтва ў духу совецкага патрыятызма, беззаветнай адд насці партыі Леніна—Сталіна.



Кожны партыйны і совецкі кіраўнік павінен глыбока ўсвоіць указанні партыі аб спалучэнні палітычных і гаспадарчых задач. Неабходна мабілізаваць усю армію агітатараў на растлумачэнне працоўным масам і мабілізацыю іх актыўнасці на выкананне агромных задач, пастаўленых першым годам трэцяй сталінскай пяцігодкі, на падрыхтоўку і правядзенне ўборкі багатага ўраджаю, на хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

Задача партыйных і грамадскіх арганізацый—не толькі замацаваць дасягнуты ўзровень палітычна-масавай работы. Справа заключаецца ў тым, каб гэты ўзровень сістэматычна ўзнімаць, усямерна ўмацоўваць, ахапляючы ідэйна-палітычным уплывам, узбройваючы большэвізмам усё больныя слаі працоўнага насельніцтва, выхоўваючы ў іх дух совецкага патрыятызма, любоў да радзімы і нянавісць да ворагаў народа.

Усе лепшыя формы агітацыйна-масавай работы павінны быць шырока выкарыстаны пры падрыхтоўцы да выбараў у нізавыя советы дэпутатаў працоўных, якія павінны праходзіць на яшчэ больш высокім узроўні.

Трэба рашуча і назаўсёды пакончыць з сезоннасцю ў арганізацыі ідэйна-палітычнага выхавання працоўных мас. Гэтай рабоце неабходна надаць пастаянны і сістэматычны характар. За перыяд выбарчай кампаніі выяўлены агромныя масы актыва з партыйных і беспартыйных большэвікоў. Задача зараз заключаецца ў тым, каб замацаваць гэты актыў, зрабіць яго пастаянным актывам партыйных і совецкіх арганізацый.

Трэба ўсямерна замацаваць і пашырыць вытворчы і палітычны ўздым шырокіх працоўных мас, множыць рады стаханаўцаў, дабіцца новых высокіх паказчыкаў у арганізацыі соцыялістычнай працы.

Трэба множыць і множыць дасягнутыя поспехі, пастаянна выхоўваць працоўны народ у патрыятычным духу, узмацняць большэвіцкі ўплыў на масы, на кожнага працоўнага нашай краіны—да гэтага клічуць бліскучыя вынікі выбарчай кампаніі.

---

**Н. Я. Наталевіч**

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР, намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

# Вярхоўны Совет Беларускай ССР выбран

25-га ліпеня 1938 года—праз месяц пасля выбараў адкрылася 1-я сесія Вярхоўнага Совета Беларускай Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі. Уступіў у свае правы вышэйшы орган дзяржаўнай улады, совецкі соцыялістычны парламент—Вярхоўны Совет БССР.

Следам за выбарамі ў Вярхоўны Совет СССР выбары Вярхоўных Советаў Саюзных і Аўтаномных Рэспублік з'яўляюцца такой палітычнай падзеяй, якая мае выключнае сусветна-гістарычнае значэнне. Па закліку партыі Леніна—Сталіна амаль усе пагалоўна выбаршчыкі прышлі да выбарчых урнаў і аддалі свае галасы кандыдатам блока комуністаў і беспартыйных. Выбары ў Вярхоўныя Советы Саюзных і Аўтаномных Рэспублік яшчэ раз паказалі несакрушальную сілу і магутнасць сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, з'явіліся яшчэ раз грознай перасцярогай усім драпежнікам, усім міжнародным разбойнікам, фашысцкім падпальшчыкам вайны.

У дні выбараў у Вярхоўныя Советы Саюзных і Аўтаномных Рэспублік совецкі народ яшчэ раз напомніў страціўшым розум фашысцкім авантурыстам аб сваёй грознай сіле, аб сваім адзінстве, сваім патрыятызме, рашучасці, гатоўнасці і здольнасці абараняць сваю радзіму да канца.

У гэтыя дні яшчэ раз пацярпела жорсткае паражэнне апошняя надзея нашых ворагаў і іх трацкісцка-бухарынскай фашысцкай агентуры на разрыў паміж рабочым класам, ажыццяўляючым у нашай краіне сваю пераможную дыктатуру, і шырокімі мільённымі масамі сялянства, на адрыў народа ад партыі і совецкай улады.

У гэтыя дні совецкі народ яшчэ і яшчэ раз прадэманстраваў сваю непахісную вернасць справе нашай вялікай партыі Леніна—Сталіна, бязмежную любоў і адданасць партыі і совецкаму ўраду, прадэманстраваў яшчэ раз непахіснае маральнае і палітычнае адзінства і нябачаную сілу і магутнасць нашай соцыялістычнай дзяржавы.

Ні ў адной краіне ні адна ўрадавая партыя ніколі не атрымлівала столькі галасоў, колькі атрымаў блок комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўныя Советы Саюзных і Аўтаномных Рэспублік.

Беларускі народ аднадушна галасаваў за сталінскі блок комуністаў і беспартыйных. Галасуючы за блок комуністаў і беспартыйных, народ галасаваў за далейшы росквіт нашай радзімы, за магутнасць на-

шай індустрыі, калгасаў, за багацце прадуктаў, за далейшае паляпшанне матэрыяльна-бытавога становішча працоўных, за далейшы ўздым заможнага калгаснага жыцця. Аддаючы свае галасы за гэты блок, народ галасаваў за далейшы рост асветы ў нашай краіне, за далейшы росквіт навукі, літаратуры і мастацтва, за ўмацаванне дружбы народаў вялікага Совецкага Саюза.

Апускаючы бюлетэні за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, народ галасаваў за трывалы мір, за тое, каб працоўныя і надалей карысталіся благамі мірнай працы, за свабоду і незалежнасць нашай радзімы.

За кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных 26-га чэрвеня пры выбарах Вярхоўнага Совета БССР з агульнага ліку выбаршчыкаў 3.040.710 прыняла ўдзел у галасаванні 3.030.148 выбаршчыкаў, або 99,65 проц.; галасавала за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных 3.005.609 чалавек, што складае 99,19 проц. усяго ліку прымаўшых удзел у галасаванні.

Гэта бліскучая перамога блока комуністаў і беспартыйных абумоўлена самой грамадска-палітычнай абстаноўкай, у якой праходзілі выбары 26-га чэрвеня.

У сваёй прамове на сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі гор. Масквы таварыш Сталін растлумачыў розніцу абстаноўкі ў выбарах у капіталістычных краінах і ў нас, што гэта розніца ў выбарах карэніцца іменна ў наяўнасці там і адсутнасці тут, у нас, капіталістаў, памешчыкаў і іншых акул капіталізма, якія давяць на народ і стараюцца сказіць яго волю.

> «У нас,—гаварыў таварыш Сталін,—няма капіталістаў, няма памешчыкаў, стала-быць, і няма даўлення з боку маемасных класаў на немаемасных. У нас выбары праходзяць у абстаноўцы супрацоўніцтва рабочых, сялян, інтэлігенцыі, у абстаноўцы ўзаемнага іх давер'я, у абстаноўцы, я-б сказаў, узаемнай дружбы, таму што ў нас няма капіталістаў, няма памешчыкаў, няма эксплаатацыі і няма каму, уласна, давіць на народ для таго, каб сказіць яго волю».

Выбары 26-га чэрвеня—гэта сапраўды народныя ўсеагульныя выбары, аб тэтым сведчыць самы факт удзелу ў галасаванні 99,65 проц. усяго ліку выбаршчыкаў па Совецкай Беларусі. Актыўнасць небывалая, невядомая ні адной буржуазнай дзяржаве.

Аб гэтым лёгка можна судзіць па даных аб выбарах у розных капіталістычных краінах за апошнія годы. У парламенцкіх выбарах 1935 года ў Вялікабрытаніі прымала ўдзел 71,9 проц. выбаршчыкаў (22 мільёны галасаваўшых з 30,5 мільёна агульнага ліку выбаршчыкаў). У прэзідэнцкіх выбарах 1936 г. у ЗША прымала ўдзел 83,3 проц. выбаршчыкаў (45,8 мільёна галасаваўшых з 55 мільёнаў выбаршчыкаў). У Польшчы ў сеймавых выбарах 1935 г. прымала ўдзел 46,6 проц. (7,5 мільёна галасаваўшых з 16,2 мільёна агульнага ліку выбаршчыкаў). Ва Францыі ў парламенцкіх выбарах 1936 года прымала ўдзел 83,9 проц. выбаршчыкаў (9,9 мільёна галасаваўшых з 11,7 мільёна агульнага ліку выбаршчыкаў). У Японіі ў парламенцкіх выбарах 1937 г. прымала ўдзел 69,9 проц. выбаршчыкаў (10,2 мільёна галасаваўшых з 14,6 мільёна агульнага ліку выбаршчыкаў).

З гэтых лічбаў відаць, што ні адна капіталістычная краіна не мае такога высокага проціанта ўдзелу выбаршчыкаў у выбарах, як гэта мае месца ў СССР, у прыватнасці ў нашай Совецкай Беларускай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Але гэта яшчэ не ўсё. Неабходна яшчэ мець на ўвазе, што ў радзе капіталістычных краін агульны лік выбаршчыкаў вельмі невысокі, што выбарчым правам карыстаецца параўнаўча невялікая частка насельніцтва.

Напрыклад, ва Францыі выбарчым правам карыстаюцца толькі 28,2 проц. насельніцтва, у Японіі 21,1 проц., у ЗША 42,8 проц., у Польшчы 48,8 проц., насельніцтва. Гэтыя лічбы дастаткова красамоўна гавораць аб вузкім, урэзаным характары буржуазнага дэмакратызма.

Не гледзячы на тое, што буржуазія, яе вучоныя, палітыкі, друк няспынна трубяць аб самым «сучасным», «шырокім» дэмакратызме, нібы квітнеючым ва ўмовах капіталізма,—у сапраўднасці ў капіталістычных краінах, нават самай дэмакратычнай, няма ні сапраўднага дэмакратызма, ні роўнасці перад законам. У сапраўднасці пры капіталізме пануе «фармальная роўнасць пры захаванні буржуазнага гнёту, ярма капітала, наёмнага рабства» **(Ленін).**

У сапраўднасці «буржуазныя канстытуцыі звычайна абмяжоўваюцца фіксаваннем фармальных правоў грамадзян, не клапоцячыся аб умовах ажыццяўлення гэтых правоў, аб магчымасці іх ажыццяўлення, аб сродках іх ажыццяўлення» **(Сталін).**

Пры выбарах у вышэйшыя заканадаўчыя органы ў капіталістычных краінах шырока практыкуюцца такія метады, як тэрор, подкуп, выбарчае жульніцтва і машэнніцтва, якія ператвараюць гэтыя «выбары» ў пустую камедыю, у здзекі над народнай дэмакратыяй. Ці дзіўна, што палітычна чэсныя, свядомыя людзі нярэдка лічаць за лепшае адмовіцца ад удзелу ў такіх выбарах, фальсіфікаваных і паддзельных ад пачатку да канца.

Іншая справа ў нас, у СССР, дзе няма капіталістаў, няма памешчыцкага ўціску, няма каму давіць на народ і дзе няма каму і няма для чаго займацца фальсіфікацыяй і падтасоўкай фактаў. Зусім натуральна, што выбары ў Вярхоўны Совет БССР з'явіліся ўсенародным святам, усенароднай урачыстасцю беларускага народа.

Каб зразумець усю выключнасць гэтага незабываемага ўсенароднага свята, дастаткова было выйсці 26 чэрвеня на вуліцу, будзь то ў горадзе або ў вёсцы, у цэнтральных або ў самых далёкіх і маланаселеных пунктах, або раёнах нашай соцыялістычнай Совецкай ордэнаноснай Беларускай Рэспублікі.

Хіба не выдатны той факт, што тысячы выбарчых сходаў, ахватваючых дзесяткі і сотні тысяч рабочых, калгаснікаў, чырвонаармейцаў, інтэлігенцыі, аспрэчвалі адзін ў аднаго гонар атрымаць згоду таварыша Сталіна і яго слаўных саратнікаў таварышоў Молатава, Варашылава, Калініна, Кагановіча, Ежова, Жданава, Мікаяна і іншых балатыравацца іменна ў данай выбарчай акрузе.

Няхай якая-небудзь буржуазная палітычная партыя, якая не толькі стаіць ва ўладзе, але нават апазіцыйная, назаве падобны факт са сваёй гісторыі хаця-б за цэлае стагоддзе. Ніхто з іх не назаве падобнага факта, бо такіх фактаў у іх няма і быць не можа. Гэта магчыма толькі ў соцыялістычнай краіне, дзе ўвесь народ зліўся ў адно брац-

кае пачуццё салідарнасці, любві і адданасці справе барацьбы за новае, комуністычнае грамадства. Гэта можа быць толькі ў краіне пераможшага соцыялізма, радзіме працоўных усяго свету, якая з'яўляецца магутным аплотам сапраўднай чалавечай культуры і дэмакратызма.

Ва ўсіх буржуазных краінах парламент з'яўляецца толькі гаварыльняй, а сапраўдную палітыку ва ўгоду інтарэсам і па ўказцы капіталістаў і памешчыкаў твораць рознага роду дзяржаўныя дэпартаменты і іншыя «дэмакратычныя» установы. Парламенцкая балбатня мае сваёй мэтай толькі ашукаць народ, надуць выбаршчыкаў.

> «Паглядзіце на любую парламенцкую краіну,—гаварыў В. І. Ленін,—ад Амерыкі і да Швейцарыі, ад Францыі да Англіі, Нарвегіі і інш., сапраўдную «дзяржаўную» работу робяць за кулісамі і выконваюць дэпартаменты, канцэлярыі, штабы. У парламентах толькі балбочуць са спецыяльнай мэтай надуваць «простанароддзе».

Уістон Чэрчыл, гэты ад'яўлены парламентарый, у сваіх успамінах аб выбарах у Англіі, паказвае сапраўдныя адносіны буржуазнага дзеяча да выбаршчыка, сапраўднае аблічча буржуазнай дэмакратыі. Ён прыводзіць словы Хартынгтона, які аб выбаршчыках гаворыць так: «Я заўсёды лічыў самым лепшым, калі прыходзіцца выступаць перад вялікім сходам, аглядзець усіх і сказаць сабе як можна больш пераканаўча: за ўсё сваё жыццё я яшчэ ніколі не бачыў столькі дурняў».

А раз буржуазія «пераканаўча» гаворыць сабе, што ў асобе сваіх выбаршчыкаў яна бачыць толькі «дурняў»—значыць выбаршчыка можна і трэба надуваць і ашукваць. Можна і трэба пабольш балбатаць, сёе-тое абяцаць, але ніколі абяцанага не выконваць. Таму і склад буржуазных парламентаў падбіраецца і складаецца з класа эксплаататараў: умелых балбатуноў і ашуканцаў, верных слуг фінансавага капітала.

Так, напрыклад, у Англіі ў парламенцкія абшчыны пры выбарах 1935 г. было выбрана 615 дэпутатаў. У ліку гэтых 615 дэпутатаў аказалася: рант'е 139 чалавек, памешчыкаў, капіталістаў, банкаўскіх дзяльцоў—193, адвакатаў—71, афіцэраў—29, профсаюзных трэд'юніянісцкіх бюракратаў—77, асоб так званых свабодных прафесій (урачоў, архітэктараў, літаратараў, настаўнікаў і інш.)—55 і рабочых—5.

Такі-ж класавы склад вышэйшых законадаўчых органаў і ў іншых буржуазных краінах: ва французскай палаце дэпутатаў у 1936 годзе было 139 фабрыкантаў, суднаўладальнікаў, выдаўцоў, памешчыкаў, 119 адвакатаў, 201 асоба свабодных прафесій (прафесары, урачы, інжынеры, журналісты і інш.), а рабочых і служачых толькі 63. У польскім сейме (1935 г.) лічылася толькі 2 рабочых.

Амерыканскі кангрэс па даных 1933 года складаецца з 422 юрыстаў, 56 прамысловых і фінансавых дзяльцоў, 17 журналістаў і прадстаўнікоў падобных свабодных прафесій.

Так абстаіць справа з буржуазнымі парламентамі.

Прынцыпова іншы малюнак мы бачым у СССР, дзе законадаўчымі органамі заўсёды былі і з'яўляюцца прадстаўнікі сапраўднага народа.

Вярхоўны Совет БССР—гэта сам беларускі народ, вялікі ў сваім палітычным і маральным адзінстве, у брацкай дружбе шматлікіх нацый, аб'яднаўшыхся ў небывалым парыве гераічнай барацьбы за соцыялізм, пад непраможным сцягам Леніна—Сталіна.

Самы склад Вярхоўнага Совета БССР гаворыць аб трыумфе сапраўднага соцыялістычнага дэмакратызма, самага паслядоўнага і да канца разгорнутага дэмакратызма ў нашай краіне.

Паглядзіце на самы склад. У Вярхоўны Совет БССР выбрана 273 дэпутаты, сярод іх ёсць комуністы, комсамольцы, партыйныя і непартыйныя большэвікі, ордэнаносцы, стаханаўцы фабрык і заводаў, калгасаў, байцы, камандзіры і палітработнікі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, пагранічнікі—зоркія вартавыя совецкіх граніц, совецкая інтэлігенцыя—урачы, настаўнікі, кампазітары, прафесары. У склад Вярхоўнага Совета выбрана членаў і кандыдатаў КП(б)Б—206 чал., комсамольцаў—23 чал. Па соцыяльнаму становішчу: рабочых—66 чал., калгаснікаў—74, служачых—133. Сярод дэпутатаў ёсць 53 стаханаўцы прамысловасці, транспарту і сельскай гаспадаркі, 38 ордэнаносцаў. У складзе Вярхоўнага Совета БССР—9 членаў Палітбюро і любімец усіх працоўных—родны Сталін. Старшынь калгасаў—20 чал., заг. МТФ—4, звеннявых калгасаў—4 чал., трактарыстаў—8, кампазітараў—2.

Беларускі народ выбраў у дэпутаты Вярхоўнага Совета лепшых сыноў і дочак—людзей, да канца адданых справе Леніна—Сталіна.

Сярод абраннікаў народа—дэпутаты:

Сабіло Павел Якаўлевіч (Менская чыгуначная выбарчая акруга) па соцстановішчы рабочы—слесар, падлеткам паступае на чыгуначны транспарт, на транспарце паказвае лепшыя ўзоры стаханаўскай работы. Удзельнік першай стаханаўскай крываносаўскай нарады, перавыканаў норму на 475 проц., узнагароджан ордэнам «Знак почета».

Борушкоў Грыгорый Мінавіч (Лоеўская сельская выбарчая акруга) мае каля 70 год ад роду, калгаснік—загадчык аўцагадоўчай фермы калгаса «Гомельскі пролетарый», Лоеўскага раёна. Борушкоў Грыгорый пры арганізацыі калгаса першым уступіў у калгас. Працаваў калгасным вартаўніком. Як патрыёт сваёй радзімы, выратаваў калгаснае стада, якое кулакі хацелі знішчыць, падпаліўшы калгасны свіран з двух бакоў. Калгаснік тав. Борушкоў, працуючы аўцаводам, давёў стада з 30 галоў да 970, за што атрымаў ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Або ўзяць Шамко—дэпутата ад Пліскай выбарчай акругі, Смалявіцкага раёна. Шамко—даярка соўгаса «Зарэчча», Смалявіцкага раёна, стаханаўка—ордэнаноска. У 1935 годзе дабілася вялікіх поспехаў па ўдою малака: пры норме 1500 літраў, надойвала 2.600 літраў.

Дэпутат Вярхоўнага Совета ад Старобінскай выбарчай акругі пагранічнік тав. Усаценка Г. І.—былы батрак, уражэнец Днепрапятроўскай вобласці, доўгі час гнуў спіну на кулакоў, у 1928 годзе быў прызван служыць у пагранічныя войскі. Тав. Усаценка спачатку служыў пагранічнікам, потым курсантам школы праваднікоў службовых сабак. Зараз ён атэстован лейтэнантам. За час службы ў пагранахове тав. Усаценка мае 25 затрыманняў парушальнікаў граніц і ў 1937 годзе ўзнагароджан ордэнам «Чырвонай Звязды».

Дэпутат Вярхоўнага Совета БССР тав. Міцкевіч Анастасія (Шклоўская сельская выбарчая акруга) у 1937 годзе са сваім стаханаўскім звяном дабілася ўраджаю ільновалакна 10,35 цнт. з аднаго гектара, а ў 1938 годзе ўзяла абавязацельства разам са сваім звяном дабіцца з аднаго гектара 14 цэнтнераў ільновалакна.

Толькі Совецкая ўлада, кіруемая партыяй Леніна — Сталіна, ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, адрадзіла асуджаныя пры царызме на выміранне шматлікія народнасці і стварыла ўмовы для іх поўнага і ўсебаковага развіцця.

У рэзультаце перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, у рэзультаце разгрому інтэрвентаў, пры велізарнай брацкай дапамозе вялікага рускага народа і ўсіх народаў вялікага Совецкага Саюза, працоўныя Беларусі скінулі рабскія аковы, вызваліліся ад шматвяковага ўціску і гвалту і пабудавалі сваю дзяржаву—нацыянальную па форме і соцыялістычную па зместу.

У ленінска-сталінскім сузор'і адзінаццаці совецкіх рэспублік, складаючых самую магутную ў свеце дзяржаву—СССР—як роўная сярод роўных квітнее Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, неад'емная частка Вялікага Совецкага Саюза, яго баявы фарпост на заходняй граніцы краіны.

За годы соцыялістычнага будаўніцтва Совецкая Беларусь да непазнавальнасці змяніла сваё аблічча. На карце рэспублікі паявіліся новыя абазначэнні: прамысловыя цэнтры, прадпрыемствы-гіганты, добраўпарадкаваныя гарады і рабочыя пасёлкі, электрычныя і машынатрактарныя станцыі. Совецкая Беларусь вырасла ў краіну буйных соцыялістычных заводаў і фабрык, машынізаванай сельскай гаспадаркі, багацця прадуктаў, у краіну перадавой навукі, культуры і мастацтва, у краіну радасці і шчасця шасцімільённага беларускага народа.

У 1913 г. кошт валавой прадукцыі прамысловасці на тэрыторыі цяперашняй БССР складаў (у цэнах 1926—1927 гг.) 89 мільёнаў руб. Лік рабочых буйнай прамысловасці не перавышаў 26 тыс. чалавек. Кошт валавой прадукцыі прамысловасці БССР у мінулым годзе складаў 2.100 мільёнаў руб., г. зн. у 23,5 раза больш, чым у даваенны час. У 1937 годзе ва ўсёй прамысловасці БССР было занята звыш 630 тысяч чалавек.

Совецкая Беларусь—краіна багацця. Яна мае лясны масіў у 3,7 мільёна гектараў, незлічоныя запасы торфу, фасфарыты, кварцавыя пяскі, жалезную руду і т. д. Усе гэтыя багацці належаць працоўным, якім Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная рэволюцыя дала велізарныя правы, увекавечаныя Сталінскай Канстытуцыяй.

Шырока расце і соцыялістычнае земляробства рэспублікі. Тут ёсць каля 10 тыс. калгасаў, якія яднаюць да 700 тысяч сялянскіх двароў. 96 проц. усіх зямельных масіваў навечна даны калгасам. За годы двух сталінскіх пяцігодак калгасы і соўгасы Беларусі атрымалі дасканалую тэхніку. На палях Беларусі працуе звыш 8.500 трактароў, 1.000 камбайнаў, не лічачы цэлага раду іншых складаных сельскагаспадарчых машын. Багатыя ўраджаі і поўнаважкія калгасныя працадні зрабілі жыццё былых батракоў, беднякоў і сераднякоў радасным і заможным.

Велізарныя поспехі дасягнуты ў галіне культурнага будаўніцтва і аховы здароўя. БССР з'яўляецца краінай суцэльнай пісьменнасці. У дарэвалюцыйнай Беларусі абучалася 264 тыс. дзяцей, зараз—звыш мільёна дзяцей. З вышэйшых навучальных устаноў быў усяго толькі адзін сельскагаспадарчы інстытут, у якім абучалася 200 студэнтаў. Зараз налічваецца 22 ВНУ і ВТНУ. У іх абучаецца да 20 тыс. студэнтаў, у тым ліку 40 проц. жанчын. Апрача таго, тысячы студэнтаў абучаюцца ў 97 тэхнікумах і 21 рабфаку, не лічачы шматлікіх розных курсаў і агульнаадукацыйных школ для дарослых. Абучэнне ў іх вядзецца на роднай мове—на беларускай, рускай і яўрэйскай.

Усе гэтыя дасягненні маглі-б быць значна больш, калі-б не подлыя ворагі беларускага народа, трацкісцка-бухарынскія бандыты, нацыянал-фашысты—агенты замежных разведак, якія прабраліся да кіраўніцтва рэспублікай і нанеслі ёй значную матэрыяльную страту. Але ворагі народа жорстка пралічыліся. Дзякуючы пільнасці слаўнай совецкай разведкі, кіруемай сталінскім наркомам Н. І. Ежовым, варожыя гнёзды былі раскрыты і знішчаны. Беларускі народ разам з усімі народамі вялікага Совецкага Саюза гатоў у любую мінуту даць адпор ворагу, які асмеліцца пасягнуць на свяшчэнную зямлю нашай цудоўнай радзімы.

Шматнацыянальны Совецкі Саюз ёсць маналітная гранітная скала, аб якую і надалей будуць ушчэнт разбівацца гнусныя фашысцкія падпальшчыкі вайны і іх прэзрэнныя агенты—трацкісты, бухарынцы, буржуазна-нацыяналістычныя бандыты.

Сталінская Канстытуцыя ўстанавіла небывалае адзінства заканадаўчай улады СССР, якая ажыццяўляецца выключна Вярхоўным Советам.

Таварыш Сталін пры абмеркаванні праекта новай Канстытуцыі катэгарычна адверг унесеныя дапаўненні, у сілу якіх меркавалася прадаставіць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета права выдаваць часовыя заканадаўчыя акты.

У дакладзе на VIII надзвычайным Усесаюзным з'ездзе Советаў таварыш Сталін гаварыў:

> «Трэба, нарэшце, пакончыць з такім становішчам, калі заканадаўствуе не адзін які-небудзь орган, а цэлы рад органаў. Такое становішча супярэчыць прынцыпу стабільнасці закона, а стабільнасць закона патрэбна нам цяпер больш, чым калі-б там ні было. Заканадаўчая ўлада ў СССР павінна ажыццяўляцца толькі адным органам—Вярхоўным Советам СССР».

Вось чаму ў поўнай адпаведнасці з гэтым ленінска-сталінскім прынцыпам артыкул 23 Канстытуцыі БССР гаворыць: «Вярхоўны Совет БССР з'яўляецца адзіным заканадаўчым органам БССР».

Законы, выдаваемыя Вярхоўным Советам БССР, выражаюць волю і інтарэсы працоўных.

Наш Вярхоўны Совет у адрозненне ад буржуазных парламентаў—сапраўды вышэйшы орган народнай улады, які карыстаецца падтрыманнем усяго народа.

Перад Вярхоўным Советам БССР стаіць грандыёзная задача—рушыць наперад народную гаспадарку, каб у найкарацейшы тэрмін ліквідаваць вынікі шкодніцтва як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы, узнімаць культуру беларускага народа, яшчэ больш

мацаваць абараназдольнасць нашай пагранічнай рэспублікі, фарпост вялікай Соцыялістычнай радзімы—СССР, рыхтаваць сакрушальны адпор на выпадак нападу знешніх ворагаў, бязлітасна знішчаючы трацкісцка-бухарынскіх і іншых фашысцкіх агентаў, засылаемых да нас капіталістычным акружэннем, няўхільна павышаць матэрыяльны добрабыт усіх працоўных горада і вёскі.

Уся работа, уся дзейнасць Вярхоўнага Совета БССР павінна быць накіравана на забеспячэнне далейшага трыумфальнага шэствія да комунізма.

У Вярхоўнага Совета БССР няма і не можа быць іншых інтарэсаў, апрача інтарэсаў народа. Няма большага гонару, чым быць дэпутатам вярхоўнага органа ўлады, няма большага гонару, чым мець давер'е народа.

Вяліка адказнасць і ганаровы абавязак кожнага дэпутата Вярхоўнага Совета.

Таварыш Сталін у прамове перад выбаршчыкамі Сталінскай выбарчай акругі Масквы 11 снежня 1937 года гаварыў:

> «Дэпутат павінен ведаць, што ён слуга народа, яго пасланец у Вярхоўны Совет і ён павінен весці сябе па лініі, па якой яму дадзен наказ народам».

Дэпутат Вярхоўнага Совета—слуга народа, яго пасланец, ён павінен дакладна выконваць наказ народа, апраўдваць высокае давер'е народа, павінен кожным сваім помыслам, кожным сваім крокам клапаціцца аб працвітанні нашай радзімы. Калі дэпутат зверне з дарогі, якую яму ўказвае народ, партыя, выбаршчыкі па нашаму выбарчаму закону маюць права адклікаць гэтага дэпутата і патрабаваць назначэння новых выбараў.

Таварыш Сталін выразна і ясна абрысаваў твар совецкага дэпутата і выбаршчыка.

«Народ павінен трэбаваць ад сваіх дэпутатаў, каб яны аставаліся на вышыні сваіх задач, каб яны ў сваёй рабоце не спускаліся да ўзроўню палітычных абывацеляў, каб яны аставаліся на пасту палітычных дзеячоў ленінскага тыпу, каб яны былі такімі-ж яснымі і пэўнымі дзеячамі, як Ленін, каб яны былі такімі-ж бясстрашнымі ў баю і бязлітаснымі да ворагаў народа, якім быў Ленін, каб яны былі свабодны ад усякай панікі, ад усякага падабенства панікі, калі справа пачынае ўскладняцца і на гарызонце вырысоўваецца якая-небудзь небяспека, каб яны былі таксама свабодны ад усякага падабенства панікі, як быў свабодзен Ленін, каб яны былі таксама мудры і нетарапплівы пры вырашэнні складаных пытанняў, дзе патрэбна ўсебаковая арыентацыя і ўсебаковы ўлік усіх плюсаў і мінусаў, якім быў Ленін, каб яны былі таксама праўдзівы і чэсны, якім быў Ленін, каб яны таксама любілі свой народ, як любіў яго Ленін».

«Дэпутат павінен мець перад сабой,—гаварыў таварыш Сталін,—вялікі вобраз вялікага Леніна і падражаць Леніну ва ўсім». І падражаць, прадаўжаць справу Леніна, вялікага Сталіна,—скажуць усе выбаршчыкі сваім дэпутатам.

Сталін—узор чуласці і ўважлівасці да патрэб народа, Сталін—узор беззаветнага служэння народу.

Ганаровае званне дэпутата абавязвае працаваць, як вучыў Ленін, так, як штодзенна вучыць таварыш Сталін—працаваць не пакла-

даючы рук на карысць нашай соцыялістычнай радзімы, выконваць наказ працоўных, быць ва ўсім і заўсёды падобным на вялікага Леніна і мудрага Сталіна.

Дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР апраўдаюць высокае званне абраннікаў свабоднага беларускага народа.

Вярхоўны Совет БССР выбран.

Беларускі народ пад вялікім непераможным сцягам Леніна—Сталіна ідзе наперад да перамог комунізма!

---

**І. Хоцька**

# У БССР створана буйная социялістычная індустрыя

Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя адкрыла і паставіла на службу социялізму, на службу працоўным незлічоныя прыродныя багацці.

Дзякуючы няўхільнаму правядзенню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і брацкай дапамозе гераічнага рускага рабочага класа Беларусь з краіны адсталай аграрнай ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-калгасную Совецкую Социялістычную Рэспубліку вялікага Совецкага Саюза. Царскі ўрад і руская імперыялістычная буржуазія ўсяляк шкодзілі стварэнню буйнай прамысловасці на ўскраінах. Яны ўсямерна імкнуліся «ператварыць ускраіны ў выключна сыравінныя раёны, эксплаатуемыя прамыслова-развітымі цэнтральнымі раёнамі» *).

Узровень прамысловага развіцця дарэволюцыйнай Беларусі быў яшчэ ніжэй, чым уласна ў Расіі, якая значна адставала ад перадавых капіталістычных краін.

У 1913 годзе валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі Расіі перавышала прадукцыю прамысловасці ў 2 разы, а Беларусі—у 3 разы. Распыленыя і раздробленыя саматужныя прадпрыемствы займалі ў валавой прадукцыі ўсёй прамысловасці Беларусі 70 проц.

Удзельная вага буйнай прамысловасці дарэволюцыйнай Беларусі (у сучасных граніцах БССР) складала толькі 0,88 проц. прамысловасці Расіі, тады як па насельніцтву ўдзельная вага Беларусі была 3,6 проц.

У 1913 годзе на аднаго жыхара Беларусі прыпадала ў 3,5 раза менш прамысловай прадукцыі і ў 15 раз менш электрычнай энергіі, чым у адсталай Расіі. Гэтая адсталасць ярка выражаецца і ў мізэрным спажыванні важнейшых відаў сыравіны, поўфабрыкатаў і машын. Тры беларускія губерніі (Менская, Віцебская і Магілеўская), якія займалі 5,2 проц. у адносінах да насельніцтва Расіі (па даных статыстыкі чыгуначных перавозак), завезлі ў 1910—11 гг. жалеза, сталі і чыгуну 0,89 проц., медзі 0,43 проц., каменнага вугалю 1,1 проц., фабрычна-заводскіх машын 1,5 проц. да агульнарасійскіх перавозак.

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях“, ч. I, стар. 504.

Прамысловасць дарэволюцыйнай Беларусі ўдвая слабей была ўзброена рухавікамі, чым прамысловасць Расіі. Пры ўстарэлым і прымітыўным абсталяванні не магло быць і гутаркі аб механізацыі і электрыфікацыі вытворчых працэсаў.

Галінная структура прамысловасці дарэволюцыйнай Беларусі мела ярка выражаны каланіяльны характар. Эксплаататарскія класы будавалі галоўным чынам прадпрыемствы па пярвічнай апрацоўцы сыравіны для экспарту. Харчовая прамысловасць, якая больш чым на палову складалася з вінакурна-водачных, а ў астатнім—з крухмальна-патачных заводаў, маслабоень і млыноў, давала 28 проц. валавой прадукцыі ўсёй цэнзавай прамысловасці. Дрэваапрацоўчая прамысловасць, пераважна лесапільная вытворчасць, займала ў прамысловасці Беларусі 21,5 проц. На Беларусі не было і ў паміне вытворчасці машын і абсталявання. Прадпрыемствы саматужнага тыпу займаліся рамонтам абсталявання і вытворчасцю прадметаў хатняга ўжытку.

Трымаючы Беларусь у поўнай эканамічнай і палітычнай залежнасці, царскі ўрад усяляк тармазіў усебаковае вывучэнне і скарыстанне яе натуральных багаццяў. Багацейшыя запасы торфу, фасфарытаў і іншых карысных выкапняў зусім не распрацоўваліся. У трох-чатырох месцах вялася толькі ручная здабыча торфу. Не было і ў паміне цэментнай, хімічнай, фасфарытнай, абутковай, швейнай і раду іншых галін прамысловасці пры дастатковай колькасці мясцовай сыравіны.

У дарэволюцыйнай Беларусі—царскай калоніі—з выключнай жорсткасцю эксплаатаваліся шырокія масы працоўных. Працягласць рабочага дня нават у галінах буйнай прамысловасці (дрэваапрацоўчай, запалкавай, папяровай, тэкстыльнай і іншых) складала ў сярэднім 11,5—12 гадзін пры 10 гадзінах у буйнай прамысловасці Расіі. Жахлівае становішча рабочага класа дарэволюцыйнай Беларусі не маглі ўтоіць нават прадстаўнікі буржуазіі. Так, Стульчынскі—дырэктар Добрушскай папяровай фабрыкі князя Паскевіча, характарызуючы жудасныя ўмовы работы, цынічна сцвярджаў, што рабочыя «не могуць, само сабою зразумела, выдзяляцца буйным складам цела, поўнакроўем і прэтэндаваць на доўгавечнасць».

Вось што пісала рэакцыйная газетка «Минский листок» у № 39 за 1896 год аб становішчы дзіцячай працы ў прамысловасці Беларусі: «На некаторых з гільзавых фабрык частку рабочых складаюць малалетнія дзеці, працу якіх эксплаатуюць іх гаспадары самым жудасным і ганебным чынам. За вельмі цяжкую і стамляючую работу малалетнія рабочыя аплачваюцца ад 30 да 50 кап. у тыдзень... Няшчасныя дзеці да немагчымасці знясільваюцца ад работы на гільзавых фабрыках, дзе яны бываюць па 16—18 гадзін у суткі».

Аб жудаснай эксплаатацыі гаворыць у сваёй рабоце таксама фабрычны інспектар Светлоўскі. Ён указвае, што малалетнія дзеці працуюць на запалкавых фабрыках «не для таго, каб даставіць хлеб сваім сем'ям, а для таго, каб даставіць хлеб грабаўшчыкам» *).

Спажыванне шырокімі народнымі масамі Беларусі, асабліва рабочым класам, было зведзена да жабрацкіх размераў. Калі ў колькасці насельніцтва Расіі Менская, Віцебская і Магілеўская губерніі займалі

*) Светлоўскі, „Фабрычная гігіена“, выд. 1891 г., стар. 160.

5,2 проц., то ва ўвозе баваўняна-папяровых тканін, якія не выраблялiся на Беларусі і спажыўцом якіх з'яўляліся пераважна шырокія працоўныя масы, іх удзельная вага ледзь дасягала 1,6 проц., а ва ўвозе цукру і чаю—0,3 проц.

У выніку імперыялістычнай вайны, нямецкай і польскай акупацый і без таго мізэрная прамысловасць Беларусі была канчаткова разбурана. К 1920 году—моманту вызвалення Беларусі ад белапольскай акупацыі—было зусім разбурана і знішчана 65 проц. прадпрыемстваў. Толькі адна пятая частка прадпрыемстваў прадаўжала работу з вялікімі перабоямі ў сувязі з агульнай разрухай, развалам транспарта, крайняй зношанасцю абсталявання, недахватам сыравіны і паліва. Выпуск прадукцыі к канцу 1920 г. не перавышаў 15—20 проц. супроць 1913 года.

Пасля разгрому інтэрвентаў і скончэння грамадзянскай вайны працоўныя БССР пры брацкай дапамозе вялікага рускага народа, пад кіраўніцтвам ВКП(б), пры асабістай штодзённай дапамозе вялікага правадыра працоўных, друга беларускага народа таварыша Сталіна, прыступілі да аднаўлення прамысловасці, да стварэння новай, соцыялістычнай індустрыі.

Ленінска-сталінская праграма будаўніцтва соцыялізма і індустрыялізацыі краіны знайшла сваё найярчэйшае ўвасабленне ў двух сталінскіх пяцігодках. Супроць гэтай праграмы павялі адкрытую барацьбу подлыя здраднікі радзімы—трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы, буржуазныя нацыяналісты. Знаходзячыся на службе замежных разведак, атрымліваючы ад іх сродкі на арганізацыю шкодніцтва, дыверсій, шпіянажу, яны ўсю сваю варожую дзейнасць накіроўвалі на разбурэнне народнай гаспадаркі і аднаўленне капіталізма ў нашай краіне. ВКП(б) разбіла і знішчыла гэтую гнусную банду шкоднікаў, шпіёнаў і дыверсантаў, прадаваўшых нашу радзіму.

Вызначаючы шляхі і тэмпы развіцця прамысловасці ў першай пяцігодцы, XV з'езд ВКП(б) указаў на неабходнасць удзяліць у пяцігадовым плане «асаблівую ўвагу пытанням уздыму эканомікі і культуры адсталых нацыянальных ускраін і адсталых раёнаў, выходзячы з неабходнасці паступовай ліквідацыі эканамічнай і культурнай адсталасці, адпаведна прадугледжваючы больш шпаркі тэмп развіцця іх эканомікі і культуры...»

БССР, атрымліваючы сістэматычную дапамогу ад саюзнага ўрада матэрыяльнымі рэсурсамі і кадрамі, развівала сваю прамысловасць значна больш шпаркімі тэмпамі, чым старыя прамысловыя раёны СССР. Калі за першую пяцігодку асноўныя вытворчыя фонды прамысловасці СССР у цэлым выраслі ў 2,2 раза, то БССР—у 3,9 раза. Такім чынам, прырост асноўных фондаў па БССР амаль у два разы перавысіў прырост па СССР у цэлым. Вынікам агромнай увагі і дапамогі беларускаму народу з'явіліся высокія тэмпы росту валавой прадукцыі і колькасці рабочых БССР. У 1937 г. валавая прадукцыя буйнай прамысловасці СССР у параўнанні з 1913 годам вырасла ў 9,5 раза, валавая прадукцыя прамысловасці БССР—у 18 раз.

Прамысловасць, якая напярэдадні першай пяцігодкі давала ў тры разы менш прадукцыі, чым сельская гаспадарка, ужо ў 1932 годзе перавысіла ўзросшую прадукцыю сельскай гаспадаркі. У 1937 г. удзельная вага прамысловасці ў прадукцыі народнай гаспадаркі да-

сягнула 72,7 проц. Валавая прадукцыя буйнай прамысловасці супроць 1913 г. узрасла ў 18,4 раза, што відаць з наступнай табліцы:

| Галіны прамысловасці | Рост прамысловай прадукцыі БССР | | |
|---|---|---|---|
| | 1927-28 г. | 1932 г. | 1937 г. |
| Уся прамысловасць | 1,9 | 8,7 | 18,4 |
| У тым ліку: | | | |
| Электрастанцыі | 2,3 | 13,3 | 35,9 |
| Тарфяная | 3,3 | 29,7 | 92,5 |
| Металаапрацоўчая | 2,3 | 13,9 | 36,7 |
| Дрэваапрацоўчая | 2,4 | 6,1 | 10,2 |
| Пярвічная апрацоўка ільнавалакна | — | 950,0 | 1724,0 |
| Трыкатажная | 40,3 | 485,0 | 1915,0 |
| Скураная | 10,7 | 43,8 | 62,4 |
| Абутковая | 3,9 | 15,1 | 27,5 |
| Харчовая | 1,2 | 5,1 | 14,9 |

За годы двух сталінскіх пяцігодак у буйную прамысловасць БССР укладзена каля 860 млн. рублёў. Асноўныя фонды буйнай прамысловасці к 1937 г. дасягнулі 638 млн. рублёў, г. зн. павялічыліся ў параўнанні з 1928 г. у 7,7 раза і перавысілі асноўны капітал прамысловасці дарэволюцыйнай Беларусі ў 11—12 раз. Цяжкая прамысловасць развівалася яшчэ больш высокімі тэмпамі: яе асноўныя фонды к 1937 г. павялічыліся ў параўнанні з 1928 г. у 10,3 раза.

У БССР за годы існавання совецкай улады створана новая прамысловасць. К пачатку 1936 г. асноўныя фонды новых і рэканструяваных больш чым на 50 проц. прадпрыемстваў займалі ў асноўных фондах усёй цэнзавай прамысловасці БССР 33 проц., а ў вядучых галінах прамысловасці іх удзельная вага дасягнула: у электрастанцыях 93,8 проц., у тарфянай прамысловасці 94,6 проц., у хімічнай 95,4 проц., у машынабудаўніцтве 96,8 проц., у скурана-абутковай—98,8 проц. і т. д. Калі-ж улічыць велізарнае будаўніцтва ў 1936-37 г., то працэс аднаўлення асноўных фондаў прамысловасці Беларусі будзе яшчэ больш значным.

Шпаркім тэмпам расло абсталяванне прамысловасці Беларусі. Па даных перапісу промабсталявання відаць, што к 1934 году было ўстаноўлена: паравых турбін 98,1 проц., лакамабіляў 87,2 проц., дызеляў 70,5 проц., электрагенератараў 90,9 проц., металарэжучых станкоў 80,7 проц., прэсаў для халоднай апрацоўкі метала 75,9 проц., тарфяных прэсаў 96,1 проц., дрэварэжучых станкоў 93,1 проц., спецмашын швейнай прамысловасці 94,1 проц., ткацкіх станкоў аўтаматаў 100 проц., спецмашын па скурана-абутковай прамысловасці 100 проц., пячэй безупыннага дзеяння для апалу шкляных вырабаў 100 проц.

Значэнне гэтых тэхніка-рэканструкцыйных зрухаў прамысловасці БССР, як і ўсяго Совецкага Саюза, нязмерна вырасце, калі ўлічыць, што выдатная работа стаханаўцаў апракінула ўяўленне аб прадзель-

ных магутнасцях і паставіла праблему выкарыстання асноўных фондаў народнай гаспадаркі зусім у новым святле.

У БССР створаны буйнейшыя прадпрыемствы, у якіх працуюць тысячы рабочых. Калі ў 1913 годзе ўсяго 6,4 проц. прадпрыемстваў цэнзавай прамысловасці мела больш 100 рабочых на кожным, а ўдзельная вага іх прадукцыі дасягала толькі 45 проц., то ўжо ў 1935 г. удзельная вага такіх прадпрыемстваў дасягала 22,7 проц., а іх прадукцыя 83,2 проц. У БССР зараз налічваецца 32 прадпрыемствы з колькасцю рабочых ад 1 тысячы да 7 тысяч чалавек.

За годы сталінскіх пяцігодак у БССР пабудаваны: Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат (адзін з буйнейшых у Еўропе), Магілеўская фабрыка штучнага шоўку, віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», віцебская трыкатажная фабрыка «КІМ», Белдрэс імя Сталіна, Гомсельмаш, барысаўская запалкавая фабрыка «Пралетарская перамога», Крычаўскі цэментны завод, Магілеўскі трубаліцейны завод, Гомельскі механізаваны шклозавод імя Сталіна, другая менская электрастанцыя і т. д.

Рэзка змянілася структура прамысловасці БССР.

Удзельная вага прадукцыі важнейшых галін прамысловасці БССР у працантах:

| Галіны | 1913 г. | 1937 г. |
|---|---|---|
| Уся цэнзавая прамысловасць | 100,0 | 100,0 |
| У тым ліку: | | |
| Тарфяная | 0,3 | 1,9 |
| Хімічная | 2,8 | 7,3 |
| Металаапрацоўчая | 6,2 | 12,0 |
| (у т. л. машынабудаўніцтва) | 2,4 | 5,8 |
| Дрэваапрацоўчая | 21,4 | 11,6 |
| Папяровая | 13,8 | — |
| Пярвічная апрацоўка ільну | — | 0,8 |
| Трыкатажная | 0,6 | 7,2 |
| Швейная | — | 11,5 |
| Скурана-абутковая | 4,0 | 6,8 |
| Харчовая | 27,9 | 24,1 |
| (у т. л. вінакурана-водачная | 14,9 | 2,9 |
| мясная | — | 2,7 |
| кандзіцерская) | — | 5,4 |

Увага: 1. Па колькасці рабочых тарфяная прамысловасць займае каля 8 проц.
2. Па машынабудаўнічай, хімічнай, вінакурана-водачнай, мясной і кандзіцерскай прамысловасці прыведзены даныя за 1936 год.

З гэтай табліцы відаць, што ў БССР рэзка выраслі такія важнейшыя для народнай гаспадаркі галіны па вытворчасці сродкаў вы-

творчасці, як машынабудаўніцтва, тарфяная і хімічная. Занова пабудаваны такія галіны, вытвараючыя прадметы шырокага спажывання, як швейная, трыкатажная і іншыя. Вытворчасць скуры вырасла ў 64,2 раза, абутку—у 27,5 раза. Крыху зменшылася ўдзельная вага харчовай прамысловасці (абсалютна яна ўзрасла больш чым у 14 раз), галоўным чынам, за лік рэзкага змяншэння ўдзельнай вагі вінакурана-водачнай прамысловасці і пры адначасовым стварэнні зусім занова мясной і кандзіцерскай прамысловасці.

Найбольш глыбокія тэхніка-эканамічныя зрухі адбыліся ў наступных галінах прамысловасці: электрастанцыі дарэвалюцыйнай Беларусі былі вельмі дробныя, з устарэлым абсталяваннем, з магутнасцю не вышэй 5,3 тыс. квт. За годы двух пяцігодак у БССР створана новая энергетычная база. На торфе вырасла буйная раённая электрастанцыя імя Сталіна. Пабудаваны дзесяткі новых фабрычных і гарадскіх электрастанцый і ў корані рэканструяваны старыя. К 1937 г. магутнасць электрастанцый дасягнула 86,4 млн. квт., г. зн. у 16,3 раза перавысіла магутнасць 1913 г. Удзельная вага электрастанцый БССР у магутнасці электрастанцый СССР складала ў 1913 г. 0,5 проц., а ў 1936 г. 1,1 проц.

Выпрацоўка электраэнергіі, дзякуючы перавазе соцыялістычнай гаспадаркі, вырасла з 4,2 млн. квт. гадзін у 1913 г. да 390,7 млн. квт. гадзін у 1936 г., г. зн. у 93 разы. Толькі адна раённая электрастанцыя імя Сталіна ў 1937 г. выпрацавала электраэнергіі ў 30 раз больш, чым усе электрастанцыі дарэвалюцыйнай Беларусі, разам узятыя.

На базе багацейшых сыравінных рэсурсаў рэспублікі занова створана тарфяная прамысловасць. Пабудаваны дзесяткі буйных торфазаводаў. Ужо к канцу першай пяцігодкі асноўныя фонды тарфяной прамысловасці выраслі ў 12,7 раза супроць 1928 г. У 5,1 раза вырасла магутнасць рухавікоў. Укараніліся новыя, удасканаленыя спосабы торфаздабычы: фрэзерны, багерны, гідраторф малы і вялікі і т. д. К 1937 г. кошт асноўных фондаў торфапрамысловасці складаў 39,14 тыс. руб. супроць 980 тыс. руб. у 1927-28 г. і 12 млн. руб. у 1932 годзе. У 1937 г. прадукцыя тарфяной прамысловасці дасягнула 2523 тыс. тон супроць 14 тыс. тон у 1913 г., 118 тыс. тон у 1928 г. і 930 тыс. тон у 1932 г., а ў агульнасаюзнай суме торфаздабычы БССР вырасла з 0,8 проц. у 1913 г., да 6,3 проц. у 1932 г. і 10,1 проц. у 1937 г.

У БССР створаны буйнейшыя, аснашчоныя самымі сучаснымі механізмамі машынабудаўнічыя прадпрыемствы. Заводы БССР вырабляюць рознастайныя сельскагаспадарчыя машыны, навейшыя станкі для соцыялістычнай прамысловасці, свідравальныя, такарныя, машыны для дарожнага будаўніцтва, для здабычы торфу і т. д.

Аб'ём валавой прадукцыі буйнай металаапрацоўчай прамысловасці ў 1937 г. выразіўся ў 74,9 млн. рублёў або ў 36,7 раза больш 1913 г. і ў 14 раз больш 1934 г. У 1936 г. выпушчана 4036 штук металарэжучых станкоў супроць 20 штук у 1927-28 г.

На аснове рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) у другой пяцігодцы ў БССР развіліся галіны прамысловасці па вытворчасці прадметаў шырокага спажывання. У 1937 годзе, пры агульным росце валавой прадукцыі ў адносінах да 1932 г. у 2,1 раза, трыкатажная прамысловасць вырасла ў 3,9 раза, харчовая—у 3 разы, абутковая—у 2 разы. У 1936 г. выпушчана панчох і наскоў 67,8 млн. пар (супроць 1,8 млн. пар у

1927-28 г.), абутку—5 млн. пар, кандзіцерскіх вырабаў—39,8 тыс. тон (супроць 1,9 тыс. тон у 1927-28 г.).

Карэнныя зрухі адбыліся ў геаграфічным размяшчэнні прамысловасці БССР, не гледзячы на спробы трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх дыверсантаў заблытаць планаванне і сарваць будаўніцтва прамысловасці ў раёнах. Менск, Гомель, Магілеў, Бабруйск, Віцебск, Орша і іншыя гарадыператвораны ў буйнейшыя прамысловыя рабочыя цэнтры. Валавая прадукцыя прамысловасці ў 1936 г. перавысіла прадукцыю 1913 г. па Менску ў 20 раз, па Віцебску—у 39,4 раза, па Гомелю—у 55,6 раза, па Магілеву—у 86,9 раза, па Бабруйску—у 26,6 раза. Узніклі новыя прамысловыя цэнтры: Крычаў, Быхаў і іншыя.

Моладзь у прамысловасці БССР атрымала шырокія магчымасці прасоўвацца на высокакваліфікаваную і кіруючую работу. У 1936 г. удзельная вага моладзі да 23-гадовага ўзросту ў буйнай прамысловасці складала 32,3 проц., а сярод інжынерна-тэхнічных работнікаў—8,3 проц. у 1932 г. і 13 проц. у 1936 г.

Толькі за апошнія 9 год (1928—1937) колькасць работніц у буйнай прамысловасці БССР вырасла з 8,1 тыс. да 69,4 тыс. чалавек або ў 8,5 раза. Удзельная вага жанчын сярод усіх рабочых узнялася з 28,8 да 45,4 проц. У металапрамысловасці, дзе да рэволюцыі жанчыны амаль зусім не працавалі, у 1937 г. налічвалася 24 тыс. жанчын. У скураной прамысловасці колькасць работніц узрасла ў 25 раз, у абутковай—у 34 разы, у лесапільнай і фанернай—у 10 раз.

З кожным годам ва ўсіх галінах працы расце колькасць рабочых і служачых з карэнных нацыянальнасцей. Ужо ў 1934 г. удзельная вага беларусаў сярод рабочых буйнай прамысловасці вырасла да 63,5 проц., у будаўніцтве—да 69,9 проц.

Побач са шпаркім тэмпам развіцця дзяржаўнай прамысловасці расла таксама і прамыслова-кааператыўная. Колькасць укладаў кааператываных у прамысловых арцелях сістэмы Белкаапромсовета і Белкалеспромсаюза за дзве пяцігодкі вырасла з 10,0 тыс. у 1928 г. да 56,4 тыс. рублёў на 1 студзеня 1938 г.: больш як у 5 раз.

За годы сталінскіх пяцігодак дасягнуты рашаючыя поспехі ў тэхнічнай рэканструкцыі прамысловасці БССР. Энергаўзброенасць прадпрыемстваў вырасла на 40 проц. у параўнанні з 1928 г. Удзельная вага спажываемай электраэнергіі ўзнялася з 26,4 проц. у 1928 г. да 78,6 у 1936 г. Па асобных галінах гэты рост яшчэ больш значны: у хімічнай—з 18,0 да 98,4, у металаапрацоўчай—з 58,6 да 99,5 і т. д.

У выніку завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі і поспехаў соцыялістычнай арганізацыі працы нязмерна ўзнялася прадукцыйнасць рабочых. У 1937 г. за 7 гадзін совецкі рабочы даваў прадукцыі ў два разы больш, чым рабочы дарэволюцыйнай прамысловасці Беларусі за 11—12 гадзін працы. У 1937 г. узровень выпрацоўкі дарэволюцыйнага рабочага перавышан: па металаапрацоўчай прамысловасці ў 2,8 раза, па трыкатажнай—у 18,9 раза, па хімічнай—больш як у 4 разы, паліграфічнай—у 3,6 раза, харчовай—у 4,1 раза і т. д. Па некаторых прадпрыемствах розніца яшчэ больш значная. Лепшыя людзі нашай краіны перавысілі сусветныя рэкорды. Стаханавец Рушко, рамшчык Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната, працуючы на раме сістэмы «Баліндэр», даў за змену 560 кбм. лесаматэрыялаў, перавысіўшы амаль у 4 разы выпрацоўку рабочага перадавых прадпрыемстваў Швецыі на машыне гэтай-жа сістэмы. Стаханавец Скабло

на перацяжнай машыне выпрацаваў 2100 пар абутку за змену, перавысіўшы найбольшую норму выпрацоўкі перадавых абутковых прадпрыемстваў Ваці (Чэхаславакія).

Аднак, мы яшчэ далёка не выкарысталі ўсіх сваіх магчымасцей. У 1937 г. прамысловасць БССР не выканала плана ўздыму прадукцыйнасці працы. Адстала яна і па якасных паказчыках. Першачарговая задача кіраўнікоў прамысловасці БССР і ўсіх рабочых—побач з колькасным выкананнем плана 1938 года дабіцца карэннага палепшання якасных паказчыкаў.

Велізарнае значэнне у разгортванні соцыялістычнага будаўніцтва мела соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. На аснове новай тэхнікі, павышэння матэрыяльнага ўзроўню і кваліфікацыі рабочага класа ў канцы 1935 г. узнік выдатны стаханаўскі рух—вышэйшы этап соцыялістычнага спаборніцтва. Зарадзіўшыся ў Донбасе, стаханаўскі рух перакінуўся ва ўсе рэспублікі і вырас у агромную матэрыяльную сілу соцыялізма. Ад паасобных рэкордаў стаханаўскі рух к сучаснаму моманту перарос у масавы рух за новыя метады арганізацыі працы. На 1 студзеня 1938 г. у прамысловасці Беларусі налічвалася дзесяткі тысяч стаханаўцаў. На машынабудаўнічых і станкабудаўнічых прадпрыемствах БССР на 1 красавіка 1938 г. стаханаўцамі з'яўляюцца 49,9 проц. рабочых, у метызаб'яднанні—42 проц. рабочых, у шкляной прамысловасці—51 проц., у скураной і швейнай—44 проц., у тэкстыльнай—35 проц. і т. д.

У выніку разгортвання стаханаўскага руху ў БССР былі павялічаны вытворчыя магутнасці: у тарфянай прамысловасці (па машынафармовачнаму торфу)—на 21 проц., у цагельнай (вытворчасць сілікатнай цэглы)—на 70 проц., чарапічнай на 57 проц. і т. д. Стаханаўцы скурана-абутковай прамысловасці паказалі, што на абцяжных машынах можна выпрацаваць у 3—4 разы больш абутку, чым гэта ўказана ў каталагах, што на мездрыльных машынах супроць нормы можна апрацаваць у 2,5 раза больш скур, на рэйковачнай—у 9,5 раза, дваільнай—у 1,8 раза, стругальнай—у 1,5 раза і т. д.

Пасля галінных канферэнцый, якія праходзілі пры непасрэдным удзеле стаханаўцаў, вясною 1936 года былі павялічаны нормы выпрацоўкі ў машынабудаўніцтве і станкабудаўніцтве на 51,1 проц., у метызаб'яднанні на 40 проц., у тарфянай прамысловасці на 44 проц., у цагельнай на 31,3 проц., у чарапічнай на 50 проц., у абутковай на 39 проц., кандзіцерскай на 24 проц., трыкатажнай на 20 проц. і т. д.

Усё гэта знайшло сваё выражэнне ў агромным паскарэнні тэмпаў росту выпрацоўкі рабочага. Так, рост выпрацоўкі рабочага буйнай прамысловасці БССР у процантах да папярэдняга года складаў: у 1933 г.—8,2, у 1934 г.—6,8, у 1935 г.—13,4, у 1936 г.—14,5, а па некаторых буйнейшых прадпрыемствах рост выпрацоўкі быў яшчэ вышэй. Так, за два стаханаўскія годы (1936 і 1937) выпрацоўка рабочых у параўнанні з 1935 годам вырасла: па менскаму машынабудаўнічаму заводу імя Варашылава на 51,2 проц., па менскаму машынабудаўнічаму заводу імя Кірава на 55,3 проц., па менскай абутковай фабрыцы імя Кагановіча на 35,1 проц., па асіпавіцкаму торфазаводу на 29,2 проц. і т. д.

Карэнным чынам змянілася становішча рабочага класа. На аснове новых вытворчых адносін узнялося племя выдатных людзей—ударнікаў-стаханаўцаў. Створана свая, совецкая інтэлігенцыя. З асярод-

дзя рабочых і калгаснікаў выраслі інжынеры, майстры соцыялістычнай працы, якія асвойваюць і рухаюць навейшую тэхніку ўперад.

Ужо ў 1935 годзе 65 проц. выпускнікоў індустрыяльных ВНУ і тэхнікумаў БССР з'яўляліся выхадцамі з рабочага класа. Забяспечан безупынны рост кваліфікацыі рабочых. У БССР, не гледзячы на рад недахопаў у пастаноўцы масавай тэхвучобы, на 1-е кастрычніка 1936 г. звыш 50 проц. рабочых буйнай прамысловасці здалі дзяржтэхэкзамен або былі ахоплены рознымі формамі тэхнічнай вучобы.

З года ў год ідзе няўхільнае аздараўленне і палепшанне ўмоў працы на прадпрыемствах БССР. Пры пабудове новых і рэканструкцыі старых фабрык і заводаў укладваюцца вялікія сродкі ў справу аховы працы і тэхнікі безапаснасці. Так, напрыклад, замест 3 невялікіх вентыляцыйных установак да рэволюцыі, на прадпрыемствах БССР зараз налічваецца звыш 150 буйных вентыляцыйных установак коштам звыш 900 млн. рублёў.

За годы першай пяцігодкі на прадпрыемствах БССР на 80,8 проц. знізіліся няшчасныя выпадкі. У тым ліку: па запалкавай прамысловасці—на 44,6 проц., дрэваапрацоўчай—на 39,4 проц., шкляной—на 42,7 проц. і т. д. Другая пяцігодка паказала далейшае зніжэнне траўматызма: па дрэваапрацоўчай прамысловасці на 59,2 проц., па запалкавай на 55,4 проц. і т. д.

Велізарнае развіццё прадукцыйных сіл забяспечыла няўхільны рост матэрыяльнага ўзроўню рабочых. Назаўсёды знішчана беспрацоўе. Гадавы фонд зарплаты рабочых і служачых буйнай прамысловасці БССР вырас з 41,5 млн. рублёў у 1928 г. да 353,5 млн. руб. у 1937 г. або ў 8,5 раза, а сярэдняя плата за гэты час вырасла ў 2,7 раза.

Агульны даход рабочай сям'і павялічваецца таксама ў сувязі з ростам колькасці зарабляючых членаў сям'і пры няўхільным росце выдаткаў на бясплатнае культурна-бытавое абслугоўванне працоўных і сістэматычным зніжэнні цэн на прадметы першай неабходнасці. Выдаткі па бюджэту соцстраха БССР выраслі за перыяд з 1927-28 г. па 1936 г. у 10 раз. Па саюзу работнікаў фанерна-запалкавай прамысловасці кожны 11-ы рабочы атрымаў у 1937 годзе пуцёўку ў санаторый, на курорт або ў дом адпачынку.

Уздым жыццёвага ўзроўню рабочых БССР характарызуецца наступнымі данымі бюджэтнага абследвання. За апошнія 3 гады (1934-37) даход рабочай сям'і павялічыўся на 53,9 проц. Рабочы спажывае больш высокаякасныя прадукты харчавання. Спажыванне пшанічнага хлеба вырасла ў 3 разы, а пшанічнай мукі—у 8 раз, пры нязначным павелічэнні (на 13,2 проц.) спажывання аржанога і пеклянага хлеба і рэзкім зніжэнні спажывання аржаной мукі (на 43,7 проц.).

Спажыванне мяса павялічылася на 159 проц., сала—на 157,7 проц., масла кароўяга—на 116,8 проц., яек—у 3 разы, цукру—на 139,8 проц., фруктаў і ягад—на 63 проц. і т. д., пры зніжэнні спажывання бульбы на 12,4 проц.

Пакупка вопраткі і тканін павялічылася за гэты перыяд на 24,25 проц., абутку—на 47,7 проц., трыкатажу—на 122,3 проц., мэблі і гаспадарчага абсталявання—на 148,9 проц., парфумерыі і касметыкі—на 152,9 проц.

З небывалым натхненнем і актыўнасцю народ нашай рэспублікі ўдзельнічаў у выбарах свайго соцыялістычнага парламента. Галасуючы

за кандыдатаў неперераможнага сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, беларускі народ, як і ўсе народы вялікага СССР, галасаваў за совецкую ўладу, за большэвіцкую партыю, за першага кандыдата народаў таварыша Сталіна, за далейшае працвітанне нашых соцыялістычных прадпрыемстваў і калгасаў.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна беларускі народ дабіўся выдатных перамог. Гэтыя перамогі былі-б яшчэ больш грандыёзнымі, калі-б не подлыя здраднікі, якія хацелі аддаць нашу радзіму на разгром фашысцкім драпежнікам. Подлая трацкісцка-бухарынская банда па дырэктывах замежных фашысцкіх разведак арганізавала сець дыверсійных і шкодніцкіх гнёзд, рыхтуючы падрыў абароннай магутнасці нашай краіны. Гэтая злачынная банда нанесла вялікія матэрыяльныя страты нашай соцыялістычнай радзіме. Бліскучая перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, велізарны палітычны і вытворчы ўздым усяго совецкага народа з'яўляюцца яркім паказчыкам таго, наколькі моцна і ўпэўнена ў сваёй магутнасці наша соцыялістычная дзяржава, наколькі расце і ўмацоўваецца сталінская дружба народаў СССР і як аднадушна гатоў наш совецкі народ аберагаць свае заваёвы ад брудных, акрываўленых лап трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма.

Нашы дасягненні становяцца яшчэ больш адчувальнымі, трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі яшчэ велічней, калі ўспомніць пра нечуваную драпежніцкую эксплаатацыю працоўных мас у Заходняй Беларусі, акупаванай фашысцкай Польшчай.

Процілегласць двух сістэм ярка ілюструецца наступнымі лічбамі: колькасць рабочых цэнзавай прамысловасці ў 1936 г. у БССР і Заходняй Беларусі, у параўнанні з 1913 г. складала ў процантах: БССР—593,7, Заходняя Беларусь—83,0.

Народныя масы Совецкага Саюза ўжо даўно забылі жахі беспрацоўя. Права на працу запісана ў вялікай Сталінскай Канстытуцыі. У Заходняй Беларусі, па яўна пераўменшаных даных афіцыяльнай польскай статыстыкі, у 1936 г. налічвалася 25,5 тыс. беспрацоўных. Нават гэтая лічба значна вышэй колькасці занятых рабочых. Калі-ж улічыць няпоўны ўлік беспрацоўных у гарадах і дадаць да гэтага аграрную перанаселенасць вёскі, то колькасць дарослага працаздольнага насельніцтва, якое не мае працы, будзе намнога большай.

Палітыка польскага фашызма прывяла шырокія масы працоўных горада і вёскі да нечуванай галечы. Такі вынік гаспадарання фашысцкіх канібалаў, якія ўзмоцнена рыхтуюцца да вайны з СССР.

БССР у дружнай сям'і народаў шматмільённага вялікага Совецкага Саюза ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-калгасную соцыялістычную рэспубліку на заходнім рубяжы з капіталістычным светам. У трэцім пяцігоддзі адкрываюцца неабсяжныя прасторы для магутнага развіцця прамысловасці БССР. Ліквідацыя вынікаў шкодніцтва, асваенне тэхнікі, скарыстанне вытворчых магчымасцей побач з далейшай рэканструкцыяй прамысловасці прывядзе да агромнага росту выпускаемай прадукцыі. Поспехі першага квартала 1938 года, велізарны вытворчы ўздым на ўсіх нашых фабрыках і заводах у сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі з'яўляюцца залогам далейшага бурнага развіцця прамысловасці ў трэцяй пяцігодцы.

Але перамога сама ніколі не прыходзіць. Яе трэба здабыць, заваяваць. Перад гаспадарнікамі ўстаюць вялікія задачы. Трэба ўзначаліць ўздым шырокіх народных мас, па-большэвіцку ўзяцца за арганізацыю стаханаўскага руху, рашуча і ў найкарацейшы тэрмін ліквідаваць вынікі шкодніцтва, чотка арганізаваць працу на заводах і фабрыках.

---

Я. Жылянін

Сакратар Віцебскага сельскага РК КП(б)Б.

# Ліквідуем вынікі шкодніцтва

2 жніўня 1938 г. спаўняецца год, як беларускі народ атрымаў гістарычную пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання».

Трацкісцка-бухарынскія і нацыянал-фашысцкія шкоднікі, дыверсанты, лакеі германа-польскага фашызма, якія прабраліся шляхам двурушніцтва і абману ў кіруючыя зямельныя, савецкія, партыйныя і гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы БССР, імкнуліся падарваць нашу соцыялістычную сельскую гаспадарку і калгасны лад, эканамічную і абаронную магутнасць БССР. Канечная мэта крывавых ворагаў была адна: адарваць Беларускую рэспубліку ад Совецкага Саюза і аддаць беларускі народ на крывавую расправу польскім памешчыкам і капіталістам.

Але мары нацыянал-фашыстаў, агентаў замежных фашысцкіх дзяржаў і іх гаспадароў не збыліся. Пры дапамозе ЦК ВКП(б), асабіста таварыша Сталіна, слаўных чэкістаў і КП(б)Б—беларускі народ разграміў крывавую банду подлых здраднікаў нашай соцыялістычнай радзімы.

Совецкая Беларусь пад сцягам партыі Леніна—Сталіна ідзе ад перамогі да перамогі.

Гістарычная пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання» калгаснікамі Віцебскага раёна, як і ўсім беларускім народам, была сустрэнута з вялікай радасцю, з вялікім палітычным і вытворчым уздымам. Сходы калгаснікаў, дзе абмяркоўвалася гэта гістарычная пастанова і практычнае ажыццяўленне яе ў раёне, паказалі яшчэ раз бязмежную адданасць калгаснікаў партыі Леніна—Сталіна, адданасць роднай совецкай уладзе, іх рашучае жаданне да канца выкараніць шкоднікаў і вынікі шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы.

У працэсе практычнага ажыццяўлення пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР былі раскрыты акапаўшыяся ворагі народа, сабатаваўшыя выкананне гэтай пастановы.

У выніку ажыццяўлення гістарычнай пастановы па Віцебскаму раёну ў 60 калгасах (са 106 маючыхся ў раёне) 510-ці калгасным гаспадаркам звернуты прысядзібныя ўчасткі плошчай ў 61,6 га, якія былі ў іх адрэзаны шкоднікамі. 99 калгасных гаспадарак мелі прысядзібныя ўчасткі ў палявых масівах. Гэтым гаспадаркам прысядзіб-

ныя ўчасткі прырэзаны зараз каля двароў калгаснікаў агульнай плошчай у 34,7 га. 146 калгасных гаспадарак атрымалі 15,4 га дадзелу да мінімальнай нормы. Незаконна абагуленыя сады плошчай у 36 га звернуты 153 калгасным гаспадаркам.

Калгасы Віцебскага раёна атрымалі 5200 га лясоў і лясных угоддзяў (з гэтага ліку 4800 га лясоў, 266,4 га сенажацей, 86,8 га вырубак і 86,8 га выпасаў), з іх лясоў дзяржаўнага значэння 1773,4 га і лясоў мясцовага значэння 3426,6 га.

Лясы і лясныя ўгоддзі ў Віцебскім раёне атрымалі 80 калгасаў, што складае 76% ад агульнага ліку ўсіх калгасаў. Размер лясных плошчаў, атрыманых паасобнымі калгасамі, хістаецца ад 19 да 150 га. 31 калгас атрымаў лясоў да 50 га, ад 50 да 100 га—39 калгасаў і звыш 100 га—10 калгасаў. Напрыклад, калгас «2-я пяцігодка» (Бабініцкі сельсовет) атрымаў 189 га лесу, калгас імя Дзержынскага (Рудніцкі сельсовет)—148 га і інш.

Такім чынам 49 калгасаў атрымалі лясныя ўгоддзі плошчай ад 50 га і вышэй. Неабходна адзначыць, што пераданыя калгасам лясы—галоўным чынам мясцовага значэння.

Крывавая банда фашысцкіх наймітаў усякімі мерамі імкнулася выклікаць незадаволенасць калгаснага і аднаасобнага сялянства Беларусі.

Нацыянал-фашысты, шкоднікі і дыверсанты па заказу сваіх замежных гаспадароў адразалі ў калгаснікаў прысядзібныя ўчасткі, або давалі іх далёка ад калгасных двароў, у палявых масівах. Незаконна адбіраліся належачыя калгасам лясныя ўчасткі. Калгаснікам і аднаасобнікам забаранялася пасвіць жывёлу ў лясах дзяржаўнага і мясцовага значэння. Парадак продажу лесу існаваў такі, што фактычна калгаснікі ў лясных раёнах былі пазбаўлены магчымасці купіць лес, вызначаны дзяржавай для продажу сялянам.

Злачынная банда подлых здраднікаў радзімы даводзіла да калгасаў і аднаасобных гаспадарак шкодніцкі павялічаныя планы па пастаўках сельскагаспадарчых прадуктаў, па жывёлагадоўлі. Планы па пасеву перавышалі наяўныя рэсурсы калгасаў, і правільнага севазвароту не было магчымасці праводзіць. Каб выканаць такі план пасеву, калгасы вымушаны былі пакідаць азімыя без чыстага папару, сеяць лён не па канюшыне і жыта па жыту.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР прадугледжвае скарачэнне шкодніцкі павышаных планаў паставак і пасеваў. Па Віцебскаму раёну, як і па астатніх раёнах БССР, абавязацельствы па мясапастаўках на 1937 г. значна скарочаны. 102 калгасам Віцебскага раёна мясапастаўкі зменшаны на 615 цэнтнераў. Нядоімка па мясапастаўках спісана за 1935—1936 гг. з 2614-ці калгасных двароў на 354 цэнтн. і з 686 аднаасобных гаспадарак—на 181 цэнтнер.

Усяго нядоімак па мясапастаўках за мінулыя гады спісана 3300 гаспадаркам у колькасці 353 цэнтнераў.

Па малакопастаўках—6014 калгасныя гаспадаркі, якія маюць 5647 кароў і 440 першацёлак, атрымалі план малакопаставак, пералічаны па новай, ніжэйшай норме.

З 354 калгасаў спісана нядоімак 10616 літраў малака, з 2749 калгасных двароў—93302 літры і з 1382 аднаасобных гаспадарак 121067 літраў малака.

За 1936 г. спісана нядоімак па бульбапастаўках з калгаснікаў

1936 цэнтнераў і 3085 цэнт. з аднаасобных гаспадарак. Нядоімак па натураплаце МТС па бульбе за 1936 г. спісана з 17 калгасаў—987 цэнт. Усе калгаснікі і аднаасобнікі своечасова атрымалі паведамленні аб спісанні нядоімак. На падставе гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 2 жніўня 1937 г. пастановай Оргкамітэта з 614 гаспадарак знята штрафу за лесапарушэнні па лясах мясцовага значэння ў суме—54045 руб. 36 кап. і з 467 гаспадарак за лесапарушэнні па лясах дзяржаўнага значэння на суму 21778 руб. 99 кап.

За невыкананне шкодніцкі налічаных у вялікім размеры паставак агалцелая банда фашысцкіх шпіёнаў і іх стаўленікі адбіралі маёмасць у калгаснага і аднасобнага сялянства. Па Віцебскаму раёну выяўлена із'ятая ў 1934—35—36 і 37 г. за няўплату абавязковых плацяжоў маёмасць і разгледжана скарг ад 91 гаспадаркі, звернута маёмасць 39 гаспадаркам і выплачана каля 13 000 руб. грашмі.

Фашысцкія найміты на калгаснай зямлі шкодніцкі арганізоўвалі соўгасы. На аснове пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР па Віцебскаму раёну ліквідавана 9 такіх шкодніцкі арганізаваных соўгасаў, 23 падсобныя гаспадаркі розных арганізацый. 7562,59 га зямлі перадана калгасам. Так, калгас «Іскра» атрымаў 440 га, калгас «Большэвік» 620 га, калгас імя Варашылава 700 га, калгас «Другая большэвіцкая вясна» 515 га і інш.

За перыяд з другога жніўня 1937 г. па 19 ліпеня 1938 г. калгасы атрымалі крэдыты для набыцця маёмасці ад ліквідаваных соўгасаў у суме 1667891 руб. 91 кап. Так, калгас «Красны ўсход» (Міхалеўскі сельсовет) атрымаў 21 153 руб. 05 кап., калгас Варашылава (Селюцкі сельсовет)—152395 руб. 83 кап., калгас «Другая большэвіцкая вясна» (Елагінскі сельсовет)—231443 руб., калгас «Большэвік» (Віцебскі сельсовет)—159535 руб. 04 кап. і т. д.

Ворагі народа шкодніцкі ліквідавалі ў 1931 г. калгас «Парыжская Комуна», арганізаваны выключна на сялянскіх землях. Зараз ён аднаўлен і носіць імя 20-годдзя вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі. Калгаснікі гэтага калгаса ўдзячны партыі і ўраду, яны ўдарна працуюць у гаспадарцы, выконваючы нормы на 150 і больш процантаў. Яны добра паставілі парнікаводства і ўжо атрымалі ад продажу ранняй гародніны больш 15 000 руб. прыбытку.

На месца ліквідаванага соўгаса «Цірасполь» пераведзена МТС з Віцебска, а на базе вучхоза Мазалава арганізавана новая МТС. Гэтая МТС мае 34 трактары, 3 камбайны, 14 малацілак, 4 ільноцерабілкі. Усяго ў Віцебскім раёне ёсць 3 МТС, якія налічваюць 105 трактараў, 9 камбайнаў, 38 малацілак і 14 ільноцерабілак.

Па заданню сваіх замежных гаспадароў трацкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя шкоднікі і дыверсанты не толькі давалі шкодніцкія планы па жывёлагадоўлі, але і ўсякімі мерамі знішчалі жывёлу, прывіваючы пад выглядам «прафілактыкі» сап і менінгіт коням, чуму свінням. Калгаснае сялянства пасля гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 2 жніўня 1937 г. з уздымам узялося за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва, за ўзорную гадоўлю пагалоўя. Выкананне плана па росту пагалоўя ў калгасах Віцебскага раёна на 1 ліпеня 1938 г. наступнае: коні—100,5 проц., буйная рагатая жывёла—106,2 проц., свінні—130,3 проц., авечкі—153,3 проц. Адыход маладняка ў параўнанні з мінулым годам значна паменшыўся. Калгаснае сялянства Віцебскага раёна змагаецца ў гэтым годзе за давядзенне адыходу да мінімума.

У дапамогу калгаснікам, якія не мелі сваёй жывёлы, з калгасных ферм было прадана 818 парасят і надзелена цёлкамі 112 калгасных двароў.

План дзяржаўнай закупкі жывёлы і мяса за 1937 г. выканан па Віцебскаму раёну на 171,9 проц., а за першае паўгоддзе 1938 г. на 103,4 проц.

Гістарычнае рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання» выклікала хвалю прыліву аднаасобных гаспадарак у калгасы. З 1 жніўня 1937 г. па 1 ліпеня 1938 г. у калгасы ўступіла 1016 аднаасобных сялянскіх гаспадарак, засталося ў Віцебскім раёне на сённешні дзень 491 аднаасобная гаспадарка. Процант ахвату калектывізацыяй па Віцебскаму раёну складае 94,4.

Расце заможнасць калгасаў. Гэта відаць з таго, што ў 1937 г. калгасы Віцебскага раёна мелі толькі 7 аўтамашын. У гэтым годзе на грошы, атрыманыя за продаж дзяржаве мяса, бульбы і інш. прадуктаў, куплена калгасамі 25 аўтамашын. Усяго калгасы налічваюць цяпер 32 аўтамашыны.

Беларускі народ сустракае гадавіну гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 2/VIII—37 г. перамогамі ў гаспадарчым і палітычным жыцці. На выбарах у Вярхоўны Совет БССР атрымаў бліскучую перамогу непарушны сталінскі блок комуністаў і беспартыйных. 25 ліпеня першая сесія Вярхоўнага Совета БССР пачала сваю работу. Наперакор злоснаму выццю ўсіх ворагаў мацнее сельская соцыялістычная гаспадарка. На палях ордэнаноснай Беларусі шуміць новы добры ўраджай. Задача калгаснага сялянства, партыйных і непартыйных большэвікоў—узорна, без страт сабраць ураджай 1938 г., па-большэвіцку змагацца за далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за ўзорнае і няўхільнае выкананне ўсіх дзяржаўных абавязацельстваў. Трэба, каб кожны калгаснік, кожны аднаасобнік добра ўсвядоміў, што выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай ёсць першачарговая запаведзь.

Мы маем усе магчымасці поўнасцю і своечасова выканаць усе віды дзяржаўных паставак, і мы гэта павінны зрабіць. Нас да гэтага абавязвае тая велізарная дапамога, якая аказана калгаснаму сялянству БССР пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня 1937 года, нас да гэтага абавязваюць штодзенныя клопаты партыі і вялікага Сталіна аб беларускім народзе. Энергічнай стаханаўскай работай даб'емся поўнага выканання сталінскага лозунга «зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі». Нам неабходна яшчэ вышэй узняць рэволюцыйную пільнасць, да канца і найхутчэй ліквідаваць вынікі шкодніцтва, да канца ачысціць беларускую зямлю ад трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў замежных разведак.

---

П. Спасаў

Старшыня Цэнтральнага Совета Асоавіяхіма БССР, дэпутат Вярхоўнага Совета БССР.

# Асоавіяхім БССР к дню авіяцыі

К дню ўсенароднага свята—18 жніўня наша совецкая авіяцыя прыходзіць з новымі дасягненнямі. Дзякуючы неаслабным клопатам партыі, урада і вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна, совецкая авіяцыя ў гэтым годзе ўпісала новыя слаўныя старонкі ў вялікі ганаровы спіс совецкіх авіяцыйных рэкордаў. Такімі бліскучымі рэкордамі з'яўляюцца беспасадачны скарасны пералёт Масква—раён Владзівастока, адлегласцю ў 7600 кілометраў, зроблены героямі Совецкага Саюза тт. Кокінакі і Брандзінскім у 24 гадзіны 36 мінут, і выдатны беспасадачны пералёт на гідрасамалёце па маршруту Севастопаль—Архангельск нашых гераічных лётчыц тт. Осіпенка, Ламака і Расковай.

Наша совецкая авіяцыя ўжо не адзін раз паказвала ўсяму свету, на што здольны совецкія лётчыкі—патрыёты соцыялістычнай радзімы, гатовыя ў любую мінуту, па першаму закліку партыі і ўрада выканаць любое заданне.

Шматмільённы магутны Асоавіяхім да ўсенароднага свята—к дню авіяцыі дабіўся вялікіх дасягненняў у рабоце сваіх аэраклубаў. Клопатамі партыі, клопатамі любімага правадыра таварыша Сталіна аэраклубная авіяцыя пастаўлена моцна на ногі.

Аэраклубы Асоавіяхіма БССР у бягучым годзе аснашчоны новай матэрыяльнай часцю, фінансавай базай, сваімі аэрадромамі і самае галоўнае—гэта выдатнымі лётчыкамі, якія абучаюцца без адрыву ад вытворчасці.

У 1938 годзе аэраклубы Асоавіяхіма напружана працуюць над вырашэннем пачэснай задачы—падрыхтоўкі без адрыву ад вытворчасці соцень і тысяч лётчыкаў з лепшай працоўнай моладзі.

Званне лётчыка стала самай пачэснай спецыяльнасцю совецкага маладога чалавека, марай большасці моладзі. Тысячы заяў аб прыёме ў аэраклубе яскрава сведчаць аб гэтым. Комплектаванне груп ва ўсіх аэраклубах БССР паказала, наколькі моладзь любіць авіяцыю, наколькі пажадана авіяцыйная спецыяльнасць і галоўнае—наколькі вялікі патрыятызм совецкай моладзі.

У школах і піонератрадах юныя авіямадэлісты, школьнікі-піонеры робяць лятаючыя мадэлі самалётаў і планераў. Яны мараць аб тым,

што як толькі падрастуць—паступяць у аэраклуб, аддадуць сябе цалкам справе абароны сваёй радзімы, будуць вывучаць і авалодваць складанай авіяцыйнай тэхнікай. І марачы аб гэтым, юныя авіямадэлісты, імкнуцца апраўдаць пачатак свайго авіяцыйнага будучага, робяць найлепшыя мадэлі.

Авіямадэлістам Беларусі належыць рад дасягненняў. У 1937 годзе каманда авіямадэлістаў БССР на 11-х Усесаюзных спаборніцтвах лятаючых мадэлей атрымала першае месца, заваяваўшы кубак ЦК ВЛКСМ. Зараз у Менску, у спецыяльна адведзеным лагеры для авіямадэлістаў юныя асоавіяхімаўцы рыхтуюцца да ўдзелу ў 12-х Усесаюзных спаборніцтвах лятаючых мадэлей. Менская гарадская каманда авіямадэлістаў складаецца з піонераў-школьнікаў. Двое з удзельнікаў гэтай каманды авіямадэлістаў—браты Дорынгер—ужо ў парадку падрыхтоўкі дабіліся значных поспехаў. Іх мадэль з бензінавым маторчыкам пратрымалася ў паветры 28 мінут.

У раёнах, калгасах, на прадпрыемствах БССР вялікай папулярнасцю карыстаецца планерны спорт. У планерных гуртках абучаюцца сотні чалавек моладзі, якія рыхтуюць сябе да пераходу з планера на самалёт.

Аэраклубы БССР у гэтым годзе карэнным чынам перабудавалі сваю работу. Вялікае месца ў праграмах адводзіцца палітычнай падрыхтоўцы, фізкультуры. Вялікія патрабаванні прад'яўляюцца да спецыяльных дысцыплін. Паспяховасць курсантаў у 1938 годзе значна вышэй леташняй. Лётная паспяховасць таксама значна павысілася.

Вось выдатнікі вучобы, якія дабіліся значных дасягненняў у авалоданні лётнай справай. Тав. Казлова, дачка батрака, студэнтка БДУ у мінулым годзе выдатна скончыла праграму пілотаў без адрыву ад вучобы ў універсітэце. Зараз яна выдатна авалодвае тэхнікай пілаціравання, павышаючы сваю лётную кваліфікацыю па інструктарскай праграме. Тав. Ідэльчык, выхаванец дзетдома, рабочы слесар, комсамолец, працуе ў майстэрнях Горсовета. З'яўляючыся стаханаўцам на вытворчасці, ён адначасова выдатна закончыў тэарэтычную частку праграмы і мае выдатныя поспехі ў лётнай падрыхтоўцы. Тав. Лугаўцоў—сын калгасніка, комсамолец, т. Новікаў, сын калгасніка, працуе кухарам, т. Быкаў—сын рабочага, комсамолец—усе яны з'яўляюцца выдатнікамі вучобы ў аэраклубах.

Такой з'яўляецца наша моладзь, якая абучаецца лётнай справе ў нашых аэраклубах без адрыву ад вытворчасці і паспяхова спалучае сваю работу на вытворчасці з вучобай у аэраклубах. Так у нашай Совецкай краіне моладзь з рабочых і сялян працуе, вучыцца, атрымлівае адукацыю, авалодвае адначасова майстэрствам самалётаваджэння.

Хіба можа аб чым-небудзь падобным марыць моладзь у капіталістычных краінах? Хіба мог раней марыць батрак Казлоў аб тым, што яго дачка будзе канчаць універсітэт і адначасова асвоіць такую складаную машыну, як самалёт, і ім кіраваць? Хіба мог раней аб гэтым марыць кухар Новікаў, або слесар Ідэльчык? А ва ўмовах совецкай рэчаіснасці такія факты з'яўляюцца штодзеннымі, бо ў нашай соцыялістычнай краіне моладзь атрымала бесперашкодны доступ да ўсіх вяршынь навукі і мастацтва, перад ёю адчынены ўсе дзверы, ёй прадастаўлены ўсе магчымасці для развіцця сваіх талентаў. І наша моладзь поўнасцю выкарыстоўвае гэтыя магчымасці. Вось чаму нас не здзіўляе, што маса моладзі, якая працуе на вы-

творчасці, навучаецца ў школах, універсітэтах, адначасова авалодвае і лётнай справай, ствараючы нашай краіне дадатковы цэнны рэзерв, гатовы ў любую мінуту замяніць станок рабочага, кнігу студэнта на самалёт і стаць па першаму закліку партыі і ўрада ў баявыя рады нашага слаўнага паветранага флота.

Вялікая работа праароблена лётчыкамі-інструктарамі, камандзірамі звенняў і атрадаў таксама і ў галіне выдатнай падрыхтоўкі курсантаў да лётнай справы. Начальнік лётнай часці Магілеўскага аэраклуба т. Федасеенка С. М., па паходжанню з батракоў, у авіяцыі Асоавіяхіма працуе ўжо каля 10-ці год. За час сваёй работы т. Федасеенка падрыхтаваў не адзін дзесятак лётчыкаў-выдатнікаў, якія ў сучасны момант з'яўляюцца пілотамі нашай Чырвонай авіяцыі. Тав. Дземчанка—інструктар-лётчык Магілеўскага аэраклуба. Яго група раней усіх астатніх была падрыхтавана да самастойных палётаў, атрымаўшы выдатныя ацэнкі па лётнай падрыхтоўцы. Вось т. Шаціла—начальнік лётнай часці Гомельскага аэраклуба. Курсанты яго групы перакрылі ўсе існуючыя да гэтага часу нормы. Гэтыя курсанты заканчваюць курс лётнай падрыхтоўкі на два месяцы раней тэрміна, намечанага планам. Гэта далёка не поўны спіс сапраўдных патрыётаў нашай соцыялістычнай радзімы. Можна дапоўніць гэты спіс такімі лётчыкамі камандзірамі-выхавацелямі, як камандзір звяна т. Оксенкруг, звяно якога перавыконвае нормы, з'яўляючыся перадавым у Цэнтральным аэраклубе БССР, т. Магер—начальнік лётнай часці Цэнтральнага аэраклуба, які дабіўся значных дасягненняў у якаснай падрыхтоўцы пілотаў. Таксама выдатна спраўляюцца і ўзорна працуюць над вырошчваннем кадраў лётнага складу т.т. Паўлаў, Воднеў, Пятроў і інш.

Дзякуючы штодзённым клопатам нашай партыі, нашага ўрада і нашага мудрага і любімага таварыша Сталіна—аэраклубы Асоавіяхіма атрымалі ў гэтым годзе ўсё тое, што патрэбна для паспяховай работы, для паспяховага вырашэння задачы па ўмацаванню абароназдольнасці вялікай соцыялістычнай радзімы.

Зразумела, што ў рабоце аэраклубаў ёсць яшчэ рад істотных недахопаў.

Задача асоавіяхімаўскай авіяцыі заключаецца ў тым, каб поўнасцю знішчыць недахопы ў рабоце аэраклубаў, хутчэй ліквідаваць вынікі шкодніцтва, якое праводзілася ворагамі народа. Трэба накіраваць работу авіяцыі Асоавіяхіма на ўмацаванне абароназдольнасці нашай радзімы, яшчэ больш павялічыць рады нашага абароннага таварыства і ўмацаваць яго ва ўсіх яго звеннях, наблізіць нашы аэраклубы да працоўных, яшчэ шырэй разгарнуць масавую работу па ўнядрэнню авіяцыйнай культуры сярод працоўных. Неабходна, каб партыйныя, савецкія і комсамольскія арганізацыі цясней звязаліся з аэраклубамі. Трэба, каб на прадпрыемствах, у савецкіх і навучальных установах больш сур'ёзна падыходзілі да пытанняў падбору кандыдатаў у аэраклубы з тым, каб у аэраклубах займалася лепшая, праверaная моладзь. У той-жа час ёй трэба стварыць усе неабходныя ўмовы для абучэння ў аэраклубах без адрыву ад вытворчасці.

Аэраклубы Асоавіяхіма БССР у падарунак 21 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі рыхтуюць здаць краіне добра і выдатна падрыхтаваных пілотаў і парашутыстаў.

У дзень Усенароднага свята Авіяцыі—18-га жніўня, калі мы будзем падагульваць вялікую работу, праробленую ў нашай краіне па

ўмацаванню магутнасці совецкай авіяцыі, мы яшчэ мацней будзем памятаць і ніколі не забываць словы таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, аб тым, што «трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку»...

---

І. Кавалькоў
Сакратар ЦК ЛКСМБ

# Узмацніць партыйнае кіраўніцтва комсамолам

Рашэнні лютаўска-сакавіцкага—1937 г. і студзеньскага—1938 г. пленумаў ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна паставілі перад усімі партыйнымі, комсамольскімі і совецкімі арганізацыямі задачу рашучага ачышчэння сваіх радоў ад трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх бандытаў, якія імкнуліся разарваць саюз рабочых і сялян, распрадаць нашу квітнеючую радзіму, адарваць беларускі народ ад вялікага рускага народа і ператварыць Беларускую рэспубліку ў калонію фашызма.

Ворагі народа, якія ашуканчым шляхам прабраліся ў рады ЛКСМБ і кіраўніцтва ЦК комсамола Беларусі, хацелі адарваць ленінска-сталінскі комсамол ад нашай партыі, сарваць справу комуністычнага выхавання моладзі. Яны насаджалі п'янства, бытавое разлажэнне, стараліся прытупіць рэволюцыйную пільнасць у радах комсамола.

Але ворагі жорстка пралічыліся. Наша совецкая разведка на чале са сталінскім наркомам Нікалаем Іванавічам Ежовым пры дапамозе ўсяго нашага гераічнага народа выкрыла і знішчыла фашысцкіх гадзін. Такі-ж лёс чакае ўсіх тых, хто паспрабуе рабіць сваю варожую, брудную справу.

Пад кіраўніцтвам ВКП(б) ленінскі комсамол правёў вялікую работу па ачышчэнню сваіх радоў ад ворагаў народа і яшчэ раз паказаў сваю беззаветную адданасць комуністычнай партыі і яе правадыру таварышу Сталіну, паказаў, што комсамол з'яўляецца верным памочнікам нашай большэвіцкай партыі ў справе барацьбы з трацкісцка-бухарынскімі і буржуазна-нацыяналістычнымі агентамі фашызма.

Але было-б памылкова думаць, што комсамольскія арганізацыі зрабілі ўжо ўсё па ачышчэнню сваіх радоў ад ворагаў народа. Факты, якія ёсць, гавораць аб тым, што асобныя комсамольскія арганізацыі яшчэ не зрабілі ўсіх палітычных вывадаў з указанняў таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, аб узняцці рэволюцыйнай пільнасці і аўладанні большэвізмам. Гэта відаць з фактаў па Менскай гарадской арганізацыі комсамола, дзе органамі НКВД былі выкрыты ворагі народа, якія прабраліся ў комсамол, а комсамольская арганізацыя своечасова іх не выкрыла.

Комсамольскія арганізацыі Беларусі павінны яшчэ вышэй падняць справу комуністычнага выхавання нашай моладзі і выпрацаваць у кожным комсамольцы беззаветную любоў да соцыялістычнай радзімы і да вялікай партыі Леніна—Сталіна.

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР, праведзеныя на аснове Сталінскай Канстытуцыі, паказалі згуртаванасць працоўных мас вакол вялікай партыі Леніна—Сталіна і гатоўнасць да бязлітаснай барацьбы супроць усіх ворагаў народа.

Больш 15 тысяч комсамольцаў і моладзі былі вылучаны агітатарамі для правядзення масава-агітацыйнай работы сярод насельніцтва ў часе падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет БССР. Гэтая армія агітатараў з поспехам справілася са сваёй работай.

Толькі па Палескай вобласці было вылучана агітатараў 3.221, старшынямі, намеснікамі старшынь, сакратарамі выбарчых камісій і даверанымі асобамі працавала 922 комсамольцы. У дапамогу вёсцы па вывучэнню выбарчага закона было паслана 448 членаў Ленінскага комсамола. Распаўсюджана комсамольцамі выбарчай літаратуры на 6.630 руб.

Па Магілеўскай вобласці было вылучана 5.439 комсамольцаў-агітатараў, у выбарчых камісіях і даверанымі працавала 1.386 чалавек.

Па Віцебскай вобласці было вылучана 7.071 комсамольцаў-агітатараў, у выбарчых камісіях і даверанымі працавала 5.546 чалавек.

У комсамольскай арганізацыі калгаса «Савецкая Беларусь», Быхаўскага раёна з 22-х комсамольцаў 10 чалавек з'яўляліся агітатарамі. У гэтай комсамольскай арганізацыі рэгулярна працуе палітшкола, часта праводзяцца комсамольскія сходы сумесна з несаюзнай моладдзю па цікавячых моладзь пытаннях, сярод комсамольцаў і моладзі арганізавана рэгулярная чытка газет. Комсамольцы гэтага калгаса з'яўляюцца ініцыятарамі соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху.

Комсамольская арганізацыя калгаса «Пролетарый», Хойніцкага раёна, налічвае 44 чал., з якіх 12 комсамольцаў з'яўляліся агітатарамі. Сакратар камітэта комсамола тав. Мягкі гаворыць, што нам выпала вялікае шчасце—комсамолка-трактарыстка нашага калгаса т. Маленок Юлія Пятроўна з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР.

Аднак, трэба прама сказаць, што ў многіх пярвічных комсамольскіх арганізацыях яшчэ і да гэтага часу ўся работа зводзіцца толькі да комсамольскіх сходаў, якія к таму-ж праходзяць нерэгулярна, а такія формы масава-палітычнай работы з моладдзю, як лекцыі, даклады, гутаркі, чыткі палітычнай і мастацкай літаратуры па цікавячых моладзь пытаннях адсутнічаюць. Палітгурткі і школы для моладзі і комсамольцаў арганізаваны не ўсюды, антырэлігійная прапаганда з'яўляецца па сутнасці забытым участкам комсамольскіх арганізацый, ваенна-фізкультурная работа і мастацкая самадзейнасць не разгортваецца. Райкомы комсамола, не гледзячы на рашэнні V пленума ЦК ВЛКСМ і III пленума ЦК комсамола Беларусі, усё-ж слаба займаюцца арганізацыяй культурнага адпачынку і вольнага часу моладзі, асабліва калгаснай моладзі.

Комсамольскія арганізацыі недастаткова займаюцца пытаннямі палепшання работы дамоў соц. культуры, клубаў, бібліятэк, кіно і радыё.

Кіруючыся рашэннямі X з'езда ВЛКСМ, якія выходзяць з прамых указанняў таварыша Сталіна аб рашучым паляпшэнні прапагандысцкай работы ў комсамоле, арганізацыі ЛКСМБ у гэтым пытанні прарабілі значную работу. Так, напрыклад, у калгасе «Звязда» (Даманавіцкі раён) прапагандыст т. Добкін добра арганізаваў вучобу сярод комсамольцаў і несаюзнай моладзі. Спачатку яго заняткі наведвала 10 ча-

лавек комсамольцаў і 24 чалавекі несаюзнай моладзі, якія, правучыўшыся ў гуртку 3 месяцы, усе ўступілі ў комсамол.

Калгас «Перамога», Любаньскага раёна, зусім не меў комсамольскай арганізацыі, а пасля 3-х месячнай прапагандысцкай работы комсамольца т. Галей, 8 чалавек падалі заявы аб уступленні ў комсамол. Цяпер там арганізавана пярвічная комсамольская арганізацыя. Прапагандыст па гісторыі ВКП(б) т. Элькін (ф-ка імя Куйбышэва, Кагановіцкага раёна, г. Менска) добра рыхтуецца да заняткаў і слухачы яго гуртка прыходзяць на заняткі заўсёды падрыхтаванымі. У выніку ўзорнай арганізацыі работы гуртка слухачы яго маюць значны палітычны рост і тыя таварышы, якія раней зусім не выступалі, зараз самі з'яўляюцца агітатарамі і прапагандыстамі.

Побач з гэтым ёсць факты недаацэнкі прапагандысцкай работы. Асобныя комсамольскія кіраўнікі фармальна падыходзяць да пытання якаснай пастаноўкі прапагандысцкай работы ў комсамоле. Так, былы сакратар Буда-Кашалёўскага РК тав. Тур за 8 месяцаў правёў толькі 2 заняткі па гісторыі ВКП(б). І наогул Б.-Кашалёўскі РК ЛКСМБ зусім не кіраваў палітычнай вучобай у раёне, з-за чаго ў радзе школ сістэматычна зрываліся заняткі.

Гуртком актыва пры Рудзенскім РК ЛКСМБ кіраваў сакратар райкома т. Крывашэйн, але з-за слабой яго падрыхтоўкі да заняткаў вучоба праходзіла на нізкім палітычным узроўні і слухачы былі незадаволены якасцю заняткаў.

Вялікім недахопам у арганізацыі якаснай пастаноўкі работы палітшкол і гурткоў з'яўляецца адсутнасць належнай увагі і сістэматычнай дапамогі з боку райкомаў КП(б)Б у падборы прапагандысцкіх кадраў, кантролю за іх работай і інш. Пропсемінары, як асноўная форма павышэння палітычнай і тэарэтычнай падрыхтоўкі прапагандыстаў, у радзе РК комсамола, як Лепельскі, Ветрынскі, Петрыкаўскі, працуюць зусім нездавальняюча, а ў такіх райкомах, як Асіповіцкі, Жлобінскі, Чырвонапольскі і Суражскі яны зусім не арганізаваны. З боку Лепельскага, Петрыкаўскага і раду іншых РК КП(б)Б своечасова не было аказана належнай дапамогі комсамолу ў арганізацыі работы семінараў для прапагандыстаў, а Петрыкаўскі РК КП(б)Б нават адмовіўся вылучыць кіраўніка для комсамольскага пропсемінара.

Рэчыцкі РК КП(б)Б за ўвесь 1938 г. не заслухаў і не абмеркаваў работы райкома комсамола ні па аднаму пытанню і наогул зусім слаба практычна дапамагаў комсамольскай арганізацыі ў раёне. А таму не выпадкова, што комуністы, вылучаныя РК КП(б)Б для прапагандысцкай работы ў комсамоле, сістэматычна зрываюць вучобу комсамольцаў. Тав. Дзейкун, член КП(б)Б партарганізацыі РВК, дрэнна кіруе гуртком па гісторыі партыі і, не гледзячы на неаднаразовыя патрабаванні з боку РК ЛКСМБ райком партыі не прыняў ніякіх мер. Парторг тав. Раманоўскі, Дземехаўскай партарганізацыі, за ўвесь 1938 г. правёў толькі 3 заняткі; старшыня Перасвятаўскага сельсовета як правіла зрывае палітычную вучобу. Такіх прапагандыстаў—членаў КП(б)Б, вылучаных Рэчыцкім райкомам партыі, дрэнна выконваючых рашэнні партыі—6 чалавек.

У Лепельскім і Лагойскім раёнах асобныя прапагандысты члены КП(б)Б сістэматычна зрываюць заняткі комсамольскіх палітгурткоў, а РК КП(б)Б не прыняў ніякіх мер, каб устараніць гэтыя агіднасці.

У Полацку прапагандыст член партыі т. Каралёў, работнік раённай газеты, за ўвесь 1938 г. не правёў у комсамольскім гуртку ні адных заняткаў.

У Барысаўскай партыйнай арганізацыі прапагандысты члены партыі т. т. Касаеў (цагельны завод) за май м-ц сарваў тры разы заняткі, Гопман (дырэктар завода «Пролетарскі молат»), Спасаў (фанерны завод)—сістэматычна зрываюць заняткі ў палітшколе, Скараход (завод «Комінтэрн») заняткі праводзіць фармальна, без усякай падрыхтоўкі, шляхам зачытвання матэрыяла па падручніку.

Такія факты характэрны для раду райкомаў КП(б)Б. Партыйным арганізацыям зараз неабходна рашуча палепшыць кіраўніцтва комсамолам, галоўным чынам у пытаннях палітычнай вучобы, сістэматычна правяраючы работу комсамольскіх арганізацый і штодзённа ім дапамагаючы.

Ленінскі комсамол з'яўляецца лепшым памочнікам і рэзервам большэвіцкай партыі. Уступленне ў рады партыі з'яўляецца чэсцю і выключна адказнай справай у жыцці члена ленінскага комсамола. А нашы комсамольскія арганізацыі да выканання рашэнняў партыі аб прыёме лепшых комсамольцаў у рады ВКП(б) падыходзяць часам фармальна: бюро РК ЛКСМБ выдасць рэкамендацыю, а далейшым лёсам гэтага таварыша не цікавіцца, не аказвае практычнай дапамогі ў набыцці астатніх рэкамендацый і афармленні яго справы райкомам КП(б)Б. Комсамольскія арганізацыі праз раённыя камітэты партыі павінны патрабаваць хутчэйшага разбору заяў комсамольцаў аб прыёме ў партыю.

Ёсць многа выпадкаў, калі па віне комсамольскіх, а таксама і партыйных арганізацый доўга марынуецца разбор заяў аб прыёме ў рады ВКП(б). Віцебскі абком КП(б)Б на працягу некалькіх месяцаў не разабраў заявы аб прыёме ў партыю сакратара Мехаўскага РК ЛКСМБ т. Зыблюк і сакратара Багушэўскага РК ЛКСМБ т. Касцючэнка, не гледзячы на тое, што матэрыялы ў гэтых таварышоў былі ўсе падрыхтаваны. Па Віцебскай абласной арганізацыі комсамолам рэкамендавана ў партыю 1 100 чал., а партыйнымі арганізацыямі разгледжаны заявы і прыняты толькі 449 чал. Па Магілеўскай вобласці ў рады ВКП(б) рэкамендавана 945 комсамольцаў, а разгледжаны заявы і прыняты толькі 410 і аформлена пярвічнымі парт-арганізацыямі 121 чал. Кагановіцкім ГРК ЛКСМБ (г. Менск) рэкамендавана ў партыю 275 комсамольцаў, а РК КП(б)Б разгледзіў заявы і прыняў толькі 70 чалавек. Барысаўскі РК КП(б)Б са 143 комсамольцаў, рэкамендаваных у партыю, разгледзіў заявы і прыняў толькі 42 чал., а астатнія таварышы знаходзяцца ў стадыі афармлення. Свяцілавіцкі РК ЛКСМБ за 1937—38 г. рэкамендаваў у рады партыі 28 комсамольцаў, а РК КП(б)Б разгледзіў заявы і прыняў усяго толькі 6 чал., 4 чал. знаходзяцца ў стадыі афармлення пярвічнымі партарганізацыямі, а лёс астатніх таварышоў райкому комсамола невядом.

Вельмі марудна ідзе разбор матэрыялаў аб прыёме ў рады партыі і ў нізавых партыйных арганізацыях. Так, партком шчотачнай фабрыкі г. Менска на працягу 4 месяцаў не разбіраў заявы чатырох таварышоў і толькі пасля ўмяшання рэдакцыі газеты «Звязда» гэтыя заявы былі разгледжаны на працягу аднаго дня. На ст. Барысаў тт. Мураўскі, Добравольскі, Захараў і інш. маюць усе рэкамендацыі для ўступлення ў рады партыі, але іх заявы не разбіраюцца партыйнымі арганізацыямі на працягу 7 месяцаў.

Партыйныя арганізацыі пры сельсоветах і калгасах дрэнна аказваюць дапамогу комсамольскім арганізацыям. У калгасе «Хваля рэ-

волюцыі» (Свяцілавіцкі раён) старшыня калгаса комуніст тав. Тамаркоў дапамогі сакратару комсамольскай арганізацыі не аказвае. Між тым у гэтай арганізацыі налічваецца каля 30 комсамольцаў і каля 300 чалавек несаюзнай моладзі комсамольскага ўзросту, сярод якіх масавая работа зусім не праводзіцца, у выніку чаго за ўвесь 1938 г. комсамольская арганізацыя вырасла толькі на 15 чалавек. У гэтым сельсовеце няма гурткоў самадзейнасці, калгасныя клубы працуюць нездавальняюча, сходы з моладдзю не праводзяцца. Старшыня сельсовета, член КП(б)Б Тачыленка пытаннямі выхаваўчай работы сярод моладзі не цікавіцца— на партгрупе ні разу не ставілі справаздачу сакратара комсамольскай арганізацыі аб рабоце сярод несаюзнай моладзі. З гэтай комсамольскай арганізацыі ні адзін комсамолец не рэкамендаван у партыю. Партгрупа пытання аб прыёме ў партыю на партсходах не ставіла.

Дубровенскі РК КП(б)Б зусім дрэнна кіруе комсамольскімі арганізацыямі. РК КП(б)Б на працягу 6 месяцаў не заслухоўваў даклада аб рабоце сакратара РК ЛКСМБ тав. Тярэшчанка. Таму не выпадкова, што ў часе правядзення выбараў кіруючых партыйных органаў ва ўсіх рэзалюцыях партарганізацый раёна адзначалася адсутнасць належнага кіраўніцтва комсамолам з боку партыйных арганізацый.

III пленум ЦК ЛКСМБ падверг рэзкай крытыцы работу бюро ЦК, раённых, гарадскіх і абласных камітэтаў ЛКСМБ за слабую пастаноўку масава-палітычнай і выхаваўчай работы, асабліва сярод калгаснай моладзі. Асобныя комсамольскія арганізацыі ўсё яшчэ марудна ліквідуюць вынікі падрыўной работы ворагаў народа ў комсамоле, працуюць палітычна не завострана, часта праходзяць міма агідных фактаў. Так, у Жыткавіцкім раёне, палітвучоба ў комсамольскай арганізацыі развалена, а райком належных мер для палепшання палітычнай вучобы ў гуртках не прымае. Копыльскі райком комсамола вельмі дрэнна арганізаваў работу комсамольскай арганізацыі ў пагранічных калгасах.

Райкомы комсамола ўсё яшчэ слаба кіруюць работай комсамольцаў і моладзі на вытворчасці і ў калгасах і нездавальняюча арганізуюць соцыялістычнае спаборніцтва і стаханаўскі рух, не дапамагаюць маладым рабочым і работніцам стаць ударнікамі і стаханаўцамі. Усё гэта адбываецца таму, што многія комсамольскія кіраўнікі яшчэ і да апошняга часу не разумеюць, што пашырэнне і ўнядрэнне ідэй большэвізма ў шырокія масы моладзі, узбраенне яе вучэннем Леніна—Сталіна з'яўляецца штодзеннай важнейшай задачай комсамольскіх арганізацый Беларускай рэспублікі.

Задача партыйных арганізацый у сучасны момант заключаецца ў тым, каб рашуча палепшыць партыйнае кіраўніцтва комсамолам у пытаннях комуністычнага выхавання моладзі.

XVII з'езд КП(б)Б намеціў канкрэтныя задачы работы комсамольскіх арганізацый. Партыйным арганізацыям зараз неабходна карэнным чынам палепшыць кіраўніцтва комсамолам, аказваючы яму штодзённую практычную дапамогу.

З'езд абавязаў усе партыйныя арганізацыі палепшыць штодзённае кіраўніцтва ідэйна-палітычным выхаваннем комсамольскай арганізацыі, аказаць ёй практычную дапамогу прапагандысцкімі кадрамі, арганізаваць дапамогу ў разгортванні работы комсамола па ўцягненню рабочай і калгаснай моладзі ў комсамол, а таксама ў палепшанні работы комсамольскіх арганізацый у школах і вышэйшых навучальных установах і арганізацыйна-палітычным умацаванні пярвічных комса-

мольскіх арганізацый, узмацніць работу па прыёму лепшых і адданейшых камсамольцаў у рады партыі Леніна—Сталіна.

Хутка ўся наша краіна будзе адзначаць XX-годдзе існавання Усесаюзнага Ленінска-Сталінскага Комуністычнага Саюза Моладзі. Па Совецкай Беларусі, як і па ўсяму Совецкаму Саюзу, з новай сілай разгарнулася хваля соцыялістычнага спаборніцтва па дастойнай сустрэчы слаўнага юбілею. У адказ на зварот маладых рабочых Маскоўскага аўтазавода імя Сталіна, комсамольцы і несаюзная моладзь рыхтуюць падарункі нашай вялікай мацеры-радзіме. Маладыя патрыёты Краіны соцыялізма дэманструюць сваю любоў і бязмежную адданасць вялікай партыі Леніна—Сталіна, свайму дарагому бацьку і настаўніку таварышу Сталіну, які ўзгадаваў і выпеставаў маладое жыццерадаснае пакаленне барацьбітоў за комунізм. XX-годдзе ленінска-сталінскага комсамола сустрэнем новымі перамогамі на ўсіх участках будаўніцтва соцыялізма!

Г. Дзімітраў

# Да другой гадавіны гераічнай барацьбы Іспанскага народа

I

Два гады іспанскі народ абараняе з беспрыкладным гераізмам сваю свабоду і незалежнасць. У выключна цяжкіх умовах, цаной велізарных афяр і крыві сваіх доблесных сыноў ён адстойвае кожную пядзю роднай зямлі супроць арміі фашысцкіх заваявальнікаў. У гісторыі чалавецтва цяжка знайсці другую, больш гераічную эпапею ўсенароднай барацьбы супроць іншаземных занявольвальнікаў і ў той-жа самы час больш подлую і зладзейскую вайну супроць культурнага і цывілізаванага народа Еўропы. Гэтая вайна вядзецца ва ўмовах, калі міжнародныя ўстановы, якія прэтэндуюць на ролю абаронцаў усеагульнага міру, і ўрады буйнейшых заходнееўрапейскіх дзяржаў, якія горда лічаць сябе прадстаўнікамі дэмакратыі, культуры і цывілізацыі, не толькі мірацца з нечуванымі зладзействамі фашысцкіх варвараў, але фактычна ўсёй сваёй палітыкай іх падтрымліваюць і заахвочваюць.

Як вядома, дыпламатыя заходнееўрапейскіх дзяржаў і кіруючых колаў Лігі нацый абгрунтоўвае сваю здрадніцкую ў адносінах іспанскага народа палітыку «неўмяшання» крывадушным сцверджаннем, што вайна ў Іспаніі—гэта толькі **ўнутраная справа** самых **іспанцаў**, што пытанне ідзе аб двух ваюючых **іспанскіх** старанах і што падтрыманне законнага іспанскага ўрада, забяспечанне міжнароднага права Іспанскай рэспублікі свабодна набываць зброю для самаабароны будзе **ўмяшаннем** у іспанскія справы і прывядзе да вялікай вайны.

Аднак падзеі, якія адбыліся перад фашысцкім мяцяжом 18 ліпеня 1936 г. і якія асабліва разгарнуліся за час вайны, даюць зусім іншую карціну і разбіваюць у корані гэтую легенду, створаную працаўнікамі фашысцкімі прыяцелямі Гітлера і Мусаліні ў Англіі і Францыі. За прайшоўшыя два гады стала шырока вядома мноства фактаў, якія наглядна сведчаць аб тым, што мяцеж іспанскіх генералаў з самага пачатку быў падрыхтаван афіцыяльнымі фашысцкімі коламі Германіі і Італіі. Генералы Санхурхо, Франко, Мола з'явіліся паслухмянай прыладай гэтых сапраўдных ініцыятараў вайны ў Іспаніі.

Германскія фашысты даўно песцілі мару аб заваяванні Іспаніі. У гэтых адносінах, як і ва многіх іншых, яны атрымалі ў спадчыну старыя планы германскага імперыялізма, які рыхтаваў яшчэ ў часе сусветнай імперыялістычнай вайны захват Іспаніі. У мэтах ажыццяў-

лення гэтых планаў германскі фашызм шырока разгарнуў у Іспаніі шпіёнскую і падрыўную дзейнасць. У часе існавання ўрада іспанскага рэакцыянера Хіль Роблеса германскія фашысты, карыстаючыся поўнай свабодай, стварылі дзесяткі так званых «лендэр-груп», устанавілі моцную сувязь з генералітэтам іспанскай арміі і сістэматычна вербавалі сваіх агентаў сярод афіцэрства. Ад урада Хіль Роблеса яны атрымлівалі вялікія заказы на ваенныя пастаўкі і збудаванні і былі ў курсе справы ўсіх ваенных аб'ектаў у Іспанскім Марока, на Балеарскіх астравах, у Гібралтары і іншых месцах, якія маюць важнае стратэгічнае значэнне ў часе вайны.

Гэтая дзейнасць германскіх фашыстаў у Іспаніі аблягчалася тым, што стаяўшая тады на чале ўлады рэакцыйная верхавінка іспанскіх памешчыкаў і капіталістаў, звергнутая пасля перамогі народнага фронта ў часе парламенцкіх выбараў, цалкам перайшла на бок фашызма. Іспанскія рэакцыянеры ўсяляк дабіваліся ўдушэння маладой дэмакратычнай рэспублікі, пасылалі сваіх людзей на вывучку ў Германію, а ваенны міністр і затым глава рэакцыйнага ўрада Хіль Роблес асабіста ўдзельнічаў на Нюрнбергскім з'ездзе германскіх фашыстаў.

Падрыхтоўка мяцяжу, інспірыруемага берлінскімі гаспадарамі, ішла поўным ходам задоўга да 18 ліпеня 1936 г. Генерал Санхурхо, адзін з главароў мяцяжу (які ляцеў з-за граніцы ў Іспанію для кіраўніцтва мяцяжом і разбіўся ў часе гэтага палёту), па даручэнню сваіх субратоў Франко, Мола і іншых за поўгода да пачатку мяцяжу ездзіў у Германію і там канчаткова дагаварыўся з германскімі фашыстамі наконт прадстаяўшага фашысцкага перавароту ў Іспаніі. Не лішне ўспомніць цяпер, што паведамляў па гэтаму поваду карэспандэнт «Праўды» **12 сакавіка 1936 г.:**

> «У Берліне знаходзіцца зараз вядомы іспанскі манархічны генерал Санхурхо—арганізатар шматлікіх контррэвалюцыйных змоў у Іспаніі. Як перадаюць, генерал Санхурхо вядзе ў Берліне перагаворы аб дапамозе контррэвалюцыйным ваенным арганізацыям Іспаніі, якія рыхтуюць новую змову супроць урада. У прыватнасці, Санхурхо мае намер набыць у германскіх фірм вялікую партыю ваеннага снаражэння».

Італьянскі фашызм не менш актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы мяцяжу. Па дакументах, захвачаных у часе ліквідацыі шпіёнскага цэнтра ў Валенсіі, устаноўлена бясспрэчна, што Мусаліні яшчэ ў 1934 г. вёў перагаворы з прадстаўнікамі іспанскіх манархістаў, абяцаў ім у выпадку выступлення падтрыманне грашыма, людзьмі, самалётамі, ваенным снаражэннем. За некалькі месяцаў да мяцяжу Мусаліні ўжо аддаў загад аб снаражэнні войск для адпраўкі ў Іспанію. Былі падрыхтаваны цэлыя эскадрылы самалётаў і частка з іх перакінута ўжо ў Іспанскае Марока ў распараджэнне Франко.

Так рукамі іспанскіх генералаў германскія і італьянскія фашысты хацелі задушыць іспанскі народ, захваціць яго краіну, скарыстаць яе багацці, ператварыць тэрыторыю Іспаніі, Балеарскія астравы, Іспанскае Марока, Гібралтар і Міжземнае мора ў апорныя пункты для падрыхтоўваемай імі сусветнай імперыялістычнай вайны ў мэтах новага перадзелу свету.

Цяпер таксама не падлягае сумненню, што захват Іспаніі фашысцкай Германіяй і Італіяй уваходзіў састаўной часткай у так званае

«антыкомінтэрнаўскае» пагадненне Гітлера і Мусаліні і быў першачарговым актам міжнароднага наступлення «асі Берлін—Рым».

Італьянскія і германскія натхніцелі іспанскіх мяцежных генералаў разлічвалі на быстры захват дзяржаўнай улады і ўстанаўленне фашысцкай дыктатуры ў Іспаніі. Аднак фашысты пралічыліся. Яны вырашалі пытанне без гаспадара. Замест быстрай і лёгкай перамогі мяцежнікі сустрэлі рашучы адпор іспанскага народа. У Мадрыдзе, Барселоне, Валенсіі і радзе іншых важнейшых пунктаў Іспаніі мяцежнікі былі разбіты ў першыя-ж дні гераічнымі атрадамі народнай міліцыі. Пацярпеўшы паражэнне ад уласнага народа, генералы пачалі перакідваць мараканскія часці, «замежны легіён», а іх берлінскія і рымскія гаспадары пасняшылі выратаваць становішча пасылкай сваіх узброеных сіл.

**Так іменна пачалася адна з самых падлейшых і варварскіх ваенных інтэрвенцый, накіраваных супроць свабоды і незалежнасці гераічнага народа.**

II

На першай стадыі вайны германскія і італьянскія інтэрвенты, у надзеі на быструю перамогу мяцежнікаў, не выступалі адкрыта як ваюючая старана. Але калі стала ясна, што іспанскі народ, які стварае сваю народную армію, здолее канчаткова ліквідаваць мяцеж па ўсёй краіне, яны адкінулі маскіроўку. З таго часу з Германіі і Італіі няспынна пасылаюцца войскі і ваеннае снаражэнне ў Іспанію. І цяпер, к канцу другога года вайны, германскія і італьянскія часці займаюць рашаючае месца ў войсках, якія вядуць вайну супроць іспанскага народа. Італьянскае і германскае фашысцкае камандаванне з'яўляюцца фактычнымі гаспадарамі і на фронце і ў акупаваных частках Іспаніі. Гэта ўсвядомілі ўжо не толькі антыфашысты і староннія назіральнікі ў заходнееўрапейскіх краінах, але нават многія з тых, якія знаходзяцца ў лагеры мяцежнікаў. Рад іспанскіх афіцэраў з арміі Франко навочна пераканаўся, што сапраўднымі гаспадарамі іх арміі з'яўляюцца германскія і італьянскія фашысты, што яны бесцарамонна гаспадараць у захвачаных раёнах і вядуць сябе там, як у заняволенай імі каланіяльнай краіне. І нямала іспанскіх афіцэраў у лагеры Франко, узняўшых свой голас супроць гэтага, былі расстрэлены. Гэтыя факты, бадай, больш красамоўна, чым многія іншыя, гавораць аб **сапраўдных ваюючых старанах.**

Самі натхніцелі мяцяжу даўно ўжо не скрываюць таго, што яны вядуць вайну супроць Іспаніі. У той самы час калі ў «камітэце па неўмяшанню» месяцамі вынаходзяць метады для вызначэння замежных войск у Іспаніі, Мусаліні публічна і шматразова заяўляў, што фашысцкая Італія вядзе вайну ў Іспаніі. Ён адкрыта абменьваецца тэлеграмамі са сваімі генераламі, якія знаходзяцца на іспанскай тэрыторыі. У сакавіку 1937 г. была апублікавана яго тэлеграма генералу Манцыні на борт парахода, які перавозіў італьянскія войскі ў Іспанію, з заклікам ва што-б там ні стала атрымаць перамогу. Гэта было адрасавана якраз тым «храбрым легіёнам», якія былі неўзабаве ўшчэнт разбіты пад Гвадалахарай. У жніўні 1937 г. пасля падзення Сантандэра Мусаліні адправіў новыя тэлеграмы камандаванню італьянскіх войск, заяўляючы, што «Італія ганарыцца тым, што яна здолела заяваць на іспанскай зямлі». Толькі гэтымі днямі, 10 ліпеня, у лейб-органе Мусаліні «Попола д'Італіа» апублікован яго артыкул,

дзе ён гучна заяўляе аб вайне, якая вядзецца войскамі італьянскага фашызма ў Іспаніі. «Пасля Абісініі мы адправілі войскі ў Іспанію»,— заяўляе сам гэты главар фашысцкіх варвараў, якія сеюць смерць на іспанскай зямлі.

У італьянскім друку публікуюцца спісы забітых салдат і афіцэраў з экспедыцыйных войск у Іспаніі. Гэтымі днямі ўся італьянская прэса апублікавала афіцыяльныя даныя (безумоўна, вельмі пераўменшаныя), што за час вайны ў Іспаніі забіта 120, узята ў палон 21 і загінула без весці 9 італьянскіх лётчыкаў. Італьянскія генералы друкуюць артыкулы аб ваенных аперацыях у Іспаніі, у якіх яны нават не лічаць патрэбным выдаваць сябе за «саветнікаў» Франко, а выступаюць у ролі адкрытых і наглых фашысцкіх заваявальнікаў.

Германскія фашысты таксама даўно перасталі прыкрываць ваенныя дзеянні супроць Іспаніі фігавым лістком неўмяшання. Ды і сапраўды: смешна і немагчыма скрываць такія факты, як пасылка з Германіі і Італіі **соцень тысяч салдат, тысяч самалётаў, танкаў, бясконцага патоку снарадаў і іншых відаў ваеннага снаражэння.**

У той момант, калі ў камітэце па неўмяшанню прымаюцца рашэнні аб спосабах вывазу добраахвотнікаў з Іспаніі, пры чым сапраўдныя добраахвотнікі, якія змагаюцца на старане іспанскага народа, цынічна ставяцца на адну дошку з корпусамі рэгулярных армій фашысцкіх інтэрвентаў, на фронт Леванта перакідваюцца новыя ваенныя сілы з Італіі і Германіі. Інтэрвенты адкрыта падрыхтоўваюць камбінаванае наступленне з сушы, з мора і з паветра супроць Валенсіі.

Трэба мець сапраўды нечуваную крывадушнасць лорда Галіфакса і містэра Чэмберлена, **каб адмаўляць наяўнасць войск інтэрвентаў у Іспаніі**, зруйнаванне іспанскіх гарадоў, знішчэнне жанчын і малых дзяцей, патапленне камерцыйных суднаў **італьянскімі і германскімі бамбардыроўшчыкамі** і сцвярджаць, што ў Іспаніі ідзе толькі **ўнутраная барацьба паміж самімі іспанцамі,** у справы якіх не трэба ўмешвацца Лізе нацый і краінам, зацікаўленым у захаванні міру.

Ці не ясна кожнаму, хто не хоча закрываць вочы на ўпартыя факты, што прафашысцкая зграя англійскіх кансерватараў і іх саюзнікаў у лагеры французскай рэакцыі нясе разам з фашысцкімі агрэсарамі **немалую долю адказнасці** за жудасныя пакуты і незлічоныя афяры іспанскага народа.

Тысячу разоў права трыбун гераічнага іспанскага народа, наш таварыш Даларэс Ібаруры, калі яна гаворыць:

«Кроў дзяцей, жанчын, мужчын, забітых у гэтыя трагічныя дні, падае не толькі на галаву здрадніка Франко, але і на галовы Гітлера і Мусаліні. **І многа ёсць людзей у Еўропе, якія ні ў якіх іарданах не змогуць змыць са сваіх рук нявінную кроў».**

III

Два гады барацьбы ў Іспаніі выявілі новыя велізарныя народныя сілы, якія аказаліся не толькі здольнымі вытрымаць наступленне ўзброеных да зубоў фашысцкіх полчышчаў, але паказалі сваю непахісную рашымасць весці барацьбу да канца і атрымаць перамогу над фашызмам.

Рэспубліканская Іспанія, як вядома, пачала барацьбу з ваеннага пункту гледжання ў выключна нявыгадных для яе ўмовах. Народныя масы не прайшлі школы сусветнай імперыялістычнай вайны, не

ведалі вопыту вядзення пазіцыйнай вайны і многіх іншых відаў сучаснай абароны. У рэспубліканскага ўрада аказалася вельмі мала камандных кадраў і вельмі слабая ваенная тэхніка. І тым не менш, наперакор усім гэтым цяжкасцям, вось ужо два гады іспанскі народ стойка абараняе сваю свабоду і незалежнасць.

К пачатку мяцяжу ў рэспубліцы былі вельмі нязначныя ваенныя сілы, па сутнасці справы некалькі тысяч узброеных людзей. Зараз у яе поўмільённая армія. Армія, якая загартавана ў баях, прайшла праз многа цяжкасцей і асвойвае майстэрства вядзення сучаснай вайны. Створаны новыя камандныя кадры, якія кроўна звязаны з народам, беззаветна абараняюць яго інтарэсы і авалодваюць з поспехам складанай ваеннай справай. Арганізуецца ваенная прамысловасць і ўся гаспадарка краіны ставіцца на службу адной мэце—перамозе над ворагам.

Не гледзячы на велізарную ваенна-тэхнічную перавагу інтэрвентаў, на рад панесеных частковых паражэнняў, рэспубліканская армія атрымала за гэтыя два гады таксама і буйнейшыя перамогі, якія назаўсёды ўвойдуць у гісторыю. Дзесяткі разоў кідалі мяцежнікі свае штурмавыя калоны на Мадрыд. Яны прабавалі зламаць яго з сушы і з паветра, яны не раз ужо голасна паведамлялі аб захваце Мадрыда і рассылалі па гэтаму поваду запрашэнні на банкеты. Але нішто не магло зламаць гераічнага супраціўлення народнай арміі. Мадрыд стаў сімвалам непрыступнасці, крэпасцю іспанскай свабоды і незалежнасці, па якой раўняюцца цяпер Валенсія і Барселона. Рэспубліканская армія нанесла жорсткі ўдар інтэрвентам пад Гвадалахарай, яна разбіла іх планы генеральнага наступлення, захваціўшы Тэруэль і праявіўшы ва многіх іншых выпадках свой гераізм і ўменне не толькі абараняцца, але і пераходзіць у наступленне. Яна здолела спыніць наступленне на арагонскім фронце, лакалізаваць прарыў, сарваць планы інтэрвентаў, якія разлічвалі нанесці сакрушальны ўдар рэспубліканскай арміі.

**Рашаючая роля ва ўсіх гэтых поспехах належыць адзінаму пралетарскаму і народнаму фронту.** Камуністычная партыя Іспаніі—ініцыятар народнага фронта—на працягу раду год паслядоўна і настойліва змагаецца за адзінства іспанскага пралетарыята, за згуртаванне ўсіх сіл народа супроць рэакцыі і фашызма.

Крок за крокам ажыццяўлялася аб'яднанне рабочых арганізацый і згуртаванне агульнанародных сіл. У лютым 1935 года паспяхова завяршаюцца перагаворы паміж Унітарнай канфедэрацыяй працы і Ўсеагульным рабочым саюзам, і ў канцы гэтага года адбываецца іх аб'яднанне. У канцы 1935 года па ўсёй Іспаніі ствараюцца камітэты сувязі паміж камуністычнай і сацыялістычнай партыямі. У студзені 1936 г. адбываецца афармленне народнага фронта, які ахапляе камуністычную і сацыялістычную партыі, Усеагульны рабочы саюз, рэспубліканскую левую, рэспубліканскі саюз, каталонскую левую партыю і інш. арганізацыі. У красавіку 1936 г. зліваюцца ў адзіную арганізацыю Камуністычны і Сацыялістычны саюзы моладзі. У ліпені таго-ж года ў Каталоніі зліваюцца чатыры партыі—Каталонскі сацыялістычны саюз, Каталонская федэрацыя сацыялістычнай партыі Іспаніі, Каталонская пралетарская партыя і кампартыя Каталоніі і ствараецца Аб'яднаная сацыялістычная партыя Каталоніі. У сакавіку 1937 г. у радзе правінцый Іспаніі ўсе арганізацыі моладзі—Сацыялістычны саюз, анархісцкая і рэспубліканская арганізацыі—зліваюцца і

ствараюць адзіную арганізацыю моладзі, а ў верасні гэтага года ствараецца Нацыянальны альянс моладзі, які аб'яднаў усе юнацкія арганізацыі краіны. У жніўні 1937 г. прымаецца праграма сумесных дзеянняў комуністычнай і соцыялістычнай партый. У сакавіку 1938 г. устанаўляецца адзінства дзеянняў паміж Усеагульным рабочым саюзам і анарха-сіндыкалісцкай Канфедэрацыяй працы, а ў красавіку гэтая канфедэрацыя і федэрацыя анархістаў Іберыі ўваходзяць у склад народнага фронта.

Такім чынам, іспанскі рабочы клас, перамагаючы цяжкую спадчыну, якая раз'ядноўвала яго сілы ў мінулым, паслядоўна ствараў моцную аснову аб'яднання іспанскага народа ў барацьбе супроць фашысцкіх мяцежнікаў і інтэрвентаў. Цяжкія іспыты вайны і небяспека фашысцкага закабалення Іспаніі паскараюць завяршэнне гэтага працэсу.

Увесь ход барацьбы іспанскага народа неабвержна пацвердзіў правільнасць палітыкі народнага фронта. Іменна стварэнне і ўмацаванне народнага фронта зрабіла магчымым згуртаванне ўсіх жывых сіл іспанскага народа, не гледзячы на існаваўшыя раней глыбокія палітычныя і іншыя адрозненні ў яго радах. Дзякуючы народнаму фронту іспанскі народ змог стварыць сваю народную армію, здольную вытрымаць напор пераважаючых у тэхнічных адносінах армій фашысцкіх інтэрвентаў. Народны фронт барацьбы супроць фашысцкіх мяцежнікаў і інтэрвентаў умацаваў баявую згуртаванасць паміж комуністамі, соцыялістамі, анарха-сіндыкалістамі і беспартыйнымі ў арміі і ў тылу, наперакор неспыняючайся падрыўной рабоце зграі Кабальера, агентаў так званай пятай калоны і трацкісцкіх бандытаў. **Без народнага фронта іспанскі народ даўно быў-бы ўнутрана дэзарганізован, разбіт і закабален фашысцкімі заваявальнікамі.**

Не выпадкова ўсе ўнутраныя і знешнія ворагі Іспанскай рэспублікі прымянялі і прымяняюць розныя намаганні, каб пасеяць і распаліць узаемнае недавер'е і розьнь паміж партыямі і арганізацыямі, якія ўваходзяць у народны фронт, каб падарваць давер'е да яго ўрада, каб узарваць самы народны фронт Але таму к другой гадавіне сваёй барацьбы, больш чым калі-небудзь раней, іспанскі народ пранікнут усведамленнем аб неабходнасці захавання і далейшага ўмацавання народнага фронта—**асновы яго адзінства, галоўнай крыніцы яго абароназдольнасці і першай умовы перамогі ў яго нацыянальна-вызваленчай вайне супроць фашысцкіх захватчыкаў.** І няма падстаў сумнявацца ў тым, што рабочы клас Іспаніі, увесь іспанскі народ будуць ахоўваць непарушнае адзінства і згуртаванасць народнага фронта як **зяніцу ока.**

## IV

Гераічная барацьба іспанскага народа мае велізарнае міжнароднае значэнне.

Яна затрымлівала і затрымлівае развязванне новай сусветнай вайны. Калі-б германскія і італьянскія фашысты дабіліся ў Іспаніі той быстрай перамогі, якую яны мелі на ўвазе, то безумоўна гэта ўзмацніла-б у велізарнай ступені нагласць і агрэсіўнасць гэтых зачыншчыкаў вайны ў адносінах да іншых народаў. І калі-б, з другога боку, урады буржуазна-дэмакратычных краін сапраўды выканалі свае элементар-

ныя міжнародныя абавязкі ў адносінах Іспанскай рэспублікі, хоць-бы толькі зняццем блакады, прадастаўленнем ёй права куплі зброі, то бяспрэчная ў гэтым выпадку перамога іспанскага народа самым дзейным чынам спрыяла-б абузданню фашысцкіх агрэсараў і нанесла-б наймацнейшы ўдар па іх планах распальвання сусветнай вайны.

Не падлягае таксама сумненню, што бліскучы прыклад гераічнай барацьбы іспанскага народа аказаў неадхільны ўплыў на іншыя народы, якім пагражае фашысцкая агрэсія. Гэтыя народы насаражыліся супроць фашысцкай небяспекі, яны не хочуць быць засцігнутымі знянацку наглымі захватчыкамі. Яны не хочуць аддаваць сябе на міласць агрэсараў, а наадварот, рыхтуюцца да абароны сваёй свабоды і незалежнасці. Фашысцкія змовы ў радзе краін былі падаўлены яшчэ ў зародку. Змова французскіх кагуляраў была раскрыта ў стадыі яе падрыхтоўкі. Фашысцкі пераварот генерала Седыльо ў Мексіцы быў быстра разгромлен урадам Кардэнаса, які апіраецца на падтрыманне мексіканскага народа.

Уплыў іспанскага прыкладу можна ўбачыць і ў рашымасці кітайскага народа супраціўляцца ўсімі сіламі японскім захватчыкам, і ў гатоўнасці чэхаславацкага народа рашуча абараняцца супроць пагражаючага яго незалежнасці германскага фашызма.

У саміх краінах фашысцкіх агрэсараў вайна ў Іспаніі выклікае растучае абурэнне і нездаволенне мас. На іх вачах адбываецца банкроцтва шматразовых запэўненняў фашысцкіх урадаў аб лёгкіх перамогах на іспанскіх фронтах, аб быстрым сканчэнні «экспедыцыі ў Іспанію». З кожным месяцам вайна дае аб сабе ведаць усё больш адчувальна. Яна нясе нястачы мільёнам працоўных Італіі і Германіі. Сотні і тысячы забітых, раненых і скалечаных людзей фашысцкія правіцелі не могуць схаваць ад народа. І перад яго вачыма паўстае страшны кашмар мінулай сусветнай імперыялістычнай вайны. Мільёны думаюць, што калі так будзе прадаўжацца, калі даць волю фашызму ў Іспаніі і ў іншых краінах, то заўтра такі-ж лёс быць скалечанымі і забітымі пагражае ім самім.

Весткі, якія прасочваюцца, не гледзячы на ўсе перашкоды фашысцкай дыктатуры, гавораць аб росце антываенных, антыфашысцкіх настрояў і выступленняў. Ужо ёсць многа фактаў выступленняў супроць «іспанскай вайны» не толькі сярод працоўных Італіі, але і сярод італьянскіх войск. Фашысцкае камандаванне ўжо расстрэльвае дзесяткі непаслухмяных, адпраўляе назад у Італію цэлыя эшалоны «ненадзейных» часцей. Калі ўлічыць, што фашысцкія ўлады накіроўваюць на вайну найбольш вымуштраваныя і праверaныя з іх пункту гледжання часці, то ўсе факты выступленняў супроць вайны паказваюць блізасць больш сур'ёзных падзей у фашысцкіх краінах. То ў адным, то ў другім месцы Італіі ўспыхваюць стыхійныя выступленні мас пры адпраўцы войск у Іспанію або пасля прыбыцця адтуль раненых салдат. Ва многіх гарадах распаўсюджваюцца лістоўкі і лозунгі з пратэстам супроць вайны і нястач, прынесеных ёю працоўным масам.

Падобныя-ж працэсы адбываюцца і ў Германіі. Тут, як і ў Італіі, антыфашысты, не гледзячы на люты тэрор улад, збіраюць сродкі для іспанскага народа і перапраўляюць іх у Іспанію. Усё часцей і часцей адбываюцца выступленні супроць адпраўкі войск і снаражэння ў Іспанію на германскіх фабрыках і заводах. У цэнтры ваеннай прамысловасці—у Эссене на заводскіх сценах можна бачыць лозунгі: «Рукі

прэч, каты! Іспанскі народ сам будзе кіраваць сваім лёсам». Фашысцкія ўлады сур'ёзна заклапочаны фактамі псавання смертаносных гармат, накіроўваемых фашысцкім мяцежнікам. У канцэнтрацыйных лагерах Германіі ўжо даўно паявіліся новыя зняволеныя, кінутыя сюды за выступленні супроць вайны ў Іспаніі.

Мацеры, жонкі і дзеці адпраўленых і загінуўшых у Іспаніі салдат накіроўваюць свой гнеў супроць урада. Ва ўмовах данай вайны ніякім фашысцкім уладам не ўдасца накіраваць гэты гнеў супроць «непрыяцеля», як гэта было ў часе імперыялістычнай вайны 1914—18 гг., таму што надта відавочны разбойніцкі характар вайны і нападзення фашызма на народ, які абараняе сваю свабоду і незалежнасць. І кожны дзень вайны нясе нарастанне гневу і нездаволення народных мас супроць інтэрвенцыі ў Іспаніі і яе носьбітаў—Гітлера і Мусаліні.

Нападзенне блока фашысцкіх агрэсараў на Іспанію і рашучы адпор, аказаны ім іспанскім народам, надзвычай узмацнілі ў іншых краінах волю народных мас да супраціўлення фашысцкай агрэсіі і выклікалі вялікі ўздым антыфашысцкага руху ва ўсім свеце. Барацьба іспанскага народа і кампанія міжнароднай салідарнасці, паказваючы навочна настойлівую неабходнасць адзінства дзеянняў міжнароднага пролетарыята, з'яўляецца адным з магутных фактараў, паскараючых працэс ліквідацыі расколу ў радах рабочага руху. Усё больш траццяць глебу пад нагамі праціўнікі адзінства рабочага класа і ўсё больш расце ў радах соцыялістычных партый і профсаюзаў лік староннікаў адзінства і барацьбітоў за ўстанаўленне адзінства міжнароднага пролетарыята ў барацьбе супроць фашызма і вайны.

З іспанскіх падзей працоўныя ўсіх краін атрымаюць многа каштоўных урокаў, і перш за ўсё той, аб якім няспынна напамінаюць комуністы. **Барацьбу супроць фашызма нельга адкладваць, фашысцкую небяспеку нельга недаацэньваць. Фашызму трэба своечасова проціпаставіць сілы аб'яднанага рабочага класа і згуртаваных у антыфашысцкім народным фронце найшырэйшых мас.** Марудзіць у гэтай справе, праглядзець небяспеку фашысцкага наступлення і фашысцкіх змоў—гэта значыць аблегчыць зладзейскую справу фашызма і выклікаць гэтым вялікія ахвяры працоўных мас.

Компартыя Іспаніі задоўга да мяцяжу папярэджвала аб рыхтаваўшымся выступленні, указвала на падрыўную дзейнасць фашыстаў, накіраваную супроць іспанскага народа, на ніці, якія цягнуліся ад змоўшчыкаў унутры краіны да іх германскіх і італьянскіх інспіратараў. Яна заклікала да таго, каб скінуць рэакцыйных генералаў, узброіць народ і прадпрыняць іншыя дзейсныя меры абароны рэспублікі.

Хіба цяпер хто-небудзь можа аспрэчваць, што калі-б главары падрыхтоўваемага фашысцкага перавароту былі своечасова абясшкоджаны, гэта выратавала-б жыццё сотням і тысячам людзей. Планы фашысцкіх агрэсараў былі-б сарваны. Іспанія не была-б падвергнута цяперашняму разарэнню і цяжкім іспытам.

Таму зараз, калі комуністычная партыя Францыі заклікае народ да пільнасці, выкрывае кагуляраў і іншых фашысцкіх змоўшчыкаў, калі комуністы Чэхаславакіі выкрываюць падкопы гітлераўскіх агентаў, калі комуністы ў Англіі ўказваюць на згубную палітыку Чэмберлена, то перад вачыма працоўных павінен устаць прыклад Іспаніі. Гэты прыклад павінен прымусіць прыслухацца да голасу комуністаў і яшчэ мацней мабілізаваць народныя масы на барацьбу ў іх краінах.

## V

У сваёй гераічнай барацьбе іспанскі народ сустрэў падтрыманне рабочага класа і антыфашыстаў усяго свету.

Народы вялікай краіны соцыялізма—Совецкага Саюза стаяць рашуча на старане іспанскага народа. Совецкі Саюз усёй сваёй мірнай палітыкай і сваімі выступленнямі ў міжнародных арганізацыях настойліва дабіваецца спынення фашысцкай інтэрвенцыі ў Іспаніі і паказвае прыклад дзейснай барацьбы для абуздання фашысцкіх агрэсараў і захавання ўсеагульнага міру.

Міжнародная салідарнасць знайшла сваё выражэнне ў самых рознастайных формах. Пасылка харчовых прадуктаў і санітарных сродкаў, эвакуацыя і брацкі прыём іспанскіх дзяцей, дэманстратыўныя выступленні ў абарону Іспанскай рэспублікі і пратэсты супроць зруйнавання мірных гарадоў Іспаніі, патрабаванні адклікання інтэрвенцыйных войск і т. д.

У самыя рашаючыя дні, калі навісла смяртэльная небяспека над сталіцай Іспаніі, пад сценамі Мадрыда змагаліся разам з іспанскімі байцамі інтэрнацыянальныя брыгады, якія складаліся з лепшых сыноў міжнароднага пролетарыята. Яны адыгралі значную ролю ў адбіцці фашысцкіх полчышчаў.

Аднак рабочы клас і антыфашысты буржуазных краін не змаглі яшчэ забяспечыць самага неабходнага іспанскаму народу—права **свабодна купляць неабходныя сродкі абароны, не дабіліся зняцця блакады рэспубліканскай Іспаніі, яны не здолелі перамагчы згубную палітыку неўмяшання, не дабіліся спынення прамога і ўскоснага падтрымання фашысцкіх інтэрвентаў з боку рашаючых заходнееўрапейскіх дзяржаў.**

Цяпер, к канцу другога года вайны ў Іспаніі, трэба канстатаваць, што рабочы клас капіталістычных краін не выканаў яшчэ да канца свайго доўгу перад іспанскім народам, які абараняе дэмакратыю і мір усіх краін ад фашысцкай агрэсіі. Трэба прама сказаць, што **іспанскі народ за гэтыя два гады зрабіў больш для абароны справы ўсеагульнага міру і прагрэсу, чым зрабілі да гэтага часу працоўныя капіталістычных краін для падтрымання іспанскага народа.**

У дзень другой гадавіны гераічнай барацьбы ў Іспаніі доўг усякай рабочай арганізацыі, усякага дзеяча рабочага руху, усякага чэснага антыфашысцкага палітыка разгледзець тыя прычыны, якія перашкаджаюць аказаць дастатковую дзейсную дапамогу рэспубліканскай Іспаніі і перашкаджаюць рабочаму класу выканаць свой доўг да канца перад іспанскім народам.

Соцыялістычныя партыі прынялі нямала добрых рэзалюцый аб дапамозе іспанскаму народу, але далёка не зрабілі таго, што неабходна для іх ажыццяўлення. Мала таго, яны сістэматычна дапускаюць, што іх дзеячы, якія ўваходзяць у якасці міністраў ва ўрады раду краін, вядуць зусім процілеглую палітыку.

Гэтая палітыка афіцыяльных прадстаўнікоў Другога Інтэрнацыянала прывяла да такога вартага адзнакі факту, што буржуазны англійскі дзеяч Лойд-Джордж у часе нядаўняга наведання Парыжа ўгаварваў лідэраў соцыялістычнай партыі Францыі і Другога Інтэрнацыянала ў неабходнасці падтрымання рэспубліканскай Іспаніі. Ён «растлумачваў» соцыялістычным лідэрам, што захват Іспаніі Германіяй і Італіяй паслужыць ім адпраўным пунктам для ваеннага нападзення

на Францыю і распальвання сусветнай вайны, што германскія войскі, захваціўшы іспанскія правінцыі, якія мяжуюць з Францыяй, пачынаюць будаваць умацаванні і падрыхтоўваць базы на Пірэнеях для нападзення на Францыю, што ў Гібралтары германскае камандаванне мае ўжо сур'ёзныя пазіцыі, што на ўсім Міжземным моры флоты Германіі і Італіі лічаць сябе ў значнай меры поўнапраўнымі гаспадарамі.

Як вядома, Комуністычны Інтэрнацыянал многа разоў звяртаўся непасрэдна і праз сваіх прадстаўнікоў—таварышоў Торэза і Кашэна да Другога Інтэрнацыянала для арганізацыі сумесных дзеянняў супроць фашысцкай інтэрвенцыі і ў абарону іспанскага народа. Аб'яднанае выступленне партый і профсаюзных арганізацый міжнароднага пролетарыята стварыла-б такі магутны грамадскі рух ва ўсіх краінах, які ў найкарацейшы тэрмін змяніў-бы ўсю міжнародную абстаноўку, загарадзіў-бы дарогу наступленню фашысцкіх агрэсараў і аблегчыў-бы напэўна вызваленне і іспанскага, і кітайскага народаў ад фашысцкіх захватчыкаў. Такі рух прывёў-бы не да вялікай вайны, якой Гітлер і Мусаліні палохаюць банкіраў і гандляроў Англіі і Францыі, а наадварот, быў-бы вярнейшым сродкам абуздання распаясаўшыхся фашысцкіх агрэсараў і лепшай гарантыяй захавання ўсеагульнага міру.

Але кожны раз, калі Комуністычны Інтэрнацыянал звяртаўся з прапановай аб сумесных дзеяннях да Другога Інтэрнацыянала і Міжнароднага аб'яднання профсаюзаў, прадстаўнікі апошніх збіраліся на нарады, прымалі дэкларацыі салідарнасці з іспанскім народам, вымаўлялі славесныя заклінанні супроць блакады рэспубліканскай Іспаніі, але ўпарта адмаўляліся, пад уплывам рэакцыйных лідэраў лейбарысцкай партыі і трэд-юніёнаў Англіі і іх прыспешнікаў у іншых краінах, пайсці на арганізацыю тых адзіных дзеянняў міжнароднага пролетарыята, якія адны толькі могуць даць неабходныя станоўчыя вынікі.

Між тым прайшоўшыя два гады вайны ў Іспаніі далі дастаткова доказаў таго, што не славеснымі заклінаннямі супроць блакады рэспубліканскай Іспаніі, не папяровымі пратэстамі супроць фашысцкіх агрэсараў, не ўгаварваннем прафашысцкіх палітыкаў Англіі і Францыі можна аказаць сапраўдную дапамогу іспанскаму народу. **Для гэтага неабходны канкрэтныя дзеянні грамадскіх сіл і асабліва адзінае выступленне міжнароднага пролетарыята.** Хто хоча сапраўды спынення зруйнавання мірных гарадоў Іспаніі, забойства жанчын і дзяцей, выгнання фашысцкіх насільнікаў і стварэння моцнага бар'ера развязванню новай сусветнай імперыялістычнай вайны, той павінен дзейнічаць. Арганізацыі і формы гэтых дзеянняў не цяжка знайсці, іх падсказвае само жыццё, вопыт самога рабочага руху.

* * *

Іспанскі народ к канцу другога года вайны напружвае ўсе свае сілы, мабілізуе ўсе сродкі і рэсурсы краіны для адпору фашысцкім захватчыкам. Ён гераічна пераносіць нечуваныя нястачы і афяры, перамагае велізарнейшыя цяжкасці, адбіваючы атакі ўзброеных усімі навейшымі сродкамі знішчэння фашысцкіх варвараў. У ходзе гэтай барацьбы іспанскаму пролетарыяту і антыфашысцкім байцам прыходзіцца даваць адпор малаверам і хістаючымся, сакрушаць трацкісцкіх і іншых фашысцкіх агентаў. Байцы гераічнай арміі Іспаніі, змагаючыся пад сценамі Мадрыда, на фронце Леванта, у Пірэней-

скіх гарах і на ўзбярэжжы, змагаюцца супроць заклятых ворагаў усяго працоўнага чалавецтва. Кроў, пралітая імі і іх братамі, узнімае іншыя народы на барацьбу супроць фашызма. Іх гераічная барацьба нараджае новых герояў у самых далёкіх канцах зямнога шара. І на палях вялікага Кітая і далёкай Мексікі, і ў самым стане іх смяротэльнага ворага, у фашысцкіх краінах.

**Справа цяпер за міжнародным пролетарыятам.**

Трэба ўсё зрабіць для забяспечання перамогі іспанскага народа, бо, як указваў у сваёй тэлеграме вялікі правадыр працоўных таварыш Сталін генеральнаму сакратару компартыі Іспаніі тав. Хосе Дыясу,

> **«вызваленне Іспаніі ад гнёту фашысцкіх рэакцыянераў не ёсць прыватная справа іспанцаў, а—агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва».**

Ажыццявіць **гэтую агульную справу** перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва—гэта значыць у цяперашняй міжнароднай сітуацыі не толькі дапамагчы іспанскаму народу, але і загарадзіць дарогу міжнароднаму наступленню варварскага фашызма, захаваць усеагульны мір.

**«Правда».**

———

# Энгельс і Ленін аб Польшчы

Мінула 87 год з таго дня, калі Энгельсам было напісана пісьмо да Маркса, вытрымкі з якога мы сёння друкуем. Але значэнне гэтага дакумента на сёнешні дзень не толькі не страчана, а наадварот, яго актуальнасць у нашы дні надзвычай узрасла.

Бліскучая, вельмі дакладная характарыстыка Польшчы, даная ў сярэдзіне мінулага века адным з тварцоў навуковага комунізма, як нельга лепш пацвярджаецца ўсёй пасляваеннай палітыкай «Жэчы Паспалітай».

Вось гэтая характарыстыка:

«... Чым больш я размышляю аб гісторыі, тым ясней мне становіцца, што палякі—une nation foutue*), якая патрэбна, як сродак, толькі да таго моманту, пакуль сама Расія не будзе ўцягнута ў аграрную рэволюцыю. З гэтага моманту існаванне Польшчы не мае абсалютна ніякага raison d'être**). Палякі ніколі не рабілі ў гісторыі нічога іншага, акрамя храбрых задзірлівых глупстваў. Нельга ўказаць ні аднаго моманту, калі Польшча, нават у параўнанні з Расіяй, адыгрывала-б прагрэсіўную ролю або нагул зрабіла што-небудзь, маючае гістарычнае значэнне. Наадварот, Расія сапраўды адыгрывае прагрэсіўную ролю ў адносінах да Ўсхода. Не гледзячы на ўсю сваю агіднасць і славянскі бруд, панаванне Расіі адыгрывае цывілізуючую ролю для Чорнага і Каспійскага мораў і Цэнтральнай Азіі, для башкіраў і татараў; і Расія ўспрыняла значна больш элементаў асветы і асабліва элементаў прамысловасці, чым уся, па самой прыродзе сваёй панска-лянівая, Польшча... Палякі ніколі не ўмелі асіміляваць чуждыя элементы. Немцы ў гарадах ёсць і астаюцца немцамі. Між тым кожны рускі немец у другім пакаленні з'яўляецца жывым прыкладам таго, як Расія ўмее русіфікаваць немцаў і яўрэяў. У яўрэяў нават вырастаюць там славянскія скулы.

Яркія прыклады «бяссмерця» Польшчы даюць напалеонаўскія войны 1807 і 1812 г. Бяссмертным з'яўляецца ў палякаў толькі іх беспрадметная задзірлівасць. Чверць Польшчы гаворыць па-літоўску, чверць па-руску, невялікая частка па-поўрускай мове, і ўласна польская частка на добрую трэць германізавана.

На шчасце, мы ў «Новай рэйнскай газеце» не ўзялі на сябе ў адносінах да палякаў ніякіх пэўных абавязацельстваў, акрамя немінучага абавязацельства аднаўлення ў адпаведных граніцах, і то пад ўмовай аграрнай рэволюцыі. Але я ўпэўнен, што гэтая

---

*) Разлажыўшаяся нацыя.
Сэнсу.

рэволюцыя ажыццёвіцца ў поўным выглядзе хутчэй у Расіі, чым у Польшчы, як з прычыны нацыянальнага характару Расіі, так і з прычыны большага развіцця ў ёй буржуазных элементаў. Што такое Варшава і Кракаў у параўнанні з Пецербургам, Масквой, Одэсай і т. д. і т. д.?

... Я, аднак, пераконан, што пры бліжэйшай рэволюцыі ўсё польскае паўстанне абмяжуецца пазнанскімі і галіцыйскімі дваранамі разам з некаторай колькасцю беглецоў з Царства Польскага, таму што Царства Польскае да крайнасці знясілена, і прэтэнзіі гэтых рыцараў, калі яны не будуць падтрыманы французамі, італьянцамі, скандынаўцамі і т. д., і т. д. і ўзмоцнены чэхаславацкімі паўстаннямі, пацерпяць крушэнне з прычыны жалкага характару іх прадпрыемства. Нацыя, якая можа выставіць максімум 20 000—30 000 чалавек, не можа мець голасу. А Польшча, напэўна, не выставіць многім больш...» *).

Уся гісторыя Польшчы з 1919 года—з моманту яе апошняга ўзнаўлення як самастойнай дзяржавы складаецца з не асабліва «храбрых», але заўсёды задзірлівых авантур. Найбольш бясслаўнай авантурай Польшчы з'явілася распачатая ёю ў пачатку 1920 года вайна супроць Совецкай Расіі.

Распачалі польскія паны гэтую вайну па ўказцы іх тагачасных гаспадароў—англа-французскіх банкіраў і капіталістаў, якія к таму часу страцілі ўпэўненасць у мэтазгоднасць субсідыраваць атрэп'е дзенікінска-калчакоўскіх армій, разгромленых Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміяй.

Совецкая Краіна прапанавала Польшчы мір. Гэтыя прапановы совецкага ўрада вынікалі не са слабасці маладой Краіны Советаў, якая здолела к таму часу разграміць два паходы Антанты і была гатова да разгрому чарговага паходу.

Прапанова Польшчы міру з нашага боку ў той перыяд была адным з найярчэйшых прыкладаў нашай нязменнай, сапраўды мірнай палітыкі, якая мае сваім вытокам шчырае імкненне нашай бацькаўшчыны да міру з усімі народамі.

Вось што гаварыў таварыш Ленін па гэтаму поваду на I Усерасійскім з'ездзе працоўных казакаў 1 сакавіка 1920 года:

«... мы гаворым таварышам у Польшчы, што мы яе свабоду беражэм, як свабоду ўсякага іншага народа, што рускі рабочы і селянін, які адчуў гнёт царызма, добра ведае, чым быў гэты гнёт. Мы ведаем, што велізарнейшым злачынствам было тое, што Польшча была раздзелена паміж нямецкім, аўстрыйскім і рускім капіталам, што гэты раздзел асудзіў польскі народ на доўгія годы прыгнечання, калі карыстанне роднай мовай лічылася злачынствам, калі ўвесь польскі народ выхоўваўся на адной мыслі—вызваліцца ад гэтага патройнага гнёту. Таму, мы разумеем тую нянавісць, якой прасякнута душа паляка, і мы ім гаворым, што ніколі тую граніцу, на якой стаяць цяпер нашы войскі,—а яны стаяць значна далей, чым жыве польскае насельніцтва,—мы не пяройдзем. Мы прапануем на гэтай аснове мір, таму што мы ведаем, што гэта будзе велізарнае набыццё для

*) З пісьма Энгельса Марксу, Манчэсцер, 23 мая 1851 г. К. Маркс і Фр. Энгельс. Творы, т. XXI, стар. 210—212, год выд. 1932.

Польшчы. Мы не хочам вайны з-за тэрытарыяльнай граніцы, таму што мы хочам вытравіць тое праклятае мінулае, калі ўсякі вялікарос лічыўся прыгняталынікам.

Але калі Польшча адказвае на нашу мірную прапанову маўчаннем, калі яна прадаўжае даваць свабоду французскаму імперыялізму, які нацкоўвае яе на вайну супроць Расіі, калі ў Польшчу кожны дзень прыбываюць новыя паязды з ваенным снаражэннем, калі яны нам пагражаюць, што пойдуць вайной на Расію, то мы гаворым: *папрабуйце!* *) вы атрымаеце такі ўрок, што не забудзеце яго ніколі» **).

Сакрушальны ўдар, нанесены Чырвонай Арміяй фанабэрлівым панам на некаторы прамежак часу збіў ганарлівасць і адбіў ахвоту ў пілсудчыкаў совацца ў совецкі агарод, але Польшча і на сёння, як у 1919—20 гг. знаходзіцца на службе ў найбольш агрэсіўных, цяпер ужо фашысцкіх краінах, у прыватнасці ў Германіі і Японіі і будзе імі скарыстана як забяспечаны плацдарм для нападу на Краіну Советаў. І на сёнешні дзень роля панскай Польшчы зводзіцца да «задзірлівых выхадак» і гэтую задзірлівасць цалкам скарыстаюць германа-японскія фашысты. Фашысцкая палітыка пілсудчыны згубна для польскага народа. Польшча цяпер знаходзіцца ў палітычным і эканамічным тупіку.

І іменна сёння вельмі дарэчы ўспомніць геніяльную характарыстыку Польшчы, даную Энгельсам, і мудрыя словы таварыша Леніна, сказаныя ім яшчэ ў 1920 годзе.

---

*) Падкрэслена намі.—*Рэд.*
**) **В. І. Ленін. Зб. Твораў 5859.**

Н. Брасоўскі

# Становішча працоўных у фашысцкай Польшчы

Гаспадарчае становішча Польшчы становіцца ўсё больш напружаным. Сімптомы новага эканамічнага крызіса ўжо ў наяўнасці, і аптымістычная ацэнка польскай прэсай вынікаў 1937 года ўсё часцей змяняецца самымі змрочнымі перспектывамі на 1938 год.

Крызіс, што набліжаецца, немінуча нясе з сабою новыя цяжкасці для працоўных мас фашысцкай Польшчы, якія стогнуць пад ярмом рэжыма голаду, галечы, самавольства і бяспраўя. У артыкуле «Дзе-ж палепшанне?» газета «Зялёны штандар» ад 12 чэрвеня піша, што сур'ёзныя падзеі, як у галіне знешняй, так і ўнутранай палітыкі адцягнулі ў значнай ступені ўвагу польскай грамадскасці ад гаспадарчых пытанняў, асабліва ад эканамічнага становішча вёскі. У сягогаго склалася ілжывае перакананне ў тым, што «наступіла палепшанне». Тым часам, гэта «палепшанне» выразілася выключна ў некатэрым ажыўленні ваеннай прамысловасці.

«Інакш абстаіць справа ў вёсцы, якая ад палепшання кан'юнктуры або нічога не атрымала, або атрымала вельмі нямнога.

Галеча польскай вёскі дасягнула той мяжы, калі, як выразіўся адзін селянін, «жыццё перастае быць жыццём, а робіцца пакутлівым гібеннем». Сельскае насельніцтва Польшчы складае, згодна перапісу 1931 г., 64,4 проц. або 21,2 млн. чалавек. Ва ўсходніх ваяводствах гэты процант значна вышэй, складаючы, у прыватнасці, у Навагрудскім ваяводстве 88,1 проц. насельніцтва. У гэтых адносінах Польшча займае 19 месца з 24 еўрапейскіх дзяржаў. Аднак, у той час, як краіны, якія маюць яшчэ большы процант сельскага насельніцтва (напрыклад, Латвія), вымушаны штогод запрашаць сезонных сельскагаспадарчых рабочых з суседніх краін, у прыватнасці з Польшчы, колькасць вольных рабочых рук у польскай вёсцы, асуджаных на хранічную галечу і голад, складае 8—9 мільёнаў (больш трэці ўсяго сельскага насельніцтва краіны). Прычым гэтая лічба павялічваецца штогод амаль на 300 тысяч чалавек. Гэтая армія так званага «лішкавага» насельніцтва вёскі вялікім цяжарам кладзецца на ўсю польскую народную гаспадарку. «Перанасяленне вёскі,—піша газета «Палонія»,—асабліва на ўсходзе і поўдні Польшчы, набывае проста пагражаючыя памеры. Хранічны рост гарадскога беспрацоўя не дае прамысловасці магчымасць увабраць у сябе хоць-бы нязначную частку гэтай велізарнай арміі. Тым менш магчымасцей для паглынання гэтай рабочай сілы ў сельскай гаспадарцы, дзе колькасць толькі адных батракоў (з сем'ямі) складае 2,7 млн. чалавек. Тым больш, што размяшчэнне сельскага насельніцтва такое, што ў тых раёнах, дзе культура сельскай гаспадаркі адносна высокая (заходнія

ваяводствы) колькасць гэтага насельніцтва невялікая (15—25 проц.), у той час як яна дасягае 80—88 проц. іменна ва ўсходніх і паўднёвых ваяводствах з амаль першабытнай сельскагаспадарчай культурай.

З агульнай колькасці гаспадарак да 50 га (каля 3,2 млн. гаспадарак), гаспадаркі з плошчай да 5 га складаюць амаль $^{2}/_{3}$ (1.954,5 тыс.), з іх «карлікавых» гаспадарак (да 2 га)—794,2 тыс. або каля 25 проц. усіх гаспадарак. Процант карлікавых гаспадарак значна вышэй у паўднёвых ваяводствах Польшчы (Заходняя Украіна), дзе ён даходзіць да 46,7 проц. агульнай колькасці гаспадарак і дзе, як піша газета «Палонія» ад 5 чэрвеня, «амаль палова сельскага насельніцтва паміра з голаду». У гэтых-жа раёнах процант малазямельных гаспадарак (да 5 га) складае 82,3 проц.

У той-жа час агромная колькасць зямлі сканцэнтравана ў руках зямельнай арыстакратыі. У памешчыцкіх маёнтках пануе поўнае самавольства. Сотні сялян некалькіх вёсак Ілжэцкага павета, якія звярнуліся з пісьмовай скаргай у міністэрства юстыцыі, пішуць (газета «Работнік» ад 15 мая):

«... Для атручвання сялянскай жывёлы лясная варта раскладвала на рубяжы лясоў (памешчыцкіх) атручаны стрыхнінам хлеб. Беднае насельніцтва, якое знаходзіла ў лесе і на палях зайцаў, кролікаў і кавалкі казлінага мяса, не ведаючы, што яны атручаны, спажывала іх, вынікам чаго былі выпадкі атручвання цэлых сем'яў.

... Абнаглелыя ляснічыя страляюць не толькі ў жывёлу, але і ў людзей і нават у дзяцей... Збіваючы і топчучы конскімі капытамі сялян, яны выконваюць свае абавязкі так заўзята, што ёсць некалькі выпадкаў калецтва, нават смерці. Калі Пераджынскі (кіраўнік лясамі) сустракае ў лесе людзей, якія не знімаюць перад ім шапку, ён збівае іх нагайкамі са словамі «ты, сукін сын, не бачыш, што пан едзе?», душыць іх канём».

Засуха 1937 г. і позняя вясна 1938 г. вельмі цяжка адбіліся на становішчы сельскай гаспадаркі Польшчы. Сяляне прыступілі да масавага распродажу жывёлы. Урад быў вымушан не толькі спыніць вываз хлеба за граніцу, але і дазволіць увосень 1937 г. імпарт зярна. Здань голаду навісла над згалелай польскай вёскай. Польскі селянін, які ў большасці выпадкаў не бачыў хлеба ўжо з каляд, аб чым сведчаць шматлікія пісьмы сялян, з нецярплівасцю чакаў азімых збораў. Гэта відаць хоць-бы з заметкі газеты «Кур'ер варшаўскі» аб тым, што

«... у мястэчку Турка на р. Стрый стварыўся камітэт дапамогі галадаючаму насельніцтву Турчанскага і часткі Лескага паветаў. Вельмі неабходны 40 вагонаў аўсу і 200 вагонаў бульбы. З-за адсутнасці кармоў пала каля 2.000 галоў жывёлы».

Згодна даным саюза сельскагаспадарчых палат, колькасць хлеба на галаву насельніцтва скарачаецца з года ў год і складала ў 1930 г. 250 кгр., у 1936 г.—210 кгр., у 1938 г.—180 кгр. Тым часам, урад, жадаючы выраўняць рэзка пасіўны баланс знешняга гандлю, выкліканы павелічэннем увозу сыравіны для патрэб ваеннай прамысловасці, адмяніў у красавіку 1938 г. забарону вывазу зярна за граніцу. Мала таго, гандляры хлебам зноў узнялі пытанне аб увядзенні экспартных прэмій на хлеб (4—5 злотых на 100 кг.). Каментыруючы

гэта мерапрыемства, газета «Зялёны штандар» піша, што ўрад, відавочна, рашыў улічыць характэрную для польскай вёскі «сціскаемасць страўнікаў» як у людзей, так і ў жывёлы.

«Селянін прадае не столькі, колькі можа, а колькі павінен для ўплаты падаткаў, працантаў і т. д. Рэштку ён прызначае для дома і жывёлы. Калі яму застаецца мала, ён сцягвае пояс, адмаўляе сабе і дзецям нават у чорным хлебе, а жывёле пакідае акурат столькі, каб яна дажыла да веснавой травы... Не гледзячы на тое, што мінулы год быў з прычыны засухі бядотай для сельскай гаспадаркі, не гледзячы на тое, што збор хлеба і траў быў па крайняй меры на 10 проц. ніжэй, чым у 1936 г., не гледзячы на гэта, аказваецца, што мы мелі «лішак». Зразумела, гэта «галодны лішак», бо вядома, што ва многіх раёнах сяляне не толькі не даядаюць, але па-сапраўднаму галадаюць. І каб збавіцца ад гэтага «лішку» (галоднага) урад знімае з 1 красавіка забарону вывазу збожжа з Польшчы за граніцу».

З другога боку, прадаўжае ўтрымлівацца раствор нажніц паміж прамысловымі і сельскагаспадарчымі цэнамі. Паводле даных красавіцкага нумара журнала «Статыстычныя ведамасці», падзенне гэтых цэн у адносінах да 1928 г. склала к сучаснаму моманту:

| Прадукты сельскай гаспадаркі | | Прадукты прамысловасці | |
|---|---|---|---|
| Хлеб | 52 проц. | Цукар | 29 проц. |
| Караньплоды | 61,5 „ | Спірт | 29 проц. |
| Бітая жывёла | 60 „ | Піва | 29 проц. |
| Малочныя прадукты | 49 „ | Штучнае ўгнаенне | 30,5 проц |
| | | Жалеза | 20 „ |
| | | Мыла | 29 „ |
| | | Соль | 8 „ |
| | | Табак | 3 „ |

Гэта выклікае рэзкае скарачэнне пакупной здольнасці польскай вёскі. Селянін корміць сябе і сваю сям'ю пераважна бульбай. Спажыванне тлушчаў, мяса і цукру мізэрна. Ва ўсходніх ваяводствах спажыванне цукру ўпала ў 1937 г. на 93 проц. (к 1929 г.), солі— на 87 проц. «Харчаванне» польскага селяніна лепш за ўсё ілюструе адно з сялянскіх пісем (Пазнанскае ваяводства), апублікаваных у зборніку «Запіскі сялян»:

«Малочных прадуктаў мы спажываем вельмі мала. На працягу года амаль усё малако здаецца на ферму. Дзевяць месяцаў у годзе ў доме не відаць ні кавалачка масла, ні тварагу, ні цэльнага малака. Цукру купляецца на ўсю сям'ю 30 фунтаў за год. Круглы год на снеданне і вячэру гатуецца толькі пахлёбка, якая складаецца на 4/5 з вады, на 1/5 са знятага малака і з некалькіх жменяў мукі. Ядуць яе з варанай бульбай. Хлеб ядзім сухі. Мы адчуваем, што галадаем, але зрабіць нічога нельга».

Хранічнае недаяданне згалелай польскай вёскі ўваходзіць у сістэму. На гэтай глебе развіваецца эпідэмія тыфу, растуць захворванні туберкулёзам.

Асабліва цяжка становішча вясковай дзетвары. Хранічнае недаяданне і вечная галеча з'яўляюцца яе нязменным лёсам. Абследванне дзяцей 2 класа адной са школ Лукаўскага павета выявіла, што з 57 дзяцей, якія былі абследваны, 30 заявіла, што хлеб будуць есці толькі з новага ўраджаю.

> «З гэтых дзяцей 12 чалавек прышлі ў школу без снедання, не ўзяўшы з сабою нічога паесці, у тым ліку 5 дзяцей прышлі ў школу за 4 кілометры, нічога не еўшы. У вачах змарнелых, бяскроўных і дрэнна апранутых дзяцей была відаць здань голаду» («Зялёны штандар» ад 27 лютага).

Гэта выклікае агромны рост захворванняў сярод дзяцей. Групавое абследванне каля 19 тысяч дзяцей школьнага ўзросту выявіла наяўнасць толькі 30 проц. здаровых дзяцей. Астатнія дзеці—хворыя рахітам, анеміяй і інш. Асноўнай прычынай гэтых захворванняў з'яўляецца недастатковае харчаванне як у колькасных, так і ў якасных адносінах. У той-жа час школы зусім пазбаўлены ўрачэбнай апекі. На 5 мільёнаў дзяцей школьнага ўзросту прыпадае ўсяго 259 школьных урачоў. Газета «Ілюстраваны кур'ер цодзенны» ад 3 сакавіка змяшчае трывожнае пісьмо з Конінскага павета Лодзінскага ваяводства. Аўтар пісьма расказвае, што бязмежная галеча вёскі вядзе да фізічнага, разумовага і маральнага выраджэння. У выніку росту спажывання дэнатурата павялічваюцца захворванні. «Дэнатурат, трахома і венерычныя хваробы—вось біч польскай вёскі»,—піша аўтар пісьма. У адной з гмін, якая налічвае разам з дзецьмі каля 5 тысяч жыхароў, спажыванне неачышчанага дэнатурата дасягае 1.600 літраў у месяц. Захворванні трахомай набылі масавы характар.

> «Трахома распаўсюджваецца ў вёсках з жахлівай хуткасцю. Але-ж урач кожны тыдзень заглядвае ў школу! Іменна заглядвае, а не лечыць. Але калі і лечыць, то ніколі не вылечыць: няма для гэтага часу. З-за адсутнасці гігіены часта сам урач становіцца разношвальнікам трахомы ці іншых хвароб».

Газета «Зялёны штандар» прыводзіць рад лічбаў, якія характарызуюць катастрафічнае становішча польскай школы. З кожных 100 дзяцей школьнага ўзросту—11 не знаходзяць месца ў школе. З 1928 па 1936 г. колькасць дзяцей школьнага ўзросту вырасла з 3,6 млн. да 5,1 млн., у той час як бюджэт міністэрства асветы скараціўся за гэты час на 120 млн. злотых. Прыкладам агромнага росту непісьменнасці з'яўляецца факт, калі прызыўная камісія ў Кутно выявіла сярод рэкрутаў 27 проц. непісьменных.

> «Да галодных умоў сялянскага жыцця далучаецца голад ведаў»,—заключае газета.

Агульная колькасць сялянскіх дзяцей, якія навучаюцца ў школах, скарацілася ў параўнанні з даваенным часам у тры разы. Сялянская моладзь у сярэдніх навучальных установах складае 0,5 проц. Аднак і гэты процант безупынна скарачаецца. Газета «Дзеннік людовы» піша ў сувязі з гэтым:

> «За перыяд навучання ў агульнаадукацыйнай і сярэдняй школе пастаянна адбываецца працэс адсеву бяднейшых элементаў. Дзеці рабочых і сялян, па меры пераходу з класа ў

клас, складаюць усё меншы процант навучаючыхся... Гэтыя дзеці, а іх ужо сотні тысяч, асуджаны на непісьменнасць».

Такія ўмовы жыцця поўгалодных сялянскіх дзяцей, якія не ведаюць смаку цукру і марацць часам аб пасоленым кавалку чорнага хлеба, як аб лепшым ласунку.

* * *

Польская прамысловасць уступае ў новы крызіс, яшчэ далёка не дасягнуўшы дакрызіснага ўзроўню 1928 г. Індэкс прамысловай прадукцыі склаў у 1937 г. толькі 85 (1928—100), а па тэкстыльнай прамысловасці—80. Красавік 1938 г. дае агульнае зніжэнне прамысловай вытворчасці, асабліва вытворчасці сродкаў спажывання, што сведчыць аб далейшым скарачэнні пакупной здольнасці насельніцтва. Адначасова павышаецца індэкс цэн.

Польскі фашызм вядзе сістэматычнае наступленне на ўзровень жыцця рабочага класа. Адказваючы на пытанне аб матэрыяльным становішчы працоўных, дэпутат сейма Крукоўскі заявіў:

«Я не адмаўляю, што становішча малазямельнага селяніна, які выдаткоўвае штодзень 11 грошаў на сваё харчаванне, трагічна. Але і становішча нізкааплачваемага рабочага і служачага таксама незайздросна. Пастаянная пагоня за грошам, гібенне па некалькі чалавек у пакоі, пагроза беспрацоўя, пастаянная нястача ў адзенні, паліве, кнізе для дзяцей—гэта пастаянны штодзенны клопат чалавека працы».

У студзені 1938 г. індэкс зарплаты ў прамысловасці складаў толькі 66 (1928—100). Тыднёвы заработак рабочага ў Варшаве не перавышае 25—30 злотых. Аднак ён значна ніжэй у правінцыі. На гузікавай фабрыцы пад Варшавай дзяўчыны-работніцы атрымліваюць 5—6 злотых у тыдзень. 43 проц. рабочых зарабляюць менш 20 злотых у тыдзень. Як правіла, зарплата жанчын і моладзі значна ніжэй, чым мужчын. У прыватнасці, зарплата работніцы вугальнай прамысловасці складае толькі 44 проц. заработку мужчыны, а моладзі—21 проц.

Эксплаатацыя дасягае страшэнных памераў. Працягласць рабочага дня даходзіць у паасобных невялікіх прадпрыемствах да 16—18 гадзін. У выніку забастоўкі 1937 г. профсаюзу будаўнічых рабочых удалося дабіцца некаторага павышэння ставак заработнай платы. Гэтыя стаўкі склалі: ад 80 грошаў да 1 зл. 10 грошаў за гадзіну для муляроў, 70—90 грошаў для плотнікаў, 40 грошаў для падручных і т. д. Тым часам, нават гэтыя стаўкі далёка не захоўваюцца на практыцы, у прыватнасці на будаўнічых работах у цэнтральнай прамысловай акрузе.

Асабліва цяжкае становішча сезонных рабочых. Найвышэйшы сярэдні заработак падзённага сельскагаспадарчага рабочага (у веснавым сезоне) складае ў цэнтральных ваяводствах 1 зл. 80 гр., у паўднёвых—1,3 зл., ва ўсходніх—1,5 зл. Вось апісанне невялікага мястэчка на р. Буг, недалёка ад Варшавы, у абрысоўцы настаўніка мясцовай школы (газета «Палонія» ад 8 чэрвеня):

«Насельніцтва наша надзіва вялае, бо ў выніку галечы ўсе апусцілі рукі і чакаюць дапамогі звонку. За 20 год тут нічога не змянілася, а калі і змянілася, то да горшага. Не пабудавана ні адной пядзі дарогі, эксплаатацыя працуючых на даму працвітае. Цяжка працуючы па 12—16 гадзін у дзень, людзі атрым-

ліваюць грашы. Дзяўчына, выпрацоўваючы цэлы дзень гузікі, атрымлівае 17 грошаў, саматужнік-шавец за дзве пары абутку, на якія затрачвае па крайняй меры 12 гадзін, атрымлівае 4 злотых. Адзіным ратункам з'яўляецца сплаў. Усе мужчыны ўжо вясною ідуць з вёскі на сплаў. Яны плывуць з дрэвам Бугам, Віслаю да Гдыні, зарабляючы па 25 злотых у тыдзень. Але гэта сезонная работа, якой недастаткова, каб праіснаваць цяжкую зіму, у дадатак яна заўсёды пакідае сляды ў выглядзе рэўматызма і хваробы суставаў. Гэты вандроўны лад жыцця адбіваецца на становішчы гаспадаркі, якая вядзецца дзецьмі і жанчынамі, адцягваючы апрача таго дзяцей ад вучобы. Таму мы маем шмат непісьменных не толькі сярод дарослых, але і сярод моладзі і дзяцей».

Беспрацоўе набывае пагражаючы характар. Яно расце адначасова з ростам насельніцтва. Як піша газета «Палонія» ад 14 мая:

«З таго часу, як у кастрычніку 1929 г. пачаўся вялікі эканамічны крызіс, насельніцтва нашай краіны павялічылася на 3½ млн. чалавек. Павінны былі-б задыміць сотні новых фабрычных труб, павінна была-б магутна рушыць уперад сельская гаспадарка, каб гэтая маса людзей магла знайсці работу і хлеб, каб яна магла захаваць па крайняй меры той-жа ўзровень жыцця, як і перад 1929 г. Мы ведаем, што гэта не адбылося і што ў выніку гэтага становішча шырокіх мас насельніцтва стала значна горш, чым 10 год таму назад».

Афіцыяльная статыстыка налічвае на 15 мая 351,5 тысячы зарэгістраваных беспрацоўных. Яна прабуе супакоіць грамадскую думку тым, што ў сакавіку-красавіку колькасць беспрацоўных была яшчэ большай і даходзіла да поўмільёна. Аднак ужо ніхто не верыць гэтым фальшывым лічбам. Усім ясна, што колькасць зарэгістраваных у сучасны момант на біржах працы беспрацоўных ні ў якім разе не адлюстроўвае ўсяго малюнка жудаснага беспрацоўя. Яшчэ параўнаўча нядаўна буржуазныя эканамісты зыходзілі з больш рэальнай лічбы ў 1½ мільёна. Тым часам, увесну гэтага года з трыбуны польскага сената была названа яшчэ больш грозная лічба. «Не поўмільёна, а 2½ мільёна гарадскіх беспрацоўных мае Польшча»— заявіў сенатар Альгайер, апракінуўшы дарэмныя спробы статыстычнага кіраўніцтва арудаваць заведама нявернымі данымі. А з верасня, калі заціхне сезоннае ажыўленне на рынку працы, лічба беспрацоўных немінуча стане паднімацца.

Карэспандэнт газеты «Палонія» (ад 20 мая) так апісвае свае ўражанні ад наведвання біржы працы ў Катавіцах:

«У калідорах стаяць худыя людзі, апранутыя ў лахманы або ў элегантныя касцюмы, якія рэзка выдзяляюцца на гэтым фоне. Але памыліўся-б той, хто падумаў-бы, што гэтыя элегантныя людзі працуюць і задаволены жыццём. Не, гэта таксама беспрацоўныя, якія данашваюць апошняе, што засталося ад лепшых часоў плацце і збіваюць апошні абутак у пастаянных пошуках працы і заработку».

Карэспандэнт гутарыць з некалькімі беспрацоўнымі. Галеча, жабрацтва і роспач. Для таго, каб атрымліваць зімой дапамогу па беспрацоўю, трэба прапрацаваць на сезонных работах не менш

104 дзён, але ў лепшым выпадку знаходзіцца работа на 2—3 месяцы, што цягне за сабою страту права на дапамогу. З другога боку, адмаўленне ад работы цягне ў большасці выпадкаў выключэнне са спісаў біржы працы. Вось адна дзяўчына радасна прыціскае да грудзей накіраванне на работу: «Ну вось, нарэшце буду працаваць». Ёй 18 год, але яна ўжо 4 гады беспрацоўная. Яе бацька быў 3 гады беспрацоўным, зараз ён на грамадскіх работах. А ў сям'і—7 чалавек.

«Я ўвесь час чытаю ў газетах,—гаворыць беспрацоўны інтэлігент,—аб палепшанні кан'юнктуры. Аб гэтым гавораць з трыбун дзяржаўныя саноўнікі. Але скажыце мне, дзе гэта палепшанне? Мы, беспрацоўныя, яго не адчуваем ні летам, ні зімой, не гледзячы на тое, што іменна зімой праводзіцца кампанія так званай «зімовай дапамогі»... Нам заўсёды аднолькава—дрэнна. Іншы раз так дрэнна, што чалавек траціць веру ва ўсё і не мае ніякай надзеі дачакацца палепшання становішча».

«Кампанія зімовай дапамогі», пачаўшыся, як і звычайна, з вялікім шумам, не дала вялікіх рэзультатаў. Калі ў 1936-37 г. удалося сабраць каля 34 млн. злотых, то на 1 красавіка 1938 г. сабрана афяраванняў толькі 19 млн. злотых. А гэта значыць, што калі ў мінулым годзе на долю кожнага беспрацоўнага, які карыстаўся гэтай «дапамогай», прыпадала 12 грошаў у дзень, то у 1938 годзе гэта жабрацкая сума стане яшчэ меншай.

Спекулятыўны рост дарагавізны ў гарадах, а ў асаблівасці рост кватэрных цэн, вялікім цяжарам кладзецца на бюджэт рабочай сям'і. Доля квартплаты ў гэтым бюджэце безупынна расце. Вядомы польскі эканаміст Л. Ландау піша, што «доля кватэрнай платы ў бюджэце сям'і ўзрасла з 5 проц. у 1925—29 гг. амаль да 11 проц. у 1933—35 гг.». З'езд муніцыпальных дзеячоў нарысаваў жудасны малюнак жыллёвай патрэбы працоўных. Па паведамленню дэлегатаў з'езда, нярэдкі выпадкі, калі бяздомныя з дзецьмі пасяляюцца ў ачышчаных клаачных ямах, прыкрытых галлём, або проста на звалках.

У артыкуле пад загалоўкам «Гандаль сабачым і казіным мясам» газета «Палонія» ад 15 мая апісвае, як цынічна некаторыя спекулянты ў Дамброўскім вугальным басейне прабуюць скарыстаць галечу і роспач беспрацоўных вуглякопаў, нелегальна рэкламуючы «сабачае таплёнае сала», як сродак ад туберкулёза.

«Масавае спажыванне сабак у Дамброўскім басейне,—піша газета,—пацвярджае таксама паведамленне аб нядаўна раскрытай заканспіраванай сабачай бойні ў Чэлядзі».

Лекавая дапамога недаступна шырокім працоўным масам. 66 проц. або ⅔ усяго насельніцтва не могуць пакрываць кошт лячэння. Гэта вядзе да таго, што вельмі часта не толькі паасобныя сем'і, але і цэлыя сёлы стараюцца скрыць наяўнасць у сваім асяроддзі заразных хворых, асабліва лёгачных і венерычных. Доктар Буяльскі сцвярджае, што толькі 27,5 проц. агульнай колькасці заразных хворых лечыцца ў больніцах. Гэта вядзе да росту смяротнасці і скарачэння нараджаемасці. Газета «Кур'ер варшаўскі» ад 10 лютага піша аб тым, што па сярэдняй працягласці жыцця Польшча стаіць на адным з апошніх месц, паколькі гэта працягласць для Польшчы вельмі невяліка—45,9 года. У той-жа час Польшча займае адно з першых месц па смяротнасці наогул (150,1 чал. на 10 тысяч насельніцтва) і першае месца па смяротнасці ад туберкулёза. Адна-

чаючы значнае скарачэнне натуральнага прыросту насельніцтва, газета «Кур'ер поранны» (ад 8 чэрвеня) піша:

> «У Польшчы трэба ўжо цяпер біць трывогу. Наш натуральны прырост дае зніжэнне, якое набывае пагражаючыя тэмпы. Мінулі часы, калі на 1.000 жыхароў мы мелі штогод 16—18 новых грамадзян. Сёння мы павінны пакуль задавальняцца 11-ю».

Аднак, фактычна натуральны прырост насельніцтва яшчэ менш. Ён скараціўся к 1937 г. да 10,5 на тысячу. Такая сумная рэчаіснасць фашысцкай Польшчы напярэдадні 20-ай гадавіны існавання польскай дзяржавы!

Польскі друк з трывогай адзначае рост самагубстваў сярод польскага працоўнага насельніцтва. Паводле афіцыяльных, далёка не поўных даных, апублікаваных у чэрвені 1938 г., у Польшчы ў 1937 годзе пакончыла самагубствам 2.567 чалавек, а рабіла замах на самагубства 4.367 чалавек. У сярэднім на 100 тысяч жыхароў колькасць самагубстваў складала 7,5 чалавек. Большасць самагубстваў падае на моладзь.

Наступленне фашызма на ўзровень жыцця рабочага класа выклікае велізарны рост стачэчнай хвалі. Стачэчны рух набывае ўсё большы размах. Газета «Палонія» з трывогай паведамляе, што колькасць страчаных у 1937 г. у рэзультаце стачак працадзён (3,3 мільёна) значна перавысіла даныя за 1928 г. (2,7 мільёна).

> «Гэтыя стачкі набываюць значна больш востры характар, чым раней. Стачкі, звязаныя з захватам прадпрыемстваў, «галодныя стачкі», амаль невядомыя ў мінулым, стаяць сёння ў парадку дня».

Колькасць забастовак, якая складала ў 1930 годзе 312 з ахопам 48 тысяч бастуючых, расце з года ў год, дасягнуўшы ў 1937 годзе рэкорднай лічбы—2.074 з ахопам звыш поўмільёна чалавек. Найбольшая колькасць стачак падае ў 1937 г. на тэкстыльную прамысловасць, дзе стачкі ахапілі 1 міл. 10 тысяч чалавек.

Забастовачны рух ахапляе шырокія колы працоўных, якія раней стаялі ў баку ад стачэчнай барацьбы (рамеснікі, работнікі разумовай працы). Даведзеныя да апошняй ступені адчаю і галечы сялянскія масы актыўна ўключаюцца ў барацьбу з польскім фашызмам. Усеагульная сялянская забастоўка ў жніўні 1937 года дала магутны штуршок развіццю сялянскага руху. Яна з'явілася зусім новым відам барацьбы, які сведчыць аб росце арганізаванасці шырокіх сялянскіх мас. Антыфашысцкія сялянскія мітынгі ў чэрвені 1938 года з'яўляюцца паказчыкам далейшага нарастання антыфашысцкага руху ў польскай вёсцы.

Ва ўмовах жудаснай галечы, хранічнага недаядання, масавага беспрацоўя і фашысцкага самавольства сустракаюць польскія працоўныя масы крызіс, які ўжо набліжаецца. Яны ведаюць, што ён нясе ім новыя бядоты, новыя нястаткі, новыя пакуты. Але яны ведаюць таксама аб існаванні вялікай краіны соцыялізма, якая не ведае галечы і беспрацоўя. Гэта натхняе іх на ўпартую барацьбу за звяржэнне ненавіснага ярма фашысцкай дыктатуры—асноўнага віноўніка іх бяспраўя і галечы.

---

А. Свам

# Фашысцкія падпальшчыкі вайны і іх пасобнікі

(Міжнародны агляд)

Нядаўна ўвесь еўрапейскі друк абышло паведамленне аб новых «звышсакрэтных» планах Гітлера і Мусаліні. Гэтыя планы прадугледжваюць нібы наступныя новыя акты агрэсіі: нападзенне Германіі на Чэхаславакію, нападзенне Італіі на Туніс і Егіпет, нападзенне іспанскіх мяцежнікаў сумесна з італа-германскімі інтэрвентамі, якія дзейнічаюць на іспанскай тэрыторыі, на французскае Марока і на пірэнейскую граніцу Францыі. Пашыральнікі гэтых трывожных паведамленняў не шкадавалі дэталяў. Усё па тых-жа «чутках» ужо нібы намечан тэрмін сканчэння падрыхтоўкі Германіі да неадкладнай мабілізацыі—15 ліпеня 1938 г. Указвалася, што нападзенне на Туніс будзе зроблена трыма італьянскімі корпусамі, размешчанымі ў Лівіі, а нападзенне на Егіпет будзе зроблена як з боку Лівіі 22 корпусам італьянскай арміі, так і з боку італьянскай Эрытрэі і Абісініі, дзе сканцэнтравана 200 тыс. італьянскіх салдат.

Самі па сабе гэтыя планы агрэсіі не з'яўляюцца нейкай нечаканасцю. Даўно вядома, што фашысцкая Германія ўжо многа месяцаў рыхтуе нападзенне на Чэхаславакію і што пасля захвату Аўстрыі пагроза нападзення на Чэхаславакію стала зусім рэальным фактам міжнароднай палітыкі. Вядома таксама, што захват французскага Туніса і Марока даўно ўжо фігуруе ў агрэсіўных планах італьянскага фашызма. Італьянскія «правы» на Туніс даўно ўжо прапагандуюцца італьянскімі фашыстамі.

Няма нічога дзіўнага і ў планах захвату Егіпта і англа-егіпецкага Судана. Захват Абісініі разглядаўся італьянскім фашызмам як першае звяно ў ланцугу захватаў, якія павінны прывесці ў канчатковым выніку да аднаўлення старажытна-рымскай Імперыі, наследнікам якой італьянскі фашызм, без усякай на тое падставы, лічыць, вядома, сябе. Не было недахвату з боку фашысцкіх агрэсараў і ў практычных мерапрыемствах па падрыхтоўцы актаў агрэсіі ў гэтых напрамках. Усяму свету вядома падрыўная работа гітлераўскіх агентаў у Чэхаславакіі, паноў Генлейна і К°, якія інструктуюцца з Берліна і чакаюць толькі зручнага моманту, каб адкрыць вароты Чэхаславакіі арміям замежных захватчыкаў. Шырока вядома і падрыўная работа італьянскіх фашыстаў у арабскіх краінах, якая не раз прыводзіла да правакацыйных выступленняў у Егіпце і Тунісе.

Усё-ж сенсацыйныя паведамленні з Берліна, Рыма і Бургоса аб падрыхтоўцы паданых вышэй планаў агрэсіі германа-італьянскага фашызма былі зусім правільна расцэнены ў сусветным друку як новы шантаж, яшчэ больш цынічны, яшчэ больш грубы і больш небяспечны, чым усе шантажныя выступленні фашысцкіх заправілаў, якія адбываліся дагэтуль.

Самы факт шырокага распаўсюджання чутак аб гэтых «звышсакрэтных» планах фашысцкіх агрэсараў гаворыць аб шантажным характары гэтых «планаў», што яскрава пацвярджаецца аналізам суадносін сіл міру і сіл агрэсіі і вайны на сёнешні дзень.

Два факты з галіны знешнепалітычных узаемаадносін, якія мелі месца за апошні час, з асаблівай яркасцю паказваюць знешнюю і ўнутраную слабасць фашысцкіх захватчыкаў.

Першы факт—правал планаў фашысцкіх інтэрвентаў у Іспаніі. Два гады гераічны іспанскі народ адбівае ўсе спробы фашысцкіх мяцежнікаў і германа-італьянскіх інтэрвентаў зламаць яго волю да барацьбы і перамогі. 7 лістапада 1936 года пад Мадрыдам разбілася першая хваля фашысцкага наступлення. З 7 лістапада 1936 г. фашысты не прасунуліся ў гэтым напрамку ні на адзін крок. Гераічная кампартыя Іспаніі аб'яднала вакол сябе ўсе антыфашысцкія сілы іспанскага народа, унесла ў барацьбу народных мас супроць фашызма, за незалежнасць і свабоду Іспаніі жалезную арганізаванасць, дысцыпліну, рэвалюцыйны размах, усведамленне важнасці і адказнасці барацьбы, яе значэнне не толькі для Іспаніі, але і для справы міру. Іспанскі народ здолеў за гэтыя два гады выкаваць магутную армію, загартаваную ў баях, набыўшую шырокі баявы вопыт, жалезную вытрыманасць. Іспанскі народ здолеў нанесці фашысцкім інтэрвентам цяжкія ўдары пад Гвадалахарай, пад Бельчытэ, пад Тэруэлем.

Вясной 1938 г. фашысцкія мяцежнікі і інтэрвенты рашылі, што час канчаць вайну. Германа-італьянскія агрэсары, якім гэтая вайна абыходзіцца ў сотні мільёнаў марак і лір, рашылі, што час, нарэшце, вярнуць затрачаныя сродкі і аслабаніць сабе рукі для новых актаў агрэсіі. У сярэдзіне лютага пачалося даўно рыхтаваўшаеся наступленне мяцежнікаў і інтэрвентаў, спачатку на Тэруэль, потым, у першых лічбах сакавіка, па ўсяму Ўсходняму фронту. Мэта гэтага наступлення заключалася ў тым, каб раздавіць рэспубліканскую армію, авалодаць Каталоніяй і Барселонай, адрэзаць рэспубліканскую Іспанію ад сухаземнай граніцы з Францыяй, выйсці на ўзбярэжжа Міжземнага мора (Левант), узяць Валенсію, адрэзаць Мадрыд і ўнутраныя вобласці ад знешняга свету і зламаць і зніштожыць супраціўленне іспанскага народа.

Гэты план, як вымушаны прызнаць самі падпальшчыкі вайны, поўнасцю праваліўся. Мяцежнікам і інтэрвентам цаной велізарных афяр і затрат грамаднай колькасці тэхнічных сродкаў удалося, праўда, пацясніць рэспубліканскія часці, прарвацца к мору, адрэзаць Каталонію ад Мадрыда, ускладніць становішча рэспубліканскіх байцоў.

Але ім не ўдалося ні ажыццявіць планаў захвату рэспубліканскай тэрыторыі ні, што яшчэ больш важна, разбіць рэспубліканскую армію, ні зламаць волю іспанскага народа да барацьбы і перамогі. З кожным днём, з кожнай гадзінай мацнее супраціўленне арміі рэспублікі націску фашысцкіх банд.

Разгубленасць фашысцкіх агрэсараў перад крушэннем плана «маланкавага скранчэння вайны ў Іспаніі» праяўляецца ў радзе фактаў. Мусаліні, не разлічваючы на ўласныя сілы, імкнецца вымусіць Англію і Францыю дапамагаць яго іспанскай авантуры. Усе сродкі дыпламатычнага ўздзеяння былі ўжыты фашысцкай Італіяй у Лондане і Парыжы, каб закрыць франка-іспанскую граніцу і дабіцца згоды Англіі на тое, каб пакінуць італьянскіх і германскіх «добраводьцаў» на франтах Іспаніі. Да дыпламатычных сродкаў уздзеяння былі далучаны і іншыя—бамбардыроўка англійскіх суднаў паветранымі піратамі, паветраныя налёты на французскую тэрыторыю і т. п. Гэтыя правакацыйныя метады «пераканання» самі па сабе сведчаць аб тым, што фашысцкія агрэсары праяўляюць крайнюю ступень нервовасці, адчуваючы, што ўся іх іспанская авантура, а разам з ёю і больш шырокія планы, вісяць на валаску.

Другой падзеяй, якая сведчыць аб слабасці фашысцкіх агрэсараў, было паражэнне германскага фашызма ў чэхаславацкім пытанні.

22 мая, па агульнаму прызнанню сусветнага друку, еўрапейскі мір вісеў на валаску. Пятнаццаць германскіх дывізій былі сканцэнтраваны на граніцах Чэхаславакіі, гатовыя па першаму сігналу з Берліна ўторгнуцца ў яе межы.

Агрэсія супроць Чэхаславакіі была старанна падрыхтавана. Гітлераўскія агенты ў Чэхаславакіі, т. зв. «судэта-нямецкая» фашысцкая партыя, разгарнулі шалёную падрыхтоўку да захвату краіны германскім фашызмам адразу-ж пасля ператварэння Аўстрыі ў калонію гітлераўскай Германіі. Пад прадлогам «абароны» нямецкага насельніцтва ад чэхаславацкіх «прыцясненняў», гітлераўскія агенты хочуць дабіцца расчлянення Чэхаславакіі, яны патрабуюць прадастаўлення фашысцкай агентуры Гітлера ў Чэхаславакіі адміністратыўных правоў, «збліжэння» Чэхаславакіі з фашысцкай Германіяй, адмовы ад саюзных зносін з Францыяй, разрыву савецка-чэхаславацкага дагавора аб узаемнай дапамозе. Генлейнаўцы разлічвалі скарыстаць выбары ў муніцыпалітэты (мясцовыя самакіраўніцтвы), якія былі назначаны на 22 мая, для правакацыі хваляванняў, з тым, каб запрасіць германскія войскі прысці на дапамогу «зарубежным немцам», якія «праследуюцца» нібы камуністамі.

Захват Чэхаславакіі павінен быў аддаць пад уладу германскага фашызма ўсю цэнтральную Еўропу і Балканы і стварыць моцную эканамічную базу для новых авантур фашысцкіх падпальшчыкаў вайны. Германскія войскі, аднак, не перайшлі чэхаславацкай граніцы ні 22 мая, ні пазней, пры другім (29 мая) і трэцім (12 чэрвеня) туры выбараў.

Чэхаславацкі народ рашуча і смела выступіў на абарону дэмакратыі, незалежнасці і міру. Шырокі народны рух на карысць абароны Чэхаславакіі ад фашысцкіх пасяганняў прымусіў чэхаславацкі ўрад, у якім былі і хістаючыяся і схільныя да згавору з агрэсарамі элементы, прыняць эфектыўныя меры для абароны краіны. Была праведзена мабілізацыя ў армію, войскі былі пасланы на граніцу і ў пагражаемы судэта-нямецкі раён, былі забаронены фашысцкія штурмавыя атрады, арганізаваныя Генлейнам, парадак на выбарах ахоўваўся з усёй неабходнай строгасцю. Рашымасць чэхаславацкага народа і мерапрыемствы ўрада зрабілі моцнае ўражанне нават на англійскіх кансерватараў. Апошнія зразумелі, што нападзенне фашызма на чэхаславацкія граніцы немінуча выкліча вайну, якая выльецца ў агульна-

еўрапейскі канфлікт. Яны зразумелі, што супраціўленне чэхаславацкага народа не дазволіць Гітлеру ажыццявіць захват Чэхаславакіі ў парадку «адбыўшагася факту». Таму англійскія кансерватары былі вымушаны нават зрабіць бяззубую перасцярогу Берліну і ўмаляць фашысцкіх падпальшчыкаў вайны вырашыць чэхаславацкае пытанне «мірнымі сродкамі».

Заява Францыі аб тым, што яна выканае свае абавязацельствы перад саюзнай Чэхаславакіяй у выпадку германскага ўтаржэння і цвёрдая палітыка СССР, гатовага аказаць афяры агрэсіі ўсялякую дапамогу і падтрыманне, ўнеслі поўную яснасць у становішча спраў. Фашысцкая Германія неасцярожна паставіла сябе перад дылемай: напасці на Чэхаславакію, рыскуючы выклікаць еўрапейскі канфлікт і пацярпець у гэтым канфлікце паражэнне, або адступіць, пакуль не позна, прынёсшы ў афяру свой «прэстыж», адступіць, каб пачакаць больш спрыяючага моманту. Фашысцкі разбойнік палічыў лепшым другі шлях. Германскі фашызм адступіў, таму што шантаж не ўдаўся, запалохванні не далі патрэбнага выніку, а сіл на сур'ёзную вайну ён яшчэ не накапіў.

Гэтае адступленне, падкрэсленае бліскучай перамогай дэмакратычных партый на муніцыпальных выбарах у Чэхаславакіі, было правільна зразумета ўсюды, як паражэнне германскага фашызма.

Для ўліку сучаснага этапу расстаноўкі сіл міру і сіл вайны неабходна ўключыць у агляд і становішча япона-кітайскага канфлікта.

Вайна ў Кітаі прадаўжаецца ўжо другі год. Японцам удалося захваціць рад буйных цэнтраў краіны. Але ім не ўдалося разбіць кітайскую армію, якая абараняе незалежнасць краіны, не ўдалося зламаць волі кітайскага народа да перамогі. Больш таго, з кожным новым днём вайны гэтая воля да перамогі мацнее, з кожным днём вайны мацнее кітайская армія, узмацняецца кітайская авіяцыя, якая навучылася ўжо біць японцаў у паветры.

Аб разгубленасці японскай ваеншчыны і страце ёю ўпэўненасці ў шчаслівым выніку вайны гавораць тыя «мірныя» праекты, якія час ад часу, як пробныя шары, паяўляюцца ў інспіруемых японцамі органах друку.

Адзін з такіх праектаў, які прадугледжвае замацаванне Японіі на часткі захвачанай кітайскай тэрыторыі, паявіўся зусім нядаўна. Японцы імкнуцца зацікавіць у сваёй авантуры Англію, Германію і Францыю, прапануюць замацаваць за Англіяй сферу ўплыву ў захвачаным імі Шанхаі, аддаюць Германіі сферу ўплыву ў захвачанай імі Шандуньскай правінцыі, згаджаюцца на замацаванне за Францыяй сферы ўплыву ў Паўднёвым Кітаі, абяцаюць «прызнаць» урад Чан Кай-шы, як адзін з «мясцовых» кітайскіх урадаў. Гэты план выхаду з вайны хоць і з'яўляецца планам бессаромнага раздзелу Кітая, але ён усё-ж вельмі далёкі ад тых планаў безраздзельнага панавання над Кітаем, з якімі японская ваеншчына пачала крывавую авантуру год таму назад.

Знешнепалітычныя паражэнні фашысцкіх агрэсараў: Германіі ў чэхаславацкім пытанні, Японіі ў Кітаі, Германіі і Італіі ў Іспаніі з'яўляюцца вынікам сілы супраціўлення антыфашысцкіх народных мас і вынікам усё ўзрастаючай унутранай слабасці саміх фашысцкіх агрэсараў.

Германія, Італія і Японія перажываюць зараз цяжкія ўнутраныя эканамічныя і палітычныя цяжкасці.

Захват Аўстрыі не ўмацаваў, а аслабіў палітычнае становішча фашысцкай Германіі. Да немцаў, нездаволеных гітлераўскім рэжымам, прыбавілася яшчэ шэсць мільёнаў аўстрыйцаў, якія разглядаюць фашысцкіх каланізатараў як насільнікаў і занявольвальнікаў. Расце нездаволенне рэжымам і ўнутры самой Германіі, растуць супярэчнасці ў кіруючай верхавінцы, супярэчнасці паміж верхавічкай арміі і гітлераўскім кіраўніцтвам. Ваенныя колы Германіі, якія больш цвяроза адносяцца да сапраўднасці, разумеюць, што фашысцкія знешнепалітычныя авантуры і рэжым «гармат замест масла» паставілі Германію перад тварам немінучага паражэння ў любой, колькі-небудзь сур'ёзнай вайне.

Фашысцкая Італія перажывае таксама зусім выключныя цяжкасці ў сувязі з эканамічнай палітыкай Мусаліні, які імкнецца стварыць унутры гэтай беднай сыравіннымі, харчовымі і паліўнымі рэсурсамі краіны сістэму самазадавальняючай гаспадаркі, незалежнай ад замежнага гандлю. Праваліўся фашысцкі «паход за хлебам». У бягучым годзе Італія зноў будзе вымушана або ўвозіць дзесяткі мільёнаў тон хлеба або яшчэ больш скараціць існуючыя галодныя нормы спажывання, якія і без таго ўпалі ў такіх цэнтрах як Мілан больш чым на 50 працантаў. Італьянская прамысловасць не мае вугалю, жалеза, бавоўны, нафты, каляровых металаў; італьянскі спажывец не мае тлушчаў, хлеба, яек—усё гэта ў велізарных колькасцях трэба ўвозіць з-за граніцы, а грошай няма. Італьянскі дзяржаўны ўнутраны доўг перавысіў 200 млрд. лір. Бюджэтны дэфіцыт за апошнія чатыры гады склаў 45 млрд. лір. Пры такім «бліскучым» эканамічным становішчы цяжка разлічваць на знешнепалітычныя поспехі. Акрамя таго, усё часцей паяўляюцца сімптомы адкрытага нездаволення насельніцтва палітыкай фашыстаў, якое выліваецца ў забастоўкі, маніфестацыі, вулічныя выступленні.

Не ў лепшым становішчы і Японія, якая вымушана трымаць у Кітаі мільённую армію, снабжаць і карміць гэтую армію з мізэрных рэсурсаў паражонай крызісам японскай гаспадаркі.

Не дзіўна, што фашысцкія агрэсары ўсё часцей у сваіх знешнепалітычных выступленнях ужываюць метад шантажу і запалохвання. Новы шантажысцкі план, які быў падан у пачатку гэтага артыкула, з'яўляецца вынікам гэтай унутранай слабасці. На жаль прыходзіцца адзначыць, што сродак запалохвання і шантажу, не гледзячы на яго грубую прымітыўнасць, не гледзячы на тое, што ён, здавалася-б, павінен быў даўно ўжо стаць нікчэмным і выклікаць толькі агіду да шантажыстаў, усё яшчэ з'яўляецца дзейным сродкам у арсенале падпальшчыкаў вайны.

Гэта мае месца таму, што ў фашысцкіх агрэсараў ёсць у буржуазна-дэмакратычных краінах прыяцелі і пасобнікі. Англійскія кансерватары, французскія рэакцыянеры, чэхаславацкія правыя аграрыі і т. д. і т. п.—з'яўляюцца прамымі і ўскоснымі віноўнікамі таго, што фашысцкі шантаж меў і мае яшчэ крэдыт у Еўропе. Шантажысцкія пагрозы міру з боку падпальшчыкаў вайны падхапляюцца іх пасобнікамі ў іншых краінах для таго, каб запалохаць жахамі немінучай вайны хістаючыяся элементы і патрабаваць новых уступак агрэсарам для «выратавання міру».

Можна, не пераўвялічваючы, сказаць, што ўсе ранейшыя акты агрэсіі, учыненыя падпальшчыкамі вайны, і нападзенне Японіі на

Кітай, і захват Абісініі, і інтэрвенцыя ў Іспаніі, і захват Аўстрыі былі магчымы і сышлі беспакарана фашысцкім агрэсарам толькі таму, што іх рэакцыйныя пасобнікі ў іншых краінах зрабілі ўсё, што ад іх залежала, каб аслабіць супраціўленне агрэсарам і аблегчыць іх захватніцкія дзеянні. Шантажыруючы сусветную грамадскую думку пагрозай агульнай вайны, фашысцкія агрэсары дабіваліся аслаблення супраціўлення на тым участку, які быў намечан як чарговы аб'ект агрэсіі.

Новы шантажысцкі «план» нападзення на Францыю і на Англію ў Марока, Тунісе і Егіпце, нападзення на Чэхаславакію ў цэнтральнай Еўропе разлічан таксама на тое, каб прымусіць англійскіх кансерватараў і французскіх палітыкаў, якія ідуць на поваду ў іх, пайсці на новыя ўступкі германа-італьянскім агрэсарам і перш за ўсё ў іспанскім, а затым і ў чэхаславацкім пытаннях. Фашысцкія агрэсары імкнуцца цяпер да пагаднення з Англіяй і Францыяй за кошт Іспаніі і Чэхаславакіі і шантажыруюць Англію і Францыю, каб дабіцца іх дапамогі ў справе падаўлення супраціўлення іспанскага і чэхаславацкага народа. Англійскія кансерватары з Чэмберленам на чале ахвотна паддаюцца гэтаму шантажу, разлічваючы, што задавальненне агрэсараў у гэтых пытаннях аблегчыць пагадненне з імі на базе «павагі» да правоў Англіі ў іншых пытаннях, у прыватнасці аслабіць германскія патрабаванні аб перадзеле калоній. У гэтым духу ў красавіку 1938 г. было заключана англа-італьянскае пагадненне.

Шырокія колы грамадскай думкі разумеюць, аднак, што шлях згавору з агрэсарамі—згубны шлях. Усё больш і больш чуваць галасы нават буржуазных дзеячоў, якія лічаць, што час пакласці канец усялякім шантажным спробам агрэсараў.

Гераічнае супраціўленне іспанскага і кітайскага народаў і правал гітлераўскай авантуры ў Чэхаславакіі натхняюць на барацьбу з агрэсіяй самыя шырокія масы, якія ясна бачаць, што агрэсар сільны і наглы толькі там, дзе яго баяцца. Усё перадавое прагрэсіўнае чалавецтва бачыць і ведае, што сілы міру сільней падпальшчыкаў вайны, што мір мае непахісны аплот у асобе краіны соцыялізма—СССР, які стаіць на варце інтарэсаў усяго прагрэсіўнага чалавецтва, цвёрда і паслядоўна змагаецца супроць фашызма, рэакцыі і вайны.

Ведаюць гэта і фашысцкія агрэсары і іх пасобнікі. «Яны ведаюць,—сказаў т. Літвінаў на сходзе выбаршчыкаў у Ленінградзе ад 27 лістапада 1937 г.,—што абароназдольнасць Совецкага Саюза не залежыць ад міжнародных камбінацый, а грунтуецца на неаслабяваючай, растучай магутнасці Чырвонай Арміі, Чырвонага Флота і Чырвонай Авіяцыі. Яны ведаюць, што наш правадыр таварыш Сталін у сваіх шматлікіх клопатах аб правільным функцыяніраванні ўсяго дзяржаўнага механізма найбольшую ўвагу ўдзяляе пытанням абароны, пытанням аховы той любой пядзі нашай зямлі, якую ніхто не павінен і не можа ў нас адабраць» *).

Барацьба Совецкага Саюза за мір, супроць усялякіх відаў агрэсіі, за калектыўную безапаснасць народаў ставіць яго на чале ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва. Ніякі шантаж не страшны гэтаму магутнаму саюзу краіны соцыялізма з антыфашысцкімі народнымі масамі. Калі страціўшыя галаву шантажысты паспрабуюць кінуць свет у новую крывавую ўсеагульную вайну—разгром іх будзе быстрым і канчатковым.

*) М. Літвінаў. „Супроць агрэсіі", стар. 57—58.

Ем. Яраслаўскі

# Трыццаціпяцігоддзе другога з'езда партыі

Другі з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (Брусель—Лондан, 30 ліпеня—23 жніўня 1903 года) займае выключна вялікае месца ў гісторыі арганізаванага рабочага руху, у гісторыі рускай рэвалюцыі. На II з'ездзе ўтварылася Расійская сацыял-дэмакратычная партыя. У гэты перыяд склалася вакол Леніна тая выдатная група рэвалюцыйных марксістаў, якая ўвайшла ў гісторыю сацыялізма пад назвай большэвікоў. Гэты факт азнаменаваў сабой важнейшую дату ў гісторыі комуністычнай партыі, у гісторыі міжнароднага рэвалюцыйнага руху.

II з'езд партыі адбываўся ў абстаноўцы пералому ў развіцці міжнароднага рабочага руху ў выніку пераходу капіталізма ў яго апошнюю стадыю—імперыялізм,—у абстаноўцы нарастання рэвалюцыйнага руху ў Расіі і ператварэння рускага рабочага руху ў авангард міжнароднага рэвалюцыйнага пралетарыята.

Рабочы рух к пачатку XX стагоддзя ўзнімаецца на вышэйшую ступень. 1 мая 1900 года 10 тысяч рабочых Харкава вышлі на дэманстрацыю з рэвалюцыйнымі лозунгамі «8-гадзінны рабочы дзень і палітычная свабода». У 1901 годзе ў Закаўказзі некалькі тысяч тыфліскіх рабочых пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна па-баявому адзначылі першамайскае свята. У 1901 годзе першамайская стачка рабочых Обухоўскага завода ў Пецербургу ператварылася ва ўзброеную сутычку з паліцыяй і жандармамі. 1901—1902 гады адзначаны ростам палітычных дэманстрацый у краіне.

Палітычныя выступленні рабочага класа аказалі ўплыў на рэвалюцыйны рух сялянства. У еўрапейскай Расіі ў 1902 годзе было 340 сялянскіх выступленняў супроць памешчыкаў і царскай улады. Значнае ажыўленне наступіла сярод апазіцыйных элементаў краіны—рэвалюцыйныя выступленні студэнцтва, земскіх дзеячоў і т. п.

Трэба было адстаяць і замацаваць самастойнасць рабочага руху. Гэта магла зрабіць толькі баявая рэвалюцыйная партыя рабочага класа. Але ў рабочага класа к пачатку XX стагоддзя не было яшчэ партыі з адзінай праграмай, з яснымі прынцыпамі.

11 лютага 1900 года канчаўся тэрмін сібірскай ссылкі Леніна. Калі ён пакідаў ссылку, у яго быў распрацован канкрэтны план барацьбы за стварэнне пролетарскай партыі на непахісных асновах рэвалюцыйнага марксізма. Важнейшым сродкам для дасягнення гэтай мэты Ленін лічыў арганізацыю агульнарускай палітычнай газеты. Ленін пачаў упартую работу над стварэннем такой газеты.

У снежні 1900 года вышаў першы нумар «Искры». Аднachасова з ёй выходзіў таксама журнал «Заря».

Ленін быў арганізатарам, тварцом, душой «Искры». Ленін вёў перапіску «Искры» з мясцовымі арганізацыямі ў Расіі. Няма ні аднаго пытання праграмы, стратэгіі, тактыкі і арганізацыі партыі рабочага класа, на якое Ленін не даў-бы адказу ў сваіх шматлікіх артыкулах у «Искре» і «Заре», у выдатнай кнізе «Што рабіць?» і ў іншых сваіх работах іскраўскага перыяду.

* * *

Ленінская «Искра» ставіла сваёй задачай стварыць партыю рабочага класа. Для гэтага падрыхтоўваўся ІІ з'езд РСДРП. Але для таго, каб з'езд быў склікан, трэба было разграміць апартуністаў, стварыць рэвалюцыйныя соцыял-дэмакратычныя арганізацыі на месцах, у Расіі, выкаваць ідэйнае і арганізацыйнае адзінства соцыял-дэмакратыі.

Вось чаму Ленін у «Искре» паставіў першачарговую задачу:

> «Перш, чым аб'ядноўвацца, і для таго, каб аб'яднацца, мы павінны спачатку рашуча і выразна размежавацца» *).

Трэба было раней за ўсё размежавацца з эканамізмам, гэтай рускай рознавіднасцю міжнароднага апартунізма. У 1899 годзе нямецкі апартуніст Бернштэйн выпусціў сваю кнігу «Прадпасылкі соцыялізма», у якой абвясціў вайну рэволюцыйнаму марксізму. К гэтаму-ж часу французскі соцыяліст Мільеран увайшоў у буржуазны ўрад Францыі, які расстрэльваў рабочых-стачачнікаў. Ленінская «Искра» высока ўзняла сцяг барацьбы супроць міжнароднага апартунізма, за рэволюцыйны марксізм.

Ведучы барацьбу за чыстату марксісцкай тэорыі, выкрываючы рэвізіяністаў і іх рускую рознавіднасць—эканамістаў,—Ленін вучыў:

> «Без рэволюцыйнай тэорыі не можа быць і рэволюцыйнага руху», **«... ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй»** **).

Ленін даказваў, што для расійскай соцыял-дэмакратыі значэнне тэорыі ўзмацняецца трыма акалічнасцямі: па-першае, тым, што соцыял-дэмакратычная партыя ў Расіі толькі складваецца і не закончыла сваіх рахункаў з апартуністамі, якія хочуць звесці партыю з рэволюцыйнага шляху; па-другое, тым, што соцыял-дэмакратычны рух міжнародны па сваёй сутнасці і таму складваючайся партыі трэба весці барацьбу не толькі з нацыянальным, але і з міжнародным апартунізмам; па-трэцяе, тым, што нацыянальныя задачы рускай соцыял-дэмакратыі такія, якія не стаялі ні перад адной соцыялістычнай партыяй у свеце.

Эканамісты прыніжалі палітычныя задачы соцыял-дэмакратыі. Яны прапаведвалі трэд-юніянісцкую, буржуазную палітыку, абмяжоўвалі задачы рабочага класа выклянчваннем уступак у пануючых класаў.

Ленін выхоўваў у рабочым класе правадыра народнай рэволюцыі, выхоўваў у асобе соцыял-дэмакрата не сакратара трэд-юніёна, а народнага трыбуна, умеючага адгукацца на ўсе выпадкі самавольства і гнёту, да якіх-бы класаў ці слаёў насельніцтва гэта ні адносілася.

Прыніжэнне палітычных задач пролетарыята ў эканамістаў было цесна звязана з прыніжэннем арганізацыйных задач соцыял-дэмакра-

*) **В. І. Ленін.** Зб. Твораў, т. IV, стар. 39—40.
**) **Там-жа,** стар. 380.

тыі. Эканамісты абаранялі, узводзілі ў прынцып саматужніцтва, раздробленасць, месніцтва. Ленінская «Искра» ставіла сваёй задачай стварыць баявую цэнтралізаваную партыю, канспіратыўную партыйную арганізацыю, якая складалася-б з прафесіянальных рэволюцыянераў, якая магла-б аб'яднаць і ўзначаліць барацьбу рабочага класа і ўсіх яго арганізацый. «Дайце нам,—пісаў Ленін,—арганізацыю рэволюцыянераў—і мы перавернем Расію!» *).

Велізарнае значэнне ў стварэнні партыі новага тыпу, здольнай весці масы ў бой супроць царызма, супроць памешчыкаў і капіталістаў, мелі кніга Леніна «Што рабіць?» і вышаўшая крыху пазней у Закаўказзі брашура таварыша Сталіна «Мімаходзь аб партыйных рознагалоссях», якая пераклікалася з гэтай кнігай. Абедзве гэтыя работы асновапаложнікаў большэвізма значна садзейнічалі ліквідацыі «перыяду разброду, распадзення, хістання», які Ленін называў таксама **атрочаскім перыядам.** У агні барацьбы выпяваў рабочы рух, выхоўваўся передавы слой рэволюцыйных рабочых, важакоў мас, пролетарскіх прафесіянальных рэволюцыянераў.

Прафесіянальны рэволюцыянер—гэта той, хто ўсё жыццё аддае справе рэволюцыі, хто робіць рэволюцыю сваёй прафесіяй. Правадырамі прафесіянальных рэволюцыянераў з'яўляліся Ленін і Сталін. Віднейшымі прафесіянальнымі рэволюцыянерамі былі будаўнікі нашай партыі, саратнікі Леніна і Сталіна: Я. М. Свердлоў, Інакенцій Дубровінскі, Віктар Курнатоўскі, Владзімір Кецхавелі, Александр Цулукідзе, С. М. Кіраў, В. В. Куйбышэў, Ф. Э. Дзержынскі, Іван Бабушкін—і шмат іншых адважных барацьбітоў за справу партыі, за справу комунізма.

Ствараючы партыю новага тыпу, касцяком якой з'яўляліся прафесіянальныя рэволюцыянеры, Ленін пісаў, што новы, надыходзячы перыяд прывядзе «да ўмацавання ваяўнічага марксізма...», што ««на змену» ар'ергарда апартуністаў выступіць сапраўдны перадавы атрад самага рэволюцыйнага класа» **).

Ленін у «Искре» і ў кнізе «Што рабіць?» ідэйна разбіў ушчэнт эканамістаў. Таварыш Сталін пазней указваў:

> «Барацьба старой «Искры» і бліскучая крытыка тэорыі «хвасцізма», даная ў брашуры Леніна «Што рабіць?», не толькі разбілі так званы «эканамізм», але стварылі яшчэ тэарэтычныя асновы сапраўды рэволюцыйнага руху рускага рабочага класа» ***).

Побач з нарастаннем сапраўды рэволюцыйнага масавага руху рабочых і сялян пачалося ажыўленне сярод народніцкай інтэлігенцыі і прывяло да ажыўлення пацярпеўшага палітычны крах тэрарызма. У 1901 годзе з розных асколкаў разбітых народніцкіх груп утвараецца дробнабуржуазная партыя соцыялістаў-рэволюцыянераў.

Тым больш небяспечны былі ў гэты момант спробы дзе-ні-дзе—у Саратаве і на Урале—стварэння аб'яднаных арганізацый соцыял-дэмакратаў і соцыялістаў-рэволюцыянераў. Адным з праваднікоў такога беспрынцыпнага аб'яднання ў Саратаве быў Рыкаў, які пазней стаў арганізатарам контррэволюцыйнага правага ўхілу ў партыі, а ў пе-

*) **В. І. Ленін.** Зб. Твораў, т. IV, стар. 458.
**) **Там-жа,** стар. 501.
***) **І. В. Сталін.** „Пытанні Ленінізма", стар. 14, выд. 10-е.

рыяд разгорнутага соцыялістычнага наступлення—ворагам народа, прадажным агентам фашызма.

Ленін накіроўвае ўсю вастрыню сваёй крытыкі супроць эсэраўскага тэрарызма, які з'яўляецца выражэннем жалкай і палітычна шкоднай тэорыі народнікаў аб «героях», якія робяць гісторыю, і аб «натоўпу», які пасіўна ўдзельнічае ў рэволюцыі.

Ленін паказаў у артыкулах «Рэволюцыйны авантурызм», «Чаму соцыял-дэмакратыя павінна абвясціць рашучую і бязлітасную вайну соцыялістам-рэволюцыянерам?» і ў іншых артыкулах, змешчаных у «Искре», што эсэры—авантурысты, дробнабуржуазная інтэлігенцкая фракцыя буржуазнай дэмакратыі, якая злучае старадзедаўскае народніцтва з рэвізіянізмам.

Ва ўпартай барацьбе з ворагамі рэволюцыйнага марксізма ствараліся іскраўскія арганізацыі на месцах. Моцная ленінска-іскраўская арганізацыя склалася ў Закаўказзі, асновапаложнікам якой быў таварыш Сталін. Саратнікамі таварыша Сталіна з'яўляліся М. Цхакая, В. Курнатоўскі, В. Кецхавелі, А. Цулукідзе. 11 лістапада 1901 года на партыйнай канферэнцыі ствараецца Тыфліскі ленінска-іскраўскі камітэт на чале з таварышом Сталіным. 31 снежня гэтага-ж года па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна афармляецца Батумская соцыял-дэмакратычная арганізацыя, ствараецца Батумскі ленінска-іскраўскі камітэт.

У 1901 годзе В. Кецхавелі пры дапамозе таварыша Сталіна арганізоўвае ў Баку падпольную друкарню. У гэтай друкарні ў верасні 1901 года вышаў першы нумар газеты «Брдзола» («Барацьба»)—орган Тыфліскай ленінска-іскраўскай арганізацыі.

У выніку работы іскраўцаў у Расіі да «Искры» далучыліся Маскоўскі, Ніжагародскі, Тверскі, затым Пецербургскі і іншыя камітэты. «Искра», яе арганізацыйны план атрымалі вялікую перамогу. Як указвае таварыш Сталін, «перамога гэтага плана заклала фундамент той згуртаванай і загартаванай комуністычнай партыі, роўнай якой не ведае свет» *).

* * *

Ужо летам 1901 года паміж Леніным і іншымі членамі рэдакцыі «Искры» выявіліся сур'ёзныя рознагалоссі па пытанню аб адносінах да ліберальнай буржуазіі. Ленін выкрываў нізкапаклонства перад царызмам былога легальнага марксіста—стаўшага лібералам П. Струве, рэдактара буржуазнага органа «Освобождение». Струве высунуў рэфармісцкі лозунг «Права і ўладнае земства!» і проціпаставіў яго рэволюцыйнаму лозунгу «Далоў самадзяржаўе!». Ленін напісаў супроць Струве артыкул «Ганіцелі земства і Анібалы лібералізма», у якім выкрыў трусасць і друзласць рускага лібералізма.

Плеханаў і Аксельрод выступілі супроць артыкула Леніна, раячы яму гладзіць лібералa па шэрсці, а не супроць шэрсці. У гэтых спрэчках ляжаць карэнні будучых двух тактык: большэвіцкай і меншавіцкай—у адносінах да ліберальнай буржуазіі.

У студзені 1902 года ў рэдакцыі «Искры» пачаліся буйныя рознагалоссі па праграмных пытаннях.

Работа Леніна над праграмай партыі пачалася з сярэдзіны 90-х гадоў. Праект праграмы быў складзен Леніным яшчэ ў турме, у Доме

*) **І. В. Сталін.** „Аб Леніне“, стар. 5. Палітвыдавецтва. 1933 г.

папярэдняга зняволення, у Пецербургу. Калі ў рэдакцыі «Искры» пачалося абмеркаванне праграмы, большасць рэдакцыі, якая складалася з удзельнікаў плеханаўскай групы «Вызваленне працы», падтрымала Плеханава, і ў аснову абмеркавання быў пакладзен праект праграмы, **складзены ім у канцы** 1901 года. Плеханаў прыгразіў расколам, калі ў аснову будзе пакладзен праект праграмы, прадстаўлены ў пачатку 1902 года Леніным. Усе пробы ўзгадніць абодва праекты натыкаліся на супраціўленне самаўлюбёнага Плеханава.

Ленін бачыў велізарныя, прынцыповыя недахопы плеханаўскага праекту праграмы партыі. Ён разумеў усю неадпаведнасць «акадэмічнага» плеханаўскага праекту праграмы духу рэволюцыйнага вучэння Маркса і ўмовам барацьбы рускага рэволюцыйнага рабочага класа. Ён проціпастаўляў праекту праграмы Плеханава свой праект. Яго крытыка плеханаўскага праекту праграмы па сіле і значэнню можа быць прыроўнена хіба толькі да крытыкі Гоцкай праграмы германскай соцыял-дэмакратыі 1875 года, данай Марксам і Энгельсам.

Каб ацаніць значэнне плеханаўскіх памылак, дастаткова напомніць, што ў другім праекце праграмы нічога. не было сказана аб такім важнейшым патрабаванні марксізма, як **дыктатура пролетарыята.** Ленін настояў на ўключэнні гэтага асноўнага праграмнага патрабавання рэволюцыйнага марксізма.

> «Прызнанне неабходнасці **дыктатуры** пролетарыята,—пісаў Ленін,—**самым цесным і неразрыўным чынам** звязана з палажэннем Комуністычнага Маніфеста, што пролетарыят **адзін толькі** ёсць сапраўды рэволюцыйны клас» *).

У водзыве на другі праект Плеханава Владзімір Ільіч сумірваў свае тэарэтычныя і палітычныя пярэчанні, звёўшы іх да чатырох прынцыповых пунктаў. Гэтыя ленінскія пярэчанні найбольш ярка і поўна раскрылі меншавіцкую сутнасць памылковых поглядаў Плеханава і паказалі, што справа не ў асобных памылках, а ў сістэме поглядаў, якія ўсё больш пачынаюць выяўляць яго апартуністычнае нутро.

Барацьба Леніна супроць буйнейшых тэарэтычных і тактычных меншавіцкіх памылак, награмоджаных ў праекце праграмы Плеханава, прывяла да таго, што праграма была значна палепшана, не гледзячы на супраціўленне членаў рэдакцыі «Искры», якія падтрымлівалі Плеханава і **«не жадалі** яго **пакрыўдзіць».** Рад паправак, аснаваных на прынцыповых пярэчаннях Леніна, быў прынят і ўвайшоў у так званы камісійны праект.

Зусім ясны прынцыповы характар спрэчкі аб праграме Леніна і Плеханава. Погляды Леніна з'яўляюцца прынцыповай, тэарэтычнай, праграмай і тактычнай асновай большэвізма, які прадстаўляе сабой далейшае развіццё рэволюцыйных поглядаў Маркса. Плеханаўская сістэма поглядаў на праграму змяшчала ў зародку выходныя праграмна-тактычныя погляды рускага меншавізма.

Аўтарам аграрнай праграмы, запрапанаванай II з'езду, быў Ленін. Асноўнае патрабаванне, якое высунуў у аграрнай праграме Ленін, было патрабаванне звароту сялянам адрэзкаў, якія служылі сродкам закабалення памешчыкамі сялян і захавання рэштак прыгонніцтва. Іменна ў мэтах знішчэння рэштак прыгонніцтва і свабоднага раз-

*) **В. І. Ленін,** Зб. Твораў, т. V, стар. 29.

віцця класавай барацьбы ў вёсцы партыя павінна была настойваць на звароце сялянам адрэзкаў.

Але зварот адрэзкаў сялянам Ленін уяўляў сабе толькі як пераходную меру, як дзверы: у гэтыя дзверы перш за ўсё трэба **ўвайсці для таго, каб ісці далей,** для таго, каб па адкрытай, па шырокай дарозе ісці **да самага канца,** да поўнага вызвалення ўсяго працоўнага рабочага народа ў Расіі.

Ленін, пры пэўных умовах, пры далейшым развіцці рэвалюцыі, лічыў магчымым выдзеліць патрабаванне канфіскацыі ўсёй памешчыцкай зямлі і нацыяналізацыі яе.

Супроць прапановы Леніна выступілі яшчэ ў рэдакцыі «Искры» Плеханаў, Аксельрод і Мартаў, якія лічылі недапушчальным выстаўленне патрабавання нацыяналізацыі зямлі ў буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. І тут намеціліся зноў-такі розныя адносіны Леніна і астатніх членаў рэдакцыі да аднаго з важнейшых пытанняў рэвалюцыі—аб адносінах да сялянства. Ленін ужо тады, напярэдадні першай рэвалюцыі, лічыў сапраўднай праграмай рабочай партыі **патрабаванне нацыяналізацыі** зямлі. Ён лічыў адрэзкі толькі **першым крокам** на шляху да нацыяналізацыі.

Спрэчкі ішлі таксама і па пытанню аб выкупе зямлі. Ленін лічыў неабходным высунуць патрабаванне канфіскацыі, г. зн. бязадплатнага звароту сялянам адрэзкаў. Плеханаў-жа адстойваў **выкуп** часткі адрэзкаў.

Такім чынам, **па важнейшых** праграмных пытаннях: **аб дыктатуры пролетарыята, аб характарыстыцы капіталізма, аб узаемаадносінах рабочага класа і сялянства, аб адносінах да лібералаў, па аграрнаму пытанню—у рэдакцыі «Искры» існавалі глыбокія рознагалоссі.** І барацьба Леніна за большэвіцкую пастаноўку гэтых пытанняў у праграме партыі мела велізарнае, прынцыповае значэнне. Ленін вымушан быў па ўсіх гэтых пытаннях весці барацьбу з **усімі членамі рэдакцыі «Искры»,** зрэдку толькі падтрымліваемы тым ці іншым з іх па асобных фармуліроўках.

У рэдакцыі «Искры» ўдалося дасягнуць прыняцця адной праграмы, якая была запрапанавана II з'езду партыі. Аднак гэта ніяк не можа затушаваць таго факту, што ў рэдакцыі «Искры» змагаліся дзве лініі: ленінская, большэвіцкая, і плеханаўская, меншавіцкая.

З усяго гэтага відаць, што яшчэ да ІІ з'езда Леніным была выканана велізарная работа па выпрацоўцы праграмы партыі рэвалюцыйнага марксізма.

* * *

II з'езд партыі адкрыўся ў Бруселі 30 ліпеня 1903 года. Напярэдадні з'езда Ленін распрацаваў падрабязную «праграму ІІ чарговага з'езда». Іскраўская праграма, тактыка і арганізацыйны план павінны былі быць пакладзены ў аснову работ гэтага з'езда.

Запрапанаваная рэдакцыяй «Искры» праграма партыі, выпрацаваная ў выніку вялікай дыскусіі і прыняцця ленінскіх паправак, была лепшая з праграм міжнароднай соцыял-дэмакратыі. У ёй было ясна сказана, што Расійская соцыял-дэмакратычная рабочая партыя ставіць сваёй задачай соцыяльную рэвалюцыю і што «неабходную ўмову гэтай соцыяльнай рэвалюцыі складае **дыктатура пролетарыята,** г. зн., заваяванне пролетарыятам такой палітычнай улады, якая дазволіць яму падавіць усякае супраціўленне эксплаататараў» *).

*) **В. І. Ленін.** Зб. Твораў, т. V, стар, 381.

Перад заваяваннем дыктатуры пролетарыята павінна адбыцца барацьба за звяржэнне царскага самадзяржаўя, перамога буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. «Цвёрдыя» іскраўцы і тады, на II з'ездзе, разглядалі ажыццяўленне дэмакратычных задач як сродак, які аблягчае далейшую барацьбу за соцыялістычную рэволюцыю, дыктатуру пролетарыята.

Адзін з рэдактароў органа эканамістаў «Рабочее дело», адкравенны апартуніст Акімаў, патрабаваў убраць з праграмы асноўнае патрабаванне дыктатуры пролетарыята. Ленінцы аднадушна далі рэзкі адпор гэтаму бернштэйніянцу.

Троцкі салідарызаваўся з Акімавым. Гэты мацёры фашысцкі обербандыт ужо ў 1903 годзе быў ворагам дыктатуры пролетарыята.

Апартуністы, якія выступалі на з'ездзе, бралі пад абстрэл таксама і аграрную праграму. Мартынаў запрапанаваў адмовіцца ад праграмы звароту адрэзкаў, бо «нельга выпраўляць гістарычную несправядлівасць». Прадстаўнік «балота» Махаў заявіў, што калі ў рэволюцыі ўдзельнічае сялянства, «то гэта будзе ўжо не рэволюцыя, а рэакцыя».

Усе апартуністы былі супроць кіраўніцтва пролетарыята сялянскім рухам, таму што былі супроць гегемоніі пролетарыята ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, супроць дыктатуры пролетарыята.

Велізарнае, прынцыповае, гістарычнае значэнне мелі спрэчкі па **нацыянальнаму пытанню** на II з'ездзе. У значнай ступені яны былі правобразам той барацьбы на два фронты, якая адбывалася на ўсім працягу гісторыі большэвіцкай партыі, як да соцыялістычнай рэволюцыі, так і ў перыяд пролетарскай дыктатуры, хоць канкрэтны змест гэтай барацьбы і мяняўся. Прадстаўнікі польскай соцыялдэмакратыі адмаўлялі неабходнасць развіцця соцыялістычнай культуры кожнага народа ў формах, блізкіх яго нацыянальным рысам (нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу). Польскія ўхілісты даказвалі, што права нацый на самавызначэнне—буржуазнае патрабаванне і што яно ідзе супроць адзінства пролетарыята ўсіх краін.

Ленін і Сталін, большэвікі, заўсёды адстойвалі права нацый на самавызначэнне, як прынцыповае патрабаванне, на аснове якога пролетарыят прыцягвае на свой бок шырокія масы працоўных прыгнечаных нацыянальнасцей.

У 1917 годзе на красавіцкай канферэнцыі Ленін зноў сутыкнуўся з небяспечнейшымі для рэволюцыі люксембургіянскімі памылкамі, якія ў той час абараняліся цяпер выкрытымі подлымі агентамі фашызма Бухарыным, Радэкам, Пятаковым.

Бундаўцы прэтэндавалі на права быць адзінымі прадстаўнікамі яўрэйскага пролетарыята па ўсёй Расіі. Бундаўцы падмянялі пролетарскую нацыянальную палітыку палітыкай буржуазнай, якая мела на мэце адасобіць працоўных адной нацыянальнасці ад другой там, дзе неабходны сумесныя, арганізаваныя дзеянні. Іменна бундаўцы (а на Каўказе іх аднамыснікі—армянскія «спецыфікі») абаранялі арганізацыю профсаюзаў па нацыянальнасцях. Бундаўцы прапанавалі пабудаваць партыйную арганізацыю па прынцыпу федэрацыі.

Робячы агляд усяго шляху барацьбы з рознымі ўхіламі і скажэннямі ў нацыянальным пытанні аж да барацьбы супроць выкрытых і

цяпер разгромленых буржуазных нацыяналістаў, якія ўцёрліся ў рады ВКП(б), мы бачым велізарнае гістарычнае значэнне тых спрэчак, што разгарнуліся па нацыянальнаму пытанню 35 год назад, на II з'ездзе РСДРП.

Тактычныя рэзалюцыі II з'езда, асабліва па пытанню аб адносінах да эсэраў і лібералаў, і рознагалоссі па гэтаму пытанню ўжо тады выявілі зусім розную ацэнку большэвікамі і меншавікамі ролі розных класаў у рэвалюцыі.

II з'езд пацвердзіў ленінскую ацэнку партыі эсэраў як дробнабуржуазных авантурыстаў, як левую фракцыю буржуазнай дэмакратыі, здольную служыць толькі ліберальнай буржуазіі. Метад індывідуальнага тэрору і рэвалюцыйныя фразы, якімі эсэры прыкрывалі сваю буржуазную сутнасць, рабілі гэтую партыю «шкоднай не толькі для палітычнага развіцця пралетарыята, але і для агульнадэмакратычнай барацьбы супроць абсалютызма» *).

Па пытанню аб адносінах да лібералаў былі запрапанаваны дзве рэзалюцыі. У той час як рэзалюцыя Плеханава—Леніна давала класавую ацэнку рускаму лібералізму, выкрывала нізкапаклонства лібералаў перад царызмам, якія групіраваліся вакол органа Струве «Освобождение»,—рэзалюцыя Патрэсава—Мартава высоўвала перад лібераламі рад ўмоў для пагаднення.

Рэзалюцыя Патрэсава—Мартава была апартуністычнай, палітычна расплывучатай. Гэтая рэзалюцыя, указваў Ленін, **«не вызначае класавага зместу рускага лібералізма,** яна не ўказвае **пэўных** палітычных плыней, якія выражаюць яго, яна не растлумачвае пралетарыяту яго **асноўных** задач прапаганды і агітацыі ў адносінах да гэтых пэўных плыней, яна змешвае (у сілу сваёй расплывучатасці) такія розныя рэчы, як студэнцкі рух і «Освобождение» **).

Спрэчкі аб адносінах да лібералаў на II з'ездзе былі спрэчкамі аб кіруючай ролі пралетарыята ў буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Яны ўпярэдзілі далейшую барацьбу супроць меншавікоў і эсэраў, якія ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гадоў ішлі на поваду ў буржуазіі і выступілі ў 1917 годзе канчаткова ў саюзе з буржуазіяй, супроць пралетарыята. Толькі маючы на ўвазе гэтую гістарычную перспектыву, можна зразумець глыбокую прынцыповасць і страснасць спрэчак ленінцаў па пытанню аб адносінах да лібералаў.

Як вядома, асабліва вострыя спрэчкі разгарнуліся вакол статута партыі. Тады далёка не ўсім ясна было, што гэтыя спрэчкі былі выражэннем зусім розных напрамкаў утварэння рабочай партыі і ацэнкі яе ролі ў надыходзячай рэвалюцыі. Асабліва гэтага не разумелі лідэры заходнееўрапейскіх партый II інтэрнацыянала, перад якімі меншавікі рысавалі Леніна як раскольніка, які нібы ўносіць залішнюю рэзкасць там, дзе можна было-б, па іх думцы, знайсці «сярэднюю лінію».

Ленін горача адстойваў арганізацыйныя погляды, развітыя ў кнізе «Што рабіць?». Гутарка ішла аб тым, ці будзе створана партыя як перадавы, арганізаваны рэвалюцыйны атрад пралетарыята.

Меншавікі наўмысна зблытвалі два паняцці: «партыя» і «клас»,—наўмысна змазвалі, сціралі граніцы паміж членам аргані-

---

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. I, стар. 29.
**) **В. І. Ленін**, Зб. Твораў, т. VI, стар. 260.

зацыі і спачуваючым стачачнікам, прафесарам, гімназістам. Яны імкнуліся да стварэння шырокай дробнабуржуазнай «рабочай партыі», у якой перадавыя, рэволюцыйныя рабочыя танулі-б у масе яшчэ не дастаткова спелых рабочых і апартуністычна настроеных, палітычна расплыўчатых элементаў.

У фармуліроўках Леніна і Мартава першага параграфа статута партыі сутыкнуліся пролетарскі цэнтралізм і дысцыпліна з буржуазным анархічным індывідуалізмам.

Аднак галасамі «мяккіх» іскраўцаў, «балота» і антыіскраўцаў на ІІ з'ездзе была прынята фармуліроўка Мартава: можна спачуваць, садзейнічаць, не ўваходзіць у партарганізацыю і лічыцца членам партыі. Толькі ІІІ з'езд вясной 1905 года прыняў ленінскую фармуліроўку першага параграфа статута партыі. IV, Аб'яднаўчы з'езд у 1906 годзе пацвердзіў гэтае рашэнне.

Характарызуючы ленінскія асновы партыйнага будаўніцтва, таварыш Сталін у перыяд пролетарскай дыктатуры падкрэсліў велізарнае, прынцыповае значэнне барацьбы Леніна за вызначэнне членства ў партыі.

Гістарычны вопыт паказаў, якое велізарнае значэнне мела большэвіцкае разуменне членства ў партыі. На аснове гэтага разумення складвалася дзесяцігоддзямі тая выдатная арганізацыя большэвікоў, якая выканала найвялікшыя гістарычныя задачы звяржэння царызма, звяржэння ўлады буржуазіі і стварэння першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы. На гэтай аснове выпрацавалася большэвіцкая дысцыпліна, якая дапамагла ператварыць колькасна невялікую арганізацыю ў магутную рэволюцыйную сілу, пранікнутую адзінствам волі.

Важнейшай справай ІІ з'езда было іменна размежаванне з апартуністамі. «Раздзяленне на большасць і меншасць,—пісаў па поваду расколу Ленін,—ёсць прамое і немінучае прадаўжэнне таго раздзялення соцыял-дэмакратыі на рэволюцыйную і апартуністычную, на Гору і Жыронду, якое не ўчора толькі паявілася не ў адной толькі рускай рабочай партыі і якое, напэўна, не заўтра знікне» *).

Пры выбары цэнтральных устаноў партыі суадносіны сіл на з'ездзе былі такімі, што ленінцы мелі большасць, таму што к гэтаму часу з'езд пакінулі «рабочадзельцы» і бундаўцы. Адсюль назвы «большэвікі» і «меншавікі».

Такім чынам, фармальна раскол адбыўся па пытанню аб складзе цэнтральных устаноў партыі, а на справе-ж раскол адбыўся па пытанню аб тым, ці будзе ў нас сапраўдная пролетарская партыя, здольная ўзначаліць барацьбу рабочага класа і забяспечыць яго гегемонію ў рэволюцыйным руху, ці такой партыі не будзе, і тады рабочы клас Расіі не зможа выканаць свае сусветна-гістарычныя задачы.

Апартуністы ІІ інтэрнацыянала ўзнялі вялікі шум па поваду расколу, які адбыўся на ІІ з'ездзе. Цэнтрам нападак быў Ленін. У той час, калі няўстойлівыя, непартыйныя элементы хныкалі па поваду расколу, абвінавачваючы ў ім «непрымірымага» Леніна і «цвёрдакаменных» большэвікоў, Ленін пісаў:

> «Якая дасканалая рэч—наш з'езд!.. Адкрытая, свабодная барацьба. Думкі выказаны. Адценні абрысаваліся. Групы намеціліся. Рукі падняты. Рашэнне прынята. Этап пройдзен. Уперад!» **).

*) **В. І. Ленін**, Зб. Твораў, т. VI, стар. 272.
**) **Там-жа**, стар. 274.

Зусім ясна, што без разрыву з апартуністамі, без рэзкага размежавання, без расколу з імі не магла-б узнікнуць тая выдатная арганізацыя большэвікоў, якая зараз стаіць на чале першай у свеце краіны перамогшага соцыялізма, не было-б партыі Леніна—Сталіна, перадавога атрада Комуністычнага Інтэрнацыянала. Аб важнасці гэтага разрыву з апартуністамі напомніў таварыш Сталін у заключным слове на XV партыйным з'ездзе:

> «Возьмем 1903 г., перыяд другога з'езда нашай партыі. Гэта быў перыяд павароту партыі ад пагаднення з лібераламі да смяртэльнай барацьбы з ліберальнай буржуазіяй, ад падрыхтоўкі барацьбы з царызмам да адкрытай барацьбы з ім за поўны разгром царызма і феадалізма. На чале партыі стаяла тады шасцёрка: Плеханаў, Засуліч, Мартаў, Ленін, Аксельрод, Патрэсаў. Паварот аказаўся ракавым для пяці членаў гэтай шасцёркі. Яны выпалі з цялежкі. Ленін астаўся ў адзіночным ліку (апладысменты). Атрымалася так, што старыя лідэры партыі, аснавальнікі партыі (Плеханаў, Засуліч, Аксельрод) плюс двое маладых (Мартаў, Патрэсаў) аказаліся супроць аднаго, таксама маладога, т. Леніна. Калі-б вы ведалі, колькі было тады лямантаў, плачу і завываннаў аб тым, што партыя загіне, партыя не ўстаіць, што без старых лідэраў нічога не выйдзе. Аднак ляманты і скаргі адпалі, а факты асталіся. А факты былі такія, што іменна дзякуючы адходу пяцёркі ўдалося партыі выбрацца на дарогу. Цяпер ясна кожнаму большэвіку, што без рашучай барацьбы Леніна з пяцёркай, без адцяснення пяцёркі наша партыя не магла-б згуртавацца як партыя большэвікоў, здольная павесці пролетарыяў на рэволюцыю супроць буржуазіі» *).

* * *

ІІ з'езд паклаў пачатак існаванню большэвіцкай партыі, партыі новага тыпу. «**Раней**,—пісаў Ленін,—наша партыя не была арганізаваным фармальна цэлым, а толькі сумай прыватных груп, і таму іншых адносін паміж гэтымі групамі, акрамя ідэйнага ўздзеяння, і быць не магло. **Цяпер** мы сталі арганізаванай партыяй» **). З гэтага моманту партыя большэвікоў выступае як самастойная сіла, хоць фармальна яшчэ на працягу раду год астаецца пад агульным сцягам РСДРП.

У жыцці партыі пазней былі моманты, калі яна рабіла спробы ўстанаўлення адзінага фронта з рабочымі, якія ішлі за меншавікамі, і ішла дзеля гэтага на часовыя аб'яднанні з меншавіцкімі арганізацыямі, як гэта было, напрыклад на IV, Аб'яднаўчым з'ездзе РСДРП у 1906 годзе.

Але з ІІ з'езда, з 1903 года, рэволюцыйнае крыло марксізма, крыло ленінцаў, набывае ва ўсім міжнародным рабочым руху значэнне самастойнай **партыі**—партыі большэвікоў,—хоць канчаткова большэвікі афармілі гэтае выдзяленне толькі ў 1912 годзе, на VI, Пражскай агульнапартыйнай канферэнцыі. Большэвікі абараняюць

---

*) Стэнаграфічная справаздача XV з'езда ВКП(б), стар. 366. Партвыдавецтва, 1935 г.

**) **В. І. Ленін**, Зб. Твораў, т. VI, стар. 291.

сваю **пэўную арганізацыйную лінію.** Большэвікі выпрацоўваюць **сваю большэвіцкую тактыку,** афармляюць яе спачатку на II з'ездзе партыі, а затым больш дакладна вызначаюць яе на III з'ездзе партыі, у 1905 годзе.

Раскол на II з'ездзе меў вялікае, **міжнароднае** значэнне. У абарону апартуністычнай пазіцыі меншавікоў выступалі лідэры II інтэрнацыянала. У абарону партыі і партыйнасці Ленін, большэвікі вялі барацьбу і супроць расійскага і супроць міжнароднага апартунізма.

Барацьба, якая адбылася на II з'ездзе вакол асноўных праграмных, тактычных і арганізацыйных пытанняў, як напрыклад, аб гегеможіі пролетарыята, дыктатуры пролетарыята, ролі сялянства ў рэвалюцыі, аб адносінах да ліберальнай буржуазіі, аб першым параграфе статута партыі, тлумачыць барацьбу, якая разгарнулася пасля з'езда паміж паслядоўнымі староннікамі ленінізма і апартуністамі, па-меншавіцку скажаючымі марксізм. Гэтая барацьба пасля з'езда ўзмацнілася, і рознагалоссі паміж большэвікамі і меншавікамі абвастрыліся і набылі яшчэ больш выразны характар.

Уся пасляз'ездаўская барацьба большэвікоў за партыю **новага тыпу** наглядна паказала, што раскол на II з'ездзе ў расійскай соцыялдэмакратыі азначаў лінію на раскол з апартунізмам у міжнародным рабочым руху.

Барацьба Леніна да II з'езда партыі, на самым з'ездзе і ў пасляз'ездаўскі перыяд з'яўлялася ўзорам глыбокай прынцыповасці, непрымірымай ідэйнай барацьбы супроць усякіх ухіленняў ад рэволюцыйнага марксізма.

Таварыш Сталін аб гэтым пісаў:

> «Чым узяла тады верх большэвіцкая частка партыі, чым яна заваявала сімпатыі большасці партыі? Тым, што яна не замазвала прынцыповых рознагалоссяў і змагалася за перамаганне гэтых рознагалоссяў шляхам ізаляцыі меншавікоў» *).

Трыццаць пяць год прайшло з часу з'езда РСДРП. У трох рэволюцыях, а затым на працягу 20 год пролетарскай дыктатуры падвергліся самай глыбокай, усебаковай праверцы прынцыпы большэвізма. Вучэнне Леніна—Сталіна аб партыі як передавым, арганізаваным атрадзе рабочага класа, як галоўнай, асноўнай арганізацыі пролетарыята, пабудаванай на гранітнай аснове рэволюцыйнага марксізма-ленінізма, стала вучэннем мільёнаў передавых рабочых усяго свету.

Створаная Леніным і Сталіным арганізацыя большэвікоў стала ўзорам для ўсіх партый III, Комуністычнага Інтэрнацыянала. А тыя, хто змагаўся супроць Леніна: меншавікі, трацкісты і бухарынска-рыкаўскія здраднікі,—сталі прамымі агентамі, саюзнікамі і выканаўцамі волі фашыстаў. Трацкісцка-бухарынскія і іншыя фашысцкія шпіёны, дыверсанты і шкоднікі з'яўляюцца самымі лютымі ворагамі чалавецтва.

Арганізацыйныя прынцыпы, тактыка і стратэгія большэвізма перамаглі не толькі ў нашай краіне. Яны іграюць усё больш гіганцкую ролю ў міжнародным рэволюцыйным руху пролетарыята.

Велізарнейшыя цяжкасці рабочага класа іншых краін заключаліся ў тым, што ён не меў у рашаючыя моманты сваёй барацьбы большэвіцкай партыі, што толькі цаной вельмі жорсткіх паражэнняў і

*) **І. В. Сталін**, „Аб апазіцыі", стар. 441.

страт ён усвойвае неабходнасць большэвізацыі. Але ён яе ўсвоіў ужо ў радзе дзяржаў: у Францыі, Іспаніі, Кітаі. Ён усвоіць яе ўсюды, таму што большэвізм, вучэнне Леніна—Сталіна, ёсць адзіна правільныя рэволюцыйныя тэорыя і тактыка, якія забяспечылі канчатковую і беспаваротную перамогу соцыялізма на адной шостай частцы зямнога шара і забяспечаць перамогу соцыялістычнай рэволюцыі ва ўсім свеце.

Пад вялікім сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна пролетарыят пераможа ва ўсім свеце.

---

Н. Крушкол

# Пяты Ўсерасійскі з'езд Советаў

V з'езд Советаў РСФСР адбыўся 4—10 ліпеня 1918 года. Згодна даклада мандатнай камісіі на з'ездзе прысутнічала 1132 дэлегаты; з іх—745 большэвікоў.

З'езд зацвердзіў наступны парадак дня: 1. Справаздачы ЦВК і Совета Народных Камісараў (дакладчыкі таварышы Свердлоў і Ленін). 2. Харчовае пытанне. 3. Арганізацыя соцыялістычнай Чырвонай Арміі. 4. Канстытуцыя Расійскай рэспублікі. 5. Выбары новага ЦВК.

V з'езд Советаў сабраўся праз 3½ месяцы пасля IV Надзвычайнага з'езда, які ратыфікаваў Брэсцкі мір.

Абстаноўка ў момант склікання V з'езда была выключна цяжкай для маладой Совецкай рэспублікі. Скарыстаўшы подлае здрадніцтва Троцкага і яго спадручных «левых комуністаў», якія сарвалі своечасовае падпісанне мірнага дагавора, нямецкія імперыялісты акупавалі Украіну і фактычна ператварылі яе ў сваю калонію.

Акупаваныя мясцовасці падпадалі пад надзвычай люты тэрор і поўнае аграбленне. Аднаго хлеба ўраджаю 1917 г. акупанты хацелі вывезці з Украіны 60 мільёнаў пудоў. Акрамя хлеба яны вывозілі з Украіны цукровую сыравіну ўсіх відаў, мануфактуру, розныя культурныя каштоўнасці і т. д. і т. п. Такі-ж рэжым быў устаноўлен і ў іншых акупаваных немцамі абласцях—у Беларусі, на Пскоўшчыне і т. д. У гэты-ж час немцы ў саюзе з белагвардзейскім казацкім атаманам Красновым і з грузінскімі меншавікамі прабавалі захваціць Дон, Кубань, Каўказ.

На Поўначы, зноў-такі ў выніку здрадніцтва Троцкага і яго агента—здрадніка з мурманскага совета Юр'ева, запрасіўшага англійскія войскі нібы для «абароны ад немцаў», гаспадарылі англічане (на Мурмане і ў Архангельску) і пагражалі ўсім паўночным раёнам.

У Паволожжы ўзнялі паўстанне чэхаславакі, якія, будучы добра ўзброены Англія і Францыя, прадстаўлялі сабой як-бы ўдарную брыгаду Антанты ў Расіі. Антанта імкнулася скарыстаць чэхаславацкі корпус не супроць немцаў, а супроць Совецкай Расіі. У яе разлікі зусім не ўваходзіла выпускаць чэхаславакаў з Расіі. Таму сярод чэхаславакаў узмоцнена пашыралі чуткі, што совецкі ўрад збіраецца іх раззбройваць і затрымаць. Гэтыя правакацыйныя чуткі паслужылі повадам для мяцяжу, які пачаўся ад Пензы і пашырыўся далей на ўсход па чыгунцы да Владзівастока, уздоўж якой доўгай істужкай расцягнуліся ўзброеныя чэшскія эшалоны. Адначасова па сігналу з аднаго цэнтра (цяпер мы ведаем, што такім цэнтрам былі эвакуіраваныя з Петраграда ў Вологду пасольствы «саюзных» дзяржаў і іх шпіёнская агентура) выбухнулі белагвардзейска-эсэраўскія мяцяжы ў Яраслаўлі

і Рыбінску. Мяцяжы гэтыя былі хутка падаўлены, але яны каштавалі велізарнага ліку афяр. На Каўказе і ў Баку меншавікі і эсэры разам з мусаватыстамі пад прадлогам «абароны ад туркаў» заключылі пагадненне з Англіяй і прызвалі ў горад англійскія войскі. Гэта паслужыла сігналам для разгулу белага тэрору ў пролетарскім Баку, першымі афярамі якога палі 26 бакінскіх камісараў, на чале са стойкім, непахісным большэвіком Сцепанам Шаумянам.

Совецкая рэспубліка аказалася, такім чынам, у кальцы ворагаў. Важнейшыя пролетарскія цэнтры і спажываючыя губерні былі адрэзаны ад вытвараючых абласцей. Сталіцы і буйнейшыя прамысловыя гарады галадалі.

У такой надзвычай цяжкай і складанай абстаноўцы «левыя» эсэры, заручыўшыся падтрыманнем «левых комуністаў» і трацкістаў, вялі шалёнае цкаванне совецкага ўрада, яго міжнароднай палітыкі, яго харчовых мерапрыемстваў і ўсёй палітыкі совецкай улады ў вёсцы «Левыя» эсэры ў гэты перыяд зусім адкрыта апіраліся на вясковых кулакоў і выражалі інтарэсы і імкненні кулацтва—гэтага самага зверскага і злоснага ворага працоўных. Вышаўшы з урада пасля Брэсцкага міру, «левыя» эсэры ўсімі сіламі сабатыравалі ўсе важнейшыя мерапрыемствы совецкай улады, вялі шалёную антыбольшэвіцкую дэмагагічную агітацыю, імкнучыся да звяржэння совецкай улады. «Левыя» эсэры сумесна з трацкістамі і бухарынцамі вялі лінію на зрыў Брэсцкага міру, на арганізацыю кулацкіх паўстанняў, на арганізацыю пагранічных інцыдэнтаў і правакацый на Украіне, акупаванай германскімі войскамі. Саюзнікі «левых» эсэраў—трацкісты і «левыя комуністы» к гэтаму часу ўжо поўнасцю перайшлі да варожай тактыкі ашуканства партыі і двурушніцтва. Толькі цяпер поўнасцю выяўлена іх здрадніцкая роля ў той момант, толькі цяпер паказаннямі Осінскага, Якаўлевай, Камкова і Карэліна на працэсе «права-трацкісцкага блока» выкрыта ўся бязмерная подласць бухарынцаў і трацкістаў. Якраз напярэдадні V Усерасійскага з'езда Советаў «левыя комуністы», добра ведаючы аб тым, што рыхтуецца мяцеж «левых» эсэраў, прынялі меры к таму, каб лепш замаскіравацца.

3 ліпеня 1918 г. адбылося пасяджэнне большэвіцкай фракцыі з'езда, на якім таварыш Ленін выступіў з падрабязным дакладам аб міжнародным і ўнутраным становішчы Совецкай рэспублікі. У гэтым дакладзе Ленін абгрунтоўваў неабходнасць прадаўжаць палітыку передышкі і весці энергічную барацьбу з гаспадарчай разрухай і голадам шляхам моцнага саюза гарадскіх рабочых з вясковай беднатой супроць кулака. Рэзалюцыя, адабраючая палітыку Совета Народных Камісараў, была прынята ў фракцыі аднагалосна, прычым Осінскі, ад імя «левых комуністаў», заявіў, што даклад Леніна не сустракае з іх боку сур'ёзных супярэчнасцей. Гэта быў манеўр, разлічаны на тое, каб усыпіць пільнасць партыі і развязаць рукі «левым» эсэрам, якія рыхтавалі мяцеж і рад тэрарыстычных актаў, аб чым «левыя комуністы» былі поўнасцю асвядомлены.

Такава была палітычная і гаспадарчая абстаноўка ў краіне ў момант адкрыцця V Усерасійскага з'езда Советаў. Надзвычай бурнай была абстаноўка і на самым з'ездзе.

«Левыя» эсэры, пераканаўшыся, што большэвікі маюць на з'ездзе пераважную большасць мандатаў, з самага пачатку ўзялі курс на

зрыў з'езда. Яны наладзілі абструкцыю ў сувязі з выбарамі мандатнай камісіі, патрабуючы сабе паловы месц у ёй пад тым прадлогам, быццам большэвікі падтасавалі мандаты на з'езд.

Выступаючы з дакладам ад сялянскай секцыі ЦВК, «лева»-эсэраўская «багародзіца» Марыя Спірыдонава асыпала большэвікоў і асабіста Леніна паклёпніцкімі абвінавачваннямі і прама пагражала большэвікам тэрорам. Камкоў і Карэлін выступалі з яшчэ большай нагласцю, асабліва па пытанню аб харчовых атрадах і камітэтах вясковай беднаты. Вясковых беднякоў яны, як сапраўдныя прадстаўнікі кулацтва, называлі лодырамі, заклікалі да сабатажу ўсіх харчовых мерапрыемстваў Совецкай улады і пагражалі «выкінуць вон за каўнер» з вёскі харчовыя атрады і камітэты беднаты.

Усе гэтыя правакацыйныя выступленні служылі як-бы артылерыйскай падрыхтоўкай да надыходзячых ваенных дзеянняў, якія выбухнулі на наступны дзень.

Дзейнічаючы па пастанове ЦК «левых» эсэраў ад 24 чэрвеня 1918 г. 5 ліпеня два «лева»-эсэраўскія тэрарысты забілі германскага пасла Мірбаха, а затым укрыліся ў штабе, састаяўшага пры ВЧК атрада «левага» эсэра Папова.

Штаб Папова быў загадзя намечан у якасці штаба паўстання. Карыстаючыся сваім становішчам, папоўцы атрада ВЧК пры дапамозе члена калегіі ВЧК «левага» эсэра Александровіча, набылі зброю, боепрыпасы і харчы ў колькасці, на многа перавышаючай лічбовы склад самога атрада. За некалькі дзён да паўстання «левыя» эсэры, скарыстоўваючы свае пазіцыі ў ВЧК, а таксама ў сялянскай секцыі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, якую ўзначальвала Спірыдонава, пачалі сцягваць свае баявыя атрады і падвазіць зброю з іншых гарадоў—Ленінграда, Віцебска, Яраслаўля. Асабліва многа зброі было запатрабавана з Яраслаўля якраз напярэдадні выбухнуўшага там паўстання. Бясспрэчна, што гэта было зроблена не выпадкова і што «левыя» эсэры дзейнічалі ў кантакце з правымі эсэрамі, якія рыхтавалі паўстанне ў Яраслаўлі, і з «саюзнымі» місіямі, якія арганізавалі гэтае паўстанне.

Памяшканне атрада Папова было ўмацавана. Калі тав. Дзержынскі даведаўся, што забойцы Мірбаха скрыліся ў штабе Папова, ён сам пайшоў туды, але там яго арыштавалі. Арыштавана было таксама некалькі памочнікаў тав. Дзержынскага ў самым памяшканні ВЧК на Лубянцы, дзе на варце таксама стаялі папоўцы. 6-га ліпеня было арыштавана 27 кіруючых работнікаў большэвіцкай партыі, у тым ліку і старшыня Маскоўскага Совета тав. Смідовіч. Усіх арыштаваных прыводзілі ў штаб Папова, дзе засядаў амаль у поўным складзе цэнтральны камітэт «левых» эсэраў, які непасрэдна кіраваў дзеяннямі папоўцаў. «Левым» эсэрам удалося на некалькі гадзін захваціць галоўны тэлеграф, а таму яны паспяшылі разаслаць па ўсёй краіне ілжывыя тэлеграмы аб «нізлажэнні» Совета Народных Камісараў і растаржэнні мірнага дагавора. Тэлефонную станцыю ім захваціць усё-ж такі не ўдалося. На наступны дзень, 7 ліпеня, з раніцы былі сцягнуты совецкія войскі. Штаб Папова і сумежныя з ім дамы былі абстраляны артылерыйскім агнём з адлегласці 200 метраў. Сярод папоўцаў пачалася паніка. І без таго не надта стойкія «лева»-эсэраўскія атрады былі яшчэ раней разложаны агітацыяй арыштаваных большэвікоў, якіх яны вартавалі. Асабліва моцнае ўражанне стварыла на гэтыя зборныя і рознашэрсныя атрады рашучасць, цвёрдасць і пал-

кая агітацыя Ф. Э. Дзержынскага. Калі дом, у якім змяшчаўся папоўскі штаб, і сумежныя з ім дамы былі зруйнаваны, арыштаваныя большэвікі арганізавалі сабе ахову са спачуваючых салдат, правялі сярод іх мітынг, атрымалі ад іх зброю і вызваліліся з-пад арышту. Паўстанне не было падтрымана ні войскамі, ні рабочымі, ні нават радавымі членамі «лева»-эсэраўскіх партыйных арганізацый і хутка было ліквідавана.

Ужо ў 4 гадзіны дня 7 ліпеня Совет Народных Камісараў расклеіў па вуліцах Масквы наступную аб'яву:

«Контррэволюцыйнае паўстанне «левых» с.-р. у Маскве ліквідавана. «Лева»-эсэраўскія атрады адзін за адным пусціліся ў самае саромнае бегства. Аддана распараджэнне аб арышце і раззбраенні ўсіх «лева»-эсэраўскіх атрадаў і перш за ўсё аб арышце ўсіх членаў цэнтральнага камітэта партыі «левых» с.-р., аказваючых узброенае супраціўленне пры арышце расстрэльваць. Арыштавана некалькі саўдзельнікаў контррэволюцыйнага мяцяжу»*).

Адначасова з паўстаннем у Маскве «левыя» эсэры прабавалі арганізаваць паўстанне ў Ленінградзе, дзе яны заселі ў памяшканні б. Пажыцкага корпуса. «Лева»-эсэраўская баявая дружына, якая акапалася там, сустрэла наступаўшых чырвонаармейцаў кулямётнай стральбой і ручнымі гранатамі. Пры перастрэлцы было забіта 10 чалавек і паранена 40. Дружына была раззброена.

Толькі ў Оршы «левым» эсэрам удалося разагнаць Совет і на некалькі дзён захваціць уладу ў горадзе.

Галоўныя свае надзеі ЦК «левых» эсэраў ускладаў на здраду «лева»-эсэраўскага камандуючага ўсходняга (антычэхаславацкага) фронта, авантурыста і здрадніка Мураўёва. Ён агаліў фронт і павёў некалькі ашуканых ім атрадаў з Казані ў Сімбірск, дзе яны занялі пошту, тэлеграф, рад устаноў і Совет. Мураўёў даў па фронту тэлеграму аб спыненні руху на Ўсход і аб пераходзе ў наступленне на Маскву па маршруту: Вятка—Саратаў—Балашоў—Масква. Адначасова Мураўёў паслаў чэхаславакам тэлеграму з прапановай міру і саюза супроць немцаў і «абвясціў вайну Германіі», аб чым паслаў тэлеграму Леніну і ў германскае пасольства, а таксама ў Кіеў і іншыя буйныя гарады. У Сімбірску Мураўёў пачаў арыштоўваць большэвікоў і адначасова вызваліў з турмы ўсіх арыштаваных контррэволюцыянераў. Але калі ён сабраў свае войскі і сказаў перад імі прамову, аб тым, што вайна з Германіяй аднавілася, што грамадзянская вайна спынена і з чэхаславакамі заключан саюз, высветлілася, што яго ўласныя войскі не падтрымліваюць свайго камандуючага: у часе прамовы Мураўёва ў Сімбірскі совет з'явіліся прадстаўнікі яго часцей і заявілі аб сваёй вернасці Совецкай уладзе.

Сімбірскія ўлады прабавалі арыштаваць Мураўёва, але апошні аказаў узброенае супраціўленне. Пры завязаўшайся перастрэлцы Мураўёў быў забіт.

Таварыш Сталін, які знаходзіўся тады ў Царыцыне, атрымаўшы ад Леніна паведамленне аб забойстве «левымі» эсэрамі германскага пасла Мірбаха і «лева»-эсэраўскім мяцяжы, які мог ахапіць і Царыцын, адказаў каротка:

«Што датычыць істэрычных, будзьце ўпэўнены, у нас рука не дрогне, з ворагамі будзем дзейнічаць па-варожаму».

*) Вера Владзімірава: „Год службы „соцыялістаў" капіталістам". ГІЗ, 1923 г., стар. 280.

Немцы, аднак, не адважыліся адказаць вайной на забойства свайго пасла і абмежаваліся прад'яўленнем наглага патрабавання: увесці батальён германскіх войск у Маскву для абароны германскага пасольства.

На гэтае патрабаванне,—гаворыць Ленін,—

«мы адказалі... што падобнага жадання мы ні ў якім выпадку і ні пры якіх умовах задаволіць не можам, бо гэта было-б аб'ектыўна пачаткам акупацыі Расіі чужаземнымі войскамі.

На такі крок мы вымушаны былі-б адказаць, як адказваем на мяцеж чэха-славакаў, на ваенныя дзеянні англічан на поўначы, іменна: узмоцненай мабілізацыяй, заклікам пагалоўна ўсіх дарослых рабочых і сялян да ўзброенага супраціўлення і да знішчэння, у выпадку часовай неабходнасці адступлення, усіх і ўсялякіх, без усякіх выключэнняў, шляхам спальвання складаў і, у асаблівасці, харчовых прадуктаў, каб яны не маглі дастацца ў рукі непрыяцеля. Вайна стала-б для нас тады ракавой, але безумоўнай і безагаворачнай неабходнасцю, але гэтую рэвалюцыйную вайну рабочыя і сяляне Расіі павядуць поруч з Совецкай уладай да апошняга ўздыху» *).

Атрымаўшы рашучы адпор, германскі ўрад адмовіўся ад свайго правакацыйнага патрабавання. Неадкладная вайна з Германіяй была прадухілена наперакор гнуснай правакацыі «левых» эсэраў, бухарынцаў і трацкістаў.

V з'езд Советаў рашуча асудзіў «лева»-эсэраўскіх авантурыстаў і здраднікаў, цалкам і поўнасцю адобрыў энергічную палітыку Совета Народных Камісараў, накіраваную на ліквідацыю злачыннай і шалёнай авантуры «левых» эсэраў і патрабаваў бязлітаснай расправы са злачынцамі, якія са зброяй у руках пасягнулі на Совецкую ўладу і паставілі краіну перад непасрэднай небяспекай новай вайны.

З'езд пастанавіў, што тым «лева»-эсэраўскім арганізацыям, якія салідарызуюцца з правакацыйнай і здрадніцкай палітыкай свайго камітэта, не можа быць месца ў Советах Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў. Разам з тым, з'езд яшчэ раз пацвердзіў непахісную волю Совецкай улады забяспечыць мір для знясіленай совецкай краіны, падкрэсліваючы, аднак, што «ў выпадку іншаземнага нашэства з чыйго-б боку яно ні зыходзіла, абавязкам усіх рабочых і сялян і ўсіх чэсных грамадзян наогул з'явіцца беззаветная абарона совецкай бацькаўшчыны супроць імперыялістаў» **).

З'езд займаўся вырашэннем тых асноўных пытанняў, якія стаялі перад Совецкай рэспублікай у тэты надзвычай цяжкі перыяд яе існавання.

З усёй глыбінёй гэтыя пытанні былі разгорнуты ў справаздачным дакладзе таварыша Леніна аб рабоце Соўнаркома. Ленін паказаў, што ўсім ходам падзей пасля заключэння Брэсцкага міру была даказана правільнасць большэвіцкай тактыкі—атрымання перадышкі. Ён паказаў, як з кожным месяцам абедзве групы імперыялістаў, якія знаходзіліся ў смяротэльнай схватцы адна з адной, усё больш набліжаліся да бяздоння.

У той-жа час у маладой Совецкай рэспубліцы, не гледзячы на неймаверную цяжкасць яе становішча, пытанні будаўніцтва новага жыцця

*) Ленін, Творы, т. XXIII, стар. 142—143.

**) З'езды Советаў у пастановах і рэзалюцыях, выд. „Улада Советаў", Масква, 1935 г., стар. 71.

ставіліся на першае месца. Ленін гаварыў аб тым, што гэтае будаўніцтва вялося з немінучымі памылкамі, промахамі, выпраўленнямі, пераробкамі, рэарганізацыямі ў барацьбе супроць буржуазіі і памешчыкаў, супроць старога чыноўніцтва, супроць міжнароднага імперыялізма. Ён паказаў ва ўвесь рост неймаверныя цяжкасці, якія стаялі перад рабочымі і сялянамі совецкай Расіі, калі рабочыя і сяляне самі браліся за кіраванне краінай ва ўмовах страшэннай і лютай разрухі, калі «вайна параніла ўсё цела Расіі», так, што народ падобны на пабітага да поўсмерці чалавека. Але разам з тым, ён быў упэўнен у перамозе, залогам якой з'яўлялася непарыўная сувязь совецкага ўрада і большэвіцкай партыі з найшырэйшымі працоўнымі масамі, з велізарнай большасцю народа. І Ленін рабіў вывад, поўны вялікага рэволюцыйнага аптымізма:

> «Так, гэта справа неймаверна цяжкая і неймаверна ўдзячная. Кожны месяц такой работы і такога вопыту варты дзесяць, калі не дваццаць год нашай гісторыі» *).
>
> І далей Ленін паясняў сваю думку:
>
> «Гэта проста і лёгка аставацца ў старой паласе прывычных капіталістычных адносін, але мы жадаем ісці новым шляхам. Ён патрабуе ад нас, патрабуе ад усяго народа вялікай свядомасці, вялікай арганізаванасці, патрабуе больш часу, выклікае вялікія памылкі. Але мы гаворым сабе: не памыляецца той, хто нічога практычнага не робіць» **).

У аснову Ленін ставіў вырашэнне харчовага пытання, таму што на краіну насунуўся голад. Ленін паказаў, што барацьба за хлеб супадае з барацьбой за соцыялізм і патрабаваў бязлітаснага падаўлення кулакоў і спекулянтаў, паўстаўшых супроць совецкай улады. Патрабуючы бязлітаснага чырвонага тэрору ў адносінах да контррэволюцыянераў усіх масцей, Ленін указваў на неабходнасць аказання ўсямернай дапамогі і падтрымання вясковай беднаце, якая была моцным саюзнікам пролетарыята.

Ленін выразна паставіў пытанне аб узаемаадносінах з сярэднім сялянствам:

> «Сяляне сярэднія,—гаварыў ён,—маюць ва ўсёй Расіі мізэрныя лішкі хлеба. Сяляне сярэднія жылі дзесяткі год да рэволюцыі ва ўмовах горшых, чым жыве рабочы. Да рэволюцыі яны бачылі толькі нужду і прыгнечанне. З гэтымі сярэднімі сялянамі мы ідзем шляхам пагаднення» ***).

Ленін паказаў велізарнае значэнне соцыялістычнай рэволюцыі ў нашай краіне і грамадны рост папулярнасці Совецкай рэспублікі сярод рабочых Захада, не гледзячы на тое, што з-за цэнзуры ім амаль нічога не ўдавалася даведацца аб тым, што рабілася ў Расіі. Ён закончыў свой даклад словамі, поўнымі найвялікшай бадзёрасці, абгрунтаванай на ўліку ўсіх цяжкасцей і на веданні сваіх сіл, сіл змагаючагася і перамагаючага народа.

> «Як ні трудны і як ні цяжкі перыяд, які нам прадстаіць перажыць,—гаварыў Ленін,—мы абавязаны сказаць усю праўду і адкрыць вочы на гэта, бо толькі народ сваёй ініцыятывай

*) **Ленін**, Творы, т. XXIII, стар. 121.
**) **Там-жа**, стар. 122.
***) **Там-жа**, стар. 128.

і сваёй арганізацыяй, выстаўляючы новыя і новыя ўмовы і абараняючы соцыялістычную рэспубліку, дапаможа нам. І мы гаворым: таварышы, няма ні ценю сумнення, што калі мы пойдзем па таму шляху, які выбралі і які падзеі пацвердзілі, калі мы будзем цвёрда і няўхільна ісці па гэтаму шляху, калі мы не дадзім ні фразам, ні ілюзіям, ні ашуканству, ні істэрыцы збіць сябе з правільнага шляху, то мы маем найвялікшыя ў свеце шансы ўтрымацца і дапамагчы цвёрда перамозе соцыялізма ў Расіі, а тым самым дапамагчы перамозе сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі!» *).

У дакладзе Леніна падкрэслівалася, што асноўным пытаннем, у якое ўпіраліся ўсе астатнія пытанні, у гэты перыяд было пытанне харчовае. Адрэзаная ад важнейшых хлебных раёнаў маладая Совецкая рэспубліка перажывала нябачаны голад. Запасы хлеба ў неакупаваных інтэрвентамі раёнах былі вельмі мізэрныя і нават пры поўным іх скарыстанні можна было пракарміць гарадское насельніцтва і вясковую беднату толькі па галоднай норме. Але і гэты хлеб трэба было ўзяць з бою ў галоўных уладальнікаў хлеба—кулакоў. Разлічваць на тое, што кулакі добравольна павезлі-б хлеб у горад па цвёрдых цэнах не прыходзілася. У той-жа час адмова ад цвёрдых цэн, адмова ад хлебнай манаполіі, пры абсалютным дэфіцыце хлеба, азначала-б нечуваны разгул спекуляцыі і снабжэнне хлебам толькі забяспечаных слаёў насельніцтва пры пагрозе вымірання ад голаду гарадской і вясковай беднаты. Совецкая ўлада ні ў якім разе не магла пайсці па такому шляху. Уся палітыка совецкай улады была накіравана да справядлівага размеркавання хлеба, да снабжэння ім у першую чаргу працоўных. Адсюль асноўныя харчовыя мерапрыемствы совецкага ўрада: захаванне хлебнай манаполіі і цвёрдых цэн на хлеб, прадастаўленне народнаму камісарыяту харчавання надзвычайных паўнамоцтваў па адабранню і рэквізіцыі хлеба ў маёмных слаёў вёскі, па размеркаванню тавараў шырокага спажывання і т. п. (так званая «харчовая дыктатура»), арганізацыя рабочых харчовых атрадаў, якія пасылаліся ў вёску як для агітацыі сярод беднейшага і сярэдняга сялянства, так і для адабрання хлеба ў кулакоў. Нарэшце, важнейшым мерапрыемствам была арганізацыя камітэтаў вясковай беднаты.

Роля і значэнне камітэтаў беднаты выходзілі далёка за межы іх харчовых задач. Іменна на прыкладзе камітэтаў вясковай беднаты асабліва адчуваецца ўся глыбіня ленінскага палажэння аб тым, што барацьба за хлеб ёсць барацьба за соцыялізм. Камітэты беднаты, створаныя для садзеяння харчовым органам у справе здабывання хлеба ў кулакоў і справядлівага размеркавання яго, на справе ператварыліся ў важнейшую апору дыктатуры пролетарыята ў вёсцы. Іменна пры дапамозе камітэтаў беднаты пролетарская рэволюцыя была распаўсюджана на вёску.

Ленін на VIII з'ездзе партыі гаварыў:

«Толькі летам 1918 г. пачалася сапраўдная пролетарская рэволюцыя ў вёсцы. Калі-б мы не здолелі ўзняць гэтую рэволюцыю, работа наша была-б няпоўнай. Першым этапам было ўзяцце ўлады ў горадзе, устанаўленне совецкай формы кіравання. Другім этапам было тое, што для ўсіх соцыялістаў з'яўляецца асноўным, без чаго соцыялісты—не соцыялісты: выдзяленне ў вёсцы пролетарскіх і поўпролетарскіх элементаў, згур-

*) Ленін, Творы, т. XXIII, стар. 131—132.

таванне іх з гарадскім пролетарыятам для барацьбы супроць буржуазіі ў вёсцы» *).

Важнейшую частку гэтай праграмы выканалі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі камітэты вясковай беднаты. Яны дапамагалі рабочым выяўляць і адбіраць лішкі хлеба і іншых харчовых прадуктаў, яны сачылі за справядлівым размеркаваннем зямлі, жывога і мёртвага інвентара, яны згуртавалі вакол совецкай улады моцны актыў.

На V з'ездзе Советаў быў заслухан спецыяльны даклад народнага камісара харчавання т. Цурупы аб харчовым пытанні. Дакладчык паказаў усю цяжкасць харчовага становішча Совецкай рэспублікі, калі ў распараджэнні Совецкай улады знаходзіліся толькі цэнтральныя і земляробчыя губерні—Варонежская, Курская, Тамбоўская, Тульская і часткова Паўночны Каўказ, адкуль можна было чэрпаць хлеб толькі з надзвычайнай цяжкасцю, па той прычыне, што там пачыналася ўжо грамадзянская вайна. Ён паказаў, што тых запасаў хлеба, якія былі, ледзь магло хапіць для размеркавання па галоднай норме да новага ўраджаю. Тав. Цурупа абгрунтаваў неабходнасць харчовых дэкрэтаў Совецкай улады і ў асаблівасці дэкрэтаў аб харчовых атрадах і камітэтах беднаты.

Даклад гэты быў зроблен пасля падаўлення мяцяжу «левых» эсэраў, калі «лева»-эсэраўская фракцыя на з'ездзе ўжо адсутнічала, і з'езд аднадушна адобрыў харчовую палітыку Совецкай улады, указаўшы, што «харчовыя мерапрыемствы, якія праводзяцца народным камісарыятам, накіраваны да манапалізавання размеркавання ўсіх прадметаў першай неабходнасці і масавага спажывання і да ўстанаўлення цвёрдых цэн на гэтыя прадметы ў адпаведнасці з цвёрдымі цэнамі на хлеб, складаюць неабходнае дапаўненне да палітыкі рабоча-сялянскага ўрада ў справе снабжэння ўсіх, хто мае патрэбу ў хлебе, і з'яўляецца састаўной часткай усёй соцыялістычнай палітыкі Совецкай ўлады».

Далей рэзалюцыя V з'езда Советаў дала выразную характарыстыку размяшчэння класавых сіл у момант вострай барацьбы за існаванне Совецкай рэспублікі з унутранымі і знешнімі яе ворагамі:

«Толькі апіраючыся на вясковую беднату, толькі арганізоўваючы гэтую беднату для барацьбы з вясковай буржуазіяй у асобыя камітэты, толькі ўводзячы праз гэтыя камітэты правільнае і справядлівае размеркаванне хлеба, сельска-гаспадарчых прылад і ўсіх прадметаў першай неабходнасці, прадастаўляючы ў гэтай галіне асобыя ільготныя ўмовы тым, хто не эксплаатуе чужой працы і не спекулюе на голадзе, рабоча-сялянская совецкая ўлада разам з тым задавальняе насутныя патрэбы радавога сярэдняга сялянства, справядліва кампенсуе яго за здабытыя цяжкай працай прадукты яго гаспадаркі, пераможа яраснае супраціўленне ўнутраных і знешніх ворагаў соцыялістычнай рэволюцыі, умацуе і паглыбіць яе заваёвы, выведзе Расію з жорсткага харчовага крызіса, які з'явіўся цяжкім вынікам чатырохгадовай вайны і векавога панавання памешчыкаў і капіталістаў і абвастрыўся з прычыны зацятай барацьбы супроць соцыялістычнай рэволюцыі ўсіх ворагаў рабочага класа і па-брацку спаянай з ім агульнасцю соцыялістычных інтарэсаў вясковай беднаты» **).

V з'езд Советаў прыняў першую совецкую Канстытуцыю. У гэтую Канстытуцыю ў якасці асноўнай яе састаўной часткі ўвайшла напіса-

*) **Ленін**, Творы, т. XXIV, стар. 162.
**) V Усерасійскі з'езд Советаў, стар. 158.

ная Ленiным i Сталiным «Дэкларацыя правоў працоўнага i эксплаатуемага народа», прынятая III з'ездам Советаў у студзенi 1918 г.

Надзвычай цiкава i важна параўнаць першую совецкую Канстытуцыю са Сталiнскай Канстытуцыяй перамогшага соцыялiзма. Канстытуцыя 1918 г.—гэта перш за ўсё Канстытуцыя Расiйскай Соцыялiстычнай Федэратыўнай Совецкай Рэспублiкi. Тут яшчэ няма нi саюзных рэспублiк, нi выразнага размежавання паасобных частак Расiйскай Федэрацыi. Соцыялiстычны характар Совецкай рэспублiкi заключаўся ў тым, што яна ставiла перад сабой задачу барацьбы за соцыялiзм. Канстытуцыя 1918 г. гаворыць аб тым, што асноўнай задачай пераходнага моманту з'яўляецца ўстанаўленне дыктатуры гарадскога i сельскага пролетарыята ў мэтах поўнага падаўлення буржуазii, знiштажэння эксплаатацыi чалавека чалавекам i ўстанаўлення соцыялiзма.

Першая совецкая Канстытуцыя адыграла буйнейшую ролю ў справе аб'яднання працоўных вакол Совецкай улады, у справе прапаганды iдэй Совецкай улады ў нашай краiне i за яе межамi, у справе высвятлення значэння Советаў, як палiтычнай асновы Расiйскай федэрацыi, у справе ўмацавання дыктатуры пролетарыята i развiцця яе форм. Першая совецкая Канстытуцыя ўпершыню замацавала ў асноўным законе агромнай дзяржавы соцыялiстычны прынцып: «непрацоўны ды не есць», якi ўвайшоў у Сталiнскую Канстытуцыю перамогшага соцыялiзма.

V з'езд Советаў прыняў таксама рашэнне аб арганiзацыi соцыялiстычнай Чырвонай Армii. Гэтае рашэнне адзначала, ва ўмовах пачатку грамадзянскай вайны, што трэба пакласцi канец партызаншчыне, арганiзацыi выпадковых ваенных фармiраванняў, самавольных атрадаў, саматужнаму ваеннаму будаўнiцтву. Рабоча-Сялянская Чырвоная Армiя павiнна быць цэнтралiзаванай, добра абучанай i снаражанай. Яна павiнна аўладаць ваеннай навукай i для гэтай мэты скарыстаць старых ваенных спецыялiстаў пад пiльным кантролем ваенных камiсараў, якiя павiнны камплектавацца з лiку стойкiх барацьбiтоў за справу пролетарыята i вясковай беднаты. З'езд паставiў задачу стварэння новага камандната складу, беззаветна адданага соцыялiстычнай рэволюцыi. З'езд патрабаваў ад новай армii жалезнай рэволюцыйнай дысцыплiны, суровай цэнтралiзацыi i аднароднасцi яе класавага складу.

V з'езд Советаў сабраўся ў пераломны момант для Совецкай рэспублiкi. З такой цяжкасцю дасягнутая ў Брэсце перадышка заканчвалася. Пачыналася вельмi лютая крывепралiтная грамадзянская вайна, у якой руская контррэволюцыя, кiруемая i натхняемая iмперыялiстамi Англii i Францыi, iмкнулася задушыць маладую Совецкую рэспублiку. У гэтай вайне самую подлую, здраднiцкую ролю адыгрывалi меншавiкi, «левыя» i правыя эсэры i iх замаскiраваныя пасобнiкi—трацкiсцка-зiноўеўска-бухарынскiя мярзаўцы.

У такiх надзвычай цяжкiх умовах V Усерасiйскi з'езд Советаў вырашыў важнейшыя пытаннi, якiя стаялi на чарзе дня, даў чоткую дырэктыву аб харчовай дыктатуры, аб арганiзацыi камiтэтаў вясковай беднаты—гэтай важнейшай апоры соцыялiстычнай рэволюцыi ў вёсцы, прыняў першую совецкую Канстытуцыю i зацвердзiў асноўныя палажэннi па арганiзацыi Чырвонай Армii i т. д. З'езд не даў сябе дэзарганiзаваць здраднiцтвам «левых» эсэраў. Ён паказаў найвялiкшую згуртаванасць совецкага народа вакол Совецкай улады, вакол партыi большэвiкоў.

# *РЭЗАЛЮЦЫЯ XVII з'езда КП(б)Б*

## *па справаздачы Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б*

Заслухаўшы і абмеркаваўшы справаздачны даклад аб рабоце Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б, XVII з'езд КП(б)Б прызнае палітычную лінію ЦК КП(б)Б правільнай і практычную работу здавальняючай.

Узброеныя рашэннямі лютаўска-сакавіцкага (1937 г.) і студзеньскага (1938 г.) пленумаў ЦК ВКП(б) і гістарычнымі ўказаннямі таварыша **Сталіна**, бальшэвікі Беларусі за прайшоўшы год разам з усёй партыяй прарабілі вялікую работу па выкрыццю, разгрому і выкарчоўванню трацкісцка-бухарынскіх, буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, якія прабраліся да кіраўніцтва ЦК КП(б)Б, на важнейшыя ўчасткі соцыялістычнага будаўніцтва і на розныя пасты ў партыйным, савецкім і гаспадарчым апаратах. ЦК КП(б)Б правёў вялікую работу па ліквідацыі вынікаў іх варожай дзейнасці і па вылучэнню на кіруючую работу новых кадраў партыйных і непартыйных бальшэвікоў, беззаветна адданых свайму народу і справе комунізма.

Разграміўшы і выкарчоўваючы трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, вылучаючы да кіраўніцтва новыя, адданыя справе партыі і народа кадры, паляпшаючы партыйна-палітычную работу, комуністычная партыя бальшэвікоў Беларусі прышла да свайго XVII з'езда боездольнай, згуртаванай вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта, вакол генія пролетарскай рэволюцыі, нашага правадыра і настаўніка таварыша **Сталіна.**

У выніку велізарнай дапамогі, аказанай беларускаму народу Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) і саюзным урадам, КП(б)Б дабілася значных поспехаў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве і далейшым павышэнні матэрыяльнага дабрабыту рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных Беларусі.

Выконваючы рашэнні лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна, на аснове разгортвання бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі і поўнага правядзення ў жыццё пачаткаў унутрыпартыйнай дэмакратыі, КП(б)Б забяспечыла значнае палепшанне ўсёй партыйна-палітычнай работы.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР і разгарнуўшаяся выбарчая кампанія па выбарах у Вярхоўны Совет БССР паказалі, што КП(б)Б расшырыла і ўмацавала свае сувязі з найшырэйшымі масамі працоўных, што знайшло сваё выражэнне ў нябачаным маральна-палітычным адзінстве совецкага народа, у перамозе сталінскага блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР, у велізарным уздыме палітычнай актыўнасці мас.

Высокая палітычная актыўнасць працоўных, іх беззаветная аддданасць нашай партыі, справе Леніна—Сталіна знайшлі таксама сваё выражэнне ў росце партыйнай арганізацыі за лік лепшых, адданых нашай партыі непартыйных большэвікоў.

Выбары кіруючых партыйных органаў у КП(б)Б прайшлі пад знакам разгорнутай унутрыпартыйнай дэмакратыі, большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі недахопаў партыйнай работы. Вынікі справаздачна-выбарчых сходаў паказалі ідэйна-палітычны рост комуністаў. Да кіраўніцтва партыйнымі арганізацыямі прышлі новыя партыйныя кадры, якія паспяхова авалодваюць майстэрствам большэвіцкага кіраўніцтва. Новыя кадры рашуча ўзяліся за разгром і выкарчоўванне ворагаў народа, за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

Утварэнне абласцей у БССР, у адпаведнасці з рашэннем ЦК ВКП(б), стварыла неабходныя ўмовы для далейшага сур'ёзнага паляпшэння гаспадарчага і партыйна-палітычнага кіраўніцтва на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР.

* * *

XVII з'езд КП(б)Б перасцерагае ўсе партыйныя арганізацыі ад якой-бы там ні было пераацэнкі дасягнутых поспехаў у справе выкрыцця і разгрому ворагаў народа і ліквідацыі вынікаў іх шкодніцкай дзейнасці, супроць малейшай самасупакоенасці і палітычнай бесклапотнасці, памятаючы ўказанні таварыша Сталіна аб тым, што «...пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў».

З'езд падкрэслівае, што асноўнай, рашаючай прадпасылкай для далейшага ўздыму прамысловасці сельскай гаспадаркі, паспяховага вырашэння чарговых гаспадарчых і палітычных задач, ператварэння БССР—фарпоста СССР на рубяжы з капіталістычным светам—у непрыступную крэпасць соцыялізма, з'яўляецца няўхільнае ажыццяўленне рашэнняў лютаўска-сакавіцкага (1937 г.) і студзеньскага (1938 г.) пленумаў ЦК ВКП(б), барацьба за павышэнне рэволюцыйнай пільнасці ўсіх комуністаў, перамаганне палітычнай бесклапотнасці, добрадушнасці і ратазейства, бязлітаснае выкрыццё і знішчэнне рэштак варожых гнёзд, хутчэйшая ліквідацыя вынікаў шкодніцтва, смелае вылучэнне і большэвіцкае выхаванне маладых праверанных кадраў, уздым усёй партыйна-палітычнай работы.

З'езд адзначае наяўнасць буйнейшых недахопаў у радзе галін прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва БССР. Недапушчальна дрэнна працуюць і па сутнасці яшчэ не прыступілі да ліквідацыі вынікаў шкодніцтва: Наркамат лясной прамысловасці, Наркамгас (асабліва ў галіне энергетычнай, воднай гаспадаркі і жылбудаўніцтва), Наркамгандаль, Наркомасветы і Кіраўніцтва па справах мастацтваў.

З'езд даручае Цэнтральнаму Камітэту партыі неадкладна забяспечыць умацаванне кіраўніцтва гэтых галін народнай гаспадаркі праверанымі бальшэвіцкімі кадрамі і распрацаваць канкрэтны план практычных мерапрыемстваў, забяспечваючых хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ў гэтых галінах народнай гаспадаркі. З'езд асабліва падкрэслівае неабходнасць хутчэйшай ліквідацыі адставання энергетычнай базы ад росту ўсёй народнай гаспадаркі, ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў размяшчэнні прадукцыйных сіл у рэспубліцы і адставанні жыллёва-культурнага будаўніцтва БССР, асабліва пагранічнай паласы.

З'езд асоба падкрэслівае нездавальняючы ход выканання плана торфаздабычы 1938 года, нездавальняючае кіраўніцтва гэтай важнейшай галіной—асноўнай паліўна-энергетычнай базы рэспублікі, з боку Наркаммясцпрома і зусім слабую дапамогу торфапрамысловасці з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і СНК БССР, усе партыйныя і савецкія арганізацыі забяспечыць няўхільнае развіццё і паляпшанне работы тарфяной прамысловасці, таксама выкананне плана 1938 года.

З'езд прапануе ўсім партарганізацыям па-бальшэвіцку мабілізаваць сілы на выкананне дзяржаўнага плана прамысловасці 1938 года і на ўздым прадукцыйнасці працы, зніжэнне сабекошту прадукцыі, правядзенне цвёрдай фінансавай дысцыпліны, выпуску высокаякаснай прадукцыі.

Бальшэвіцкае кіраўніцтва прадпрыемствам азначае перш за ўсё—правільная арганізацыя працы, канчатковае спыненне якіх-бы там ні было фактаў штурмаўшчыны, уменне, апіраючыся на актыў, арганізаваць людзей на ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

З'езд абавязвае ўсіх партыйных і гаспадарчых кіраўнікоў узначаліць растучую палітычную актыўнасць рабочых мас і, апіраючыся на перадавікоў, забяспечыць бальшэвіцкае кіраўніцтва ў справе масавага разгортвання стаханаўскага руху і рашучага павышэння ўсёй культуры вытворчасці. З'езд падкрэслівае, што да гэтага часу не выканана рашэнне лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) аб арганізацыі палітычнага выхавання гаспадарчых кадраў і прапануе ўсім партыйным арганізацыям аказаць неабходную дапамогу гаспадарчым органам у арганізацыі палітычнага выхавання гаспадарчых кадраў. .

З'езд адзначае, што на чыгуначным і водным транспарце слаба ліквідуюцца вынікі япона-нямецкага, польскага, трацкісцка-бухарынскага шкодніцтва, няма бальшэвіцкай барацьбы з крушэннямі і аварыямі, важнейшыя якасныя паказчыкі, як пагрузка грузаў першай катэгорыі, барацьба за графік руху паяздоў, абарот вагонаў, абарачваемасць флота—не выконваюцца.

З прыходам на чыгуначны транспарт Л. М. Кагановіча і на водны—Н. І. Ежова, работа чыгуначнага і воднага транспарта рэзка палепшылася. Аднак, палітаддзелы чыгуначнага і воднага транспарта не забяспечылі выканання рашэнняў лютаўска-сакавіцкага (1937 г.) і студзеньскага (1938 г.) пленумаў ЦК ВКП(б), не арганізавалі кіраўніцтва стаханаўска-крываносаўскім рухам, соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам.

Выкрыццё, выкарчоўванне і разгром япона-нямецкіх, польскіх, трацкісцка-бухарынскіх шпіёнаў, шкоднікаў і дыверсантаў з'яўляецца важнейшай задачай палітаддзелаў і партарганізацый чыгуначнага і воднага транспарта.

З'езд абавязвае палітаддзелы і ўсе партарганізацыі Беларускай і Заходняй чыгунак і воднага транспарта галоўную сваю ўвагу сканцэнтраваць на хутчэйшым выкананні рашэнняў лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, на поўнай ліквідацыі крушэнняў і аварый, на ўзняцці авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці, на ўстанаўленні жалезнай дзяржаўнай дысцыпліны на транспарце, на выкананні планаў па ўсіх паказчыках работы чыгуначнага і воднага транспарта.

З'езд абавязвае ўсе тэрытарыяльныя партыйныя арганізацыі аказваць штодзенную практычную дапамогу палітаддзелам і партарганізацыям Беларускай і Заходняй чыгунак і воднага транспарта, сістэматычна правяраючы і заслухоўваючы іх на пасяджэннях ЦК, абкомаў, гаркомаў, райкомаў КП(б)Б.

XVII з'езд КП(б)Б адзначае, што ў выніку разгрому трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, выкрыцця іх шкодніцкай, дыверсійнай дзейнасці ў сельскай гаспадарцы, выкарчоўвання іх стаўленікаў у партыйным, гаспадарчым і совецкім апаратах, у рэзультаце ліквідацыі вынікаў іх шкодніцкай дзейнасці і паслядоўнага ажыццяўлення гістарычнага рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня 1937 года, КП(б)Б забяспечыла значнае палітычнае і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, павышэнне матэрыяльнага добрабыту калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў.

Вырасла і ўмацавалася машынна-тэхнічная база сельскай гаспадаркі, якая налічвае 200 МТС з паркам у 8140 трактароў, 1236 камбайнаў і тысячы іншых складаных сельскагаспадарчых машын. Вырасла палітычная актыўнасць калгасных мас, іх адданасць нашай партыі і яе правадыру таварышу Сталіну. Калгаснае сялянства Беларусі, выконваючы рашэнні ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, паднялося на разгром ворагаў і ліквідацыю здрадніцкіх, правакацыйных планаў і шкодніцкай дзейнасці наймітаў германа-япона-польскага фашызма. У гэтай барацьбе калгаснае сялянства Беларусі вылучыла новых калгасных арганізатараў, стаханаўцаў, да канца адданых сваёй партыі і радзіме. Разам з тым з'езд лічыць, што ў партыйна-палітычнай рабоце на сяле і ў кіраўніцтве сельскай гаспадаркай ёсць яшчэ буйнейшыя недахопы, патрабуючыя неадкладнага знішчэння.

Наркамзем БССР і нізавыя зямельныя органы не вядуць неабходнай большэвіцкай барацьбы за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ў галіне жывёлагадоўлі. Важнейшай задачай партыйных арганізацый, гаспадарчых і зямельных органаў у галіне развіцця жывёлагадоўлі з'яўляецца настойлівая работа па захаванню, узнаўленню і палепшанню конскага пагалоўя, ліквідацыя інфекцыйных захворванняў, развядзенне высокапрадуктыўнай жывёлы, большэвіцкая праверка кадраў, працуючых на ўчастку жывёлагадоўлі і рашучае выкрыццё і выкарчоўванне прытаіўшыхся ворагаў.

З'езд адзначае недапушчальнае адставанне БССР у пытаннях унутрыкалгаснага землеўпарадкавання. Нездавальняюча выконваецца рашэнне ЦК ВКП(б) аб увядзенні правільных севазваротаў. Партыйныя арганізацыі павінны зразумець, што без своечасовага ўвядзення правільнага севазвароту немагчыма паспяховая барацьба за сур'ёзнае павышэнне ўраджайнасці.

З'езд адзначае, што партыйнымі, гаспадарчымі і совецкімі арганізацыямі рашэнні ЦК ВКП(б) і СНК СССР па сцягванню хутароў

выконваюцца нездавальняюча. З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі выканаць гэтую дырэктыву ва ўстаноўленыя тэрміны.

З'езд падкрэслівае слабую работу партыйных арганізацый у галіне калектывізацыі. Рост калектывізацыі па рэспубліцы за справаздачны год складае 0,5 проц. Партыйныя арганізацыі не здолелі накіраваць вырасшую палітычную актыўнасць сярод аднаасобнікаў на аб'яднанне іх у калгасы, не здолелі глыбокай палітычнай агітацыяй на шматлікіх канкрэтных фактах большэвіцкага ўмацавання калгасаў і павышэння матэрыяльнага добрабыту калгаснікаў арганізаваць уступленне працоўных аднаасобнікаў у члены сельгасарцеляў.

З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі, на аснове рэалізацыі пастаноў ЦК ВКП(б) «Аб забароне выключэння калгаснікаў з калгасаў», «Аб няправільным размеркаванні даходаў у калгасах», «Аб падатках і іншых абавязацельствах у адносінах аднаасобных гаспадарак»—забяспечыць правядзенне мерапрыемстваў па далейшаму арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў, па рашучаму ўзняццю ўраджайнасці, асабліва па ільну, забяспечыць укараненне і расшырэнне сартавога насеннаводства ў калгасах, узняцце натуральнага і грашовага кошту працадня, больш эфектыўнае і рацыянальнае выкарыстанне багацейшай тэхнікі ў сельскай гаспадарцы, правядзенне сістэматычнай і настойлівай арганізацыйна-масавай і палітычнай работы па ўцягненню аднаасобнікаў у калгасы, рашуча ліквідуючы антыкалгасную практыку ў адносінах да аднаасобных гаспадарак.

Паставіць, як адну з сур'ёзных задач перад усімі партыйнымі, совецкімі і зямельнымі органамі—умацаванне і стабілізацыю кіруючых калгасных кадраў. Забараніць укараніўшуюся ў многіх месцах недапушчальную практыку беспадстаўнай змены старшынь калгасаў.

XVII з'езд КП(б)Б адзначае, што, не гледзячы на папярэджанне ЦК ВКП(б) аб недапушчальнасці адставання ў выкананні дзяржаўных абавязацельстваў і не гледзячы на ўказанні аб тым, што адставанне пасля велізарных ільгот, прадастаўленых Саюзным урадам беларускаму сялянству, небяспечна з пункту гледжання ўнясення палітычнага разлажэння ў партыйны, совецкі апараты і сярод актыва, выкананне дзяржаўных абавязковых паставак і плацяжоў астаецца нездавальняючым, асабліва па калгасніках і аднаасобнаму сектару.

З'езд абавязвае ўсе партыйныя, совецкія і загатоўчыя арганізацыі ліквідаваць недапушчальнае адставанне рэспублікі ў выкананні дзяржаўных паставак і грашовых плацяжоў, ведучы рашучую барацьбу з добрадушнасцю і палітычнай бесклапотнасцю, якія ёсць у справе выканання гэтых задач.

З'езд КП(б)Б адзначае, што якасць гандлёвай работы, асабліва на сяле і ў пагранічных раёнах, значна адстае ад быстра растучых запатрабаванняў працоўных. Гандлёвая сетка ўсё яшчэ засмечана варожымі элементамі, ёсць велізарныя растраты і раскрадванні.

З'езд, прымаючы да ведама мерапрыемствы, прынятыя ЦК КП(б)Б па ўмацаванню кадрамі гандлёвай сістэмы, абавязвае ЦК прадоўжыць работу па ўмацаванню гандлёвай сеткі новымі кадрамі, здольнымі па-большэвіцку арганізаваць работу па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

* * *

З'езд абавязвае ЦК, абкомы і ўсе партыйныя арганізацыі захоўваць у сваёй пастаяннай практычнай рабоце прынцыпы ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі: па-большэвіцку кіраваць далейшым ростам беларускай культуры—нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу, забяспечыць рост нацыянальнага тэатра, мастацтва, літаратуры, кінематаграфіі, практычна паставіць і вырашыць пытанні далейшага развіцця беларускай мовы, ліквідаваць вынікі шкодніцтва ў галіне мовы і выкладання літаратуры, забяспечыць сапраўдны росквіт народнага мастацтва, мастацкай самадзейнасці працоўных, любоўна вырошчваць і вылучаць кадры беларускіх работнікаў.

З'езд, падкрэсліваючы велізарнае значэнне справы народнай асветы, адзначае, што ў Наркомасветы і ў органах народнай асветы на месцах няма большэвіцкай барацьбы за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва. Наркомасветы ў справе кіраўніцтва народнай асветай рэзка адстае ад узроўню пастаўленых партыяй палітычных задач.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б прыняць меры да ўмацавання большэвіцкімі праверанымі кадрамі сістэмы Народнага камісарыята асветы з тым, каб забяспечыць быструю ліквідацыю вынікаў шкодніцтва, умацаваць работу няпоўных сярэдніх школ; узняць якасць вучобы і паспяховасць вучняў; прыняць меры да поўнага забеспячэння школ настаўнікамі, у першую чаргу, па беларускай і рускай мовах, літаратуры і гісторыі. Прыняць рашучыя меры да ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослага насельніцтва.

З'езд абавязвае ўсе партыйныя і комсамольскія арганізацыі прыняць меры да ўзмацнення грамадска-палітычнага выхавання навучаючыхся, да разгортвання неабходнай ідэйна-палітычнай работы сярод настаўніцтва.

У мэтах палепшання работы вышэйшай школы, ЦК КП(б)Б, у адпаведнасці з указаннямі таварыша Сталіна і таварыша Молатава на нарадзе па вышэйшай школе, забяспечыць: падрыхтоўку кадраў спецыялістаў у адпаведнасці з патрэбнасцямі прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры, стабільнасць планаў і праграм вышэйшых навучальных устаноў, ліквідаваць многапрадметнасць, забяспечыць выпуск дастатковай колькасці падручнікаў, узмацніць вывучэнне соцыяльна-эканамічных дысцыплін і рускай мовы ў вышэйшай школе і ў тэхнікумах. Поўнасцю аднавіць аспірантуру, ліквідаваную шкоднікамі, і разгарнуць яе сетку. Значна палепшыць ідэйна-палітычнае выхаванне студэнцтва.

З'езд падкрэслівае, што ва ўмовах усё больш і больш нарастаючай небяспекі ваеннага нападу на СССР, выключнае значэнне набывае ўмацаванне ваеннаабароннай работы. Пагранічнае становішча БССР абавязвае арганізаваць вывучэнне комуністамі, і перш за ўсё партыйным актывам, ваеннай справы, абавязвае ўзорна паставіць работу па ўмацаванню сувязі тэрытарыяльных партыйных арганізацый з часцямі Чырвонай Арміі.

З'езд адзначае буйныя недахопы ў арганізацыі работы ППХА сярод працоўных і прапануе ўзмацніць работу па ўмацаванню сістэмы мясцовай проціпаветранай і хімічнай абароны.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і партыйныя арганізацыі паставіць у цэнтр увагі пытанні абароннай работы і дапамогу партыйна-палітычным органам Чырвонай Арміі ва ўсёй іх практычнай рабоце.

З'езд прапануе ЦК КП(б)Б і абкомам перыядычна заслухоўваць ваенных камісараў і сакратароў райкомаў аб стане абароннай работы ва ўстановах, калгасах і на прадпрыемствах, строга кіруючыся статутам нашай партыі.

З'езд абавязвае партыйныя арганізацыі прыняць усе меры да ўмацавання асоавіяхімаўскай работы на сяле.

Улічваючы выключнае значэнне дарог у абароне краіны, з'езд абавязвае ЦК КП(б)Б, абкомы і райкомы забяспечыць строгае выкананне ў тэрмін будаўнічых дарожных работ і прывядзенне ў належны парадак існуючых дарог, звярнуўшы асаблівую ўвагу на пад'язныя шляхі да чыгуначных магістраляў.

Улічваючы палітычную і гаспадарчую важнасць будаўніцтва ў г. Магілеве, у адпаведнасці з рашэннем ЦК ВКП(б) і СНК Саюза, з'езд абавязвае ЦК КП(б)Б, СНК БССР, Магілеўскі абком КП(б)Б і астатнія партыйныя і савецкія органы ўстанавіць штодзенны кантроль за ходам будаўніцтва і забяспечыць своечасовае выкананне будаўнічай праграмы.

Адзначаючы рад выпадкаў парушэння рэвалюцыйнай законнасці (выданне незаконных абавязковых пастаноў райвыканкомамі і гарсаветамі, парушэнне сталінскага статута сельгасарцелі і іншыя), з'езд даручае ЦК КП(б)Б прыняць практычныя меры па ўмацаванню савецкага сацыялістычнага правапарадку. Партарганізацыям прыняць меры да ўмацавання праверанымі кваліфікаванымі кадрамі органаў пракуратуры і суда і ўдзяляць максімум увагі палітычнаму зместу работы гэтых органаў.

* * *

XVII з'езд КП(б)Б лічыць, што ЦК КП(б)Б не дабіўся яшчэ павароту ўсіх партыйных арганізацый у бок палепшання арганізацыйна-партыйнай і палітыка-выхаваўчай работы з камуністамі. Рад раённых партыйных арганізацый упускаюць пытанні партыйна-палітычнай работы. Гэтым тлумачыцца слабасць кіраўніцтва сацыялістычным спаборніцтвам, работай па прыёму ў партыю, па арганізацыі агітацыі і прапаганды ў многіх партыйных арганізацыях. Важнейшай задачай ЦК КП(б)Б з'яўляецца палітычнае выхаванне партыйных, савецкіх, гаспадарчых кадраў, узбройванне іх бальшэвізмам, уменнем правільна спалучаць палітычную і гаспадарчую работу.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б дабіцца такой пастаноўкі работы АКПО ЦК і абкомаў, каб Цэнтральны Камітэт ведаў работу кожнай раённай партыйнай арганізацыі, вывучаў і абагульняў вопыт партыйнай работы і аказваў практычную дапамогу новавылучаным работнікам, своечасова рэагуючы на іх запросы.

З'езд звяртае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на выключнае значэнне партыйных сходаў у справе бальшэвіцкай загартоўкі членаў партыі і на неабходнасць шырокага прыцягнення ўсіх членаў партыі да падрыхтоўкі, вырашэння і вывучэння на партыйных сходах пытанняў палітычнага і гаспадарчага жыцця, міжнароднага становішча і дзейнасці брацкіх кампартый.

З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі няўхільна ажыццяўляць пастанову ЦК ВКП(б) аб сходах гарадскога і раённага актываў, ставячы на абмеркаванне актыва важнейшыя пытанні жыцця партарганізацыі. Гэта забяспечыць далейшае павышэнне палітычнага росту і падняцце ролі актыва ў кіраўніцтве партыйным жыццём.

Разам з тым, з'езд падкрэслівае выключную важнасць для бальшэвіцкага выхавання кадраў ажыццяўленне прынцыпаў калектыўнага кіраўніцтва, рашуча змагаючыся з фактамі нягоднай практыкі адзінаасабовага вырашэння пытання.

З'езд даручае ЦК забяспечыць кантроль за сістэматычным прыцягненнем членаў парткомаў, райкомаў, гаркомаў і абкомаў да ўдзелу ў падрыхтоўцы і вырашэнні асноўных пытанняў работы партарганізацыі.

З'езд лічыць зусім недастатковай работу раённых і пярвічных партарганізацый па прыёму ў партыю: у многіх пярвічных, раённых арганізацыях па сутнасці не адноўлен прыём у КП(б)Б. Асабліва нездавальняюча працуюць сельскія партыйныя арганізацыі па прыёму ў партыю калгаснікаў-стаханаўцаў, трактарыстаў і камбайнераў.

Надзвычай слаба пастаўлена работа з новапрынятымі ў партыю, з уцягненнем іх у партыйнае жыццё і вучобу. Зусім нездавальняючы рост спачуваючых і палітычная работа з імі.

З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі палепшыць работу па арганізацыі прыёму ў партыю рабочых-стаханаўцаў, перадавых калгаснікаў, прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі, даказаўшых на справе сваю адданасць справе партыі і краіны, строга захоўваючы пры гэтым індывідуальны падыход пры прыёме ў партыю. Арганізаваць сістэматычную работу са спачуваючымі і ўцягненне лепшых з іх у рады партыі.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б весці рашучую барацьбу за няўхільнае выкананне рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна аб індывідуальным падыходзе да члена партыі. Не гледзячы на значную работу, прароблену партарганізацыямі па ажыццяўленню рашэнняў студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) па ліквідацыі вынікаў варожай работы, праведзенай ворагамі ў перыяд праверкі і абмену партдакументаў, з'езд устанаўлівае наяўнасць фактаў бяздушных, бюракратычных адносін да людзей, да лёсу асобных членаў партыі і даручае ЦК КП(б)Б давесці да канца работу па выпраўленню дапушчаных памылак, знішчыць факты доўгай зацяжкі ў выдачы партыйных дакументаў адноўленым у партыі і забяспечыць рэабілітацыю зняслаўленых праз друк. З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі і надалей выкрываць ворагаў народа і паклёпнікаў, якія крыкамі аб пільнасці імкнуцца скрыць сваю варожасць, захаваць сябе ў партыі і перабіць бальшэвіцкія кадры.

XVII з'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і ўсе партарганізацыі ў адпаведнасці з рашэннем ЦК ВКП(б) ад 4 сакавіка 1938 года больш рашуча вылучаць праверахых беспартыйных, асабліва жанчын, на кіруючую работу ў раённыя, абласныя і цэнтральныя апараты, ствараючы абстаноўку чулых і ўважлівых адносін і штодзеннай аператыўнай дапамогі ім у рабоце.

Абавязаць ЦК КП(б)Б павесці рашучую барацьбу па выкарчоўванню элементаў бюракратызма, валакіты і нячулых адносін да людзей як у апараце ЦК КП(б)Б, так і ў абкомах, райкомах і пярвічных партарганізацыях. Устанавіць строгі кантроль за рухам скаргаў і пісем комуністаў, працоўных, рашуча выганяць з апарата асоб, якія не забяспечваюць чулае і ўважлівае рэагаванне на запросы комуністаў, працоўных.

З'езд ставіць задачу рашучай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў галіне партыйнай прапаганды шляхам арганізацыйнага ўмацавання і ўпарадкавання сеткі партыйнай вучобы, падняцця якасці вучобы, ліквідацыі шаблона і схематызма ў партыйнай вучобе, ліквідацыі

цякучасці складу слухачоў і прапагандыстаў, поўнага ахопу камуністаў марксісцка-ленінскім выхаваннем і рашучага палепшання наведвання камуністамі заняткаў. Неабходна перабудаваць работу школ і гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі ў адпаведнасці з пісьмом таварыша Сталіна да ўкладальнікаў падручніка па гісторыі партыі, умацаваць праверанымі бальшэвіцкімі кадрамі Інстытут гісторыі КП(б)Б і забяспечыць выданне інстытутам матэрыялаў па гісторыі КП(б)Б.

Адзначаючы слабую работу партарганізацыі па падрыхтоўцы і выхаванню прапагандысцкіх кадраў, недастатковую дапамогу нававылучаным прапагандыстам, з'езд абавязвае карэнным чынам палепшыць работу семінараў прапагандыстаў і работу парткабінетаў, як цэнтра метадычнай дапамогі і штодзеннай кансультацыі прапагандыстам і агітатарам.

З'езд патрабуе ад усіх партыйных арганізацый узняць на больш высокую ступень вывучэнне пытанняў міжнароднага жыцця з тым, каб кадры партыйнага актыва былі ў курсе асноўных пытанняў міжнароднага становішча, умелі штодзенна растлумачваць гэтыя пытанні шырокім масам працоўных. Неабходна ўзброіць членаў і кандыдатаў партыі веданнем метадаў і прыёмаў замежных разведак і іх агентаў—трацкісцка-бухарынскіх і іншых двурушнікаў, узнімаючы яшчэ вышэй рэвалюцыйную пільнасць комуністаў у барацьбе з ворагамі народа.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і ўсе партыйныя арганізацыі замацаваць поспехі, дасягнутыя ў агітацыйнай рабоце ў сувязі з выбарамі ў Вярхоўныя Советы СССР і БССР. Палепшыць агітацыйную работу сярод насельніцтва па месцу жыхарства, сярод будаўнікаў, тарфянікаў, рабочых лесасплаву, у калгасах і пасёлках. Неабходна праз калектывы агітатараў прадаўжаць работу па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню новых кадраў, прышоўшых на агітацыйную работу.

З'езд адзначае запушчанасць антырэлігійнай прапаганды і абавязвае ЦК КП(б)Б і ўсе партарганізацыі ўмацаваць работу таварыства і ячэек саюза ваяўнічых бязбожнікаў і намеціць мерапрыемствы па разгортванню антырэлігійнай прапаганды.

З'езд лічыць, што ў рабоце друку ёсць сур'ёзныя недахопы. Друк нездавальняюча і павярхоўна асвятляе пытанні партыйнага жыцця. Часта актуальныя пытанні партыйна-палітычнага жыцця асвятляюцца на нізкім ідэйным узроўні. Газеты нездавальняюча выконваюць рашэнні студзеньскага пленума ЦК ВКП(б), нерашуча рэабілітуюць зняслаўленых друкам работнікаў. Да гэтага часу не зжыта палітычная бесклапотнасць і неахайнасць пры выпуску газет. Зусім нездавальняюча працуе друк з рабселькораўскім актывам, з пісьмамі працоўных.

З'езд абязвае ЦК, абкомы і райкомы ўзмацніць кіраўніцтва друкам, асабліва насценнымі газетамі і шматтыражкамі. Строга кіравацца рашэннем ЦК ВКП(б) ад 11 красавіка аб аддзелах партыйнага жыцця ў цэнтральных і мясцовых газетах. Неабходна ў самы бліжэйшы час прыняць меры да ўкамплектавання газет праверанымі партыйнымі кадрамі, да ўзмацнення асвятлення вопыту партыйнай работы, шырока прыцягваючы да работы газет партыйны актыў.

Памылкі, ускрытыя ЦК ВЛКСМ у рабоце ЦК ЛКСМБ і ўсёй комсамольскай арганізацыі БССР, сведчаць аб недастатковым, а ў радзе месц зусім слабым кіраўніцтве партыйных арганізацый работай ком-

самола. Кіраўніцтва ЦК ЛКСМБ не выканала рашэнняў V пленума ЦК ВЛКСМ аб выпраўленні памылак, дапушчаных пры выключэнні комсамольцаў з комсамола і разглядзе іх апеляцый, а прадаўжала асуджаную партыяй практыку няправільнага выключэння з комсамола, ахайвання чэсных комсамольцаў і бюракратычных, бяздушных адносін да іх апеляцый. Зусім недастатковы рост комсамольскіх арганізацый, асабліва ў калгасах і навучальных установах. Слаба расце партыйнае ядро ў комсамоле.

З'езд адабрае мерапрыемствы ЦК КП(б)Б па ўмацаванню кіраўніцтва ЦК ЛКСМБ і выпраўленню дапушчаных ЦК ЛКСМБ памылак. З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі палепшыць штодзеннае кіраўніцтва ідэйна-палітычным выхаваннем комсамольскай арганізацыі, аказваючы ім практычную дапамогу прапагандысцкімі кадрамі, арганізаваць дапамогу ў разгортванні работы па ўцягненню рабочай і калгаснай моладзі ў комсамол, у палепшанні работы комсамола з калгаснай моладдзю, у школах і вышэйшых навучальных установах. Узмацніць работу па прыёму лепшых, перадавых комсамольцаў у партыю.

* * *

З'езд прапануе ўсім партыйным, совецкім і профсаюзным арганізацыям правесці прадстаячыя выбары ў Вярхоўны Совет БССР яшчэ лепш, яшчэ больш арганізавана, чым выбары ў Вярхоўны Совет СССР, ахапіць масава-палітычнай работай усіх працоўных як па месцу іх работы на прадпрыемствах і ва ўстановах, так і па месцу жыхарства. Забяспечыць далейшы ўздым палітычнай актыўнасці мас, усямернае ўмацаванне на выбарах блока комуністаў і беспартыйных, дабіваючыся стопроцантнага ўдзелу ў галасаванні за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, выбрання ў Вярхоўны Совет БССР дастойных, адданых справе партыі Леніна—Сталіна дэпутатаў.

Большэвікі Беларусі, згуртаваныя вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, вакол найвялікшага правадыра міжнароднага пролетарыята—таварыша Сталіна, гатовы і надалей бязлітасна граміць усіх ворагаў народа.

З'езд запэўняе Цэнтральны Камітэт ВКП(б), што комуністычная партыя большэвікоў Беларусі поўна цвёрдай рашымасці і большэвіцкай энергіі працаваць над ажыццяўленнем задач, пастаўленых Цэнтральным Камітэтам ВКП(б), ведучы нястомную барацьбу за тэржаство комунізма ва ўсім свеце. КП(б)Б была, ёсць і будзе верным і несакрушальным атрадам Ленінска-Сталінскага Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і правадыра партыі і народа, нашага друга і настаўніка таварыша Сталіна.

Няхай жыве непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна!

## Склад членаў пленума Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай Партыі (большэвікоў) Беларусі, выбраных XVII з'ездам КП(б)Б

АНАНЬЕЎ А. А.
АНІСКАВЕЦ В. Т.,
АКІМАЎ С. Д.,
БЕДЗІН В. В.,
БЕЛЯЕЎ С. М.,
БРЫКАЎ А. Д.,
ВАЛЧКОЎ Е. К.,
ВАСІЛЬЕЎ І. В.,
ГУСЕЎ Д. С.,
ГЕРМАН М. Е.,
ГУЦЭЎ У. А.,
ГОЛІКАЎ Ф. І.,
ГОРЭЎ К. В.,
ЖЫЛЯНІН Я. А.,
ЖДАНЬКОВА А. І.,
ІГАЕЎ С. С.
ІВАНОЎ Н. І.,
КАВАЛЁЎ А. Ф.,
КАВАЛЬКОЎ І. Д.,
КУЛАГІН М. В.,
КУДЗІНОВІЧ І. М.,
КАРАТКЕВІЧ Д. А.,
КЛІМОВІЧ А. В.,
КАВАЛЁЎ М. П.,
КІСЯЛЁЎ К. В.,
КАРОВІН І. С.,
КУЛІКОЎ С. Д.,
ЛЯВІЦКІ А. М.,
ЛАБАНОК А. Б.,
ЛОДЫСЕЎ С. Т.,
МАЛЕНКОЎ Г. М.,
МЕХЛІС Л. З.,
МАСЛЕННІКАЎ І. І.,
МІКУШЫН Г. Н.,
МАТЛАХОЎ Д. А.,
МАТВЕЕЎ А. П.,
МАРКІН Д. Ф.,
МАКСІМАЎ Д. К.,
МЕЛЬНІКАЎ С. П.,
НАСЕДКІН А. А.,
НЕБЫШЫНЕЦ Н. Е.,
НАСКОЎ П. А.,
НАТАЛЕВІЧ Н. Я.,
НОВІК С. Я.,
ОЧКАСАЎ А. І.,
ОСТРОЎСКАЯ М. М.,
ПАНАМАРЭНКА П. К.,
ПАСТУХОЎ Ф. І.,
ПЕТРОЎ М. П.,
ПІГУРНОЎ А. П.,
РЭПІНСКІ М. Я.,
РАМАНЕНКА С. М.,
СВІНЦОЎ А. А.,
СУБОЦІН Т. Ф.,
САЛАБУЦІН В. Т.,
САВІЦКІ П. П.,
СМОЛЯР В. П.,
ТЕРЭХАЎ І. Ф.,
ТРАГЕР Г. І.,
УРАЛАВА Е. І.,
ХАРЛАНАВА В. Ф.,
ШЛІФЕНСОН С. І.,
ШЧЭБЕТАЎ С. Я.,
ЮХІМЧУК І. І.,
ЯКАВІЦКІ В. В.,
ЯКУШЭВА Т. І.

## Склад кандыдатаў у члены пленума ЦК КП(б) Беларусі, выбраных XVII з'ездам КП(б)Б

ДЗМІТРЫЕЎ В. І.,
МАЛЬЦЭЎ С. І.,
КРАСНАШЭЕЎ І. І.,
ЗАХАРАЎ С. А.,
ЯГОДКІН В. М.,
ЕРМАКОЎ В. К.,
МАРОЗАЎ С. І.,
ВАНЕЕЎ В. Г.,
ШЭКЛАНАЎ І. П.,
КАВАЛЁЎ П. Е.,
КАУФМАН З. І.,
ЦУРБАНАЎ Д. Л.,
КАЗАЧОНАК Г. С.,
ШЫБАЛКА В. Г.,
ГАНЧАРОЎ К. Д.,
СПАСАЎ П. С.,
БЫЛІНСКІ В. П.,
ГРЭК Н. Г.,
ЕРМАК А. В.,
МАЦЮШКА В. Ф.,
ШМУРАТКА А. Е.,
ШАХМЕТАЎ С. К.,
ЖУР Е. К.

## Склад членаў рэвізійнай камісіі ЦК КП(б)Б, выбраных XVII з'ездам КП(б)Б

АБУШЭНКА К. А.,
БАЧЭЎСКІ В. А.,
БАГАМОЛАВА Е. П.,
ГАЎРЫЛАЎ Ф. Г.,
ЛЕВІН Н. Г.,
ЛІТВІНАВА Л. М.,
МАКАРАЎ І. Н.,
СЕДЫХ В. Я.,
ТУР І. П.

# Інфармацыйнае паведамленне

## Пленум Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі

19 чэрвеня адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі, выбраны XVII з'ездам КП(б)Б. У рабоце пленума прыняў удзел сакратар ЦК ВКП(б) тав. Андрэеў А. А.

Пленум выбраў сакратарамі ЦК КП(б)Б тав. Панамарэнка П. К. і тав. Ананьева А. А.

Членамі бюро ЦК КП(б)Б пленумам выбраны таварышы Панамарэнка П. К., Ананьеў А. А., Кавалёў А. Ф., Наталевіч Н. Я., Наседкін А. А., Лявіцкі А. М., Рэпінскі М. Я., Кавалёў М. П., Голікаў Ф. І.

Кандыдатамі ў члены бюро ЦК КП(б)Б выбраны тт. Маркін Д. Ф., Матвееў А. П., Якушэва Т. І., Кавалькоў І. Д.

# Спіс дэпутатаў, выбраных у Вярхоўны Совет Беларускай ССР

**Сталін** Іосіф Вісарыёнавіч—Прамысловая акруга гор. Менска.

**Молатаў** Вячэслаў Міхайлавіч — Дзяржынская акруга гор. Менска.

**Варашылаў** Клімент Ефрэмавіч — Молатаўская акруга гор. Менска.

**Кагановіч** Лазар Майсеевіч—Сталінская акруга гор. Гомеля.

**Калінін** Міхаіл Іванавіч—Куйбышэўская акруга гор. Магілева.

**Мікаян** Анастас Іванавіч—Мазырская гарадская акруга.

**Андрэеў** Андрэй Андрэевіч—Ленінская акруга гор. Гомеля.

**Ежоў** Нікалай Іванавіч—Ленінская акруга гор. Віцебска.

**Жданаў** Андрэй Аляксандравіч—Валадарская акруга гор. Віцебска.

**Панамарэнка** Панцелеймон Кандрацьевіч—Кагановіцкая акруга гор. Віцебска.

**Ананьеў** Анатолій Андрэевіч—Ульская акруга.

**Узілеўскі** Шлёма Мордухавіч—Асвейская акруга.

**Мельнікаў** Нікалай Пятровіч—Расонская акруга.

**Ясючэнка** Васілій Сямёнавіч—Чырвонаборская акруга.

**Крупеня** Іван Ануфрыевіч—Дрысенская акруга.

**Драздова** Варвара Васільеўна—Боркавіцкая акруга.

**Ваднёў** Трафім Афанасьевіч—Баравухская акруга.

**Ефрэмаў** Васілій Васільевіч—Юравіцкая акруга.

**Снегаў** Фядот Пракоф'евіч—Полацкая сельская акруга.

**Уралава** Еўдакія Ільінічна—Полацкая гарадская акруга.

**Голікаў** Філіп Іванавіч—Полацкая—Сталінская акруга.

**Шыбалка** Владзімір Гаўрылавіч—Ветрынская акруга.

**Чаплыгін** Аляксей Георгіевіч—Фарыноўская акруга.

**Крыскевіч** Ефрасінья Кірылаўна—Кубліцкая акруга.

**Шарыпа** Дар'я Філіпаўна—Ушацкая акруга.

**Кішчэнка** Еўгенія Карпаўна—Каменская акруга.

**Мельнікаў** Сяргей Пятровіч—Лепельская сельская акруга.

**Буценка** Дзмітрый Нікіфаравіч—Лепельская гарадская акруга.

**Волкаў** Еўсцігней Іларыёнавіч—Валасоўская акруга.

**Сухоцкая** Анна Цімафееўна—Бешанковіцкая акруга.

**Казачонак** Дзмітрый Еўдакімавіч—Бешанковіцкая сельская акруга.

**Калінін** Пётр Захаравіч—Чашніцкая акруга.

**Падалец** Екацярына Платонаўна—Чашніцкая сельская акруга.

**Мацюшка** Адам Міхайлавіч—Чарэйская акруга.

**Кунцэвіч** Кузьма Майсеевіч—Талачынская акруга.

**Макеенка** Фёдар Варфаламеевіч—Каханаўская акруга.

**Шэлкоў** Владзімір Паўлавіч—Талачынская сельская акруга.

**Лежнін** Нікіта Фёдаравіч—Сенненская акруга.

**Казлоўскі** Іван Васільевіч—Раснянская акруга.

**Сцяпанава** Марыя Антонаўна—Смалянская акруга.

**Ціхінская** Ефрасінья Канстанцінаўна—Еромкавіцкая акруга.

**Калінічаў** Цімафей Васільевіч—Панізоўская акруга.

**Гусеў** Дзмітрый Сцяпанавіч—Аршанская сельская акруга.

**Наталевіч** Нікіфар Якаўлевіч—Аршанская гарадская акруга.

**Радноў** Пётр Якаўлевіч—Аршанская—Чыгуначная акруга.

**Пажарная** Еўдакія Іванаўна—Дубровенская гарадская акруга.

**Патапаў** Пётр Андрэевіч—Дубровенская сельская акруга.

**Самошкін** Аляксандр Ільіч—Ляднянская акруга.

**Мураўёва** Анна Васільеўна—Высачанская акруга.

**Чарнышова** Мар'я Афанасьеўна—Лёзнянская акруга.

**Паліцан** Іван Станіслававіч—Добрамысленская акруга.

**Рабцэў** Ілья Нікалаевіч—Багушэўская акруга.

**Цярэнцьеў** Пракоп Герасімавіч—Багушэўская сельская акруга.

**Беляеў** Спірыдон Маркавіч—Старасельская акруга.

**Сарокін** Пётр Васільевіч—Селюцкая акруга.

**Жылянін** Акім Аляксандравіч—Бараўлянская акруга.

**Багрыноўскі** Міхаіл Ігнацьевіч—Віцебская—Фрунзеўская акруга.

**Майораў** Дзмітрый Нікіфаравіч—Віцебская—Пролетарская акруга.

**Матлахаў** Дзмітрый Арсенцьевіч—Віцебская—Мопраўская акруга.

**Ханіна** Еўгенія Саламонаўна—Віцебская—Вакзальная акруга.

**Немчанка** Ольга Афанасьеўна—Віцебская—Кіраўская акруга.

**Краўчанка** Антаніна Усцінаўна—Шумілінская акруга.

**Каровін** Іван Сямёнавіч—Сіроцінская акруга.

**Берковіч** Гіля Мендэлевіч—Гарадоцкая акруга.

**Рыбакоў** Філіп Егоравіч—Гарадоцкая—Валадарская акруга.

**Кабзова** Фёкла Міхайлаўна—Ноўкінская акруга.

**Аніскавец** Васілій Трафімавіч—Суражская акруга.

**Дзмітрыеў** Владзімір Іванавіч—Яновіцкая акруга.

**Рыбікаў** Нікалай Абрамавіч—Езярышчанская акруга.

**Малін** Владзімір Нікіфаравіч—Межынская акруга.

**Лодыгсеў** Сяргей Цярэнцьевіч—Круглянская акруга.
**Ярковіч** Ольга Авілаўна—Паўлаўская акруга.
**Бандаркова** Марфа Кірылаўна—Шклоўская гарадская акруга.
**Міцкевіч** Анастасія Грыгор'еўна—Шклоўская сельская акруга.
**Казлоў** Кірыл Ісідаравіч—Высокская акруга.
**Кірэеў** Міхаіл Паўлавіч—Фашчэўская акруга.
**Церэхаў** Іван Феадосьевіч—Горацкая сельская акруга.
**Захараў** Сяргей Сцяпанавіч—Горацкая гарадская акруга.
**Новікава** Фіонія Архіпаўна—Горацкая—Ленінская акруга.
**Серышэў** Васілій Міхайлавіч—Дрыбінская акруга.
**Гарнастаеў** Аляксей Сямёнавіч—Дрыбінская сельская акруга.
**Свінцоў** Аляксандр Аляксеевіч—Мсціслаўская акруга.
**Папкоў** Лазар Еўдакімавіч—Хадасоўская акруга.
**Казлоў** Гаўрыла Васільевіч—Курманаўская акруга.
**Бакланаў** Грыгорый Мітрафанавіч—Крычаўская гарадская акруга.
**Вырво** Парфен Андрэевіч—Крычаўская сельская акруга.
**Мацюшка** Варвара Феафілаўна—Чавуская сельская акруга.
**Маханенкава** Ульяна Іванаўна—Чавуская гарадская акруга.
**Падаляк** Нікалай Ціханавіч—Сушчэўская акруга.
**Чарнякоў** Аляксандр Міхайлавіч—Сухараўская акруга.
**Кавалёў** Афанасій Фёдаравіч—Магілеўская—Валадарская акруга.
**Шуб** Рувім Якаўлевіч—Магілеўская—Першамайская акруга.
**Акулёнак** Анна Іосіфаўна—Магілеўская—Ленінская акруга.
**Рэпінскі** Марк Якаўлевіч—Магілеўская—Кіраўская акруга.
**Аляксейчыкава** Ефімія Міхайлаўна—Грабянёўская акруга.
**Трусаў** Ігнат Спірыдонавіч—Чырвонапольская акруга.
**Качмароў** Харлампій Архіпавіч—Цішаўская акруга.
**Балашэнка**练 Пракопій Герасімавіч—Чарназёмаўская акруга.
**Волкаў** Філіп Якаўлевіч—Бялыніцкая акруга.
**Байкова** Елена Матвееўна—Бялыніцкая сельская акруга.
**Брыкаў** Афанасій Данілавіч—Бярэзінская акруга.
**Сокалаў** Іван Іванавіч—Пагосцкая акруга. .
**Валчок** Аляксандр Кузміч—Брадзецкая акруга.
**Мізараў** Павел Іванавіч—Клічаўская сельская акруга.
**Кунцэвіч** Аляксей Фёдаравіч—Клічаўская акруга.
**Абушкевіч** Карп Нікалаевіч—Дубенская акруга.
**Тур** Васілій Пятровіч—Ліпеньская акруга.
**Харытановіч** Юлія Канстанцінаўна—Асіпавіцкая сельская акруга.
**Шэвелеў** Міхаіл Натанавіч—Асіпавіцкая гарадская акруга.
**Белякоў** Макар Іванавіч—Бабруйская—Ленінская акруга.
**Драгун** Дар'я Ісакаўна—Бабруйская—Комсамольская акруга.
**Ліберман** Нэха Юдэлеўна—Бабруйская—Фрунзеўская акруга.

**Мінкевіч** Казімір Нікалаевіч—Бабруйская—Бярэзінская акруга.

**Гладышаў** Ефрэм Іванавіч—Бабруйская—Першамайская акруга.

**Якушава** Тацьяна Ільінічна—Рымавецкая акруга.

**Ігаеў** Сямён Сцяпанавіч—Бабруйская сельская акруга.

**Прахарэнка** Ульяна Іванаўна—Кавалеўская акруга.

**Вінакурава** Надзежда Якаўлеўна—Кіраўская акруга.

**Лісенка** Фёдар Іосіфавіч—Баровіцкая акруга.

**Ягодкін** Васілій Міхайлавіч—Быхаўская гарадская акруга.

**Субоцін** Ціт Фёдаравіч—Грудзінаўская акруга.

**Пранякоў** Філіп Пятровіч—Быхаўская сельская акруга.

**Куляшоў** Васілій Паўлавіч—Новабыхаўская акруга.

**Маргелаў** Канстанцін Лазаравіч—Прапойская сельская акруга.

**Скаварада** Аляксей Матвеевіч—Прапойская акруга.

**Федасенка** Агафія Іванаўна—Чэрыкаўская гарадская акруга.

**Карасёў** Іван Нікіфаравіч—Чэрыкаўская сельская акруга.

**Бброў** Касьян Еўстаф'евіч—Чырвонапольская сельская акруга.

**Саўчэнка** Марыя Кузьмінічна—Чырвонапольская акруга.

**Югасева** Агрыпіна Іванаўна—Касцюковіцкая акруга.

**Салабуцін** Васілій Тарасавіч—Касцюковіцкая сельская акруга.

**Новік** Самуіл Якаўлевіч—Бялынкавіцкая акруга.

**Ляшчыніна** Анна Цімафееўна—Клімавіцкая гарадская акруга.

**Спасаў** Пётр Сяргеевіч—Мілаславіцкая акруга.

**Харланава** Вера Філіпаўна—Клімавіцкая сельская акруга.

**Кушчанкоў** Фёдар Леонавіч—Хоцімская акруга.

**Масанін** Фёдар Сцяпанавіч—Беразкоўская акруга.

**Потэс** Надзежда Карпаўна—Бягомльская акруга.

**Масленнікаў** Іван Леонцьевіч—Бярэзінская акруга.

**Ільінскі** Анатолій Іванавіч—Зарэчанская акруга.

**Якавіцкі** Васілій Венедыктавіч—Плешчаніцкая акруга.

**Ячменеў** Георгій Фокавіч—Халопеніцкая акруга.

**Кракоўская** Анна Аляксандраўна—Красналуцкая акруга.

**Якаўлева** Марфа Сысоеўна—Крупская акруга.

**Бялевіч** Нікалай Іванавіч—Бобрская акруга.

**Касяновіч** Аляксандра Дзмітрыеўна—Кішчына-Слабодская акруга.

**Левін** Носан Гіршавіч—Лошніцкая акруга.

**Буцько** Якаў Калінавіч—Глівенская акруга.

**Ліпкін** Ілья Іосіфавіч—Барысаўская акруга.

**Захараў** Іван Антонавіч—Нова-Барысаўская акруга.

**Храмая** Фіцінія Іванаўна—Барысаўская—Чыгуначная акруга.

**Міклашэўская** Соф'я Юльянаўна—Лагойская акруга.

**Калко** Васілій Акімавіч—Гаенская акруга.

**Балабуткін** Сямён Лук'янавіч—Смалявіцкая акруга.

**Шамко** Фёкла Міхайлаўна—Пліская акруга.

**Чарноў** Канстанцін Сцяпанавіч—Смалявіцкая—Орджанікідзеўская акруга.

**Абушэнка** Клаўдзія Амосаўна—Заслаўская сельская акруга.

**Ачкасаў** Аляксандр Іванавіч—Заслаўская акруга.

**Пташкін** Іван Емельянавіч—Гарадзецкая акруга.

**Кавалёў** Міхаіл Пракоф'евіч—Каладзішчанская акруга.

**Кульба** Екацярына Якаўлеўна—Менская сельская акруга.

**Шарко** Ольга Канстанцінаўна—Самахвалавіцкая акруга.

**Пігурноў** Афанасій Пятровіч—Станькаўская акруга.

**Пашкін** Нікалай Сямёнавіч—Дзяржынская акруга.

**Туранкоў** Аляксей Еўлампіевіч—Менская—Дзімітраўская акруга.

**Казлоў** Аляксандр Іванавіч—Менская—Калінінская акруга.

**Багатыроў** Анатолій Васільевіч—Менская—Варашылаўская акруга.

**Матвееў** Аляксандр Паўлавіч—Менская—Ленінская акруга.

**Ціханаў** Аляксандр Пятровіч—Менская—Горкаўская акруга.

**Смоляр** Васілій Пятровіч—Менская—Сталінская акруга.

**Платонаў** Васілій Платонавіч—Менская—Куйбышэўская акруга.

**Савіцкі** Парфен Пятровіч—Менская—Кагановіцкая акруга.

**Сабіла** Павел Якаўлевіч—Менская—Чыгуначная акруга.

**Якуш** Пелагея Астапаўна—Смілавіцкая акруга.

**Анціповіч** Іван Васільевіч—Рудзенская акруга.

**Стаяноўскі** Міхаіл Аляксандравіч—Чэрвеньская гарадская акруга.

**Кунцэвіч** Іван Ігнацьевіч—Чэрвеньская сельская акруга.

**Жур** Елена Кірылаўна—Гарэліцкая акруга.

**Чуніхін** Нікалай Пятровіч—Мар'іна-Горская акруга.

**Пыж** Міхаіл Фаміч—Пухавіцкая акруга.

**Васільеў** Іван Васільевіч—Уздзенская акруга.

**Папкоўскі** Іосіф Іванавіч—Лошанская акруга.

**Дружынін** Аляксандр Іванавіч—Капыльская сельская акруга.

**Зайцаў** Кандрацій Грыгор'евіч—Капыльская акруга.

**Марозаў** Сяргей Іванавіч—Цімкавіцкая акруга.

**Давідоўская** Ольга Грыгор'еўна—Грэская акруга.

**Рашэтнікаў** Нікалай Арцёмавіч—Грозаўская акруга.

**Кедрык** Васілій Сямёнавіч—Чырвонаслабодская акруга.

**Наседкін** Аляксей Аляксеевіч—Чырвонаслабодская сельская акруга.

**Кулагін** Міхаіл Васільевіч—Слуцкая—Кіраўская акруга.

**Кананенка** Сяргей Сцяпанавіч—Слуцкая сельская акруга.

**Эзрын** Барыс Абрамавіч—Слуцкая—Пролетарская акруга.

**Сілаеў** Фёдар Пахомавіч—Слуцкая—Комсамольская акруга.
**Быстроў** Нікалай Міхайлавіч—Стара-Дарожская акруга.
**Рыбак** Іван Максімавіч—Дараганаўская акруга.
**Кульган** Аляксандр Герасімавіч—Горкаўская акруга.
**Карпенка** Сяргей Цімафеевіч—Любаньская акруга.
**Парашчанка** Нікіта Іванавіч—Нежынская акруга.
**Усаценка** Георгій Іларыёнавіч—Старобінская акруга.
**Сцешыц** Якаў Герасімавіч—Старобінская сельская акруга.
**Краснашэеў** Іван Іванавіч—Глуская акруга.
**Пальцава** Анна Іванаўна—Акцябрская акруга.
**Васільеў** Аляксей Васільевіч—Аземлянская акруга.
**Кісялёў** Кузьма Венедзіктавіч—Парыцкая акруга.
**Хайнюк** Праскоўя Іосіфаўна—Шацілаўская акруга.
**Сухадольская** Еўгенія Іванаўна—Даманавіцкая акруга.
**Швайнштэйн** Арон Абрамавіч—Азарыцкая акруга.
**Ястрэмскі** Канстанцін Нікалаевіч—Новасёлкаўская акруга.
**Лапцеў** Аляксандр Іванавіч—Капаткевіцкая акруга.
**Ермак** Аляксей Васільевіч—Камаровіцкая акруга.
**Бумажкоў** Ціхан Піменавіч—Капцэвіцкая акруга.
**Музыка** Сцепаніда Якаўлеўна—Петрыкаўская акруга.
**Папоў** Фёдар Сяргеевіч—Жыткавіцкая акруга.
**Раманенка** Сцяпан Матвеевіч—Тураўская акруга.
**Ваўчкоў** Еўціхій Кірылавіч—Лельчыцкая сельская акруга.
**Каўфман** Залман Ісаакавіч—Лельчыцкая акруга.
**Акімаў** Сцяпан Дзмітрыевіч—Буйновіцкая акруга.
**Прышчэп** Марыя Сяргееўна—Ельская акруга.
**Ісакаў** Аляксандр Іванавіч—Мазырская акруга.
**Баброў** Нікіта Паўлавіч—Слабодская акруга.
**Маркін** Дзмітрый Фёдаравіч—Калінкавіцкая акруга.
**Чорны** Ісаак Львовіч—Дуброўская акруга.
**Гуз** Фёдар Station Станіслававіч—Васілевіцкая акруга.
**Ледзянёў** Васілій Васільевіч—Хойніцкая акруга.
**Казачонак** Георгій Сямёнавіч—Пасельская акруга.
**Маленок** Юлія Пятроўна—Стралічоўская акруга.
**Таміловіч-Данчанка** Сяргей Аляксеевіч—Брагінская акруга.
**Кавалькоў** Іван Давідавіч—Брагінская сельская акруга.
**Глушэц** Анна Якаўлеўна—Нараўлянская акруга.
**Макарэнка** Лука Ефімавіч—Нараўлянская сельская акруга.
**Петруненка** Марыя Васільеўна—Камарынская акруга.
**Лапухоў** Лаўрэн Сцяпанавіч—Журавіцкая акруга.
**Шалабасаў** Андрэй Пятровіч—Доўская акруга.
**Ефіменка** Васіліса Егораўна—Кармянская акруга.
**Небышынец** Нікалай Еўдакімавіч—Кармянская—Літвінаўская акруга.
**Горэў** Канстанцін Васільевіч—Рагачоўская гарадская акруга.

**Кайкоў** Залман Самуілавіч—Гарадзецкая акруга.
**Былінскі** Владзімір Паўлавіч—Ціхініцкая акруга.
**Стасенка** Ніна Грыгор'еўна—Рагачоўская сельская акруга.
**Цвяткоў** Аляксей Фёдаравіч—Жлобінская гарадская акруга.
**Гардзееў** Іван Сямёнавіч—Жлобінская сельская акруга.
**Скарабагацька** Нікалай Аляксеевіч—Стрэшынская акруга.
**Тарасава** Варвара Васільеўна—Чырвона-Бярэжская акруга.
**Гуценкова** Еўдакія Трафімаўна—Чачэрская акруга.
**Мельнікава** Зінаіда Сцяпанаўна—Чачэрская сельская акруга.
**Баранава** Марыя Міхайлаўна—Свяцілавіцкая акруга.
**Фешчанка** Іван Грыгор'евіч—Пакоцкая акруга.
**Ганчароў** Сямён Андрэевіч—Веткаўская гарадская акруга.
**Грэк** Надзежда Грыгор'еўна—Веткаўская сельская акруга.
**Марошак** Зорух Меeравіч—Будакашалеўская акруга.
**Верачынскі** Егор Сцяпанавіч—Будакашалеўская сельская акруга.
**Шурман** Іван Сямёнавіч—Уваравіцкая акруга.
**Руткоўскі** Афанасій Антонавіч—Уваравіцкая сельская акруга.
**Саранчук** Марына Арцёмаўна—Заспенская акруга.
**Пруднікава** Марыя Маркаўна—Ровена-Слабодская акруга.
**Пронін** Матвей Сяргеевіч—Рэчыцкая сельская акруга.
**Якімовіч** Іван Кліменцьевіч—Рэчыцкая гарадская акруга.
Бахта Аляксандра Міхайлаўна—Рэчыцкая Фабрычна-Заводская акруга.
**Палівалаў** Міхаіл Міхайлавіч—Урыцкая акруга.
**Мальцаў** Сяргей Іванавіч—Гомельская сельская акруга.
**Штэйнбах** Грыгорый Абрамавіч—Клімаўская акруга.
**Курган** Ісак Маркавіч—Гомельская—Дзержынская акруга.
**Мелкіх** Сяргей Міхеевіч—Гомельская—Кіраўская акруга.
**Левіцкі** Аляксей Міхайлавіч—Гомельская—Кагановіцкая акруга.
**Герман** Міхаіл Емельянавіч—Гомельская—Варашылаўская акруга.
**Сталяроў** Платон Цімафеевіч—Гомельская—Фрунзеўская акруга.
**Баравікоў** Ігнат Емельянавіч—Нова-Беліцкая акруга.
**Шліфенсон** Самуіл Іосіфавіч—Добрушская гарадская акруга.
**Пастухоў** Фёдар Іванавіч—Добрушская сельская акруга.
**Караленка** Анна Ціханаўна—Ленінская акруга.
**Бедзін** Васілій Васільевіч—Церахоўская акруга.
**Сурпін** Залман Вульфавіч—Лоеўская акруга.
**Барушкоў** Грыгорый Мінавіч—Лоеўская сельская акруга.

# Аб уборцы ўраджаю 1938 года

*Пастанова Совета Народных Камісараў БССР і Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі*

Велізарная дапамога совецкага ўрада і ЦК ВКП(б) беларускаму калгаснаму сялянству і штодзенная дапамога і клопаты таварыша **Сталіна** аб беларускім народзе забяспечылі поспех у арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў, рост механізацыі сельскай гаспадаркі Беларусі, ачышчэнне партыйных, совецкіх і зямельных органаў, соўгасаў і МТС ад трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх здраднікаў, вылучэнне новых кадраў, адданых справе партыі Леніна—Сталіна, і на аснове магутнага ўздыму соцыялістычнага спаборніцтва ў калгасах, соўгасах і МТС забяспечылі ў бягучым годзе правядзенне веснавой сяўбы ў больш сціслыя тэрміны, лепшым насеннем і з лепшай якасцю палявых работ. Гэтым створаны прадпасылкі атрымання высокага ўраджаю, для паспяховай уборкі якога неабходна, перш за ўсё, улічыць дапушчаныя ў мінулым годзе ў некаторых раёнах грубейшыя памылкі ў арганізацыі ўборачных работ, загатоўках, вывазцы і хаванні хлеба, у рэзультаце чаго мелі месца вялікія страты хлеба.

Ва многіх раёнах мела месца шкодная, антымеханізатарская практыка ў скарыстанні камбайнаў і іншых уборачных сельскагаспадарчых машын, у рэзультаце чаго план камбайнавай уборкі ўраджаю ў 1937 годзе быў выканан толькі на 62 проц., а ў Плешчаніцкім і радзе іншых раёнаў камбайнавая ўборка складала 12—20 проц. пры вельмі слабым скарыстанні снопавязалак, жняярак і іншых сельскагаспадарчых уборачных машын.

У радзе раёнаў рэспублікі арганізацыя ручной уборкі ўраджаю была вельмі нездавальняючай. У выніку такіх адносін да скарыстання камбайнаў, уборачных машын і дрэннай арганізацыі работы калгасаў па ўборцы ўраджаю, мела месца зацяжка ўборачных работ, што прывяло да вялікіх страт хлеба (перастойванне хлябоў, яго асыпанне) і пагоршанне яго якасці.

Абмалот хлябоў у раёнах Магілеўскім, Суражскім, Дубровенскім, Менскім, Слуцкім і інш. зацягнуўся да лютага—сакавіка месяцаў.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б звяртаюць увагу партыйных, совецкіх і зямельных органаў, МТС, соўгасаў і калгасаў, у сувязі з чакаемым добрым ураджаем і больш раннім пачаткам уборкі, на неабходнасць улічыць асаблівасці надыходзячай уборкі і патрабуюць асабліва стараннай падрыхтоўкі да ўборкі камбайнаў, простых уборачных і зернеачышчальных машын, чоткай арганізацыі працы на ўборачных работах, перамагання самацёку і самасупакоенасці ў падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б асоба адзначаюць, што высокая арганізаванасць і своечасовае правядзенне ўборачных работ у сціслыя

тэрміны і без страт з'яўляюцца важнейшай задачай барацьбы ўсіх партыйных, совецкіх і зямельных арганізацый Беларусі за выкананне ўказанняў таварыша Сталіна аб атрыманні 7—8 мільярдаў пудоў зерня.

Прымаючы да няўхільнага і дакладнага выканання пастанову СНК СССР ад 23 чэрвеня 1938 г. «Аб уборцы ўраджаю 1938 года»,— СНК БССР і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

1. Зацвердзіць прадстаўлены Наркамземам БССР план уборкі і абмалоту зерневых культур ураджаю 1938 года па калгасах у наступным размеры ў гектарах:

## ПЛАН УБОРКІ І АБМАЛОТУ ЗЕРНЕВЫХ КУЛЬТУР ПА КАЛГАСАХ БССР НА 1938 г.

| | Уборачн. плошча ўсіх зерневых (азім. і яравых) | У тым ліку: | | | Усяго каласав. (азім. і яр.) | У тым ліку ўборка машынамі МТС | У тым ліку камбайнамі | Уборка машынамі калгасаў | План абмалоту зерневых | У тым ліку: | | | У тым ліку: | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Азімыя | Яравыя каласав. | Іншыя зернев. | | | | | | Камбайнамі | Абмал. малатар. МТС | Абмал. малатар. калгасаў | Поўскладанымі | Коннымі |
| УСЯГО ПА БССР | 1934478 | 910863 | 808960 | 214655 | 1719823 | 176510 | 156830 | 1044135 | 1934478 | 156830 | 1008582 | 769066 | 323999 | 445067 |
| **У тым ліку:** | | | | | | | | | | | | | | |
| Гомельская вобласць. . | 281276 | 136106 | 97820 | 47350 | 233926 | 29010 | 27210 | 117300 | 281276 | 27210 | 153027 | 101039 | 37204 | 63835 |
| Віцебская вобласць. . | 443427 | 190633 | 214566 | 38228 | 405199 | 27140 | 21380 | 286624 | 443427 | 21380 | 270250 | 151797 | 63750 | 88047 |
| Магілеўская вобласць. . | 559777 | 255235 | 250400 | 54142 | 505635 | 54680 | 51320 | 270440 | 559777 | 55320 | 239800 | 268657 | 103997 | 164660 |
| Менская вобласць. . | 435028 | 211577 | 185427 | 38024 | 397004 | 51390 | 44550 | 267651 | 435028 | 44550 | 248605 | 141873 | 79798 | 620075 |
| Палеская вобласць. . | 214970 | 117312 | 60747 | 36911 | 178059 | 14290 | 12370 | 102120 | 214970 | 12370 | 96900 | 105700 | 39250 | 66450 |

Абавязаць абкомы і райкомы КП(б)Б, оргкамітэты ЦВК па абласцях, райвыканкомы і райза, на аснове перададзеных Наркамземам БССР праектаў планаў уборкі па раёнах, у двухдзённы тэрмін распрацаваць і давесці да раёнаў, а раёнам распрацаваць з удзелам старшынь калгасаў і ў той-жа тэрмін давесці да калгасаў планы ўборкі ўраджаю, забяспечыўшы поўнае іх выкананне і ва ўстаноўленыя тэрміны.

### Па зерневых культурах

Абавязаць Наркамзем і Наркамсоўгасаў БССР, оргкамітэты ЦВК БССР па абласцях, райвыканкомы, абкомы і райкомы КП(б)Б і зямельныя органы на месцах строга кіравацца пастановай СНК СССР аб арганізацыі ўборкі ўраджаю зерневых культур.

1. Загадзя, да пачатку ўборкі, забяспечыць складанне па МТС, калгасах і соўгасах планаў уборкі ўраджаю, прадугледзеўшы ў іх правільнае скарыстанне камбайнаў і простых уборачных машын; устанавіць аб'ём і тэрміны правядзення работ, правільную расстаноўку людзей і поўнае скарыстанне механічнай і жывой цягавай сілы і транспартных сродкаў. Планы ўборкі ўраджаю абмеркаваць на агульных сходах калгаснікаў і на вытворчых нарадах МТС і соўгасаў.

2. Своечасова, ва ўсякім выпадку не пазней чым за 7—10 дзён да пачатку ўборкі, закончыць замацаванне ўчасткаў у натуры за камбайнерамі, забяспечыўшы скарыстанне камбайнаў у першую чаргу на ўборцы высокаўраджайных участкаў.

3. Замацаваць за кожным камбайнам на ўвесь час уборкі неабходную колькасць калгаснікаў для абслугоўвання камбайнаў—пракос загонаў, абкосы вуглоў, падвозка гаручага і вады, адвозка зерня з-пад камбайнаў, уборка саломы і паловы.

4. Забяспечыць папярэднюю і дакладную падрыхтоўку камбайнаў да работы, своечасовую падвозку гаручага і прымяненне такіх прыстасаванняў, як разгрузка бункера камбайна на-хаду, згатаўленне шатуна нажа камбайна з шарыкавым падшыпнікам, бесперапынная змазка ланцугоў і драўляных падшыпнікаў.

5. Пачаць абмалот хлябоў не пазней 3—5 дзён пасля пачатку касавіцы, арганізаваўшы ў першую чаргу малацьбу з копнаў. Забяспечыць работу малатарань МТС і соўгасаў не менш 20 гадзін у суткі. Не дапускаць абмалоту хлябоў на старых токах без папярэдняга іх выпальвання або абеззаражвання.

6. Правесці вязку ў снапы ўсяго скошанага хлеба і яго капнаванне.

7. Закончыць скірдаванне хлеба, убранага простымі машынамі, не пазней чым праз 10—15 дзён пасля сканчэння касавіцы.

8. Закончыць да пачатку ўборкі будаўніцтва, рамонт і дэзінфекцыю зернехавалень, гумнаў і асецяў і правесці дэзінфекцыю ўборачнага і зернеачышчальнага інвентара, павозак для перавозкі зерня і тары.

9. Прывесці ў парадак крытыя такі, правесці іх дэзінфекцыю, забяспечыць такі зернеачышчальнымі машынамі і вагамі з тым, каб увесь хлеб, паступіўшы з-пад камбайнаў, поўнасцю быў ачышчан, прасушан да нармальнай вільготнасці і неадкладна вывезен на загатоўчыя пункты і склады калгасаў.

10. Устанавіць у калгасах абавязковае ўзважванне хлеба, атрыманага ад абмалоту і ўборкі камбайнамі, а таксама пры прыёмцы хлеба ў калгасныя зернехавальні.

11. Устанавіць, што брыгадзір паляводчай брыгады калгаса абавязан штодзенна праводзіць прыёмку ўбраных участкаў, а старшыня калгаса—прыёмку ад брыгадзіраў не пазней 3-х дзён пасля сканчэння работы на даным участку. У соўгасах прыёмка ўбраных палёў праводзіцца дырэктарам соўгаса. Прыёмку ўчасткаў афармляць актамі з ацэнкай якасці работы.

12. Для таго, каб на справе забяспечыць выкананне пастановы СНК СССР ад 29 чэрвеня 1937 года аб поўным пераходзе, «пачынаючы з 1939 года, да пасеву ў калгасах і соўгасах на ўсёй плошчы зерневых толькі адборным сартавым насеннем (як селекцыйным, так і мясцовым сялянскім), вырашчаным кожным соўгасам і калгасам на сваім насенным участку»—правесці наступнае:

а) арганізаваць асоба дакладную ўборку зерневых культур у райнасенгасах і на насенных участках калгасаў і соўгасаў, даручыўшы ўборку іх больш вопытным камбайнерам. Уборку праводзіць у першыяд поўнай спеласці і закончыць у сціслыя тэрміны;

б) не дапускаць змешвання сартоў і катэгорый зерня пры ўборцы, малацьбе, перавозцы, ачысткі і хаванні зерня насенных участкаў і пасеваў райнасенгасаў. Выдзеліць для хавання насення асобныя лепшыя зернехавальні, забараніўшы складваць на хаванне насеннае зерне без ачысткі;

в) забараніць скарыстанне насення ўраджаю з насенных участкаў на якія-б та ні было іншыя патрэбы, апрача пасеўных, дазволіўшы

калгасам і соўгасам засыпаць зерне насенных участкаў у насенныя фонды побач з выкананнем плана здачы зерня дзяржаве;

г) для забеспячэння поўнай замены радавога насення сартавым скарыстаць у неабходнай колькасці, апрача насення райнасенгасаў і насенных участкаў, таксама сартавое насенне, атрыманае з астатніх апрабіраваных плошчаў пасеваў.

Прапанаваць дырэктарам соўгасаў і старшыням калгасаў забяспечыць асобную ўборку і хаванне сартавога зерня ў размерах, неабходных для ўласных патрэб калгаса, выкананне плана міжкалгаснага абмену і плана загатовак сартавога зерня па дзяржсортфонду і Заготзярно, устаноўленага зямельнымі органамі.

13. Прапанаваць оргкамітэтам ЦВК БССР па абласцях, РВК, абкомам і райкомам КП(б)Б, аблзу, райза, дырэктарам МТС арганізаваць належнае хаванне ўраджаю, усклаўшы адказнасць за ахову хлеба на карню і намалочанага зерня па брыгадзе—на брыгадзіра, па калгасу—на старшыню калгаса, забяспечыўшы выдзяленне лепшых калгаснікаў, рабочых соўгасаў на ахову ўраджаю, а таксама прыняць рад проціпажарных мерапрыемстваў у калгасах, соўгасах і МТС.

14. Захаваць на 1938 год адлічэнне зерня для выдачы калгаснікам авансаў і на ўнутрыгаспадарчыя патрэбы калгасаў у размерах: 10 проц. ад фактычна намалочанага зерня, выключаючы абмалот насенных участкаў, з павышэннем да 15 проц. для перадавых, добра працуючых калгасаў.

15. Абавязаць Наркамзем і Наркамсоўгасаў БССР, дырэктароў МТС і соўгасаў забяспечыць выкананне загада Наркамзема і Наркамсоўгасаў СССР—«Аб дадатку да існуючага парадку аплаты працы камбайнераў, памочнікаў камбайнераў і трактарыстаў на ўборцы зерневых культур камбайнамі».

16. Абавязаць дырэктароў МТС для абслугоўвання камбайнаў на час уборкі абсталяваць аўтаперасовачную майстэрню, укамплектаваўшы яе кваліфікаванымі тэхнічнымі кадрамі, неабходным інвентаром, запаснымі часткамі. Непасрэднае кіраўніцтва работай аўтаперасовак ускласці на механікаў МТС.

## Па ільну і каноплях

17. Зацвердзіць прадстаўлены Наркамземам план уборкі ільну і канапель ураджаю 1938 года па БССР і абласцях у наступным размеры:

| | Уборка ільну: | | | Уборка канапель: | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Уборачная плошча | План перасблення | У т. л. ільнацерабл. МТС | Уборачная плошча | План уборкі |
| Па БССР | 196893 | 196893 | 59500 | 21000 | 21000 |
| Віцебская вобласць | 86428 | 86428 | 29050 | 2160 | 2160 |
| Гомельская вобласць | 16892 | 16892 | 4100 | 3137 | 3137 |
| Магілеўская вобласць | 58365 | 58365 | 17700 | 7730 | 7730 |
| Менская вобласць | 24733 | 24733 | 7050 | 3420 | 3420 |
| Палеская вобласць | 10475 | 10475 | 1600 | 4553 | 4553 |

Абавязаць оргкамітэты ЦВК па абласцях, РВК, абкомы і райкомы КП(б)Б, аблзу і райза ў пяцідзенны тэрмін распрацаваць і давесці да раёнаў, а раёнам, з удзелам старшынь калгасаў, у гэты-ж тэрмін да калгасаў планы ўборкі ільну і канапель, забяспечыўшы поўнае іх выкананне ва ўстаноўленыя тэрміны.

18. Да 10 ліпеня г. г. забяспечыць заканчэнне рамонту ўсіх ільнацерабілак МТС, выдзеліўшы і замацаваўшы за кожнай ільнацерабілкай падрыхтаваных вадзіцеляў, спраўныя трактары, забяспечаныя спецыяльнымі прыстасаваннямі (Пауэр-тэйк-оф'амі).

Дырэктарам МТС да 10 ліпеня распрацаваць і ўручыць вадзіцелям ільнацерабільных машын графікі і маршруты работы кожнай ільнацерабілкі, правёўшы з удзелам вадзіцеля машыны праверку выдзеленых у натуры плошчаў ільну для машыннага цераблення з адначасовай разбіўкай іх на загоны.

19. Абавязаць дырэктароў МТС і праўленні калгасаў забяспечыць загадзя (напярэдадні цераблення) падрыхтоўку ўчасткаў: працерабленне палос да першага праезду машын, закругленне вуглоў, а таксама працерабленне ўчасткаў засмечанага, палёгшага і нізкарослага ільну, вязку выцерабленага ільну ў снапы.

20. За 10 дзён да пачатку ўборкі выдзеліць у кожным калгасе (апрача насенневодчых) насенныя ўчасткі ільну і канапель. З гэтых участкаў у першую чаргу на працягу 10—15 дзён пасля цераблення павінны быць засыпаны насенныя фонды калгасаў у размеры, забяспечваючым план сяўбы будучага года, пры абавязковым выкананні плана здачы насення ільну і канапель па кантрактацыі.

Забараніць скарыстанне насення з насенных участкаў ільну і канапель на якія-небудзь іншыя патрэбы апрача пасеўных.

21. Церабленне ільну на валакно правесці ў стадыі ранняй, жоўтай спеласці, выбарачна, па меры выспявання асобных участкаў, а церабленне ільну насенневодчых пасеваў правесці ў стадыі жоўтай спеласці ў сціслыя тэрміны, не дапускаючы як дачаснай уборкі, так і перастойвання ільну. Выцераблены лён пасля папярэдняга правяльвання (на працягу 2—3 гадзін) абавязкова звязваць у снапы.

22. Своечасова правесці поўную выбарку пасконі, а ўборку канапель правесці ў перыяд васковай спеласці, па меры выспявання асобных участкаў, ні ў якім выпадку не дапускаючы перастойвання яе на корані.

23. Устанавіць, як правіла, што выцерабленны лён пасля прасушкі павінен неадкладна абмалочвацца або ачосвацца ў строгай адпаведнасці з рашэннем Соўнаркома СССР «Аб мерапрыемствах па павышэнню ўраджайнасці ільну-даўгунцу».

Абмалот праводзіць спецыяльнымі ільнамалатарнямі або праводзіць аддзяленне галовак ад сцяблоў шляхам ачосу на грэбнях папярэдне прасушаных снапоў ільну, з паследуючай неадкладнай сартыроўкай, раздаўліваннем галовак, ачысткай і сартыроўкай насення. Рассціл (замочку) ільну праводзіць неадкладна пасля абмалоту або ачосу з абавязковым сканчэннем рассцілу і замочкі ў жніўні месяцы.

24. У мэтах папярэджання заражэння пасеваў ільну грыбнымі захворваннямі і павышэння якасці валакна забараніць рабіць рассціл ільну па канюшынішчы і іншых папярэдніках ільну, на забалочаных і іржавых месцах.

25. У мэтах атрымання высокай якасці трасты і валакна арганізаваць сартыроўку ільну па якасці пры яго ўборцы, рассціле, уздыму

са сцелішчаў і пярвічнай апрацоўцы, а таксама пры здачы трасты на заводы.

26. Замочку канапель праводзіць неадкладна пасля абмалоту з тым, каб уся каноцля-саломка была замочана не пазней канца жніўня—першай паловы верасня і вынута з мачыл да наступлення марозаў. Да 15 жніўня закончыць рамонт наяўных мачыл, а таксама пабудову і прыстасаванне новых, забяспечваючых замочку ўсёй канаплі-саломкі ў адзін абарот.

27. Абавязаць Наркамзем БССР, аблзу, райза і дырэктароў МТС шырока распаўсюджваць рэкамендаваныя пастановай Соўнаркома СССР ад 3 красавіка 1938 г. умовы прэміравання ільнаводчых звенняў на канапляводчыя звенні.

28. Абавязаць Наркамзем БССР, аблзу і райза, дырэктароў МТС і праўленні калгасаў разгледзець і зацвердзіць падрабязны план мерапрыемстваў па своечасовай апрацоўцы ўраджаю ільну і канапель па кожнаму калгасу, забяспечыўшы поўнае скарыстанне як уборачных, так і ільнатрапальных машын, прысякаючы ўсякія антымеханізатарскія настроі.

29. Звярнуць увагу работнікаў зямельных органаў абласцей і райза, старшынь калгасаў на неабходнасць неадкладнай падрыхтоўкі мяльнатрапальных пунктаў, сушылак па ільну і каноплях.

## Па канюшыне

30. Уборку ўстаноўленых дзяржаўным планам насеннікаў канюшыны праводзіць пры пабурэнні 75—80 проц. галовак, не дапускаючы перастою і страты насення. Вязка скошанай канюшыны ў снапы павінна быць абавязковай у дзень уборкі, са звозкай снапоў для прасушкі на абсталяваных вешалах, на токах і пад навесамі.

31. Правесці абмалот канюшыны неадкладна пасля ўборкі і прасушкі з адначасовым правядзеннем работ па выціранню канюшыны і ачыстцы насення з тым, каб гэтыя работы былі закончаны не пазней 20 дзён пасля касьбы.

32. Поўнасцю скарыстаць канюшынацёркі, малатарні «МК-1110» і інш. з канюшынацёрачнымі прыстасаваннямі.

Асудзіць, як шкодную практыку мінулых год, калі насеннікі канюшыны не абмалачваліся непасрэдна з поля пасля прасушкі, а абмалот і асабліва выціранне зацягваліся да зімы, у радзе месц да вясны, што прыводзіла да вялікіх страт насення канюшыны.

33. Арганізаваць засыпку насенных фондаў канюшыны добраякасным насеннем, закончыўшы яе ў кожным калгасе не пазней 1 снежня, забяспечыўшы ў першую чаргу выкананне плана здачы насення канюшыны па кантрактацыі.

34. Абавязаць зямельныя органы абласцей і раёнаў, оргкамітэты ЦВК па абласцях, райвыканкомы, абкомы і райкомы КП(б)Б, дырэктароў МТС і старшынь калгасаў арганізаваць своечасовую і высокаякасную ўборку траў, капнаванне і стагаванне сена, а таксама ўборку і закладку сілосных культур з тым, каб поўнасцю забяспечыць усё пагалоўе жывёлы як у калгасах, так і знаходзячагася ў індывідуальным карыстанні калгаснікаў дастатковай колькасцю грубых і сакавітых кармоў на 1938—39 гг.

## Па бульбе і гароднiне

35. Зацвердзіць прадстаўлены Наркамземам план уборкі бульбы і гародніны па калгасах БССР па абласцях:

| | Уборка бульбы: | | | Уборка гародніны: | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Убарачная плошча | План уборкі | У тым ліку уборка бульбакапалкамі | Убарачная плошча | План уборкі |
| Усяго па БССР . . . . . . . . | 362782 | 362782 | 16760 | 15690 | 15690 |
| Віцебская вобласць . . . . . . . . | 69656 | 69656 | 2970 | 3400 | 3400 |
| Гомельская вобласць . . . . . . . | 59627 | 59627 | 2795 | 2969 | 2969 |
| Магілеўская вобласць . . . . . . . | 105171 | 105171 | 5125 | 4050 | 4050 |
| Менская вобласць . . . . . . . . . | 87868 | 87868 | 4895 | 3715 | 3715 |
| Палеская вобласць . . . . . . . . | 40460 | 40460 | 980 | 1556 | 1556 |

Абавязаць оргкамітэты ЦВК і РВК, абкомы і райкомы КП(б)Б, аблзу і райза ў двухдзенны тэрмін распрацаваць і давесці да раёнаў, а раёнам у гэты-ж тэрмін—да калгасаў планы ўборкі бульбы і гародніны, забяспечыўшы поўнае іх выкананне ва ўстаноўленыя тэрміны.

36. Правесці не менш 3—4 міжрадковых апрацовак і праполак пасеваў бульбы, на працягу ліпеня закончыць рамонт бульбаўборачных машын і падрыхтоўку да іх вадзіцеляў і не пазней 1 жніўня г. г. закончыць рамонт, будаўніцтва і падрыхтоўку гародне- і бульбахавалень.

Дырэктарам МТС за 15 дзён да пачатку ўборкі распрацаваць план для кожнай бульбаўборачнай машыны з указаннем месца і аб'ёму работ, тэрміну выканання і маршрута яе перасоўвання. За месяц да пачатку ўборкі бульбы дырэктарам МТС сумесна з праўленнямі калгасаў адвесці ў натуры плошчы бульбы для машыннай уборкі ў памерах, поўнасцю забяспечваючых выкананне ўстаноўленага плана машыннай уборкі.

37. Прапанаваць райвыканкомам зацвердзіць па кожнаму калгасу і сельсовету план копкі і падвозкі бульбы на загатоўчыя пункты, спіртовыя і крухмальна-патачныя заводы. Устанавіць пачатак масавага капання бульбы ў залежнасці ад тэрмінаў выспявання асобных сартоў, але не пазней 20 верасня, забяспечыўшы своечасовае, да пачатку марозаў, сканчэнне капання і вывазкі бульбы і здачы па абавязковых пастаўках дзяржаве і натураплаты за работу МТС.

38. Следам за капаннем бульбы правесці абавязковае баранаванне з падборкай, а таксама пераворванне з паўторнай падборкай бульбы на ўсёй убранай плошчы, як важнейшую меру барацьбы са стратамі бульбы пры ўборцы.

39. Адначасова з уборкай праводзіць абавязковую пераборку, сартаванне і прасушку клубняў—у добрае надвор'е непасрэдна на полі, а ў дажджлівае—у спецыяльна пабудаваных у полі лёгкіх шалашах і т. д.

40. Уборку насенных участкаў бульбы, а таксама пасеваў ракаўстойлівых і дэфіцытных ранніх сартоў правесці ў першую чаргу ў перыяд поўнага выспявання, у сціслыя тэрміны, забяспечыўшы асобнае хаванне ўраджаю ў бульбахавальнях выключна для насенных мэт, не дапускаючы змешвання сартавой бульбы з радавой, змешвання розных сартоў, катэгорый і класаў бульбы, прызначанай на насенне.

41. Правесці ў перыяд уборкі поўную засыпку насеннага фонда бульбы высокай якасці для пасадкі бульбы ў 1939 годзе, прадугледзіўшы пры засыпцы стварэнне страхавога фонда ў размеры 20 проц. насеннай патрэбнасці.

42. Арганізаваць у часе ўборкі клубневы адбор сартавой бульбы, асабліва ранніх сартоў, і правесці да наступлення замаразкаў абмен радавой бульбы ў калгасах, не забяспечаных сартавым насеннем, на сартавую бульбу іншых калгасаў.

43. Правесці старанны догляд за пасевамі і арганізаваць своечасовую ўборку гародных культур, не дапускаючы страт і псавання гародніны пры ўборцы, перавозцы і арганізаваць хаванне іх з тым, каб забяспечыць насельніцтва рэспублікі багаццем добраякаснай гародніны.

44. Абавязаць начальнікаў аблзу і загадчыкаў райза, дырэктароў МТС і соўгасаў і старшынь калгасаў забяспечыць правільную арганізацыю працы на ўборцы бульбы, замацаванне за звеннямі ўчасткаў і поўнае скарыстанне бульбаўборачных машын.

## Па лубіну

45. Забяспечыць у 1938 годзе правядзенне своечасовай і высокаякаснай уборкі насеннага лубіну, выбарачна па меры выспявання асобных участкаў. У гэтых мэтах да 15 ліпеня правесці ўлік усіх насеннікаў лубіна і ўстанавіць пастаянны нагляд за выспяваннем пасеваў на асобных участках.

46. Надаючы асабліва вялікае значэнне захаванню і размнажэнню наяўных у калгасах сартоў малаалкалоіднага лубіну, забяспечыць своечасовае правядзенне апрабацыі ўсіх плошчаў, асобна праводзячы высокаякасную і своечасовую ўборку, абмалот, захаванне і скарыстанне ўсяго ўраджаю выключна на насенныя мэты як у парадку засыпкі ў насенныя фонды, так і ў парадку міжкалгаснага абмену.

## Па махорцы

47. У перыяд росту махоркі правесці не менш 4-х праполак, падтрымліваючы міжраддзі на працягу ўсяго перыяду вегетацыі ў пульхным становішчы.

48. Уборку махоркі пачынаць выбарачным парадкам па меры выспявання асобных участкаў і закончыць не пазней 10 верасня, не дапускаючы з-за спазнення ўборкі гібелі махоркі ад ранніх замаразкаў.

49. Забяспечыць сканчэнне будаўніцтва сушыльных пабудоў для табаку і навесаў для махоркі, а таксама капітальны і бягучы рамонт існуючых сушыльных пабудоў не пазней 1 жніўня 1938 г. Пры недахваце ў калгасах сушыльных пабудоў скарыстаць простыя сушыльныя памяшканні.

* * *

50. У сувязі з выключнай роллю транспарта ў справе своечасовага і поўнага выканання калгасамі дзяржаўных планаў па пастаўцы, а таксама ў барацьбе са стратамі зерня і інш. сельскагаспадарчых прадуктаў—абавязаць оргкамітэты ЦВК па абласцях, райвыканкомы, абкомы і райкомы КП(б)Б прыняць усе неабходныя меры па пад-

рыхтоўцы і быстрэйшаму скончэнню рамонту дарог, мастоў, аўтамашын у МТС і калгасах і да поўнага скарыстання на перавозках жывога цягла калгасаў.

Абавязаць зямельныя і загатоўчыя арганізацыі абласцей і раёнаў, дырэктароў МТС і старшынь калгасаў забяспечыць найстражэйшую ахову ўраджаю, берагчы яго ад раскрадванняў і псавання, прывесці ў парадак загатоўчыя пункты і вагавую гаспадарку.

* * *

Соўнарком БССР і ЦК КП(б)Б адзначаюць, што велізарная дапамога, аказаная совецкім урадам і Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) калгаснаму сялянству Беларусі ў справе высокай тэхнічнай узброенасці сельскай гаспадаркі і быстрэйшай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, штодзенныя бацькоўскія клопаты аб беларускім народзе асабіста таварыша Сталіна—ствараюць усе ўмовы для ўзорнага правядзення ўборкі і хлебаздачы ў гэтым годзе. Правільнае скарыстанне магутнага парка першакласных трактароў, камбайнаў і аўтамашын дазволіць значна ўзняць прадукцыйнасць працы, поўнасцю, без страт убраць добры ўраджай. Для гэтага ў першую чаргу неабходна большэвіцкая мабілізаванасць, правільна арганізаваць працу на ўборцы, рашуча змагацца з настроямі самасупакоенасці і зазнайства дасягнутымі поспехамі, не дапускаць прытуплення рэволюцыйнай пільнасці і бязлітасна выкарчоўваць і знішчаць рэшткі нявыкрытых яшчэ ворагаў народа.

Задача паспяховай уборкі высокага ўраджаю патрабуе ўзняцця на новую, больш высокую ступень арганізаванасці калгаснага ладу, далейшага росту соцыялістычнага спаборніцтва. Партыйныя, совецкія і ў першую чаргу зямельныя органы павінны ўзначаліць стаханаўскі рух у сельскай гаспадарцы.

Неабходна весці рашучую барацьбу супроць спроб пагоні за асобнымі рэкордамі, замест масавай штодзеннай арганізацыйнай работы, перадачы вопыту перадавікоў-камбайнераў, цэрабільшчыкаў, перадавікоў высокіх ураджаяў па зерню, ільну і іншых культурах—усёй масе калгаснікаў і калгасніц, рабочых і работніц соўгасаў.

Узорная арганізацыя ўборкі, выкананне поўнасцю і ў тэрмін абавязацельстваў перад дзяржавай па здачы сельскагаспадарчых прадуктаў, забяспечанне павышэння даходнасці калгаснікаў на працадні—павінны быць прадметам пярвейшых клопатаў кіраўнікоў партыйных, совецкіх арганізацый Беларусі, МТС, калгасаў і соўгасаў, перадавікоў сельскай гаспадаркі і ўсёй масы калгаснікаў і работнікаў соўгасаў. Паспяховая ўборка і добрае захаванне ўраджаю забяспечаць краіне багацце прадуктаў сельскай гаспадаркі, далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне і рост багацця калгасаў, далейшы значны рост заможнасці калгаснікаў.

*СНК БССР*
*ЦК КП(б)Б*

Уп. Галоўл. № 4483.
Тыраж 7.300 экз.
443.520 друк. зн. (8 арк.)
Здана ў набор 20/VII—38 г.
Падпісана да друку 31/VII—38 г.

РЭДКАЛЕГІЯ.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку, Зак. № 3621.



